**Сяргей Абламейка. Мой Картаген.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2015. 316 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*

Рэдактар *Сяргей Дубавец*
Мастак *Генадзь Мацур*
Карэктар *Сяргей Шупа*

Кнігу складаюць аўтарскія эсэ пра актуальныя праблемы нацыянальнай культуры, літаратуры і сучаснай грамадзкай думкі. Асобныя разьдзелы прысьвечаны ўзаемадзеяньню беларускай і расейскай культураў, г. зв. «русскому миру», а таксама асэнсаваньню цяперашняга стану архітэктуры і гістарычнай спадчыны Менску.

Фота аўтара, Уладзімера Грыдзіна, Shutterstock.


FOL
ISBN 978-0-929849-72-0

# Зьмест

## Сьмерць архітэктара



## Людзі і справы

# І ўсё ж

Лепшай назвай гэтай кнігі быў бы пачатак легендарнай  фразы рымскага консула Катона-старэйшага, які сканчаў прамову на любую тэму напамінкам пра Картаген, які трэба разбурыць: «Ceterum censeo» — і ўсё ж, я мяркую...

Ceterum censeo, «Мой Картаген» зьяўляецца напамінкам пра тое, што варта адрадзіць.

Лепшай мовай для гэтай кнігі была б лаціна — медны звон літых гукаў, якімі гаворыць гісторыя.

Ceterum censeo, беларуская сама зьяўляецца гісторыяй, пра якую гаворыць.

Лепшай прадмовай для гэтай кнігі быў бы верш Веры Рыч «Рэцэпт цуду»: вазьміце краіну, якой на мапе няма, чые колеры й знакі разам з гісторыяй забралі суседзі, наліце сьлёз, усё гэта зьмясіце ў вечным посудзе часу.

Ceterum censeo, замешваць трэба ня фарбы, а попел, які зносіць вецер забыцьця.

Лепшым эпілёгам гэтай кнігі была б соль, якой аўтар пасыпае раны мінулага, як некалі рымляне засыпалі разбураны імі горад.

Ceterum censeo, гэта соль не на мінулае, а на памяць, яна баліць, і значыць, жыве і не дае забыцца.

Лепшыя словы, вучыў Катон, прыходзяць, калі ведаеш справу.

Ceterum censeo — аўтар ведае.

*Аляксандар Лукашук*
*Радыё Свабода*

# Як я разумею беларускую нацыянальную ідэю

Два мае калегі паспрачаліся. Адзін сказаў, што ў 1994 годзе паразу пацярпеў БНФ. Іншы яму запярэчыў і сказаў, што тады паразу пацярпела беларуская нацыя.

А я сядзеў і думаў, што тут для мяне якраз tertium datur — трэцяе дадзена. На маю думку, у 1994 годзе тактычную паразу пацярпела беларуская нацыянальная ідэя.

І гэта была ў XX стагодзьдзі ўжо трэцяя параза беларушчыны. Па вялікім рахунку, у мінулым стагодзьдзі беларусы тройчы «ўздымалі галаву» — у 1917–1918 і некалькіх наступных гадах; у 1941–1944 годзе, пад акупацыяй; і ў 1991–1994 гадах, у часы распаду СССР. І ўсе тры разы Беларусь уздымалася тады, калі... падала Расея. Гэта значыць, што нацыянальныя сілы атрымлівалі магчымасьць стваральна працаваць на нацыянальнай глебе толькі тады, калі слабеў расейскі кантроль над нашай краінай.

Гэтае назіраньне і дае нам адказ на пытаньне, дзе ж «закапаны сабака».

## Тры кіты беларушчыны

Хто, калі і як сфармуляваў беларускую нацыянальную ідэю? На чым яна грунтуецца? Для мяне гэта тры пастуляты трох нашых вялікіх продкаў.

Першы належыць найвыдатнейшай пэрсоне беларускай гісторыі, канцлеру Вялікага Княства Літоўскага Ляву Сапегу. Гэта яго словы з прадмовы да Статуту ВКЛ 1588 году. Вось яны:

«А калі якому народу сорамна права свайго ня ведаць, дык пагатоў нам, якія не чужой якой мовай, але сваёй уласнай правы запісаныя маем і ў любы час, калі нам трэба даць адпор усякай крыўдзе, ведаць іх можам».

Так наш вялікі канцлер сфармуляваў тэзіс пра нацыянальна-культурную і дзяржаўна-прававую самастойнасьць беларусаў.

Другі пастулят сфармуляваў нацыянальны герой, патрыёт і незалежнік Кастусь Каліноўскі. Гэта яго словы з разьвітальнага запавету, так званых «Лістоў з-пад шыбеніцы», напісаных перад пакараньнем сьмерцю (1864 г.). Вось яны:

«Бо я табе з-пад шыбеніцы кажу, Народзе, што тагды толькі зажывеш шчасьліва, калі над табою Маскаля ўжо ня будзе».

Гэта — тэзіс пра дзяржаўную незалежнасьць краіны. Такі палітычны запавет будучым пакаленьням пакінуў Кастусь Каліноўскі. І незалежнікам я яго назваў невыпадкова, бо менавіта ён у часе паўстаньня 1863 году ўсчаў з Варшавай

спрэчку за будучыя дзяржаўныя межы паміж Польшчай і Літвой-Беларусьсю.

І, нарэшце, трэці пастулят належыць выбітнаму пачынальніку нашай новай літаратуры Францішку Багушэвічу. Гэта знакамітыя словы з прадмовы да «Дудкі беларускай» (1891 г.):

«Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб ня ўмёрлі!»

Гэта — тэзіс пра наш імунітэт ад нацыянальна-культурнай і дзяржаўна-палітычнай сьмерці.

Усе гэтыя тры пастуляты беларускай нацыянальнай ідэі аказаліся прарочымі. І гэта са змрочнай неабвержнасьцю пацьвердзіла трагічная беларуская гісторыя XX стагодзьдзя. І яны ж даюць нам просты і ясны адказ, як трэба рухацца наперад.

## Што адбываецца цяпер?

Апошнімі гадамі ў беларускай інфармацыйнай прасторы зноў і зноў узьнікаюць спрэчкі пра ролю і статус расейскай мовы ў Беларусі. Прапануецца нават прызнаць гэтую мову адной з моваў беларускай нацыянальнай культуры.

Адэпты такіх поглядаў адмаўляюцца разглядаць і ўлічваць гістарычныя прычыны ўзьнікненьня цяперашняй моўнай сытуацыі ў Беларусі. Хоць добра вядома: каб пасьпяхова лячыць хваробу, варта ўлічваць прычыны яе ўзьнікненьня. Калі, напрыклад, чалавек знаходзіцца ў стане клінічнай сьмерці, то для пасьпяховай рэаніма-

цыі лекару трэба ведаць, што пацыента да такога стану давяло: старасьць, хранічнае захворваньне або нажавы ўдар у грудзі. Адпаведна і становішча з мовай у Беларусі нельга разглядаць без уліку гвалту, жорсткіх рэпрэсіяў і прымусовай русыфікацыі савецкіх часоў. Але прызнаўшы ненатуральнае паходжаньне «моўнай хваробы», давядзецца прызнаваць і патрэбу яе наступнага лячэньня ў форме комплексу дзяржаўных захадаў, які называецца пазытыўнай дыскрымінацыяй беларускай мовы.

Таму прыхільнікі культурнага дзьвюхмоўя адмаўляюцца разглядаць сытуацыю ў яе генэзісе і не спыняюцца перад несумленнымі трактоўкамі гісторыі Беларусі пачатку-сярэдзіны 1990-х гадоў, зусім блізка падыходзячы да таго, што называецца фальсыфікацыяй. Некаторыя нават ідуць на маніпуляцыю з тэрміналёгіяй, абвяшчаючы колькасны рост у Беларусі за апошнія дваццаць гадоў тых, хто вызначае сваю нацыянальнасьць як беларускую... беларусізацыяй. Хоць добра вядома, што «беларусізацыя» — гэта гісторыка-палітычны тэрмін, які азначае нішто іншае, як укараненьне беларускай мовы ва ўсе сфэры дзяржаўнага і грамадзкага жыцьця. Але некаторыя нашы аўтары наўмысна або праз гуманітарную неадукаванасьць блытаюць дэмаграфічныя і гісторыка-палітычныя паняцьці і зьявы.

У 2012 годзе дыскусія пра ролю і месца расейскай мовы ў Беларусі была пераведзена ў ма-

ральную плоскасьць*. І шмат хто зь ліку як беларускамоўных, так і расейскамоўных аўтараў падтрымаў гэтыя аргумэнты. Але, як і належала чакаць, ня ўсе ўдзельнікі дыскусіі згодныя зь пераводам тэмы ў сфэру маралі. Гэта — рэалісты і рацыяналісты, якія абапіраюцца строга на статыстыку і сацыялёгію. Яны кажуць, што беларускія патрыёты ня ведаюць тэорыі мадэрных нацыяў, што нацыяналісты спазьніліся на 100 гадоў, час страчаны, моўную сытуацыю ўжо ніколі ня ўдасца разьвярнуць на 180 градусаў, апэлююць да Ірляндыі, чый прыклад тыпалягічна вельмі адрозьніваецца ад беларускага і г. д.

Тым часам кожны, хто знаёмы з сучаснай этнаграфіяй, антрапалёгіяй, палітычнай гісторыяй і філязофіяй гісторыі, ведае, што сучаснае паняцьце нацыі не адкідае і не перакрэсьлівае паняцьця этнічнай супольнасьці і тым больш паняцьця народ. Наадварот, гэта неабходныя інструмэнты для вызначэньня і азначэньня розных працэсаў і зьяваў, якія адбываюцца з насельніцтвам плянэты. У ангельскай мове паняцьці «нацыя» і «дзяржава» часта атаясамліваюцца. У нашай мове тое самае адбываецца са словамі «на-

* Сяргей Дубавец. Мова дэмакратыі і мова дыктатуры. — http://www.svaboda.org/content/dubaviec-mova-demakratyi-i-mova-dyktatury/24737826.html; Николай Халезин. Синдром немоты. — http://kilgor-trautt.livejournal.com/1082629.html; Сяргей Абламейка. Маральная сіла беларушчыны і амаральнасьць яе непрыяцеляў. — http://www.svaboda.org/content/article/24756421.html або С. 34 гэтай кнігі.

цыянальны» і «этнічны». Тым ня менш тэрміны нацыя, этнічная супольнасьць, народ (па-грэцку ἔθνος — этнас) абазначаюць розныя зьявы і розныя паняцьці.

## Азы этнаграфіі і палітычнай гісторыі

Нацыя не ідэнтычная этнасу, паколькі можа ўключаць у сябе некалькі этнасаў. Нацыі бываюць двух тыпаў. Першы тып — гэта так званая этнічная нацыя або этнанацыя. Другі тып — так званая сацыяльна-гістарычная нацыя, якая фармуецца паводле прыкметы прыналежнасьці яе членаў да аднаго геасацыяльнага арганізму (дзяржавы). Да першага тыпу належаць большасьць старых эўрапейскіх нацыяў, да другога — некаторыя поліэтнічныя эўрапейскія нацыі і нацыі Новага сьвету.

Нацыі могуць складацца зь некалькіх народаў і быць шматмоўнымі, але лічыцца, што этнічная супольнасьць або этнас у стадыі сьпеласьці шматмоўнымі быць ня могуць, паколькі стадыя сьпеласьці зьвязана з выпрацоўкай адзінай літаратурнай мовы.

Этнічныя працэсы коратка можна зьвесьці да наступных.

Этнічная асыміляцыя, якую яшчэ называюць уцягваньнем, растварэньнем і ўключэньнем. Бываюць асыміляцыі моўная, моўна-культурная і поўная. У прынцыпе, гэта тры этапы аднаго працэсу. Асыміляцыя завяршаецца поўнай заменай

этнічнай самасьвядомасьці і пачуцьця этнічнай прыналежнасьці. Як правіла, гэта адбываецца ў другім або трэцім пакаленьнях.

Этнічная кансалідацыя (зьліцьцё), калі блізкія па культуры і мове этнасы зьліваюцца ў адзін, але застаюцца далей існаваць як субэтнасы ў межах новага вялікага этнасу.

Этнічная дывэргенцыя (расшчапленьне), калі раней адзіны этнас распадаецца на некалькі новых. Часьцей гэта зьвязана з распадам геасацыяльнай адзінкі (дзяржавы). Але не заўсёды.

Працэсы гэтыя ў дачыненьні да этнічных супольнасьцяў заўсёды адбываюцца паводле аб'ектыўных (незалежных ад этнасу) прычынаў, гэта значыць паміма сьвядомасьці і волі людзей. Я б назваў гэта біялёгіяй плянэты.

Працэсы ж нацыянальныя заўсёды зьвязаныя з нацыянальнымі рухамі — гэта сьвядомая дзейнасьць вялікіх групаў людзей, накіраваная на дасягненьне канкрэтных мэтаў, часьцей за ўсё палітычных. Таму нацыянальныя рухі адрозьніваюцца ад этнічных працэсаў сваёй прыналежнасьцю да сфэры палітыкі.

Як толькі ў пачатку XX стагодзьдзя беларусы стварылі першую палітычную партыю — яны пачалі працэс фармаваньня беларускай нацыі, якая павінна была ахапіць сабой беларускую этнічную супольнасьць у межах яе расьсяленьня. Гэта і была праграма рэалізацыі беларускай нацыянальнай ідэі. Яе мэта — нацыя этнічная, а не сацыяльна-гістарычная. Гэты працэс дасяг-

нуў апагею 25 сакавіка 1918 году з абвяшчэньнем незалежнасьці БНР, і затым працягнуўся ў межах савецкай квазідзяржавы БССР. Але (увага!), дзеля аб'ектыўных, не залежных ад беларускай этнічнай супольнасьці прычынаў працэс фармаваньня беларускай нацыі ня быў закончаны. Працягваецца ён і ў нашы дні, у рамках Рэспублікі Беларусь.

Паралельна яму адбываюцца (працягваюцца) і неспрыяльныя для беларускага этнасу працэсы, зьвязаныя з палітычнымі рэаліямі і актыўнасьцю суседніх дзяржаваў (фактычна адной зь іх — Расеі). З нашага боку іх можна назваць моўна-культурнай асыміляцыяй. З расейскага — этнічнай кансалідацыяй, паколькі расейцы не прызнаюць самастойнасьці беларусаў і ўкраінцаў і аказваюць працэсам моўна-культурнай асыміляцыі магутную палітычную, культурную ды інфармацыйную падтрымку на дзяржаўным ўзроўні.

Цяперашнія моўна-культурныя працэсы ў межах Рэспублікі Беларусь могуць завяршыцца дывэргенцыяй або расшчапленьнем, стварэньнем субэтнасу расейскамоўных беларусаў з далейшым іх зьліцьцём з астатнімі расейцамі. А могуць скончыцца і поўным зьліцьцём двух этнасаў. Многія беларусы за XX стагодзьдзе так і не пазбавіліся падвойнай сьвядомасьці. Сучасныя перапісы не фіксуюць такой зьявы, бо ня ставяць такой мэты. Тым часам этнонім «беларус» пачынае набываць значэньне палітоніму, якраз таму вулічныя апытаньні паказваюць, што, на-

прыклад, траціна людзей думае, што ў Беларусі скасавана сьмяротнае пакараньне — тым часам як на яго накладзены мараторый ў Расеі. Фразы «мы русские», «наши русские», «эти нерусские» ў вуснах беларускіх грамадзянаў, якія на перапісах называюць сябе беларусамі, паказваюць і на адначасовае атаясамліваньне сябе з насельніцтвам Расеі...

У такіх умовах прапанова прызнаць расейскую мову мовай беларускай культуры выглядае вельмі несвоечасовай і вельмі небясьпечнай.

## Мітычная грамадзянская нацыя

У спрэчках пра лёс Беларусі, нават у тэкстах салідных аўтараў, можна пачуць развагі пра патрэбу стварэньня ў Беларусі так званай грамадзянскай нацыі, гэта значыць супольнасьці людзей, патрыятызм якіх будзе грунтавацца не на этнічнай, але на дзяржаўнай прыналежнасьці.

Што тут скажаш? Грамадзянская нацыя — гэта не навуковае паняцьце, гэта міт. Апошнія 15 гадоў пра такую нацыю загаварылі ў Расеі, гэта клопат некаторых расейскіх навукоўцаў, занепакоеных лёсам Расейскай Фэдэрацыі. Ва ўмовах сёньняшняга росту нацыянальных рухаў і ўмацаваньня нацыяналізму па ўсім сьвеце расейскія ідэолягі стаяць перад цяжкай задачай — захаваць адзінства такой вялікай і разнастайнай краіны, якой зьяўляецца Расея. Зразумела, што для гэтага не падыходзіць клясычны этнічны

нацыяналізм. Таму ў Расеі і прыдумалі тэрмін «грамадзянская нацыя».

Сусьветная ж навука такога тэрміну ня ведае. Ёсьць толькі тэрмін грамадзянскі нацыяналізм (Civic nationalism). Але і ён большасьцю навукоўцаў ставіцца пад сумненьне. Грамадзянскі нацыяналізм быў вынаходніцтвам невялікай групы заходніх філёзафаў-ідэалістаў (Эрнэст Рэнан, Джон Сцюарт Міл), якія вызнавалі лібэральныя каштоўнасьці. Яны проціпастаўлялі «нексэнафобны» грамадзянскі нацыяналізм нацыяналізму этнічнаму і верылі, што прыналежнасьць да пэўнага этнасу павінна быць добраахвотнай. Гэтыя ідэі аказалі пэўны ўплыў на ўладкаваньне грамадзянскіх супольнасьцяў у некалькіх краінах, у тым ліку ў ЗША, Канадзе, Мэксыцы, Бразыліі, Аргентыне. Але ня цяжка заўважыць, што ўсе гэтыя краіны былі вынікам каляніяльнай актыўнасьці вялікіх этнічных нацыяў, вынікам каланізацыі чужой тэрыторыі, навязваньня сваёй культуры карэнным этнасам і жорсткага іх культурнага задушэньня. Грамадзянскі нацыяналізм выгадны некарэнным этнасам. Але і тут нашых прыхільнікаў грамадзянскай нацыі чакае расчараваньне. Справа ў тым, што нават у названых дзяржавах іх грамадзянскія супольнасьці эвалюцыянуюць у бок супольнасьцяў этнічных. І з гэтым нельга нічога зрабіць.

А ў выпадку Беларусі пра грамадзянскі нацыяналізм гаварыць наогул абсурдна. Беларусы жывуць на сваёй этнічнай тэрыторыі, нас тут

большасьць. Этнічныя або нацыянальныя меншасьці Беларусі, бясспрэчна, маюць свае культурныя правы, але ня маюць права дыктаваць беларусам тып патрыятызму і навязваць ім свае культуру і мову.

Прапаноўваць беларусам грамадзянскі патрыятызм — значыць загадзя асуджаць іх на няўдачу нацыянальнага праекту, распачатага ў канцы XIX стагодзьдзя. Гэты праект сваім вынікам якраз і мае сёньняшнюю Рэспубліку Беларусь. За такімі прапановамі хаваецца ідэя «нераспаўсюджваньня» беларускай мовы і прызнаньня канчатковага характару русыфікацыі значнай часткі беларусаў. Людзей, якія заклікаюць да стварэньня ў Беларусі грамадзянскай нацыі, я б назваў лінгвістычнымі апартуністамі. (Гэта калі казаць мякка. Пры больш жорсткім разглядзе сытуацыі акажацца, што і тут мае месца зацікаўленасьць народа-каланізатара і яго адэптаў-калябарантаў у Беларусі.)

Таму ў ніякім выпадку нельга прызнаваць магчымасьць існаваньня расейскамоўнай беларускай нацыі, або нават дзьвюхмоўнай. Заклікі да такога прызнаньня трэба ўсяляк асуджаць. Як слушна заўважыла некалі прафэсарка Валянціна Лемцюгова, дзяржаўных моваў можа быць некалькі, але нацыянальная мова ў нас адна.

Гэта пацьвярджаюць і сучасныя моўна-культурныя працэсы ў розных краінах сьвету. Рэальнасьць другой паловы XX стагодзьдзя — першай паловы XXI стагодзьдзя дае нам мноства прыкла-

даў зваротнасьці і абарачальнасьці моўна-культурных працэсаў.

## Ірляндыя і Беларусь

У развагах пра моўную сытуацыю ў Беларусі часта прыводзяць прыклад ірляндцаў, якія зьяўляюцца нацыяй пры амаль поўнай страце мовы. Што пра гэта можна сказаць?..

Людзі належаць да тыпу істотаў, якія маюць дзьве нагі. Але нехта зь іх часам трапляе пад трамвай і застаецца з адной нагой. Адна нага ў чалавека — гэта ня норма, гэта інваліднасьць, выключэньне. Ірляндцы — гэта рэдкі прыклад нацыі, якая трапіла пад «суседзкі трамвай», гэта таксама выключэньне. Як вядома, у XVII стагодзьдзі брытанскі ўрад выплачваў сваім каляністам у Ірляндыі аднолькавае грашовае ўзнагароджаньне і за адстрэл шалёнага сабакі, і за адстрэл настаўніка ірляндзкай мовы... Гэта калі гаварыць літаратурна.

Ну а калі гаварыць паводле вышэйпрыведзеных пачаткаў этнаграфіі і палітычнай гісторыі, то ў развагах пра Ірляндыю як прыклад для Беларусі моцна кідаецца ў вочы недахоп таго, што называецца temporal logic — тэмпаральнай лёгікі. Сытуацыя Ірляндыі адрозьніваецца ад беларускай дзьвюма падставовымі рэчамі. Па-першае, ірляндцы сфармаваліся як нацыя, будучы ўжо амаль цалкам англамоўнымі, тым часам як беларусы ў канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзяў

былі амаль цалкам беларускамоўнымі. Па-другое, ірляндцы сёньня зьяўляюцца ўнікальным прыкладам не этнічнай, як беларусы, але этнаканфэсійнай (таксама выключэньне) нацыі — іх каталіцкая вера і больш чым 400-гадовае процістаяньне рэфармацыі пры страце нацыянальнай мовы сталі адным з самых істотных нацыятворчых чыньнікаў. Беларусы такога фактару ня маюць.

Затое мы маем багатую культуру і літаратуру, тысячы тамоў энцыкляпэдыяў, слоўнікаў, манаграфіяў, акадэмічных выданьняў у галіне гісторыі, мастацтва, фальклёру і практычна 100-працэнтнае разуменьне і веданьне насельніцтвам беларускай мовы, якая выкладаецца ва ўсіх школах краіны. Гэта добрая падстава, каб уцячы ад «суседзкага трамвая».

## Мова — як код, інструмэнт і элемэнт культуры

Мова зьяўляецца ня толькі інструмэнтам культуры, але і яе ключавым элемэнтам. Творчасьць, акт культуры — немагчымы безь пераемнасьці. Менавіта пераемнасьць робіць магчымым самаўзнаўленьне культуры таго або іншага этнасу з пакаленьня ў пакаленьне. Па-сутнасьці, культурнае ўзнаўленьне побач зь біялягічным зьяўляецца галоўнымі ўмовамі гістарычнага быцьця этнасу. Цяжка ўявіць сабе юнака, які гадуецца на вершах Багдановіча, Дубоўкі, Янішчыц, Ка-

раткевіча, Стральцова і Разанава, а вырасшы — пачынае пісаць па-расейску і становіцца расейскамоўным паэтам. Гэта нонсэнс.

Зь іншага боку, цяжка ўявіць сабе і менскага расейскамоўнага літаратара, які вырас на паэзіі расейскага Срэбранага веку, на расейскіх геніяльных аўтарах XIX–XX стагодзьдзяў зь іх генэтычнай заглыбленасьцю ў культурныя і гістарычныя карані Расеі, і які возьме ды напіша нешта падобнае да паэмы Аркадзя Куляшова «Хамуціус», прысьвечанай Кастусю Каліноўскаму.

Мова — гэта код, які адкрывае дзьверы ў тую або іншую культурную прастору. А культура — гэта пераемнасьць, спадчына, традыцыя, алюзія. Культура самым шчыльным чынам зьвязана з гісторыяй. І вось вынік цяперашняга ненармальнага стану ў Беларусі: многія лічаць Пятра I і Кацярыну II беларускімі манархамі...

З-за катастрафічнай гісторыі XX стагодзьдзя беларусы не да канца рэалізавалі свой патэнцыял як этнічная супольнасьць, як народ. Да самых нашых дзён беларусы не зьяўляюцца гаспадарамі свайго лёсу. Сьцьвярджаць адваротнае — крывіць душой. Роля Масквы ў падзеях восені 1996 году вядомая. Абраныя прадстаўнікі народу паставілі патрэбную колькасьць подпісаў за імпічмэнт прэзыдэнту, але ўмяшалася Масква, прыехала дэлегацыя на чале з прэм’ер-міністрам, запалохалі старшыняў парлямэнту і Канстытуцыйнага суду... Вынікам стаў канец беларускай Канстытуцыі, канец прававога разьвіцьця па-

дзеяў і згортваньне захадаў у рамках закону аб мовах 1990 году. Пачалася жорсткая русыфікацыя: масавае закрыцьцё беларускіх школаў, перапісваньне падручнікаў гісторыі, ліквідацыя газэт і часопісаў, перавод тэлебачаньня на расейскую мову, разгон Саюзу пісьменьнікаў і г. д.

Можна сьмела сьцьвярджаць, што каб не напалеонаўскія палітычныя амбіцыі нязьменнага прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь, Масква даўно ўжо змагла б завяршыць працэс «этнічнай кансалідацыі» зь беларусамі. Але Саюзная дзяржава, Мытны Саюз і Эўразійская эканамічная супольнасьць застаюцца зручнымі інструмэнтамі ўключэньня Беларусі ў сацыяльна-гістарычную расейскую нацыю.

А прапанова прызнаньня расейскай мовы адной з моваў беларускай культуры (а фактычна — адзінай у тых умовах, у якіх існуе культура беларускамоўная) непасрэдна накіраваная на ператварэньне беларускай этнанацыі ў нацыю сацыяльна-гістарычную. Вельмі дзіўна (і нават несалідна), што для падмацаваньня гэтай прапановы прыводзяцца вынікі двух апошніх перапісаў, якія, як вядома, праводзіліся паводле розных мэтодыкаў і, адпаведна, ня могуць лічыцца рэпрэзэнтатыўнымі, верагоднымі і дакладнымі, іх нельга параўноўваць.

Пры рэалізацыі гэтай прапановы можна лічыць, што тысячы найлепшых людзей нашага народу, якія паклалі свае жыцьці на справу ажыцьцяўленьня беларускай нацыянальнай ідэі,

паклалі іх дарэмна. Менавіта беларуская нацыянальная ідэя злучала і лучыць нас у адзін народ і ў адну нацыю. Рэалізацыю яе прызнавалі сваёй галоўнай задачай і айцы БНР, і айцы БССР, нацыянал-камуністы. Яе прызнавалі такой і беларускія патрыёты ў савецкім войску, і беларускія дзеячы, якія працавалі ва ўмовах нямецкай акупацыі ў часе апошняй вайны. У пасьляваенны час яе вызнавалі і беларускія інтэлектуалы БССР, і інтэлектуалы беларускай эміграцыі ў Эўропе, ЗША і Аўстраліі. Застаецца яна актуальнаю і для нас, цяпер жывучых.

Этнічныя працэсы — жывыя, зьменлівыя, рухомыя і, галоўнае, абарачальныя. Гэта, паўтаруся, амаль біялёгія плянэты. У нашы дні і на нашых вачах адбываецца пераход гістарычнай формы існаваньня беларускага этнасу са стадыі этнічнай нацыі ў стадыю нацыі сацыяльна-гістарычнай. Гэта этнічны працэс, які адбываецца аб'ектыўна, паміма волі людзей (членаў этнасу), пастаўленых у пэўныя ўмовы. Але якраз умовы гэтыя могуць быць зьмененыя, калі палітычныя ды інтэлектуальныя эліты дасягнуць кансэнсусу і выявяць волю да зьмены сытуацыі. Раней ці пазьней.

(Палітычная апазыцыя ўсяго спэктру, здаецца, з гэтым згодная ўжо цяпер.)

А кансэнсусу мы можам дасягнуць і без прызнаньня расейскай мовы мовай беларускай нацыянальнай культуры. Трэба проста зьняць гэтае пытаньне і перастаць рабіць вострыя заявы з абодвух бакоў, перастаць вымагаць адны ад

адных саступак і кампрамісаў. Наадварот, людзі культуры павінны і могуць дзейнічаць разам. Ці так гэта важна — называць расейскамоўнага аўтара зь Менску беларускім пісьменьнікам? Навошта? Ці не дастаткова разам рабіць прэзэнтацыі, разам выступаць і разам друкавацца ў адных выдавецтвах і выданьнях? Няўжо так страшна, калі аднаго прадставяць проста паэтам X, а другога рускім паэтам (ці паэтам, які піша па-расейску) N? Я ні разу ня чуў хоць бы пра адзін выпадак спрэчкі ці пагарды аднаго літаратара да іншага на падставе мовы... Хіба не на дзьвюх мовах гавораць сёньня ў інтэлектуальных асяродках Менску?

Недаравальна будзе страціць гэты цуд прыроды — цэлы народ зь яго культурай. Банальныя рэчы (і словы): расейскай мове нічога ў Беларусі не пагражае, а беларуская мова знаходзіцца, паводле экспэртаў ААН (і ўсіх нас, хто кожны дзень гэта бачыць на свае вочы) пад пагрозай поўнага зьнікненьня. Дык ці ня справа ўсіх прыстойных людзей ставіцца да яе экалягічна, зь «зялёным» падыходам як да зьявы ня толькі культуры, але і прыроды, якой пагражае сьмерць? Мне здаецца, што сёньня гэта ўжо справа сумленьня.

Можна, вядома, выбраць больш разьвітую расейскую культуру зь яе шэдэўрамі і геніямі ды з пагардай пазіраць на абарыгенаў вакол сябе, а можна і паспрабаваць стварыць шэдэўр па-беларуску, выкарыстоўваючы свой талент і мастацкі вопыт. Любы беларускі расейскамоўны аўтар

аўтаматычна стане дзьвюхмоўным, калі напіша верш, апавяданьне, кнігу (хай адну зь дзесяці) па-беларуску.

Паспрабуйце, і ўбачыце, якая хваля ўдзячнасьці абрынецца на вас...

### Што будзе далей?

Застаецца толькі яшчэ раз паўтарыць ужо сказанае. Беларуская нацыянальная ідэя — гэта адначасова і галоўная мара найлепшых нашых людзей з канца XIX стагодзьдзя і да нашых дзён. Мара пра сваю нацыянальную дзяржаву.

У прынцыпе, БНР, і БССР, і РБ — былі і ёсьць нацыянальнымі дзяржавамі беларусаў. Проста натуральны ход падзеяў у гэтых дзяржавах гвалтоўным чынам прыпыняўся з-за мяжы. Таму для нас усё яшчэ актуальнаю задачаю застаецца стварэньне звычайнай нацыянальнай дзяржавы (і нацыі) у цяперашніх межах Рэспублікі Беларусь. У беларусаў няма іншай тэрыторыі ды іншай дзяржавы, тут і толькі тут яны могуць рэалізаваць сваю нацыянальную ідэю. Як няма і іншай мэтраполіі ў беларускай мовы, якая, насуперак экстранеспрыяльным абставінам апошніх трох стагодзьдзяў дажыла да нашых дзён.

Выратаваньне ад пагрозы гістарычнага небыцьця беларусы здабудуць тады, калі «ўздымуць галаву» чацьвёрты раз і гэтым разам... без падзеньня Расеі, насуперак ёй, яе жаданьню і яе кантролю. Уздымуць галаву і створаць нарэшце

сваю паўнавартасную нацыянальную дзяржаву. А зрабіць гэта яны змогуць толькі пры падтрымцы сваіх элітаў, як беларускамоўнай, так і расейскамоўнай. Нікольки не сумняваюся, што ў гэтай дзяржаве будзе добра ўсім — і самім беларусам, і нацыянальным меншыням. Можа там будзе некалькі дзяржаўных моваў, а можа і адна, а іншыя мовы (расейская, польская, габрэйская, украінская і інш.) атрымаюць афіцыйны, але не дзяржаўны статус. Галоўнае, там ня будзе моўнага прымусу, а статус нацыянальнай мовы беларусаў будзе датрымлівацца і паважацца ўсімі. Можа быць, праз тры-пяць пакаленьняў беларусам нават удасца істотна пашырыць колькасьць носьбітаў сваёй мовы.

Насамрэч, калі людзі ня маюць падступных мэтаў, гэта ня цяжка — прызнаць відавочнае: моўныя працэсы абарачальныя, і нават без прымусу. Дастаткова разумнай і ўзважанай палітыкі дзяржавы і згоды на эвалюцыйныя шматгадовыя зьмены з боку абедзьвюх інтэлектуальных элітаў.

Кожны больш-менш адукаваны чалавек, які ведае гісторыю, можа ўзнавіць у памяці прыклады і асобных людзей, і цэлых народаў, якія пацьвярджаюць простую ісьціну: мара ня раз перамагала рэчаіснасьць...

Пераможа і яшчэ ня раз.

*18 лістапада 2013 году.*

## Гета або эліта?

Нешта часта ў апошнія месяцы беларускамоўных у Беларусі пачалі называць гетам. Называюць іх так нібыта з добрых меркаваньняў і з тых самых меркаваньняў клічуць з гета выходзіць, маўляў, каб ня ўмёрлі. А выходзіць куды? Кажуць, на шырокія прасторы расейскай мовы і культуры, якія трывала ўжо ўкараніліся ў нашай Беларусі і шкоды ніякай ня робяць. Пішуць і кажуць таксама, што трэба адэптаў гэтай расейскамоўнай большасьці не адштурхоўваць, але прыцягваць. Ня ясна, праўда, куды і да чаго. Бо ж мы, беларускамоўныя і наша культура — гета, нас саміх трэба некуды прыцягваць і ратаваць. А ці можа жыцьцё ў гета быць прывабным для «свабодных»?

Быў я сёлета ў верасьні ў Менску — цэлыя тры тыдні. Паездка гэтая шмат што зьмяніла ў маіх поглядах на сытуацыю на радзіме. Апошнімі гадамі я ня раз пасьля такіх падарожжаў публікаваў змрочныя і пэсымістычныя падарожныя эсэ. І вось сёлета ўпершыню — ня буду.

Нечакана шмат добрых уражаньняў за тры тыдні ў родным горадзе. Добрыя кавярні і рэстарацыі, вышкалены пэрсанал, нядрэнныя тавары беларускай вытворчасьці за невялікія па эўрапейскіх мерках грошы. Вядома, для нашых людзей — дарагавізна, палітычная задуха, сацыяльны раз-

рыў, гонкі мясцовых шэйхаў па праспэкце на спартовых машынах пад аховай міліцыі...

Але мова тут пра мову, а не пра манархію. У Менску я кожны дзень шмат разоў нечакана сутыкаўся зь беларускамоўнымі — у крамах, кавярнях, кнігарнях, хімчыстках... Такога раней не бывала. Многія падкрэсьлена гучна, з выклікам размаўляюць па-беларуску. Едзеш у аўце — заўсёды ў эфіры дзьве-тры ФМ-станцыі на мове. Звоніць слухач, замаўляе Памідорава пра Плошчу — і калі ласка, запускаюць... У кожнай кнігарні, дзе я быў, на маіх вачах людзі куплялі новую кнігу Ўладзімера Арлова «Краіна Беларусь. Вялікае Княства Літоўскае».

А ад кантактаў зь беларускай творчай моладзьдзю на працягу некалькіх тыдняў я наогул у поўным захапленьні. Маладыя, прыгожыя, разумныя, таленавітыя, энэргічныя і прабіўныя. У кавярнях, дзе яны сядзяць, ніякага антаганізму паміж беларуска- і расейскамоўнымі. Як няма і антаганізму паміж тымі, хто піша зь мяккімі знакамі і бязь іх.

І падумалася вось пра што. Пляваць мне на тэарэтычныя пабудовы і выкладкі сучасных сацыёлягаў і палітолягаў пра нейкія мадэрныя нацыі і шляхі іх фармаваньня. Пляваць мне таксама на ўсіх адэптаў гэтых мадэрных тэорыяў. Як я ўжо пісаў некалі, у Беларусі час ідзе, а Беларусь у часе — не. Для мяне ясна як Божы дзень, што сёньня на сьвеце існуе беларускі наРОД. І народ гэты са сьвету сыходзіць ня хоча. Ён ужо

як бы і забіты суседзямі, але, насуперак іх векавым высілкам, усё яшчэ жывы. І ў гэтага народу ёсьць эліта — беларускамоўныя інтэлектуалы і творцы. А эліта існуе таму, што папярэднія яе пакаленьні перад Курапатамі і ГУЛАГам пасьпелі нешта стварыць на мове, а не на «великом и могучем». Эліта нашая сёньня сваімі высілкамі і «ня надта цікавымі творамі» ратуе для будучыні ідэю існаваньня нашага наРОДу. І неяк дзіўна (я б нават сказаў, непрыхавана цынічна), што эліце прапануюць апусьціцца да ўзроўню амаль забітай і дэнацыяналізаванай часткі народу... (Я, дарэчы, сустракаў у Менску маладых паэтаў, ад вершаў якіх пахне расейскім Срэбраным векам; я б іх творы назваў «вельмі нават цікавымі...» А гэта значыць, што новае пакаленьне эліты ўжо прыйшло.)

Беларушчыну, вядома, душаць і ціснуць. Але яна ўсё роўна струменіцца з усіх шчылінаў дзяржаўнага і грамадзкага арганізму, бо зьяўляецца ўжо арганічнай і неад'емнай іх часткай. Я б сказаў нават больш. Калі разумець народ ня як штучна створаную супольнасьць грамадзянаў, але як таямніцу нябёсаў, частку наасфэры і біялягічнай папуляцыі, дык беларушчына сёньня — гэта таксама частка сьвету, частка зямлі, космасу і мэтафізыкі. І так будзе датуль, дакуль фізычна будуць існаваць носьбіты беларушчыны — эліта. А каб гэтак не было, трэба эліту фізычна зьнішчыць. Думаю, што сёньня ў суседзяў ды іх пятай

калёны ў Беларусі на гэта ўжо ня хопіць ні сілаў, ні магчымасьцяў, ні часу. Бо час ужо ня той.

Тыя ж, хто заклікае да ліквідацыі «беларускамоўнага гета», забываюцца, што краіна сёньня мае некалькі элітаў — культурную (асноўную), палітычную (уладную і апазыцыйную), чыноўную, спартовую і г. д., і моцна недаацэньваюць ступень уплыву асноўнай — культурнай — эліты і яе ідэяў на ўсе астатнія. Фактычна, культурная эліта мае свае «пятыя калёны» ў кожнай з астатніх прафэсійных ці сацыяльных элітаў краіны. Усе проста чакаюць часу Х.

Таму яшчэ раз паўтаруся — асабліва для розных правінцыйных талставедаў, сацыёлягаў, лінгвістаў і нават этнапсыхафальклярыстаў. Тое, што нашы непрыяцелі называюць гетам, насамрэч — нацыянальная эліта дэнацыяналізаванага ўжо ў значнай ступені народу. Расейскамоўныя ў Беларусі ўсё яшчэ азіраюцца на блаславёныя для іх часы СССР, які быў ні чым іншым як новым выданьнем Расейскай імпэрыі. Расейскамоўныя «аскепкі імпэрыі» хочуць, каб іх называлі «таксама беларускімі». Але гэтыя людзі мелі б зразумець, што як бы яны сябе ні называлі, яны заўсёды застануцца «таксама...», а можа і «тожа беларусамі». Людзі гэтыя ўсьвядомлена ці неўсьвядомлена разумеюць, што «гета» — гэта эліта, і ім таксама хочацца туды. Проста яны ня хочуць мяняцца. Кожны зь іх дзеля розных прычынаў хоча захаваць сябе нязьменным, але ў беларускую эліту трапіць. Гэта нахабства і псыхіятрычная праб-

лема — патрабаваць каб дзеля твайго камфорту зьмяніўся нехта іншы, а ня ты сам. З двух такіх «патрабуючых» рацыю мае толькі нехта адзін, бо рацыя, як і праўда, заўсёды адна. І ўсе мы разумеем — якая зь дзьвюх. Таму ў мяне да «аскепкаў» вельмі простае пытаньне. Ці ня лепш быць проста беларусамі — расейскага, польскага, украінскага, габрэйскага ці якога іншага паходжаньня? Так як гэта ёсьць з такім самымі немцамі ці палякамі ў Нямеччыне, Польшчы ці яшчэ дзе.

Я думаю, што ў Беларусі некалі ўвесь народ падцягнецца да сваёй эліты. Як гэта ня раз ужо бывала ў Эўропе зь іншымі наРОДамі. Як гэта і павінна быць. Як гэта непазьбежна і будзе.

*17 кастрычніка 2012 году.*

## Маральная сіла беларушчыны і амаральнасьць яе непрыяцеляў

Бываючы ў Менску і іншых гарадах краіны, я практычна заўсёды (за рэдкімі выключэньнямі) карыстаюся беларускай мовай. За апошнія 10–15 гадоў я НІ РАЗУ не сутыкаўся з адмоўным стаўленьнем да маёй мовы і да мяне як да яе носьбіта. Наадварот, людзі пераважна прыязна ўспрымаюць беларускую гаворку, а многія ў адказ нават спрабуюць сказаць пару словаў на ёй. Часам можна сустрэцца зь няёмкасьцю таго, хто ня можа адказаць па-беларуску. Таму я сьцьвярджаю, што глыбока, у падсьвядомасьці расейскамоўныя беларусы маюць замілаваньне да беларускай мовы як да нечага роднага, што дзеля незразумелых прычынаў аказалася чамусьці гнанае. Я сьцьвярджаю, што беларусы любяць беларускую мову, разумеюць неабходнасьць яе існаваньня і карыстаньня ёю. Мільёны людзей у Беларусі, прыехаўшы зь вёсак у гарады, былі вымушаныя пакутліва сябе ламаць, цярпець зьдзекі гарадзкіх са свае гаворкі і свайго вымаўленьня і таму, сустрэўшы беларускамоўнага, сьвядома ці падсьвядома яму сымпатызыюць.

Сам я з адмоўнай рэакцыяй не сутыкаўся, але разумею, што калі б такая і была, то з боку беларуса яна можа быць выклікаеная і тым, што сам ён некалі даўно ўжо выракся беларускай мовы,

і цяпер раздражняецца, сустрэўшы напамін аб гэтым.

Але галоўнае вось што. Усе, хто лічыць сябе беларусамі, хто вызначае сваю нацыянальнасьць як беларускую, ня супраць беларускай мовы.

***

Беларускую мову ў Беларусі ня любяць небеларусы. І тут увага — я ня маю на ўвазе этнічнае паходжаньне, кроў. Я маю на ўвазе сьвядомасьць. Небеларусаў паводле сьвядомасьці ў Беларусі некалькі тыпаў.

Прыежджыя людзі пераважна расейскай культуры і іх нашчадкі. Такія людзі часта беларускай мовай пагарджаюць, грэбуюць ёй і патрабуюць «дзьвюхмоўя».

Мясцовыя русыфікаваныя людзі. Гэта якраз такія ў нас часта кажуць «мы, рускія». Інтэлектуалы гэтай часткі насельніцтва часта называюць сябе «тоже белорусы». Гэта спадчына Расейскай імпэрыі і СССР зь яго брутальнай русыфікацыяй. Такіх шмат у гарадах. Яны і іх бацькі карысталіся расейскай мовай на працягу сярэдзіны-другой паловы XX стагодзьдзя і страцілі ўсякую сувязь зь беларускай культурнай традыцыяй. Яны цалкам знаходзяцца ў полі расейскай масавай (і ня толькі) культуры. Але ў параўнаньні зь сялянскім морам, якое цалкам заліло ў другой палове мінулага стагодзьдзя нашы гарады, гэтая група адносна нешматлікая.

Да гэтых «тоже белорусов» прымыкаюць і мясцовыя расейскія імпэрцы з асяродзьдзя Праваслаўнай царквы — «западноруссы», «белоруссы». У гэтую групу ўваходзяць людзі рознага паходжаньня, але ўсіх іх аб'ядноўвае ідэя трыадзінай Сьвятой Русі і яе адзіна правільнай Расейскай Праваслаўнай царквы.

Многія прадстаўнікі маладога пакаленьня беларусаў (гараджане і вяскоўцы), якое ўвайшло ў жыцьцё за часы кіраваньня А. Лукашэнкі. Гэта малакультурныя і малаадукаваныя адэпты расейскай маскультуры, ахвяры сыстэмы адукацыі, шызафрэнічнай афіцыйнай прапаганды і «патрыятычнай» рыторыкі кшталту: «Беларус — гэта расеец са знакам якасьці», «мы з рускімі адзін народ» і г. д.

Некаторыя (падкрэсьліваю, далёка ня ўсе) прадстаўнікі мясцовых небеларускіх групаў насельніцтва і некаторых рэгіянальных дыялектаў.

***

Дыскусія пра ролю і месца ў Беларусі беларускай і расейскай моваў вялася некалькі месяцаў. У кастрычніку 2012 году яна актывізавалася дзякуючы тэксту Сяргея Дубаўца «Мова дэмакратыі і мова дыктатуры»*. Я быў шчасьлівы, калі прачытаў водгук Мікалая Халезіна на тэкст Дубаўца:

* http://www.svaboda.org/content/dubaviec-mova-demakratyi-i-mova-dyktatury/24737826.html

«...Да, безусловно, Лукашенко и его окружение приложили все усилия, чтобы белорусский язык перестал существовать как факт. Но при этом он не перестал. Более того, активно осваивался частью белорусов, постепенно дрейфуя в сознании от статуса «языка деревни» к «языку истеблишмента». Сегодня для политика или общественного деятеля недопустимо отказаться дать интервью белорусскоязычному ресурсу на белорусском же языке. Собственно, протестное движение против диктатуры и стало трансформировать языковую проблему, выведя ее в ранг приоритетной. Вряд ли сегодня найдется политик демократического лагеря, который не согласится с тем, что решение языковой проблемы станет одним из важнейших при трансформационных процессах... Сегодня в быту я практически не пользуюсь белорусским, и причин этому нахожу гораздо больше, чем стимулов к изменению этой ситуации. Пожалуй, в этом я очень напоминаю абсолютное большинство своих соотечественников и не могу сказать, что горд этим — скорее, испытываю неловкость. Неловкость, за которую благодарю Сергея Дубавца, поскольку подобный дискомфорт заставляет менять ситуацию»[*].

Вось як трэба сябе захоўваць у гэтай сытуацыі расейскамоўнаму чалавеку! Вось якія словы трэба казаць і якую пазыцыю займаць! Здымаю

* Николай Халезин. Синдром немоты. — http://kilgor-trautt.livejournal.com/1082629.html

капялюш перад маральным падыходам Мікалая.

Уявім сабе зьбітага хуліганамі ў кроў чалавека, які ляжыць на вуліцы. Што мае зрабіць прыстойны чалавек, які праходзіць побач? Зразумела, дапамагчы чалавеку ўстаць, абцерціся, магчыма, адвесьці ў лякарню і г. д. Іншымі словамі, прыстойны мае дапамагчы чалавеку вярнуцца да нармальнага стану. Але, аказваецца, ёсьць і іншы варыянт паводзінаў. Напрыклад такі. Падскокваюць да зьбітага людцы і цынічна кажуць яму: ну што ж, так сталася, нічога не паробіш, такое жыцьцё, ляжы цяпер такі, скрываўлены, ня трэба ўставаць, ня трэба абціраццa, што зробіш, ляжы... Памрэш? Ну што ж, значыцца так мусіла стацца.

Вось так і з нашай беларускай мовай. Нас б'юць і плакаць не даюць. Нам кажуць, ну што ж зробіш, калі так сталася, нічога ўжо ня зьменіш, трэба з гэтым неяк жыць. Ёсьць расейская мова ў Беларусі, ёсьць яе адэпты, іх большасьць і беларускамоўнае гета з гэтым павінна лічыцца і не навязваць людзям сваю «мову». Больш за тое, беларускамоўным цяпер прапануюць прызнаць расейскую мовай беларускай культуры. І тады паўстае пытаньне: нашто бараніць слабейшую беларускую? Усё роўна ж застанецца нейкая Беларусь і нейкая яе культура на расейскай мове.

А самыя вытанчана-цынічныя нават кажуць, што гэта і ёсьць выратаваньне беларускасьці, маўляў, ня можам беларускамоўную беларус-

касьць уратаваць, дык уратуем хаця б расейскамоўную...

***

Мяне ўвесь час зьдзіўляюць адэпты расейскай мовы і культуры ў Беларусі сваімі бясконцымі сьцьвярджэньнямі, што наяўную сытуацыю трэба прыняць як зыходную і ад яе «плясать». А чаму?

У адказ зьяўляюцца аргумэнты пра сучасную сацыялёгію і этнаграфію, нейкія рэкамэндацыі ААН, тэорыі фармаваньня мадэрных нацыяў і г. д. Паглядзіш — і сапраўды там пішуць дзіўныя рэчы. Напрыклад, у паперах ААН рэкамэндуецца вызначаць нацыянальнасьць чалавека выключна паводле яго ўласных цьверджаньняў, а родную мову — паводле той мовы, на якой ён навучыўся гаварыць і на якой гаварыла яго маці. На маю думку, мэтадалягічна — вельмі хібная рэкамэндацыя. А чаму і мову нельга вызначаць паводле простага адказу чалавека на пытаньне, якая яна ў яго родная? Або чаму трэба браць на веру цьверджаньне неадукаванай беларускамоўнай цёткі-каталічкі зь Мядзельшчыны, што яна палячка?

Здаровы сэнс кажа, што трэба або так, або так — або толькі суб'ектыўна, або толькі аб'ектыўна. Аж не, аказваецца мадэрныя трэнды не такія. Некаму недзе выгадна менавіта так, каб нацыянальнасьць вызначалі па самасьвядо-

масьці, а мову — не па самасьвядомасьці, а паводле рэальнага факту. Гэта сумнеўна ў навукова-мэтадалягічным пляне і тым больш сумнеўна з пункту гледжаньня маралі. Якраз такая спрэчная мэтадалёгія заклікае нас забыцца пра папярэднюю гвалтоўную русыфікацыю і асыміляцыю. Іншымі словамі, гэтая мэтадалёгія заклікае не аказваць дапамогі зьбітаму ў кроў чалавеку на зямлі, міма якога вы праходзіце...

А я не разумею, чаму мы павінны адмаўляцца ад высокіх дасягненьняў айчыннай этнаграфіі, якую многія дзесяцігодзьдзі распрацоўвалі ў Інстытуце этнаграфіі Акадэміі навук і на шматлікіх катэдрах этнаграфіі. У нашага этнасу ёсьць дакладная тэрыторыя расьсяленьня, ёсьць свая этнічная (нацыянальная) псыхалёгія, ёсьць адзін з самых багатых у сьвеце літаратурных і музычных фальклёраў, свой народны інструмэнтарый, свае тыпы жытла і гаспадараньня, сваё нацыянальнае адзеньне, свае спосабы ткацтва і вышываньня, нарэшце свой антрапалягічны тып. Этнаграфія — гэта дакладная навука, якая апэруе ў тым ліку і матэрыяльнымі артэфактамі.

***

Другая хібная тэза, якая вядзе ўдзельнікаў моўнай дыскусіі да хібных вынікаў, гэта цьвярджаньне, што беларускі народ добраахвотна адмовіўся ад беларускай мовы і што Лукашэнку ў 1994 годзе выбралі ў адказ на гвалтоўную беларусізацыю.

Насамрэч, і тое, і тое — непрыхаваная хлусьня.

Беларускі народ ніколі добраахвотна не адмаўляўся ад сваёй мовы. Больш за 300 апошніх гадоў насуперак гвалтоўным і брутальным палянізацыі і русыфікацыі наш народ у кожны спрыяльны момант гісторыі паказваў цуды нацыянальнага адраджэньня і фантастычную волю да жыцьця, вылучаючы са сваіх шэрагаў тысячы і тысячы таленавітых сыноў і дачок, сапраўдную палітычную і творчую эліту краіны. І не віна беларускага народу, што геапалітычны лёс складаўся так, што больш моцныя суседзі перамагалі і выбівалі на Лукішках, у Сыбіры, у Курапатах і ГУЛАГу найлепшых нашых дзеячоў — тысячы і тысячы паўстанцаў, настаўнікаў, палітыкаў і творцаў.

Усе гэтыя апошнія 300 гадоў наш народ змагаецца за выжываньне, актыўна губляючы пры гэтым тэрыторыю і колькасьць.

А ведаючы гісторыю Беларусі XX стагодзьдзя, ведаючы жах нацыянальнага пагрому 30-х і 40-х гадоў XX стагодзьдзя, пра арышты моладзі ў 50-х, ведаючы пра брутальную савецкую русыфікацыю пасьляваенных дзесяцігодзьдзяў, проста дзіву даесься, што ў некага паварочваецца язык назваць гэта добраахвотнай адмовай ад мовы. Аднак жа паварочваецца...

Пасьля ўсяго, што з намі адбылося за гэтыя 300 гадоў, гэта сапраўдны цуд, што цяпер, на пачатку XXI стагодзьдзя, я гэты тэкст пішу па-беларуску і

яго яшчэ нехта можа прачытаць. Інакш як мэтафізыкай і воляй нябёсаў гэта не назавеш...

***

Пра Аляксандра Лукашэнку. Гэта таксама маніпуляцыя і няпраўда, калі кажуць і пішуць, што беларусы абралі Лукашэнку, каб ён абараніў іх ад беларускай мовы і нацыяналістаў. Гэта вельмі падступнае цьверджаньне. Аўтары такіх заяваў карыстаюцца інфармацыйным разрывам, які адбыўся за часы кіраваньня Лукашэнкі паміж даволі высокімі культурнымі і грамадзкімі дасягненьнямі беларусаў канца 80-х — пачатку 90-х гадоў і цяперашнім часам, калі ў выніку палітыкі аўтарытарнага рэжыму і задушэньня свабодаў новае пакаленьне вырасла ва ўмовах вакууму праўдзівай інфармацыі аб тых часах.

У пачатку 90-х беларускі народ абурана назіраў, як чыноўнікі кінуліся зарабляць грошы. Тысячы і тысячы простых работнікаў на заводах і фабрыках бачылі, як на іх вачах узбагачаецца заводзкае кіраўніцтва. І тут зьяўляецца чалавек, які кажа, што ўсіх карупцыянэраў пасадзіць у турму. Абраньне Лукашэнкі было ў пэўнай ступені рэлігійным актам беларускага народу. Простыя людзі паверылі яго рыторыцы адчайна і незваротна. Да Лукашэнкі панесьлі «чамаданы кампрамату» супрацоўнікі міліцыі, КДБ і пракуратуры. Яму паверылі практычна ўсе. Памятаю, як на адным перадвыбарчым сходзе ў Гомелі жанчына ў рэ-

лігійным экстазе цягнула сваё немаўля на сцэну да А. Лукашэнкі, каб той дакрануўся да дзіцяці... Чым не эвангельская сцэна?

І пляваць было беларускаму народу тады, што А. Лукашэнка нешта там казаў за год перад выбарамі ў Дзярждуме Расеі. Народ прагнуў абароны і справядлівасьці.

І што ж ён атрымаў? Атрымаў ён славуты выпадак, калі прэзыдэнцкі памочнік Віктар Кучынскі ў простым эфіры нацыянальнага радыё ішоў з групай міліцыянтаў і пісталетам па калідорах Менгарвыканкаму арыштоўваць аднаго з «галоўных карупцыянэраў» Менску — намесьніка старшыні гарвыканкаму Ўладзімера Ярмошына за «афэры з кватэрамі». А ў гэты самы момант таксама ў простым эфіры, але па тэлебачаньні перадавалі ўказ маладога прэзыдэнта аб прызначэньні таго самага Ярмошына старшынём Менгарвыканкаму... І выпадак гэты быў пасьля паўтораны шмат разоў. Усіх, хто быў «на кручку», прызначалі на пасады, каб трымаць пад кантролем...

Нядаўна давялося прачытаць, як пра гэты час першы пасол ЗША ў Беларусі Дэйвід Суорц сказаў, што А. Лукашэнка быў абраны прэзыдэнтам на «антыкарупцыйнай хвалі»...

І ніякіх пунктаў пра закрыцьцё беларускіх школаў і дзіцячых садкоў у праграме Лукашэнкі тады не было, як не было і абяцаньняў вярнуць старую савецкую сымболіку. Рэфэрэндум

14 траўня 1995 году ня быў вынікам рэалізацыі перадвыбарчых абяцаньняў гэтага палітыка.

Сёньня моладзі ўжо цяжка ўявіць той час, калі супрацоўнікі ДАІ ў Менску гаварылі па-беларуску, калі групы дзетак у дзіцячых садках пад кіраўніцтвам выхавацелек ішлі па вуліцы і шчабяталі між сабой на мове...

І галоўнае. Ніякіх пратэстаў супраць пераводу часткі школаў і садкоў на беларускую мову ў пачатку 90-х гадоў не было, не было дэманстрацыяў, пікетаў, тысяч абураных лістоў у газэты. Не было. Народ не абураўся.

Вось дакладныя лічбы. За ўвесь час так званай «гвалтоўнай беларусізацыі» (студзень 1990 году — травень 1995 году), калі па ўсёй краіне школы пераводзіліся на беларускую мову і працэнт беларускамоўных першых клясаў быў даведзены да 80-ці, у Камісію па адукацыі Менскага гарадзкога савету прыйшло 9 (дзевяць) скаргаў ад незадаволеных бацькоў, а ў Камісію па адукацыі, культуры і захаваньні гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савету XII скліканьня — ніводнай!

***

Узяўшы за аснову хібныя тэзы, «мадэрныя» аўтары робяць і хібныя высновы. Апошнімі гадамі ня раз даводзілася чуць і чытаць, што моўная сытуацыя ў Беларусі незваротная, што расейская мова застанецца ў Беларусі ўжо назаўжды, што

трэба ствараць беларускую тоеснасьць і культуру на расейскай мове і г. д.

А я не разумею, а чаму яны незваротныя? Сусьветная гісторыя, у тым ліку і найноўшых часоў, толькі і робіць што дае прыклады зьменлівасьці і рухомасьці моўных працэсаў, у тым ліку і іх нярэдкай зваротнасьці. Чаму ж нас пераконваюць у тым, што моўную сытуацыю ў Беларусі зьмяніць немагчыма? І што расейская мова застанецца ў Беларусі назаўжды?

Адказаў на гэтыя пытаньні можа быць шмат. У кожнага такога «сьцьвярджальніка» свой інтарэс. Нехта плача па трыадзінай Расеі; нехта па СССР; нехта ненавідзіць незалежнасьць, бо не разумее яе каштоўнасьці — для такіх гэта наогул ніякая не каштоўнасьць, бо не ўсьведамляецца сваёй; нехта проста ня хоча мяняцца; а нехта спадзяецца, замацаваўшы шматмоўны характар беларускай культуры, знайсьці там месца і для мовы сваёй нацыянальнай меншыні.

Заклікі да прызнаньня расейскай мовы мовай нацыянальнай культуры Беларусі — згубныя, шкодныя і да нічога добрага не прывядуць. Русыфікаваны беларус — гэта расеец. І толькі. Расейскамоўная Беларусь — гэта частка Расеі. І толькі. Гэта не мая ўласная выснова, гэта — рэальнасьць. Тысячы і тысячы русыфікаваных беларусаў апошнімі дзесяцігодзьдзямі эмігруюць і зьнікаюць у Расеі, у Эўропе і ў ЗША. У Празе жыве 5000 беларусаў, а на беларускія сьвяты прыходзіць 30–40 чалавек. Астатнія беларусы — гэта

чэскія расейцы. І якую там расейскамоўную беларускую тоеснасьць вы зь іх вытварыце, спадарства? Яны — расейцы. Прыцягнуць іх магла б свая пасьпяховая нацыянальная дзяржава са сваёй культурай, стварэньне якой вы сваімі заклікамі адцягваеце і ўскладняеце.

Тым часам мы жывем у пэрыяд новага ажыўленьня нацыянальных рухаў у Эўропе. Прыкладаў — процьма. Каталёнцы, баскі, шатляндцы... Ніхто ня хоча сыходзіць з гістарычнай арэны, усе хочуць рэалізаваць сваё прыроднае права на самабытнасьць і моўную асобнасьць, на стварэньне культуры і нават каханьне на роднай мове.

***

Апошнія 7–8 гадоў я з прыемнасьцю і зьдзіўленьнем назіраю, як беларушчына няўхільна заваёўвае пазыцыі і перамагае ў дэмакратычным апазыцыйным асяродзьдзі Беларусі. Цяпер ня ўмець даць інтэрвію або выступіць па-беларуску сярод апазыцыйных палітыкаў лічыцца дрэнным тонам. Было цікава назіраць, як многія былыя члены каманды Лукашэнкі і выхадцы з намэнклятуры вучыліся гаварыць на мове, перайшоўшы ў апазыцыю.

Гэтыя працэсы — сьведчаньне небывалай маральнай сілы беларушчыны. Сьведчаньне вялікай жывучасьці нашай нацыянальнай ідэі, нашага нацыянальнага гістарычнага міту і прыцягальнасьці для беларусаў іх нацыянальнай мовы

і культуры. Уся арганізаваная альтэрнатыва цяперашняму рэжыму — беларуская. І гэта дае нам самы дакладны адказ на пытаньне, што будзе пасьля Лукашэнкі.

А будзе ўсё, як у іншых краінах Эўропы. У Гішпаніі дзяржаўная мова — гішпанская, у Італіі — італьянская, у Францыі — француская, у Нямеччыне — нямецкая, у Польшчы польская, Чэхіі — чэская і г. д. І гэта пры тым, што ў большасьці гэтых краінаў існуюць і іншыя мовы і этнасы. Аднак права меншыні на выкарыстаньне сваёй мовы ў рэгіянальных органах улады не закрэсьлівае адзіны дзяржаўны статус тытульнай нацыі. Так будзе і ў постлукашэнкаўскай Беларусі. Ніхто нікому ня будзе дыктаваць, на якой мове размаўляць дома з жонкай і дзецьмі, на якой мове глядзець тэлевізію і чытаць сайты або газэты. Але адзінай дзяржаўнай мовай будзе беларуская.

Я думаю, што не дапамогуць нават крывадушныя апэляцыі да дэмакратыі і правоў чалавека. У прыстойных людзей няма іншага выйсьця, як дапамагчы зьбітаму ў кроў хуліганамі падняцца, абцерці яго, абмыць і дапамагчы пайсьці далей. Нацыянальная праблема ў постколяніяльнай краіне ня можа вырашацца чыста дэмакратычным шляхам, бо не дэмакратычным шляхам яна ствaралася. Яна стваралася гвалтам, расстрэламі, Курапатамі і ГУЛАГам. І новы ўрад мае права і павінен паставіць раней гнаную культуру і мову ў больш выгаднае становішча. Комплекс такіх захадаў называецца пазытыўнай дыскрымінацыяй

і даўно выкарыстоўваецца ў сусьветнай дзяржаўнай практыцы. Паставіць мовы ў Беларусі ў роўнае становішча — значыць пагубіць аслабленыя беларускую мову і культуру. І дзіўна, што якраз гэта прапануюць зрабіць некаторыя ўдзельнікі моўных спрэчак у інтэрнэце і фэйсбуку ў апошнія месяцы. Тое самае прапанаваў зрабіць у траўні 1995 году на рэфэрэндуме адзін вядомы палітык, і ўсе мы бачым, што з гэтага атрымалася. Дзіўнае (а можа і ня надта) супадзеньне ўдзельнікаў цяперашняй дыскусіі з ППРБ.

Думаю, што беларусы ў адказ на гвалтоўную дэнацыяналізацыю апошніх трох стагодзьдзяў змогуць адказаць не аналягічнай беларусыфікацыяй, але нармальнай, узважанай і доўгатэрміновай беларусізацыяй.

Ахвяры, пакладзеныя беларускім народам на алтар незалежнасьці і беларушчыны толькі ў XX стагодзьдзі, і памяць пра іх не даюць нашай краіне ніякага іншага шляху, як шлях нармальнай нацыянальнай дзяржавы. За апошнія 100 гадоў беларускія палітыкі, прафэсары, акадэмікі, настаўнікі, пісьменьнікі і самыя здольныя і таленавітыя сяляне ішлі ў Сыбір і Курапаты цэлымі пакаленьнямі. Пралітая імі кроў, памяць пра гэтыя ахвяры — наймагутнейшы імунітэт народу ад заняпаду і зьнікненьня.

Калі паўстане наша новая квітнеючая радзіма-Беларусь з адзінай дзяржаўнай беларускай мовай і датрыманьнем правоў усіх нацыянальных меншыняў, вам, спадарства прыхільнікі расейскай

мовы і стварэньня на ёй беларускай культуры, спадзяюся, стане сорамна. Прынамсі тым з вас, хто яшчэ захоўвае рэшткі сумленьня.

*31 кастрычніка 2012 году.*

## Куды зьнікаюць беларусы

Узяцца за гэты тэкст мяне прымусілі апублікаваныя нядаўна вынікі перапісу насельніцтва Чэхіі, праведзенага ў 2011 годзе. Аказалася, што ў Чэскай Рэспубліцы жывуць 4129 грамадзянаў Рэспублікі Беларусь. Зь іх 2013 вызначылі сваю нацыянальнасьць як беларускую, а 826 чалавек заявілі, што іх родная мова — беларуская.

Мяне гэтыя вынікі непрыемна ўразілі. Асабліва тое, што менш за палову грамадзянаў Беларусі, што жывуць у Чэхіі, лічаць сябе беларусамі!

Напярэдадні Калядаў па старым стылі я ўключыў быў беларускую дзяржаўную тэлевізію. У расейскамоўным выпуску навінаў карэспандэнтка, стоячы перад былым менскім кляштарам бэрнардынак, дзе цяпер месьціцца праваслаўная катэдра, казала нешта накшталт такога: «Сегодня у православных Сочельник. Такое название канун Рождества получил от сочива — традиционного рождественского блюда. Его готовят из толченой пшеницы с добавлением мёда, изюма и других сладостей...»

Праз гадзіну па гэтай самай тэлевізіі пачаўся беларускамоўны выпуск навінаў. І там карэспандэнтка заявіла нешта такое: «Сёньня ў праваслаўных беларусаў Куцьця. У гэты дзень да стала падаецца традыцыйная беларуская посная куцьця,

якую гатуюць з панцаку і прыпраўляюць мёдам і макам...»

«Куцьця» і «Сочельник»... Можна сказаць, што гэта тая самая страва і тая самая зьява (хоць і розьняцца яны рэцэптамі прыгатаваньня — адна пераважна гатуецца зь ячменю, а другая з пшаніцы). Але можна сказаць і інакш: паміж гэтымі стравамі — прорва, якая падзяляе два суседнія народы, адзін зь якіх спрадвеку імкнецца падбіць і дэнацыяналізаваць другі, а той другі — усё яшчэ квола бароніцца.

Для мяне тыя два выпускі навінаў сталі чарговым сьведчаньнем рацыі Максіма Гарэцкага, які знайшоў у беларусаў «дзьве душы». Так з тымі дзьвюма душамі мы і жывем далей. І прыкладаў гэтаму процьма. То банэры з заклікамі за мову вывешваюць, то заяўляюць, што ВКЛ — беларуская дзяржава і ганарацца Радзівіламі, Сапегамі і іх замкамі, то кажуць, што мы з расейцамі адзін народ і плятуць нешта пра прапахлую нафталінам трыадзіную Расею.

Гэтае беларускае хістаньне добра праявілася ў выніках чэскага перапісу. Менш за палову грамадзянаў Беларусі, прысутных у Чэхіі, лічаць сябе беларусамі, і толькі пятая частка іх называе роднай мовай беларускую. Беларусы, па вялікім рахунку, усё яшчэ гной гісторыі — яны ўгнойваюць суседнія народы сваімі талентамі і сваімі генамі, бо ж уцякаюць у суседнія краіны і дэнацыяналізуюцца найбольш актыўныя.

У гэтай сувязі зноў прыгадваюцца леташнія дыскусіі пра патрэбу стварэньня беларускай культуры на расейскай мове. Здаецца мне, што 2116 грамадзянаў Беларусі, якія жывуць у Чэхіі і ня лічаць ужо сябе беларусамі, ніякай патрэбы ў беларускай культуры ня маюць — хоць беларускамоўнай, хоць расейскамоўнай, хоць якой іншай. Яны ўжо маюць культуру — «великую русскую культуру» і «великий и могучий русский язык», а разам зь імі расейскамоўныя газэты і часопісы Чэхіі, расейскія крамы з савецкімі доктарскай каўбасой, ікрой і грэчкай, гастролі расейскіх зорак эстрады і расейскіх тэатраў, і, натуральна, спадарожнікавую расейскую тэлевізію. Да гэтага ж ліку можна дадаць і 1187 грамадзянаў Беларусі, якія маюць іншыя, чым беларуская, родныя мовы.

І няважна, што «великие и могучие» культура і язык сёньня выхадцамі з нацыянальных ускраінаў былога СССР практыкуюцца ўжо ў іх масавых формах. Калі тэлевізія, то сэрыялы і танныя шоў, калі літаратура, то Дар’я Данцова, калі мова, дык «по жизни», «в натуре», «зуб даю», «мочить», «облом» і г. д.

Па вялікім рахунку, можна сказаць, што мы маем справу з Расейскай імпэрыяй, якая ў сваім савецкім выданьні ўсё яшчэ існуе калі не на мапе сьвету, дык у душах мільёнаў прадстаўнікоў народаў, якія фармальна ў яе ўжо не ўваходзяць.

Гэта і засьведчыў перапіс насельніцтва Чэхіі 2011 году. (Хоць поўнага даверу да гэтых лічбаў

быць не павінна. Напрыклад, мая сям’я і яшчэ 20–30 маіх знаёмых адказалі на адно з пытаньняў аднолькава, але ў канчатковых выніках перапісу нашы адказы аказаліся ніяк ня ўлічаныя — супраць таго парамэтру стаяла лічба «0». Таксама не на карысьць Чэскага статыстычнага камітэту і лічбы па носьбітах расейскай мовы — там няясна, куды дзеліся больш за 60 тысяч неўкраінскамоўных грамадзянаў Украіны.)

Тым ня менш вось вынікі чэскага перапісу па ўкраінцах. Грамадзянаў Украіны ў Чэхіі жыве 116 139 чалавек. Украінцамі сябе лічаць 53 253 чалавекі, а роднай моваю ўкраінскую назвалі 48 250. З аднаго боку, тут бачым спадчыну СССР і савецкі народ, але зь іншага — амаль усе, хто лічыць сябе ўкраінцамі, назвалі роднай мовай украінскую. Вядома, тут мова ідзе пераважна пра выхадцаў з Заходняй Украіны.

А вось вынікі па расейцах. Грамадзянаў Расеі тут 31 545 чалавек. Расейцаў сярод іх паводле нацыянальнасьці — 17 872 чалавекі, што ня дзіўна з увагі на шматнацыянальную структуру Расеі. А вось людзей, якія жывуць у Чэхіі і лічаць сваёй роднай мовай расейскую — набралася аж 31 622. Зразумела, што большасьць беларусаў у гэты лік і трапіла.

Якія ж высновы? Можна шмат захапляцца зьменамі ў лепшы бок, якія адбываюцца цяпер у сьвядомасьці жыхароў Беларусі, асабліва сярод моладзі. Можна шмат гаварыць аб фэномэне беларускамоўнай музыкі або аб маладых таленаві-

тых літаратарах. Можна шукаць праяваў беларускай сьвядомасьці сярод чыноўнікаў рэжыму. Тым ня менш не абвергнуць і таго факту, што Беларусь сёньня перажывае стан пэрманэнтнай нацыянальнай катастрофы, якая не спыняецца з XVII стагодзьдзя. Цуд і ласка нябёсаў, што мы ўсё яшчэ ёсьць.

Здаецца, што ў стане гэтай нацыянальнай катастрофы і рэжыму, які яе падтрымлівае і паглыбляе, ніякая палітыка ў Беларусі ўжо не магчымая. Застаецца толькі культурны супраціў.

Таму далучаюся да закліку Станіслава Шушкевіча і Сяргея Дубаўца да ўсіх, каму дарагая Беларусь — загаварыць па-беларуску. І дадаю яшчэ адзін заклік. Кожны беларускамоўны інтэлектуал, які можа, хай напіша кніжку па-беларуску. А лепш — некалькі.

*10 студзеня 2013 году.*

# Далёка нам яшчэ да той Беларусі...

Некалі мне напісалася сэнтэнцыя «У Беларусі ня ўмеюць хваліць сваіх...» Прайшло больш за дзесяць гадоў, і цяпер бачу, што справа значна горшая. Цяпер я напісаў бы інакш. Напрыклад, так: «У Беларусі ня ўмеюць хваліць сваіх. Тут хваляцца самі...» Або так: «Беларусы — гэта людзі без герархіі ў галаве і салідарнасьці».

Апошнія месяцы вырашыў я больш уважліва паглядзець, што робіцца ў беларускім сеціве і беларускім сэгмэнце сацыяльных сетак — што і як людзі камэнтуюць, пра што спрачаюцца, якія дыскусіі і абмеркаваньні вядуць. Прычым, чытаў я пасты і камэнтары пераважна беларускамоўных, бо менавіта ўсіх іх, а ня толькі супольнасьць творчых людзей, лічу лепшай, перадавой часткай беларускага народу, яго сапраўднай элітай.

Высновы я зрабіў дзьве. Першая: вельмі шмат там прыстойнага, годнага і вартага. А пра другую варта сказаць больш падрабязна.

Ад актыўнасьці пэўнай часткі беларускамоўных у інтэрнэце сумна мне стала. Прымітыўныя выперадкі эгаізмаў, самасьцьвярджэньне за кошт зьнявагі і прыніжэньня іншых, зьвядзеньне асабістых рахункаў і пыха, пыха — у каго адкрытая, а ў большасьці — схаваная і злая, бо не задаволеная.

Тут нічога дзіўнага. У адукаваным асяродку, як, зрэшты, і ў жыцьці наогул — кожны сам за сябе... Але ўсё ж тыя, каго мы называем элітай, мелі б валодаць мінімальным культурным багажом і адукацыяй, якія б не дазвалялі ім апускацца ніжэй за пэўны ўзровень, вызначаны самой супольнасьцю. У нармальных народаў гэта — датрыманьне герархіі каштоўнасьцяў і аўтарытэтаў, а таксама салідарнасьць.

Народ, нацыя — гэта герархічныя структуры. Мы сваю герархію страцілі ў выніку цяжкага гістарычнага лёсу. Наша эліта (шляхта) нам здрадзіла і пакінула нас, прыняўшы польскую культуру і нацыянальнасьць, мяшчане таксама былі разабраныя Польшчай і Расеяй, а калі рэшта верных свайму народу шляхты і мяшчанаў нарадзілі ў канцы XIX — пачатку XX стагодзьдзяў новую нешматлікую эліту, то яе зьнішчылі ў 1930-я гады. Так мы засталіся сялянскай нацыяй амаль без эліты, а тая, што памалу нарадзілася зноў — была ўжо сялянскага паходжаньня. Для нармальнай жа эліты патрэбная патомнасьць — пакаленьні і пакаленьні адукацыі і дабрабыту. У выніку для нашай постсялянскай эліты 1950–80-х гадоў характэрнаю была ўжо малаадукаванасьць і ня надта высокая культура.

Гэтая слабасьць і дала аб сабе знаць, калі ў сярэдзіне 1990-х гадоў пачаліся разбуральныя для грамадзтва і культуры працэсы. У выніку выцясьненьня інтэлектуальных асяродкаў на маргінэс грамадзтва, пазбаўленьня іх доступу да

дзяржаўных мэдыяў, у выніку цэнзуры і рэпрэсіяў адбылася атамізацыя культуры і тых, хто яе стварае. Агульны ўзровень гуманітарыстыкі і так быў ня надта высокі на мяжы 1980-х і 90-х гадоў, а цяпер ён наогул абрынуўся.

Але ёсьць і нешта горшае. У выніку атамізацыі культуры і творцаў адбылося разбурэньне той кволай нацыянальнай герархіі, якую мы назіралі ў позьнім СССР і раньняй Рэспубліцы Беларусь. Моцнай стратай для нацыянальнай герархіі стаў сыход у 2003 годзе Васіля Быкава.

Заканамерным вынікам разбурэньня герархіі каштоўнасьцяў і аўтарытэтаў стала самасьцьвярджэньне драбнаты — і ў культуры, і ў палітыцы, і ў апазыцыі, і ва ўладзе. Прычым, у культуры як афіцыйнай, так і неафіцыйнай.

Сам сабой нараджаецца іранічны вершаваны дэвіз нашага часу:

Хаос,
    анархія.
Прэч
    герархію!
Я, я, я...

Людзі страцілі элемэнтарную павагу да калегаў. Баюся, што гэта сьледзтва сялянскага паходжаньня новай эліты. І ня проста сялянскага (бо селянін-гаспадар сябе паважае), але сялянска-калгаснага, бо якраз пазбаўлены ўласнасьці вясковы люмпэн мае мала падставаў для самапавагі. А хто не паважае сябе, той не паважае іншых.

У выніку каго мы толькі ня пляжым! Шчыкаем і зьняважаем творцаў, палітыкаў, эмігрантаў, прымяншаем іх даробак, лічым чужыя грошы, узвышаем сваіх сяброў (бо ўзвышаючы іх, узвышаем сябе), хвалім тых, хто хваліць нас, ставім лайкі тым, хто ставіць нам... Пахваліць калегу-канкурэнта? Лепш памерці. Параіць замежнаму перакладчыку для перакладу не сваю кнігу? Лепш засіліцца... Маладое пакаленьне ня ведае, што зрабілі яго папярэднікі і — які жах! — ня хоча ведаць.

Дадайце сюды праблемы маралі і сумленьня — сумленьня ў сэнсе веры (страты яе), і сумленьня як такога, якога шмат хто з нас ужо элемэнтарна ня мае. Яно зьнікла, страцілася за сьцёбам, шчыкамі, злосьцю, зайздрасьцю і самасьцьвярджэньнем. Пры гэтым тыя, хто шчыкае, тут жа нарываюцца на тое самае, і па шмат разоў... Трагікамэдыя і фарс.

Вось прыклад разбурэньня герархіі і страты нацыянальнай салідарнасьці, які ва ўсіх навідавоку і вельмі вымоўны — прыводжу яго толькі таму. Гэта доля беларускага палітыка і культурнага дзеяча Зянона Пазьняка, які цяпер у эміграцыі. Хто яго толькі сёньня ня пляжыць, што яму толькі не закідаюць, хто толькі на яго ня пырскае сьлінай... Проста камічная сытуацыя. Няўжо ён у жыцьці не зрабіў нічога такога, за што яго можна элемэнтарна паважаць? Не любіць, не захапляцца, не хваліць, не аблізваць і лабызаць — проста паважаць? Можна не па-

дзяляць палітычныя погляды чалавека, ня быць яго пасьлядоўнікам і прыхільнікам, але ж паважаць трэба нават апанэнтаў. Здавалася б. Але ў нас... Брыдка думаць, як гэтаму радуюцца нашы нядобразычліўцы.

Тым часам, каб нават не было ў Пазьняка пэрыяду палітыкі першай паловы 1990-х гадоў, яго ўсё роўна варта было б паважаць хоць бы за тое, што знайшоў і адкрыў народу цяпер сусьветна вядомы нэкропаль сталінскіх ахвяраў, што бараніў Нямігу, што ў 1970-я гады быў выкінуты з працы ў Акадэміі Навук, што праводзіў у пачатку 1980-х экскурсіі па Верхнім Горадзе, на адной зь якіх давялося быць і мне, а Пазьняк быў апрануты ў стары падраны паліто з чужога пляча і на нагах меў вайсковыя кірзавыя бацінкі...

Успамінаюцца прыклады з гісторыі блізкіх да нас краінаў. Калі ў 1913 годзе ў Расею пасьля амністыі з нагоды 300-годзьдзя Дома Раманавых вярнуўся Канстанцін Бальмонт, на вакзале яго сустракалі тысячы расейцаў. Адзін Маякоўскі, прарваўшыся да паэта, нахаміў яму, маўляў, ваш сымбалізм памёр, цяпер у сіле наш футурызм. Таксама тысячы людзей летам 1917 году сустракалі на вакзале вельмі супярэчлівага апазыцыйнага палітыка, лідэра анархістаў князя Пятра Крапоткіна (дарэчы, крывіцкай крыві, бо ён быў простым нашчадкам князёў Смаленскіх)...

У Чэхіі ў 1991 годзе Грамадзянскі форум заклікаў эмігрантаў вярнуцца і дапамагчы радзіме. Прыехалі амаль усе палітыкі ды інтэлектуалы. У

выніку Эган Ланскі стаў віцэ-прэм'ерам, Карэл Кюнл — міністрам гаспадаркі, а пасьля абароны, Элішка Вагнэрава — судзьдзёй Канстытуцыйнага суду і сэнатаркай, і г. д. і г. д.

Нешта мне падказвае, што калі б заўтра Зянон Пазьняк вярнуўся ў Менск, на вакзале яго сустракала б толькі маленькая купка людзей... І гэта не праблема Пазьняка, гэта праблема ўсіх нас, нашай хворай, амаль пры сьмерці, супольнасьці беларускамоўных.

А каб гэтай сьмерці не наступіла, фігуральна кажучы, трэба навучыцца хваліць сваіх. Або — навучыцца датрымліваць герархію каштоўнасьцяў і аўтарытэтаў. Калі мы народ і культура — то мы народ і культура, а ня толькі я, я, я...

І гэта стасуецца ўсіх бакоў нашых вялікіх і дробных, асабістых і грамадзкіх, культурных і палітычных канфліктаў. Няма павагі — значыцца, няма культуры.

Герархія — гэта пераемнасьць.

Герархія каштоўнасьцяў — гэта салідарнасьць.

Герархія аўтарытэтаў — гэта цэльнасьць, зьнітаванасьць і сіла.

А пакуль я кажу: «Беларусы — гэта людзі без герархіі ў галаве і салідарнасьці».

Далёка нам яшчэ да нармальнай Беларусі...

*14 кастрычніка 2013 году.*

# Ода спорту

Беларусы — адзін з найлепшых народаў сьвету. Чаму я так лічу? Кароткі адказ наступны. Схільнасьць беларусаў да спорту, нашы спартовыя посьпехі, сярод іншага, паказваюць, што мы зьяўляемся сапраўднымі спадкаемцамі эўрапейскай антычнай цывілізацыі, і выводзяць наш народ у лік дваццаці-трыццаці найлепшых народаў сьвету. Беларусы — у сусьветнай эліце. Менавіта таму за часы незалежнасьці наша каманда на Алімпійскіх гульнях нязьменна займае месца ў верхняй частцы выніковай табліцы.

Тлумачэньне гэтых аргумэнтаў зойме троху болей радкоў.

Мне здаецца, што ў беларускім інтэлектуальным асяродзьдзі гэты аспэкт нашай народнай душы недаацэньваецца. А тым часам схільнасьць да спорту, спартовасьць зьяўляюцца вельмі важнай часткай і характарыстыкай нацыянальнага мэнталітэту. Як чалавек, які некалі меў спартовы разрад у плаваньні, граў за хакейную каманду «Тарпэда Мінск» і быў капітанам зборнай школы ў баскетболе на першынстве раёну і гораду, магу гаварыць аб гэтым амаль прафэсійна.

Калі гавораць і пішуць пра спорт, то часта ўвага акцэнтуецца на духу спаборніцтва, на кульце перамогі. Гэта, вядома, так. Але і не зусім. Спорт — гэта ня толькі і ня столькі азарт.

Спорт — гэта, найперш, стыль, стыльнасьць і дысцыпліна. Бяз схільнасьці да гэтых трох апошніх катэгорыяў высокія спартовыя дасягненьні немагчымыя. Можна сьмела сьцьвярджаць, што сёньняшні спорт усутыч наблізіўся да мастацтва і моды.

## Эстэтычны бок спорту

Так, так. Сёньняшні спорт высокіх дасягненьняў несумненна мае эстэтычную складовую частку. Эстэтыка — нязьменная спадарожніца любой каманднай (і ня толькі каманднай) гульні. Футбалісты, хакеісты, баскетбалісты даўно ўжо сваёй тэхнікай, фінтамі, дрыблінгам прыносяць нам ня толькі звычайную задаволенасьць вынікам, але і вялікую эстэтычную асалоду. Высокі спорт — гэта папросту прыгожа, гэта ўжо — таксама мастацтва. А пра фігурнае катаньне, гімнастыку і сынхроннае плаваньне і казаць няма чаго...

Спартовая навука і практыка даўно распрацавалі і ўвесь час удасканальваюць адпаведныя тэхнічныя і стылёвыя парамэтры-стандарты, без датрыманьня якіх нельга стаць прафэсійным, высокім спартоўцам. Калі вы ня выканаеце шэраг тэхнічных прыёмаў, вы ніколі не падымеце штангу. Калі вы перад ударам не занесяце тэнісную ракетку нізам, а пасьля ўдару ня пусьціце яе ўверх аж за плячо — вы не патрапіце туды, куды трэба, а мяч апынецца ў сетцы. Кідаючы «кру-

кам» мяч у баскетбольны кошык, трэба ў скачку адно калена прыцягнуць да жывата — гэтага вымагаюць баскетбольная тэхніка і стыль. У хакеі, у футболе, усюды — свая тэхніка ўдару, кідка, падачы, абводкі, фінтоў. І, адпаведна, свае стылёвыя вымогі. І гэтыя два складнікі ідуць неразлучна побач — тэхніка і стыль. Той, хто не дабірае смаку ў стылі, хто ня мае гэтага пачуцьця — ня стане добрым спартоўцам. Каб датрымаць тэхніку, трэба адчуваць яе стылёвую прыгажосьць і любіць яе.

Вырасшы на спартовых пляцоўках менскай гарадзкой ускраіны, я меў магчымасьць гадамі назіраць схільнасьць нашых хлапцоў і дзяўчат да стылю. Галоўную асалоду гульцам прыносілі ня толькі выйгрышы-перамогі, але і ўдалае выкананьне кідка, ўдару, фінта, абводкі, скачка. Гэта была наша вулічная, дваравая мода, наша стыльнасьць. Несумненна, што беларускія дзеці неўсьвядомлена, нават праз спорт, імкнуліся да эстэтыкі, да прыгажосьці. Гэта — у нас у генах.

Як і імкненьне да моды. Я ўжо неяк прыводзіў у адным са сваіх эсэ гэты прыклад, але з прыемнасьцю прывяду яго тут яшчэ раз для тых, хто не чытаў. Усе мы ведаем, якую ўвагу вопратцы і наогул модзе надаюць жыхары сучаснай Беларусі, асабліва моладзь. Часта маці аддаюць апошнія грошы, каб толькі прыгожа і модна апрануць сваіх дачок-прыгажунь. І зьява гэтая — ня нашага часу. Як ні дзіўна, так у Беларусі было заўсёды. У 1857 годзе паэт Уладзіслаў Сыракомля,

прыехаўшы зь Вільні ў Менск і параўноўваючы насельнікаў абодвух гарадоў, са зьдзіўленьнем заўважыў, што «менскімі мужчынамі і жанчынамі надаецца большая ўвага строям...» А далей Сыракомля, папярэдне папрасіўшы прабачэньня ў «мілых жыхарак Гедымінавага места», наогул заявіў, што ў Менску нашмат больш прыгожых жанчын...

Такім чынам, складовыя часткі беларускай схільнасьці да спорту — гэта імкненьне да стылёвасьці, да прыгажосьці, да моды.

## Праява нацыянальнага мэнталітэту

Яшчэ адна складовая частка спорту — дысцыпліна. Бо толькі дысцыплінаваны чалавек можа дакладна і з асалодай выконваць усе парады трэнэра, усе яго тэхнічныя і стылёвыя вымогі і рэкамэндацыі. Трэба задумацца, што ж раней гнала і цяпер гоніць тысячы і тысячы нашых дзяцей ад кампутараў і дваравых кампаніяў у спартовыя сэкцыі да строгіх трэнэраў. Што прымушае іх адмаўляцца ад звычайных дзіцячых забаваў на карысьць даволі цяжкіх, частых і вымотваючых трэніровак. Бацькі? Прынамсі, у мой час і на нашай гарадзкой ускраіне (Аўтазавод, Паўночны пасёлак, вуліцы Енісейскай і Ангарская) простыя, малаадукаваныя бацькі-работнікі мясцовых заводаў дзецьмі амаль не займаліся. Але ў спартовыя сэкцыі былі чэргі — дужаньне, бокс, хакей, усе залі былі перапоўненыя, усе пры-

школьныя спартовыя пляцоўкі былі амаль заўсёды занятыя. Таму я лічу, што і схільнасьць да дысцыпліны, якая конча неабходная ў спорце — гэта таксама эўрапейская рыса нашага нацыянальнага характару, спадчына вякоў, Статуту і магдэбургіі, праява блізкасьці нашай культуры і мэнталітэту да нямецкай і паўночна-эўрапейскай цывілізацыяў.

Няма сумневу, што спорт — гэта і амбіцыя, і дух спаборніцтва, і самасьцьвярджэньне, і асалода ад перамогі над супернікам. За гэтыя матывы беларускай схільнасьці да спорту адказная, на маю думку, вялікая колькасьць шляхецкіх генаў у нашай крыві. Бо названыя якасьці — гэта сымбалічныя пункты ў кодэксе гонару нашай шляхты і рыцарства і частка іх зусім рэальнай мэнтальнай спадчыны, перададзенай наступным пакаленьням народу.

Але ня толькі шляхецкай... У выніку складанай гісторыі апошніх двух-трох стагодзьдзяў сёньня беларускі народ складаецца амаль выключна з нашчадкаў сялянаў. Менавітва яны менш за іншыя клясы і групы насельніцтва мелі ў апошнія стагодзьдзі індывідуальнай, асабістай свабоды. Прыгон, войны, паўторны савецкі прыгон, эканамічная несвабода (беднасьць). Толькі ўдумайцеся — цэлыя стагодзьдзі нацыянальнай, сацыяльнай, эканамічнай, палітычнай, моўнай несвабоды... У такіх варунках асоба міжволі павінна была з аднаго боку заглыбіцца ў сябе, стаць больш інтравэртнай, а зь іншага — шукаць і выкарыстоў-

ваць іншыя спосабы рэалізацыі свайго права на асабістую свабоду, сваіх прыродных якасьцяў і схільнасьцяў. Спорт якраз і дае людзям з такой гісторыяй і такой псыхалёгіяй шлях для самарэалізацыі. Спорт — гэта асабістая прастора кожнага з нас, тэрыторыя нашага сувэрэнітэту і самасьцьверджаньня. І вось у спорце многія беларусы бачаць і адчуваюць магчымасьць праявіць максымум асабістай свабоды і асабістага таленту — гэта пляцоўка іх самавыяўленьня. Пагатоў у тых умовах, у якіх наш народ жыве цяпер.

Да гэтага варта яшчэ дадаць, што да спартовых посьпехаў беларусаў схіляе і форма нацыянальнага мэнталітэту, які спэцыялісты залічаюць да вельмі індывідуалістычнага, што можа быць вынікам як геаграфіі (лясы, лясны народ), так і балцкага субстрату ў этнагенэзе беларусаў. У кожным выпадку, такія рэчы, як, напрыклад, беларускі народны танец «Полька на табурэце» сьведчаць якраз пра гэта. У гэтым танцы, як вядома, партнэр з партнэркай становяцца на табурэт і пачынаюць танчыць, утрапёна гледзячы адно аднаму ў вочы і ўвесь час павялічваючы тэмп. Цудоўная мадэль ляснога, індывідуалістычнага мэнталітэту — маленькая прастора для самарэалізацыі і вялікая ўнутраная энэргія ды напятасьць.

Схільнасьць да спорту паказвае і на сапраўдную культурную і мэнтальна-генэтычную пераемнасьць з Антычнасьцю, з антычнымі цывілі-

зацыямі старажытных Грэцыі і Рыму. Паглядзіце на выніковыя табліцы алімпіядаў, і вы ўбачыце, што ня гледзячы на ўсе посьпехі азіяцкіх спартоўцаў, прадстаўнікі менавіта эўрапейскай хрысьціянскай (ці постхрысьціянскай) цывілізацыі і заселеных імі раней заморскіх тэрыторыяў дамінуюць на спартовай плянэце.

## Спартоўцы — частка нацыянальнай эліты

Я лічу спорт вялікай і важнай школай жыцьця. Чалавек у камандзе вучыцца жыць і выжываць, гэта школа сацыялізацыі. І менавіта там праяўляюцца і вызначаюцца рысы характару чалавека, яго лідэрскія якасьці і яго амбіцыі. Праведзеныя мной некалькі гадоў у хакейнай камандзе «Тарпэда Менск» (новастворанае «Юнацтва» было тады нашым найвялікшым канкурэнтам) сталі для мяне незабыўнай жыцьцёвай навукай. Вось два прыклады. Брамнікам у нас быў мой найлепшы сябар і аднаклясьнік Алег. Дык вось у яго на вялікіх пальцах ног не было пазногцяў — яны сыходзілі ад удараў шайбы, нягледзячы на плястыкавыя чашачкі ў насках канькоў. Але для Алега гэта нічога ня значыла, ён упарта трэніраваў расьцяжку, каб лёгка сядаць на шпагат і мець магчымасьць адначасова закрываць шчыткамі ніжнія куты брамы, а лавушкай і клюшкай з блінам — верхнія. Лідэрам каманды быў нападнік Сьцяпан. Яго ніхто ня мог стрымаць, ён імкнуўся наперад заўсёды

і ў любой гульнёвай сытуацыі, гэта было ў яго ў крыві. А зборныя каманды якраз і складаюцца з такіх, як наш Сьцёпа. Гэта — найлепшыя гены, гэта сапраўдныя мужчыны. Лёгка зразумець, што прыводзіла самых прыгожых дзяўчат Менску ў пачатку 80-х гадоў у бар Алімпійскай спартовай базы ў Стайках пад Менскам...

Трэба зразумець, што спартоўцы ня проста бегаюць, скачуць, кідаюць і граюць. Яны сьвядома робяць гэта прыгожа і самі маюць ад гэтага вялікую асалоду. Для іх гэта важна гэтаксама, як і дасягнуты вынік. Таму я вышэй і напісаў, што спорт высокіх дасягненьняў сёньня непасрэдна наблізіўся да мастацтва і моды. Менавіта моды, як схільнасьці людзей да стылёвасьці і прыгажосьці. Прычым, у адрозьненьне ад уласна высокага мастацтва, захапленьне якім і тварэньне якога, патрабуюць адпаведнай і доўгай адукацыі і падрыхтоўкі, тварэньне і вызнаньне спартовай прыгажосьці рэалізуецца часта стыхійна і больш шырокім колам творцаў і спажыўцоў. Можна сказаць, што схільнасьць да спорту — гэта праява народнага імкненьня да прыгожага. Гэта, несумненна, частка культуры, толькі іншая — фізычная.

Успомніце прыгожыя, разьвітыя, трэніраваныя, дагледжаныя і здаровыя целы нашых спартоўцаў. Якая асалода проста на іх глядзець і любавацца імі ў часе спаборніцтваў — гэтымі прыгожымі дзяўчатамі і хлопцамі нашых зборных камандаў!

І пры гэтым не забываймася, што асабістая фізычная культура была ўласьцівая людзям антычнай цывілізацыі. Сваёй схільнасьцю да спорту і спартовымі дасягненьнямі мы сьведчым сваю цывілізацыйную і мэнтальную пераемнасьць з антычнай цывілізацыяй старажытных Грэцыі і Рыму.

Не забываймася таксама, што нам як аднаму з хрысьціянскіх эўрапейскіх народаў Ісус Хрыстос строга наказваў дапільноўваць і датрымліваць здароўе свайго цела, якое зьяўляецца «сасудам душы», і жорстка забараніў наносіць целу якую-кольвек шкоду.

Нарэшце не забываймася, што сёньняшнія навука і мэдыцына адназначна даказалі, што фізычная культура зьяўляецца абавязковай умовай здаровага, доўгага і шчасьлівага жыцьця.

Спартоўцы несумненна належаць да эліты нацыі. Трэба зь імі кантактаваць, трэба іх любіць і рабіць сваімі саюзьнікамі. Дарыце ім кнігі і карціны, прысьвячайце вершы, запрашайце на прэзэнтацыі і творчыя сустрэчы, пішыце пра іх, малюйце і фатаграфуйце. Яны прэзэнтуюць у сьвеце зусім ня наш аўтарытарны рэжым (як гэта часта можна пачуць у інтэлектуальным асяродзьдзі), яны годна прэзэнтуюць найперш наш народ і нашу краіну.

Гадоў сем-восем назад адзін афіцыянт у Турэччыне, даведаўшыся, адкуль я, зьдзіўлена ўсклікнуў:

— О, вы зь Беларусі!

— Вы ведаеце маю краіну? — спытаўся я.

— Ну вядома, — адказаў турак, — як пачынаецца Алімпіяда, дык толькі і чуваць: Беларусь, Беларусь...

*20 студзеня 2014 году.*

# Як мы любім свой краявід

Шмат хто знаёмы з пачуцьцём зьдзіўленай расчараванасьці, якая ахоплівае нас, калі мы трапляем у месцы свайго дзяцінства ці юнацтва і не знаходзім іх такімі, якімі яны некалі былі, і якімі нам запомніліся.

Пачуцьцё гэтае мае падвойнае паходжаньне. З аднаго боку, на дзіцячае вока і пагоркі вышэйшыя, і лясы гусьцейшыя, і рэкі шырэйшыя, і азёры глыбейшыя. А зь іншага, краявід вакол нас сапраўды няспынна мяняецца пад уплывам таго, што ў падручніках называецца «гаспадарчай дзейнасьцю чалавека».

І ўсё было б нічога, калі б гэтая самая «гаспадарчая дзейнасьць» не наносіла шкоды культуры і не выяўляла бескультурнасьць самога «гаспадарніка».

На жаль, і ў наш час, пасьля багатага на культуру XX стагодзьдзя, нават адукаваным людзям, якія на словах прызнаюць каштоўнасьць гісторыі і яе веданьня, трэба расказваць пра каштоўнасьць і вартасьць матэрыяльных сьведчаньняў гэтай гісторыі.

Адным з такіх матэрыяльных сьведкаў гісторыі зьяўляецца ляндшафт вакол нас, краявід. Тут таксама, як ні дзіўна, заўсёды былі і ёсьць свае традыцыі, прыярытэты і звычкі. І яны, несум-

ненна, моцна ўплеценыя ў жывую тканку нашай культуры, якая нягледзячы на неспрыяльныя абставіны яшчэ трывае і нават разьвіваецца.

***

У літаратуры апісаны выпадак, як расейскі паэт Сяргей Ясенін менш чым празь дзесяць гадоў пасьля адʼезду вярнуўся ў родную вёску і не пазнаў мясцовасьці. Ён нават не адразу здолеў знайсьці матчыну хату! Настолькі імклівa можа мяняцца краявід вакол нас пад узьдзеяньнем палітычных і эканамічных зьменаў.

XX стагодзьдзе прынесла Беларусі шмат такіх пераменаў і катаклізмаў, пад ударамі якіх няспынна мяняўся наш краявід, трацячы этнічныя, нацыянальныя формы і традыцыі і тым самым зьмяншаючы шчыльнасьць культурнай тканкі і культурнай прасторы вакол нас.

Я нядаўна таксама зазнаў пачуцьцё зьдзіўленай расчараванасьці, пра якое сказаў напачатку. Здарылася гэта на сутыку вёсак Малыя і Вялікія Жухавічы ў Карэліцкім раёне, якія ўжо даўно злучыліся ў адну. Гэта вельмі старыя паселішчы: Вялікія Жухавічы вядомыя з XV стагодзьдзя, Малыя — з XVII-га. Абедзьве вёскі маюць драўляныя цэрквы XVIII стагодзьдзя. Падлеткам я там часта бываў з бацькамі і запомніў гэтую мясцовасьць вельмі ясна і дакладна. Зь Міра і Вялікіх Жухавічаў дзьве дарогі зьліваюцца ў адну, якая ўздымаецца на пагорак і адначасова закручвае

за паварот у Жухавічы Малыя. Была яна ў тыя часы брукаванаю, а над ёй навісалі кароны высачэзных старадаўніх прысадаў. Тое жухавіцкае скрыжаваньне дарог было чыста местачковае, зь яго так і праменіліся старасьвецкасьць і даўніна. Цяпер жа дарогу заасфальтавалі, дрэвы сьпілавалі, паставілі акуратныя платы замест старадаўніх парканаў ля прысадаў і... чароўнасьць мясьціны зьнікла.

Вядома, па асфальце езьдзіць значна больш зручна, чым па бруку. Але некаторыя знакавыя мясьціны (або іх часткі) варта было б захоўваць у нязьменным выглядзе, зрабіўшы іх сьведкамі нашай матэрыяльнай мінуўшчыны. І, тым самым, элемэнтам культуры.

***

Дарэчы, пра брукаванкі. Я ўжо неяк пісаў пра старую Радзівілаўскую брукаванку ў цудоўных старых прысадах, што пятляе і віецца ад Нёмна ў бок Гарадзеі насупраць Сьвержаня. Кожнага разу, калі мне даводзіцца там праяжджаць цягніком, я з трывогай кідаюся да акна і гляджу ў бок тае старадаўняе дарогі — ці не заклалі асфальтам брук, ці не пасеклі старыя прысады? І з палёгкай уздыхаю — яшчэ не.

Памятаецца і старая брукаванка Тышкевічаў з Лагойску на Зембін даўжынёй, здаецца, 28 кілямэтраў. Была яна выкладзена з цудоўнага неабчасанага чырвонага каменьня, мела паўкруглы

рэльеф, спускі па баках нагадвалі сабой рышткі для вады, а роўныя лініі большых камянёў паміж палатном і ўзбочынай утваралі акуратныя бардзюры. Што зь ёй зрабілі цяпер?

Варта было б хоць невялікія кавалкі такіх дарог абыходзіць новым будаўніцтвам і пакідаць для ўсеагульнага агляду, ставіць ля іх інфармацыйныя стэнды — хто і калі будаваў, хто і калі па ёй праяжджаў і да т. п. Такія элемэнты краявіду бясспрэчна маюць і культурнае значэньне, і турыстычны патэнцыял. Абавязкова знойдуцца тыя, хто захоча ў брычцы, карэце або верхам на кані праехацца па Радзівілаўскіх або Тышкевіцкіх брукаванках і адчуць сябе падарожнікам XIX стагодзьдзя...

***

У XIX стагодзьдзі ўся Беларусь, асабліва шляхецкія сядзібы і маёнткі, а таксама прысады ля брукаваных дарог былі засаджаныя пірамідальнымі таполямі — так званым «лямбардзкім мутантам». Пра гэта засталіся мастацкія сьведчаньні, напрыклад, акварэлі нашага мастака Напалеона Орды. Прычым, якраз са старых малюнкаў вынікае, што пірамідальную таполю любілі і шанавалі ня толькі шляхта і магнаты, але і местачкоўцы, і сяляне.

Дрэва гэтае мае надзвычайныя дэкаратыўныя вартасьці і паходзіць з Італіі. У XIX стагодзьдзі яно вытрымлівала ў беларускім клімаце 60–70

гадоў, а затым пачынала выраджацца. Тым ня менш, яго ахвотна высаджвалі і культывавалі. У цяперашнім клімаце пірамідальная таполя магла б існаваць сто і болей гадоў, захоўваючы сваю тонкую і стромкую форму. Але ў пасьляваенны час усю Беларусь, у тым ліку гарады, засадзілі таполямі звычайнымі, якія маюць значна менш эстэтычны выгляд і даюць значна болей пуху. Можна сказаць, што пірамідальная таполя — адзін з асноўных элемэнтаў беларускага нацыянальнага краявіду, але сустрэць яе сёньня ў Беларусі амаль немагчыма.

***

Часам каштоўным можа быць нават рэльеф мясцовасьці. Я заўсёды ежджу ў родную вёску майго бацькі празь мястэчка Мір. Зь дзяцінства памятаю стары рынкавы пляц, шэрагі купецкіх камяніцаў па яго пэрымэтры, царкву і касьцёл, паўразбураны замак і ўвесь мірскі краявід і ляндшафт. Прайшлі гады, у мястэчку адгрымелі чарговыя «Рэспубліканскія дажынкі», да якіх цэнтар паселішча быў ці то адрамантаваны, ці то адрэстаўраваны. У кожным выпадку, некалі з рынкавага пляцу ўніз, да царквы, вяла брукаваная дарога, якая агінала храм сьпераду і заварочвала за яго. Царква была, такім чынам, на невялікім пагорку. І гэта таксама быў тыповы старасьвецкі пэйзаж і ляндшафт беларускага мястэчка. Цяпер жа там, дзе з пляцу выходзіла брукаванка, —

паркінг на падсыпанай пляцоўцы, а дарогі няма зусім! Царкву адрэзалі ад пляцу схілам, і яна сама па сабе стаіць наводдаль ад рынку, як бы ня маючы ніякага дачыненьня да яго. А гэта ж мураваны помнік рэнэсанснай архітэктуры XVI стагодзьдзя, які некалі стаяў, фактычна, на мястэчковым пляцы! Таксама культурная страта.

Рэльеф і ляндшафт застаюцца маўклівымі, але вымоўнымі сьведкамі мінуўшчыны. Іх варта таксама ахоўваць і берагчы. Калі ня ўсюды і ня ўсё, то хаця б іх часткі ці фрагмэнты.

Хто сёньня ведае, што пагорак на Шпалернай вуліцы ў Менску — гэта рэшткі колішніх гарадзкіх валоў? Неазначанасьць захаванага элемэнту ляндшафту ці рэльефу — культурная страта.

***

Тое самае можна сказаць і пра шматлікія паркі на рынкавых пляцах нашых гістарычных гарадоў і мястэчак. Навошта яны там? Каму патрэбныя? Адзін адказ я дакладна маю. Сьвядома ці несьвядома яны патрэбныя там для таго, каб нельга было ўбачыць архітэктуры дамоў па пэрымэтры і зразумець, што ты стаіш менавіта на старым рынкавым пляцы беларускага мястэчка. Станьце ў парку ў цэнтры Паставаў, і вы зразумееце, пра што мне ідзецца. Ёсьць такі парк і ў Міры, у самым цэнтры рэнэсанснага рынкавага пляцу.

У XIX стагодзьдзі, пасьля далучэньня Беларусі да Расеі, такі парк зьявіўся на квадратным рэнэсансавым Высокім рынку ў цэнтры Менску. Ёсьць такі парк практычна ў кожным з нашых гістарычных арадоў, амаль на кожным з гістарычных рынкаў, якія дзе-нідзе яшчэ атачаюць цудам захаваныя гістарычныя будынкі. Паркі на рынках разбураюць гістарычную прастору нашых гарадоў, псуюць пэрспэктыву, разрываюць гармонію гарадзкога краявіду і эстэтычную сувязь паміж асобнымі помнікамі, якія тыя рынкі атачалі.

***

І яшчэ адзін тыповы прыклад незахаваньня краявіду. Я маю на ўвазе колер тынку і колер дахаў. У старых эўрапейскіх гарадах сьцены дамоў фарбавалі ў розныя колеры — жоўты, белы, чырвоны, сіні, зялёны, аранжавы. Так было ў нашай колішняй сталіцы Вільні, так было і ў іншых эўрапейскіх сталіцах. Але вось падарожнікі ў сваіх нататках фіксавалі, што да паловы XIX стагодзьдзя большасьць мураваных дамоў у цэнтры Менску былі патынкаваныя ў белы колер, а дахі спрэс былі з чырвонай дахоўкі. Суадносіны плошчы дахаў і сьценаў менскага гістарычнага пэйзажу непазьбежна прыводзяць нашу думку да спрадвечна беларускай бел-чырвона-белай гамы... А гэта ўжо культурная і гістарычная каштоўнасьць, пра якую сёньня ў Менску мала каму ідзецца.

***

Чалавечая душа прагне ня толькі новага — новай інфармацыі, новых адчуваньняў і новых перажываньняў. Яна таксама мае кончую патрэбу і ў нязьменных рэчах, пэўных канстантах нашага жыцьця — у любові і падтрымцы родных, у таварыскіх дачыненьнях, у рэалізацыі натуральнага пачуцьця справядлівасьці, у радасьці ад дачыненасьці да свайго народу і сваёй радзімы.

Адной з такіх канстантаў, на маю думку, зьяўляецца і захаванасьць пэўных элемэнтаў нашага роднага беларускага краявіду. Зь імі нам будзе і больш культурна, і больш утульна.

*7 ліпеня 2014 году.*

# Каб ня справіць хаўтуры па культуры

Не пакідаюць мяне думкі пра культурны разрыў, які намеціўся ў Беларусі і ўсё болей паглыбляецца — разрыў паміж дасягненьнямі беларускай гуманітарыстыкі 1980-х — пачатку 90-х гадоў і цяперашнім часам. Ёсьць некалькі спосабаў, як сытуацыю можна зьмяніць нават у цяперашніх неспрыяльных для беларускай культуры ўмовах.

## Літаратурны працэс

Быў некалі ў СССР такі забыты цяпер тэрмін — літаратурны працэс. Даводзілася мне чуць, як калегі іранічна і непаважліва выказваюцца пра гэтую савецкую зьяву. Тым часам я пад ім разумею нешта, што не зусім мае дачыненьне да літаратуры. Можа, нават зусім да яе ня мае дачыненьня.

Пад літаратурным працэсам я разумею страчаную цяпер сытуацыю, калі любы інтэлектуал-аўтар (і ня толькі літаратар) меў магчымасьць апублікаваць рэдагаваны тэкст і атрымаць на яго рэдагаваны адказ. Толькі ў тым выпадку, калі апублікаваныя тэксты папярэдне прагляданіся і рэдагаваліся ня толькі аўтарам, можна забясьпечыць прыстойны культурны ўзровень тэкстаў.

Сацыяльныя сеткі ў значнай ступені нівэлявалі культурную значнасьць публічнага тэксту.

Цяпер публічным тэкстам зьяўляецца любы запіс у Фэйсбуку ці Вкантакце. Добра, вядома, што па-беларуску пішуцца любыя тэксты, у тым ліку і ў сацыяльных сетках, але для беларускай культуры важна захаваць магчымасьць абмену і рэдагаванымі тэкстамі, каб захаваць інтэлектуальную складовую культуры, яе пераемнасьць і яе энэргію.

Прывяду тыповы прыклад. Любы апублікаваны на сайце Радыё Свабода аўтарскі тэкст — рэдагаваны. Яго папярэдне праглядае рэдактар. А вось любы камэнтар, апублікаваны пасьля пад гэтым тэкстам, не зьяўляецца рэдагаваным, нягледзячы на тое, што яго, перш чым апублікаваць, таксама праглядае вэб-рэдактар. Розьніца ў тым, што камэнтары праглядаюць толькі на адпаведнасьць правілам форуму, а самі аўтарскія тэксты ў поўным сэнсе слова зьяўляюцца вынікам супрацы аўтара і рэдактара, у іх нярэдка ўносяцца значныя карэктывы, зьмены і дадаткі. Калі ж аднаму аўтару адказвае іншы — гэта і ёсьць літаратурны працэс.

На жаль, у сёньняшняй Беларусі культурныя сілы настолькі слабыя, што аўтару апублікаванага тэксту вельмі цяжка атрымаць на яго адказ. Часта нават вядомыя дзеячы культуры задавальняюцца актыўнасьцю ў сацыяльных сетках і пісаньнем камэнтараў пад чужымі тэкстамі замест таго, каб напісаць некаму аргумэнтаваны адказ з выкладаньнем уласнай пазыцыі.

У выніку няма абмену ідэямі, нараджаецца мала новага, ня тчэцца тканка культуры, як гэта адбываецца ў нармальных краінах з сотнямі выданьняў, сотнямі выдавецтваў і сотнямі літаратурных прэміяў.

Літаратурны працэс ня можа быць адроджаны бяз тэкстаў, якіх сёньня ня пішуць тыя, хто можа іх пісаць.

## Мастацкая літаратура

Падобная сытуацыя і ў літаратуры. У прынцыпе, сёньня кожны чалавек можа выдаць кнігу. Заманецца некаму стаць пісьменьнікам або паэтам, зьбярэ ён пэўную суму даляраў, прынясе ў незалежнае выдавецтва рукапіс — і кніга гатовая. Пры гэтым задаволеныя і аўтар, які атрымаў кнігу, і выдавец, які атрымаў грошы. Чытач, у прынцыпе, не патрэбны, таму пра яго менш за ўсё і думаюць.

У выніку — не скажу дакладна колькі працэнтаў (усё суб’ектыўна), але пэўная частка мастацкіх кніг нават у незалежных гандляроў — чыстая макулятура, хай сабе і беларускамоўная. А макулятура не stварае культуру, культурную якасьць.

Справу магла б лёгка вырашыць літаратурная крытыка. Але гэта прафэсія, а за працу прафэсіяналаў трэба плаціць грошы. Грашовых месцаў у беларускай культуры, тым больш у літаратуры, сёньня амаль няма, таму і тэкстаў крытыкаў таксама амаль няма.

Раней, калі за публікацыі плацілі прыстойныя грошы, крытыкай займаліся і самі пісьменьнікі. У выніку адна кніга магла сабраць і па некалькі рэцэнзіяў, цяпер добра, калі на дзесяць выдадзеных кніг прыпадае адна.

Адраджэньне беларускай крытыкі — адзін з самых актуальных выклікаў для сёньняшніх працаўнікоў і творцаў беларускай культуры, бо ў нармальнай, рэгулярнай сытуацыі выдадзеныя кнігі павінны зьбіраць дзясяткі рэцэнзіяў. У прынцыпе нічога не перашкаджае, каб кожнае беларускае выданьне і кожны беларускі сайт сёньня мелі спэцыяльную рубрыку для крытыкі, рэцэнзіяў, кніжных і літаратурных аглядаў.

Прыклад беларускіх перакладчыкаў мастацкіх тэкстаў, якія цяпер ужо і свой часопіс, і сваю прэмію маюць, сам сабой падказвае крытыкам шлях і формы дзеяньняў. Сайт, зрэшты, у іх ужо зьявіўся. На чарзе задача кансалідацыі высілкаў такіх крытыкаў, як Ганна Кісьліцына, Легал (Леанід Галубовіч), Ціхан Чарнякевіч, чые рэцэнзіі пакуль раскіданыя па розных сайтах і папяровых выданьнях.

## Надышоў час перавыданьняў і перакладаў

Культура вырастае з культуры, усё новае нарошчваецца і нанізваецца на асноўны культурны стрыжань, якім можна назваць усю сукупнасьць нашых ведаў пра сваю культуру і літаратуру. Той,

хто ня ведае, асуджаны раз за разам вынаходзіць кола...

Мне даводзілася сустракацца з выпадкамі, калі ганчар-пачатковец нічога ня ведаў ні пра нашы славутыя ганчарныя цэнтры (Глыбокае, Івянец, Мір, Крычаў, Поразава ды інш.), ні пра такія тыпы беларускай керамікі, як гартаваная, паліваная, чорнаглянцаваная, чорназадымленая. Ня ведаў ён і пра тыпы беларускага посуду, напрыклад, пра макітру. Затое ведаў слова «збан» і прыкметна гэтым ганарыўся. Тысячу гадоў наш народ карыстаўся ганчарнымі вырабамі: разнастайным посудам, паліванай і тэракотавай кафляй для печак і камінаў, тэракотавай і паліванай дахоўкай — гэта цэлы сьвет народнага прыкладнога мастацтва, ён цудоўна распрацаваны, вывучаны і дасьледаваны. Апублікаваныя дзясяткі манаграфіяў і папулярных выданьняў, у 1989 годзе нават выйшла энцыкляпэдыя «Этнаграфія Беларусі». А тут людзі ганарацца тым, што ведаюць слова «збан».

Іншым разам бачыў я зьбіральнікаў і выдаўцоў беларускага фальклёру, якія ацэньвалі песьні паводле... даўніны запісу. Тыя людзі з хваляваньнем гаварылі пра песьні, запісаныя аж у 60-х гадах XX стагодзьдзя. Што тут скажаш... Няўжо цяпер у кансэрваторыі і музычных вучэльнях не выкладаюць нацыянальны мэляс? Народныя ж песьні адрозьніваюцца зусім ня часам іх запісу. Гэта таксама цэлы сьвет, носьбіты якога яшчэ жывуць па беларускіх вёсках і не забыліся пра

песьні абрадавыя, каляндарныя. Музычнае мастацтва народу разьвівалася па лініі ўскладненьня мэлёдыкі і спрашчэньня рытму — гэта яго агульная эвалюцыя. У часы маёй працы ў Музэі народнай архітэктуры і побыту ў канцы 80-х гадоў нам здаралася ў лясных вёсках паміж Сьвірам і Нараччу запісваць народныя песьні з прымітыўнай мэлёдыяй і музычным памерам 7/8 — гэта творы, складзеныя не пазьней за XV стагодзьдзе!

Дваццаць апошніх гадоў стварылі такую сытуацыю ва ўсіх сфэрах мастацтва і культуры, што людзі як бы пачынаюць зь белага аркуша ўсю сваю дзейнасьць, нібыта да іх нічога не было. Інтэрнэт адарваў моладзь ад чытаньня кніг, але не адарваў яе ад жаданьня кнігі пісаць. У выніку пісаньнем і выданьнем займаюцца часта тыя, хто не чытаў і ня ведае папярэднікаў і папярэдняе.

Для ўсіх, хто дбае пра беларускую культуру і яе разьвіцьцё, важна захаваць культурную пераемнасьць. Зрабіць гэта можна перавыданьнямі ўсяго лепшага, што было напрацавана папярэднімі пакаленьнямі творцаў і навукоўцаў. Беларуская гуманітарыстыка ў позьнім СССР (1970–80-я гады) была на найвышэйшым узроўні свайго разьвіцьця. Сёньня, з адлегласьці часу, ужо добра відаць, што гэта была адна з нашых вяршыняў.

Думаю, цяпер знойдзецца нямала людзей, якія б хацелі прачытаць выкладзеную займальна і папулярна гісторыю беларускай мэдыцыны. Але такой кнігі няма на кніжных прылаўках. Тым часам, такая кніга ўжо створана. Выйшла яна ў

1987 годзе і называецца «С факелом Гиппократа. Из истории белорусской медицины». Напісаў яе выбітны беларускі гісторык і лекар Валянцін Грыцкевіч, які ўвесну 2013-га памёр у Санкт-Пецярбургу. У той кнізе — процьма цікавых гістарычных фактаў. Чаго варты толькі адзін зь іх — упершыню ў гісторыі сусьветнай мэдыцыны гіпс для лячэньня пераломаў прымяніў менскі лекар Карл Гібенталь у 1812 годзе! Наогул, Валянцін Грыцкевіч напісаў зь дзясятак надзвычай таленавітых гістарычных і навукова-папулярных кніжак, якія сёньня ўсе вартыя перавыданьня.

Вартыя перавыданьня папулярнымі фарматамі кнігі пра культуру мовы Фёдара Янкоўскага, Яна Скрыгана ды іншых. Вартыя перавыданьня культуралягічныя і навуковыя кнігі Сьцяпана Александровіча, Адама Мальдзіса, Генадзя Кісялёва, Міколы Ўлашчыка, Станіслава Цярохіна, Арсеня Ліса, Уладзімера Содаля, Яраслава Пархуты, Генадзя Каханоўскага, Міколы Ермаловіча, Зянона Пазьняка і шмат, шмат каго іншага — гэта мноства імёнаў, бо пра літаратуру, гісторыю, культуру, архітэктуру пісалі сотні людзей. Найлепшае з гэтага масіву ведаў трэба перадаць нашай моладзі наноў.

Шмат выдатных і карысных кніг, здольных абудзіць цікавасьць да гісторыі і культуры Беларусі, напісалі беларускія эмігранты. Вартыя перавыданьня працы беларускага гісторыка Вацлава Пануцэвіча, мэмуары доктара Язэпа Малецкага і шмат іншых цудоўных кніг.

А тое, што не напісалі і ня вывучылі некалі нашы гуманітарыі, даўно ўжо зрабілі іх польскія калегі. Шмат чаго, што непасрэдна датычыць беларускай гісторыі і культуры, можна перакласьці з польскай мовы. Я, напрыклад, не чытаў нічога лепшага пра беларускае XV стагодзьдзе, чым гісторыка-папулярная кніга польскага пісьменьніка Марка Баруцкага «Jak w dawnej Polsce królów obierano», якая выйшла яшчэ ў 1976 годзе і з таго часу ня раз перавыдавалася. Ніхто лепш за гэтага паляка не апісаў нахабную польскую экспансію ў Літву-Беларусь пасьля Крэўскай і Гарадзельскай Уніяў.

Прыйдзеш сёньня ў кнігарню, а там тэксты, тэксты, тэксты. Вершы, апавяданьні, раманы, якіх (пакладзем руку на сэрца!) амаль ніхто ніколі не прачытае. Магчыма, некаторым са стваральнікаў тых тэкстаў варта было б заняцца перакладамі і перавыданьнямі — ад гэтага было б непараўнана больш плёну і карысьці і для іх саміх, і для беларускай культуры.

На заканчэньне працытую чэскага мэцэната Яна Младка, чыя калекцыя мастацкіх твораў легла ў аснову вядомага праскага Музэю Кампа. Младэк некалі сказаў: «Выстаіць культура — выжыве народ».

Ад сябе дадам: культура важнейшая за палітыку. Або так: культура — гэта і ёсьць палітыка, наша палітыка.

*3 красавіка 2014 году.*

## Чаго ня ведаюць пра 3 ліпеня 1944 году маладыя беларусы?

Вызваленьне Менску 3 ліпеня 1944 году дагэтуль застаецца падзеяй, якая гісторыкамі асьветлена і маштабна, і падрабязна, зь безьліччу дэталяў, але — аднабакова. Націск робіцца менавіта на вызваленьні і вяртаньні ў горад савецкай улады, і амаль зусім ігнаруецца тое, што прынесла з сабой вызваленьне Менску як гораду яго вызваліцелям і менчукам.

Дык чаго ня ведаюць пра вызваленьне Менску сёньняшнія пакаленьні беларусаў? Пра што не прынята гаварыць у сувязі з вызваленьнем?

Гэтая тэма вартая кнігі і, можа, не адной. Тут і шматгадовыя спрэчкі і барацьба за памяць пра падпольле, якую органы НКВД-КГБ і ўдзельнікі падпольля вялі за яго герояў і здраднікаў, ігнараваньне габрэйскага гета і подзьвігу Машы Брускінай, і многія іншыя. Калі ж казаць коратка, дык ня ведаюць сёньня новыя пакаленьні беларусаў пра вялікія разбурэньні, якія прынесла Менску вызваленьне гораду ў ліпені 1944-га і пра трагічны асабісты лёс тысяч менчукоў, зьвязаны з вызваленьнем.

Пачну з разбурэньняў. Савецкая прапаганда здолела так трывала ўкараніць думку, што за ўсе разбурэньні падчас вайны адказныя немцы, што

сёньня любыя адваротныя цьверджаньні ўспрымаюцца ў штыкі. Тым часам у 1941 годзе, падчас савецкага адступленьня, беларускія гарады палілі і так званыя зьнішчальныя батальёны. Былі цалкам спаленыя Полацак, Ворша, Гомель. Пажар у Менску ў чэрвені 1941 году быў выкліканы ня толькі нямецкімі бомбамі, але і савецкімі агентамі, якія падпальвалі важныя дзяржаўныя будынкі разам з архівамі, што не пасьпелі вывезьці. Падчас акупацыі менчукі былі ўражаныя падкрэсьлена цынічнымі савецкімі бамбаваньнямі гораду на савецкія сьвяты. Першае такое адбылося на 8 сакавіка 1942 году, а адным з самых моцных было бамбаваньне на 1 траўня 1943 году. Але самыя моцныя бамбардзіроўкі Менск і менчукі зазналі ў чэрвені 1944 году — у апошнія тыдні перад вызваленьнем.

Гэта тое, пра што ня любяць гаварыць афіцыйныя прапагандысты. Бамбаваньне 1 траўня 1943 году стала нагодай для напісаньня аповесьці «Каханы горад», якую пад псэўданімам Юстапчык напісаў Антон Адамовіч. Ён быў карэнным менчуком і вельмі любіў і шкадаваў свой горад. Старыя менчукі так і не змаглі ніколі забыць жахаў тых савецкіх бамбаваньняў. Я, напрыклад, вырас пад аповеды бабулі пра налёты савецкай авіяцыі. І цяпер, калі я праходжу па вуліцы Камсамольскай ці па вуліцы Бэрсана, заўсёды ўздрыгваю на тых месцах, дзе, паводле расказаў маіх блізкіх, на слупах і дрэвах віселі чалавечыя кішкі.

Са 100 тысяч менчукоў, якія заставаліся ў горадзе пасьля зьнішчэньня гета, у вызваленым Менску было ня болей за 30 тысяч — 20 тысяч падаліся ў эміграцыю, а 50 тысяч уцяклі ад бальшавікоў і іх бомбаў у навакольныя лясы.

Якраз летам 1944 году стары менскі цэнтар зазнаў найбольшыя разбурэньні, якія пазьней былі абвешчаныя вынікам нямецкай акупацыі.

Другая рэч — гэта трагічныя асабістыя лёсы тысяч менчукоў, зьвязаныя з вызваленьнем. Справа ў тым, што ў 1941 годзе немцы наступалі так імкліва, што заходняя і цэнтральная часткі Беларусі зусім не былі адмабілізаваны — усё прыдатнае да службы ў войску мужчынскае насельніцтва засталося. Тое самае і ў Менску. І вось калі Чырвоная Армія ішла на захад, яна забірала ўсіх падчыстую. А ў Менску гэты хапун быў падзелены на дзьве часткі — адных бралі ў войска, другіх арыштоўвалі НКВД і СМЕРШ за супрацоўніцтва з акупантамі. Паколькі ў часе акупацыі ў Менску працавала большасьць прадпрыемстваў — то практычна ўсе менчукі аказаліся, кажучы па-расейску, «пособниками» фашыстаў. У выніку былі зламаныя лёсы тысяч людзей. У турмы трапілі члены Саюзу Беларускай Моладзі, акторы, мастакі, інжынэры, выкладчыкі школаў і ВНУ, лекары — усе, хто адыгрываў у часе акупацыі больш-менш значную ролю ў сваёй спэцыяльнасьці. Напрыклад, мой дзядзька, які ў 1941 годзе трапіў у акружэньне, вярнуўся ў Менск і працаваў у часе акупацыі інжынэрам на менскім

радыё, атрымаў 10 гадоў лягераў і адбыў поўны тэрмін. Разам зь ім, дарэчы, працавала і жонка Пятра Глебкі.

Прычым, мову тут я вяду не пра проціпастаўленьне аднаго гістарычнага бачаньня іншаму і не пра балянс інфармацыі, а проста пра праўдзівую гісторыю Беларусі.

*2 ліпеня 2009 году.*

# Кананізацыя Сямашкі. Скон народу...

Дачуўся я летась у лістападзе, што беларускі Экзархат Расейскай Праваслаўнай царквы вырашыў кананізаваць мітрапаліта літоўскага Іосіфа Сямашку. Навіна моцна ўразіла. Але пісаць я ня стаў. Вырашыў пачакаць месяцы тры, можа нехта з праваслаўнай беларускай інтэлігенцыі выкажацца. Усё ж шмат у нас пісьменьнікаў, навукоўцаў, журналістаў праваслаўнага веравызнаньня, нехта, думаў я, абавязкова выкажацца, напіша, засьцеражэ беларусаў ад такога кроку.

Ніхто нічога не напісаў...

Што ў нас сёньня ведаюць пра Сямашку? Што ён арганізаваў далучэньне «западнорусских униатов» да Расейскай Праваслаўнай царквы. Яшчэ гэтую падзею называюць «ліквідацыяй Уніі». Зьмест гэтай падзеі ў нашых галовах — чыста канфэсійны. Маўляў, была Унія, стала Праваслаўе. Мы думаем, што такі акцэнт на канфэсійнасьць прымушае нас рабіць наша трагічная гісторыя. Гэта так і ня так. Насамрэч, гэты канфэсійны падыход да гісторыі нам навязала ў XIX стагодзьдзі праз сваю гістарыяграфію Расея.

А падыход можа быць ня толькі канфэсійны. Ён можа і, на маю думку, павінен быць нацыянальны. Вось прыклад, як сам 1839 год і дзей-

насьць Сямашкі могуць быць трактаваныя з нацыянальных пазыцыяў.

У 1839 годзе ўпершыню ў гісторыі датуль больш за 500 гадоў самастойную беларускую мітраполію, якая ў розныя гістарычныя пэрыяды бывала то ўніяцкаю, то праваслаўнаю, то зноў уніяцкаю, далучылі да расейскай царквы, да Масквы. Гэта значыць, саму беларускую царкву ўпершыню тады далучылі да расейскай. У 1839 годзе наша царква, якая да таго, паўтараю, бывала то праваслаўнаю, то ўніяцкаю, перастала існаваць.

Сёньня самы важны зьмест акту 1839 году — страта паместнай беларускай царквы адметнай, самастойнай традыцыі — ад нас трывала схаваны канфэсійным падыходам да гісторыі. У часы ліквідацыі Уніі сам мітрапаліт Сямашка ня раз гаварыў, што вярнуў спакушаных і адарваных вернікаў ва ўлоньне царквы-маці — РПЦ. Хоць насамрэч ні Маскоўская мітраполія, ні Маскоўскі патрыярхат ніколі не былі царквой-маці для беларусаў і ўкраінцаў.

Нашай царквой-маці ад X стагодзьдзя быў Канстантынопальскі патрыярхат і, у больш вузкім пляне, — Літоўска-Наваградзкая мітраполія, якая існавала ад 1316 году. У палове XV стагодзьдзя адбылося канчатковае разьдзяленьне мітраполіяў Маскоўскай дзяржавы і ВКЛ. Падставай для гэтага стала прыняцьце Уніі Канстантынопальскім патрыярхам, бізантыйскім імпэратарам і Праваслаўнай царквой ВКЛ. Ад 1448 году

Масква самастойна выбірала сабе мітрапаліта, а беларусы, выбраўшы мітрапаліта, атрымлівалі пасьля зацьвярджэньне ад патрыярха. Спачатку Маскоўскія мітрапаліты ў тытуле захоўвалі назву і «Кіеўскага», але ад 1448 году пачалі звацца Маскоўскімі і Ўсяе Русі. А нашы афіцыйна ў паперах ад патрыярха менаваліся Кіеўскімі, Галіцкімі і ўсяе Русі, але часьцей, у тым ліку і ў грэцкіх паперах, называліся Літоўскімі мітрапалітамі або Літоўска-Наваградзкімі. Большасьць нашых мітрапалітаў XIV–XVI стагодзьдзяў жылі ў Наваградку, і большасьць зь іх там пахаваныя. Пазьней мітрапаліты жылі ўжо і ў Вільні, і ў Варшаве, але абсалютная большасьць іх былі этнічнымі беларусамі.

У XVII стагодзьдзі, як вядома, Кіеўская мітраполія падзялілася на два лягеры — уніятаў і дызунітаў, зьявіліся і два мітрапаліты. Тым ня менш, абедзьве гэтыя часткі захоўвалі старую ўсходнехрысьціянскую традыцыю ў абрадах, набажэнствах і сьпевах. Пры гэтым асноўная, значна большая за праваслаўную, частка Кіеўскай мітраполіі працягвала сваё гістарычнае памеснае існаваньне ў абліччы Грэка-каталіцкай царквы. Уніяцкія мітрапаліты захоўвалі тытул Кіеўскіх, Галіцкіх і ўсяе Русі.

У 1686 годзе багатая і моцная Масква, якая ў 1589 годзе абвясьціла ў сябе патрыярхат і ў 1654 годзе далучыла да сябе левабярэжную Украіну, подкупам і шантажом прымусіла зьбяднелы пад панаваньнем туркаў Канстантынопальскі патры-

ярхат адмовіцца ад юрысдыкцыі над Кіеўскай праваслаўнай мітраполіяй і перадаць яе Маскве. Так царква-дачка — РПЦ — аформіла захоп праваслаўнай памеснай часткі сваёй царквы-маці. А ў 1839 годзе Расейская Праваслаўная царква закончыла захоп Кіеўскай мітраполіі і ліквідавала нашу самастойную ўсходнехрысьціянскую традыцыю, якая хоць і зазнала пэўныя зьмены ў часы Уніі, але ўсё ж захоўвала, паводле сьведчаньняў шматлікіх дасьледчыкаў, велізарныя адрозьненьні ад традыцыі маскоўскай.

Так мы страцілі сваю памесную царкву. І дагэтуль яшчэ думаем, што нам тады вярнулі веру продкаў.

У дзьвюх частак адной старажытнай Кіеўскай мітраполіі раней ці пазьней мог бы зьявіцца шанц аб'яднацца. Ужо ў XVII стагодзьдзі ўніяцкі мітрапаліт Язэп Вельямін Руцкі стварыў плян аб'яднаньня дзьвюх частак расколатай Кіеўскай мітраполіі — уніяцкай і дызуніцкай — пад уладай адзінага Кіеўскага патрыярхату. Я наўмысна пішу «уніяцкай і дызуніцкай», бо мала хто ведае, што ўніяты таксама называлі сябе праваслаўнымі — у 1722 годзе Кіеўскі ўніяцкі мітрапаліт Леў Кішка нават выдаў для сваёй царквы на беларускай мове катэхізіс, славутае «Сабраніе прыпадкаў...», у поўнай назьве якога двойчы сьцьвярджалася, што гэта выклад Праваслаўнай веры. А калі б аб'яднацца і не ўдалося, дык існавалі б дзьве памесныя царквы свайго права — Праваслаўная і Ўніяцкая, кожная зь якіх па-свойму

захоўвала б традыцыі беларускай царквы X—XVI стагодзьдзяў. Гэта, аднак, не ўваходзіла ў імпэрыялістычныя пляны Расеі.

***

У беларускіх галовах практычна цалкам адсутнічае гісторыя першага хрысьціянскага тысячагодзьдзя, як, зрэшты, і гісторыя другога хрысьціянскага тысячагодзьдзя, асабліва яго пачатку і сярэдзіны. Нават сьвядомыя нацыянальна гісторыкі і філёзафы апэруюць толькі расейскай вэрсіяй царкоўнай гісторыі, крайне няпраўдзівай і перакручанай да непазнавальнасьці. Здаецца, нават, што гісторыкі сёньня ўжо і ня хочуць ведаць альтэрнатыўныя канцэпцыі — напрыклад, з працаў заходнеэўрапейскіх гісторыкаў, або хаця б польскіх ці ўкраінскіх калегаў. Нашы проста задавольваюцца расейскім гістарычным эрзацам.

Ніхто ня піша, напрыклад (і, адпаведна, ня лічыцца з тым фактам), што разрыў паміж Канстантынопалем і Рымам 1054 году не датычыўся Кіеўскай мітраполіі, якая 3 гады перад гэтым сама адпала ад Канстантынопалю. Ня пішуць, што пасьля разрыву 1054 году паміж Рымам і Бізантыяй кіеўскіх мітрапалітаў на просьбу князёў часам прызначаў Папа Рымскі, што кіеўскі мітрапаліт яшчэ ў 40-я гады XIII стагодзьдзя разам зь іншымі кардыналамі браў удзел у нарадзе ў Ватыкане з нагоды татарскай агрэсіі ў Эўропу. Ня пішуць, што Беларусь канчаткова адпала ад

Рыму толькі ў XIII стагодзьдзі з-за агрэсіі нямецкіх крыжакоў. Ня пішуць, што яшчэ ў 1250 годзе князь Даніла Галіцкі пачаў перамовы аб Уніі з Рымам. Ня пішуць, што ўжо ў XV стагодзьдзі наша царква шэсьць разоў станавілася ўніяцкаю, і што ў 1596 годзе яна ўсяго толькі заключыла сёмую Унію з Рымам, якая найдаўжэй праіснавала. Ня пішуць, што гэта ўсё была наша самастойная ўсходнехрысьціянская царква, з адметнай і вельмі адрознай ад маскоўскай традыцыяй у мастацтве, архітэктуры, абрадах, сьпевах і нават канонах!

Вось так не пісалі, не пісалі, а тут раптам бах! — і кананізацыя Сямашкі.

Ня буду шмат пісаць пра гэтага расейскага царкоўнага дзеяча. Прывяду толькі тры цытаты. Яны важныя для фармаваньня менавіта нацыянальнага падыходу да ацэнкі дзейнасьці мітрапаліта Сямашкі.

***

Першая паходзіць з нарысу пратаярэя Аляксандра Мацкевіча пра Сямашку, апублікаванага ў «Литовских епархиальных ведомостях» у 1884 годзе. Мова ў гэтым урыўку ідзе пра бацьку мітрапаліта, айца Іосіфа Сямашку, які скасаваньня Уніі не прыняў і праз год пасьля гэтай падзеі, у 1840 годзе, зладзіў у сябе на кухні уніяцкую каплічку, дзе служыў набажэнствы і вянчаў людзей.

«Тогда, подарив выстроенный им вблизи костела дом сыну своему Николаю, бывшему в Илинцах вольнопрактикующим врачем, он купил себе другой vis-à-vis, и здесь из кухни, которая составляла помещение, отдельное от дома, устроил молельню... В этой молельне в январе 1840 года старики Семашки устроили по униатскому обряду брак их дочери Елены, любимой сестры православного уже тогда преосвященнаго Иосифа. Женихом был Виктор Гомолицкий, нынешний виленский кафедральный протоиерей, а брак совершен униатским священником Федором Кудрицким, проживавшим в то время в предместье города Липовца Гайсине, и нарочито для этого сюда вызванным...

Приняв православие, преосвященный Иосиф в конце тридцатых и начале сороковых годов писал не раз отцу своему в Илинцы, убеждая и с сыновнею покорностию упрашивая последовать его примеру... Но никакия убеждения почтительнаго и нежнаго сына не действовали на престарелых родителей. Наконец в 1846 году высокопреосвященный Иосиф прибыл лично в Илинцы к свои родителям, имея отрощенныя на голове волосы и бороду, но и это не повлияло на отца относительно пермены веры...

Отец архимандрит Модест в упомянутом некрологе митрополита Иосифа говорит между прочим, что родитель его вполне сочувствовал мыслям его о возсоединении униатов, и когда последовал акт возсоединения, охотно принял

православие. Зная его лично, и притом близко, могу утверждать лишь противное... Фанатизм и ненависть к православию особенно сильно выразились в сыне его священнике Иоанне Семашке, который и умер вне православной веры и о родном брате своем митрополите Иосифе всегда отзывался так: przeklęty! sam siebie potępił i naród zgubił. В бытность его у меня в Липовце я показал ему портрет его знаменитого брата; он с бешенством бросил портрет на пол и, при звуках разбитаго стекла, тот час-же убежал. Умирая, он завещал похоронить его при Илинецком костеле, и ксендзы уже принялись было за исполнение его воли; но православные священники отобрали его у ксендзов и погребли при православной илинецкой воскресенской церкви, чем остался доволен брат умершаго, митрополит Иосиф и священникам погребавшим прислал денежное вознаграждение...»

Я дадам, што бацьку свайго мітрапаліт Сямашка сілай у 1847 годзе перавёз пад Вільню і зрабіў яго сьвятаром праваслаўнай царквы ў Дзікушках, але бацька і там служыў па-уніяцку, на што ўсе вакол былі вымушаны заплюшчыць вочы... Так, «неўзьяднаным», стары айцец Іосіф Сямяшка і памёр. Як бачым, мітрапаліт Сямашка быў пракляты за адступніцтва сваёй сям'ёй. Ён нават па-блюзьнерску парушаў апошнюю волю сваіх памерлых блізкіх...

Калі нехта зьверне ўвагу на польскую мову брата мітрапаліта і ўспомніць расейскі аргумэнт

пра «палянізацыйную ролю Уніі», то хай задумаецца і пра тое, на якой мове з паловы XIX стагодзьдзя пачалі гаварыць і цяпер яшчэ гавораць праваслаўныя бацюшкі ў Беларусі. Цяжка спрачацца з фактам, што як многія сёньняшнія расейскамоўныя людзі ў Беларусі лічаць сябе беларусамі, так і многія тагачасныя польскамоўныя жыхары краю лічылі сябе ліцьвінамі-русінамі.

***

У пачатку XIX стагодзьдзя польская была мовай зносінаў у Беларусі, але ўніяцкія сьвятары не забываліся і на родную. Пра гэта — другая мая цытата. Паходзіць яна з мэмуараў аўтара першага слоўніка беларускай мовы Івана Насовіча «Воспоминания моей жизни».

«Когда я в 1815 году был инспектором мстиславского уездного духовного училища и учителем высшего отделения, то дворянин Юрковский арендовал петруляндское имение Петра Станиславовича Крогера. У него было двое сыновей Иван и Александр, обучавшихся в мстиславской езуитском 6-классном, на степени гимназии, училище, и Юрковский пригласил меня на все вакационное время давать ежедневно помянутым сыновьям его уроки русского языка и русской словесности... В конце каникул 29 августа все семейство Юрковского, хотя и было римского исповедания, как бы нарочито, собралось идти к обедне в тамошнюю униатскую церковь. Сам

Юрковский предложил мне сопутствовать им. С ними был экономический землемер Маевский и два посторонних гостя, все без исключения католики, кроме меня, православного. Я, признаться, удивился, что католикам в этот день пришла охота быть у обедни в униатской церкви. По совершении литургии священник велел поставить среди церкви аналогий для молебствия и, украшенный крестом за 1812 год, вышедши с Евангелием и какою-то бумагою, положил Евангелие на аналогий, а в руках держа, по словам его, указ... начал говорить ко всем нам... так:

— Вот, правоверные христиане. Господь Бог по великому смутку послав нам великую радосць; великий Наполеон, як в гэтом указе пишецца, хвала Богу, воцарився в свое государство (с острова Эльбы) и знову идзець к нам. Помолимся ж Господу Богу о том, чтоб Бог ему помог...»

На гэтым я цытату скончу. Нягледзячы на ня вельмі ўдалую графічную перадачу Насовіча, добра бачна, што ўніяцкі сьвятар Ракоўскі ў 1815 годзе гаварыў на літаратурнай беларускай мове. Калі ўспомніць, што ў той час у нашых краях польская мова была ўжо агульнапрынятай, гэтак сама як сёньня расейская, і што за палітычныя рэаліі панавалі тады ў Расейскай імпэрыі, то мы зразумеем, што Іван Насовіч зафіксаваў у сваіх успамінах выдатны грамадзянскі ўчынак сьвятара. Бо і сёньня яшчэ ў Беларусі, каб загаварыць падчас нейкага афіцыйнага мерапрыемства да прысутнай расейскамоўнай публікі па-беларуску,

чалавеку патрэбная пэўная грамадзянская мужнасьць і адпаведныя патрыятычныя перакананьні, ня кажучы ўжо пра зьмест самой прамовы сьвятара. Айцец Ракоўскі, як бачым, такія перакананьні і мужнасьць меў. Другі важны момант, пра які цытата сьведчыць, — палітычныя антырасейскія погляды ўніяцкага клеру. Якраз пра іх сьведчыць арганізацыя малебну за посьпех Напалеона і за тое, каб ён зноў прыйшоў у Беларусь і вызваліў народ ад расейскага ярма...

Вось такую царкву дапамог зьнішчыць мітрапаліт Іосіф Сямашка.

***

І нарэшце трэцяя цытата. Паходзіць яна з працы беларускага палітычнага дзеяча і гісторыка Аўгена Калубовіча «Мова ў гісторыі беларускага пісьменства».

«Поруч вывазаў ішло нішчэньне, ад якога найбольш пацярпела пісьменства ў нацыянальнай беларускай мове — дакумэнты беларускай гісторыі й кнігі вуніяцкай (дакладней — былой праваслаўнай і вуніяцкай) літаратуры XVII–XVIII стст.

Шмат іх было спалена ў агні... У 1832 г., на загад зь Пецярбургу, пачалася акцыя адбіраньня старых вуніяцкіх служэбнікаў і іншых кніжок і замены іх на расейскія праваслаўныя кнігі. З цэркваў і манастыроў цэлае Беларусі ў Полацкую духоўную кансысторыю звозіліся для паленьня

выданьні беларускіх вуніяцкіх друкарняў. У дадатках да тых кніг у беларускай мове друкаваліся арыгінальныя навукова-тэалягічныя й мастацкія, галоўна вершаваныя, творы беларускай літаратуры: усе яны, за рэдкім выключэньнем, беззваротна загінулі ў агні, разам з багаслужбовымі кнігамі. Вуніяцкія сьвятары спрабавалі ратаваць іх: ведамы выпадак, калі 2 красавіка 1834 году ў Наваградку на рукі яп. Язэпа (Сямашкі) 56 сьвятароў злажылі пратэст, але, на загад цара, усе былі пакараныя за гэта годам манастырскай турмы.

Аб тым, як «уніатскія книги... преднамеренно уничтожались», яшчэ лепей сьведчаць паленьні іх у Жыровічах. Туды ўжо па ліквідацыі ў 1839 г. вуніяцкае царквы яны звозіліся з павуніяцкіх (вуніяцкіх і былых праваслаўных) царкоўных і манастырскіх бібліятэк і, на загад праваслаўнага мітрапаліта Язэпа (Сямашкі), у 1841–44 гг. спальваліся ў манастырскіх печках. Дзеля таго, што такі спосаб нішчэньня кніг быў марудным і частка кніг раскрадалася, у 1844 годзе мітрапаліт загадаў вынесьці кнігі на манастырскі пляц і спаліць іх на вогнішчы адразу. У 1853–55 і 1857 гг. паленьне іх зноў працягвалася. Колькі тут было спалена — невядома: афіцыйна называецца лічба каля 2000 кніг, аднак сам мітрапаліт зазначае, што спалена іх было болей, чымся афіцыйна паказана...»

Тут я спынюся, хаця Аўген Калубовіч яшчэ шмат старонак з дакладнымі навуковымі спасылкамі на крыніцы пералічае, як і што палілася

ў наступныя гады і дзесяцігодзьдзі, у тым ліку, як было спалена Тураўскае Эвангельле XI стагодзьдзя, або як наўмысна ў 1898 годзе быў спалены Смаленскі царкоўна-археалягічны музэй зь беларускімі старадрукамі, рукапісамі і дакумэнтамі.

Побач з кнігамі мітрапаліт Сямашка тысячамі паліў і старыя беларускія праваслаўныя і ўніяцкія абразы. У выніку да XX стагодзьдзя, калі абразы пачалі зьбіраць па цэрквах, дайшлі толькі лічаныя зь іх. Пры Сямашку ж пачаліся і першыя перабудовы нашых старых эўрапейскіх цэркваў на расейскі ўзор. Гэта трэцяя цытата сьведчыць пра ролю Герастрата беларускай культуры, якую адыграў мітрапаліт Іосіф Сямашка.

***

З пункту гледжаньня сьвядомага беларуса (бяз розьніцы веравызнаньняў) мітрапаліт Іосіф Сямашка мае ацэньвацца адназначна: гэта быў зьнішчальнік самастойнасьці беларускай мітраполіі, а таксама магільшчык беларускай мовы і культуры.

І вось сёньня РПЦ задумала Іосіфа Сямашку кананізаваць. Што ж? Расейскі народ мае права ўшаноўваць сваіх герояў, і нават маліцца ім. Але пры чым тут беларусы?..

Часам мне здаецца, што так народы і паміраюць...

*3 траўня 2012 году.*

# Кананізацыя Сямашкі-2

Камэнтары чытачоў да майго папярэдняга тэксту пра кананізацыю мітрапаліта Іосіфа Сямашкі дазваляюць зрабіць дзьве высновы.

Па-першае, многія камэнтатары сваёй рэакцыяй паказалі, што не зусім зразумелі майго тэксту і мэты яго напісаньня. Я прывёў там некалькі малавядомых гістарычных фактаў і прапанаваў новую трактоўку некаторых гістарычных падзеяў зусім не для таго, каб заклікаць некага пераходзіць у каталіцтва ці ўніяцтва. Хай усе ходзяць у тыя храмы, куды іх вядзе сумленьне.

Гістарычныя факты пра хістаньне нашых продкаў і нашай царквы паміж Канстантынопалем і Рымам, згадкі пра сем уніяў XV–XVI стагодзьдзяў спатрэбіліся мне для таго, каб паказаць, якой неадназначнай была наша гісторыя і як яна ня ўпісваецца ў схему, распрацаваную ў XIX стагодзьдзі гісторыкамі Расейскай імпэрыі. Веданьне сапраўднай беларускай царкоўнай гісторыі, на маю думку, павінна выклікаць у людзей павагу да ўсяго, што з намі адбывалася, і да ўсіх тых, каму сёньня больш падабаецца той ці іншы пэрыяд гэтай гісторыі. Усе мы беларусы, а нашы прыярытэты і перавагі маюць пад сабой гістарычныя падставы. Гэта ўсё — наша пакутная і шматаблічная гісторыя, гэта ўсё — наша Беларусь і мы самі, яе дзеці.

Па-другое, зьмест палемікі пад папярэднім блогам зноў паказаў, наколькі моцна нас усіх трымае канфэсійны падыход да гісторыі. Наогул, канфэсійная сытуацыя ў краіне значна больш важная і значна больш уплывае на нас, чым мы гэта заўважаем і разумеем. Гэта, відаць, сапраўдны праклён Беларусі — яе царкоўная гісторыя.

І як тут зноў і зноў ня думаць пра кананізацыю мітрапаліта літоўскага Іосіфа Сямашкі. Я лічу, што галоўная і найтрагічнейшая «заслуга» гэтага царкоўнага дзеяча ў тым, што беларусы сёньня думаюць, што ходзяць у праваслаўныя цэрквы, хоць, насамрэч, яны ходзяць у цэрквы расейскія...

Нашу гуманітарыстыку, нашу сьвядомасьць і нават мараль наўсьцяж працінае канфэсійнасьць. Тое вынікла з нашай трагічнай гісторыі, і мы сёньня такія слабыя і маніпуляваныя больш моцнымі суседзямі таму, што ня можам гэтай канфэсійнасьці пазбыцца і замяніць яе на адзіна правільны нацыянальны падыход да ўсяго. Падыход усёабдымны і ўсёдаравальны: усё, што з намі было — усё наша.

А ў выніку адсутнасьці такога падыходу і нашай духоўнай несамастойнасьці адбываюцца фатальныя для народнай маралі рэчы. Мараль наогул — ці ня самае важнае, што народу для нацыянальнага існаваньня і нацыянальнага імунітэту патрэбна. Многія знакавыя рэчы, якія з намі адбываюцца і якія сьведчаць пра няўхільны скон

нашай народнай душы і самога нашага народу, маюць найперш маральнае вымярэньне.

Кананізацыю Сямашкі адзін мой праскі сябар назваў чарговай «лініяй Сталіна» ці чарговай вуліцай Суворава, і ён мае абсалютную рацыю. Сапраўды, вуліцы Суворава ў беларускіх гарадах, помнікі Леніну, лінія Сталіна, вандалізм у Курапатах і сама цяперашняя палітычная сыстэма ў краіне — усё гэта найперш праблемы маральнага і духоўнага стану народу. І кананізацыя мітрапаліта Сямашкі — гэта, у прынцыпе, яшчэ адна вуліца Суворава ці яшчэ адна лінія Сталіна. Але ёсьць адно «але», адна папраўка, і сфармуляваць яе можна так: спачатку быў Сямашка, а пасьля зьявілася ўсё астатняе. Калі б не было Сямашкі, не было б і лініі Сталіна, і вуліцы Суворава ў нашых гарадах ужо даўно пазьнікалі б, і цяперашняй улады ў Беларусі магло б ніколі ня быць. Сямашка — галоўны антыгерой беларускай гісторыі XIX стагодзьдзя і галоўны герой Расеі таго часу, гэта менавіта ён, а не Мураўёў-вешальнік зрабіў найболей для перамогі «русского дела в Западном крае»...

А маленькіх «лініяў Сталіна» (або вуліцаў Суворава etc.) у Беларусі ўсё болей і болей. Адну зь іх у лютым 2012 году я знайшоў на Вайсковых могілках у цэнтры Менску.

У 2010 годзе ў сталіцы Беларусі пачалася адбудова царквы Сьвятога Духа на Пляцы Волі. Царква гэтая была храмам двух уніяцкіх базыльянскіх манастыроў, муры якіх шчасьліва захаваліся

побач з царквой да нашых дзён, прычым, адзін зь іх, жаночы, зьяўляецца найстарэйшым мураваным будынкам сёньняшняга Менску — яго аснова сягае ў XVI стагодзьдзе. У 1936 годзе перабудаваная ў XIX стагодзьдзі на расейскі праваслаўны катэдральны сабор Сьвятадухаўка была ўзарваная. Выбух ня толькі разбурыў сьцены, але і пашкодзіў некаторыя пахавальныя крыпты ў лёхах царквы. І вось калі ў 2010 годзе будаўнікі раскапалі падмуркі Сьвятадухаўкі, яны знайшлі і шэраг чалавечых парэшткаў. Да таго ж, будаўнікі разбурылі і непашкоджаныя пахавальныя крыпты ў падмурках, дзе знайшлося і адно нятленнае цела ў царкоўным аблачэньні. Бедныя менскія грэка-каталікі прасілі ўлады, каб людзкія парэшткі аддалі ім для належнага ўшанаваньня і перапахаваньня, служылі ля будаўнічай пляцоўкі малебны — нічога не дапамагло. Улады круцілі-муцілі, абяцалі вярнуць косьці ў царкву і нават аднавіць крыпту ў лёхах новазбудаванай копіі храму, але ўрэшце нятленнае цела аказалася ў Акадэміі навук «для вывучэньня», а косьці бязь сьледу зьніклі.

Зрэшты, у 2011 годзе яны знайшліся. Аказалася, што праваслаўныя (!) сьвятары пахавалі іх у брацкай магіле на вайсковых могілках у Менску. На маленькай непрыкметнай магіле паставілі крыж зь дзікім, як на маё разуменьне, надпісам:

«Здесь покоятся останки христиан, обретенные при строительстве концертного зала детской филармонии на пл. Свободы в Минске».

Крыж той за год ужо двойчы ламалі, ляжыць ён зламаны і цяпер... Нехта ўсё ня можа супакоіцца. Відаць, канфэсійны падыход не дае.

А насамрэч падзея, якую я апісаў, — страшная. Яна паказвае, у якой маральнай прорве знаходзіцца беларускае грамадзтва ў выніку канфэсійнага падыходу да сваёй гісторыі. Заснавальніцай базыльянскага манастыра ў Менску была дачка вялікага канцлера літоўскага, стваральніка Статуту 1588 году Лява Сапегі Кацярына Сапяжанка, яна была першай ігуменьняй менскіх базыльянак і ў царкве Сьвятога Духа была пахаваная. Таксама ў царкве Сьвятога Духа ў палове XVII стагодзьдзя спачыў і фундатар царквы, кіеўскі уніяцкі мітрапаліт Антоні Сялява. Гэта — выдатныя асобы і пэрсанажы беларускай гісторыі без увагі на іх канфэсійную прыналежнасьць, і калі б нават падазрэньне было на тое, што іх парэшткі могуць аказацца сярод адкапаных касьцей, іх трэба было б належным чынам ушанаваць. А тут ніякага падазрэньня — гэта дакладны гістарычны факт, што ігуменьня Кацярына Сапяжанка і кіеўскі мітрапаліт Антоні Сялява былі пахаваныя ў гэтай царкве. І вось іх парэшткі апаганеныя і ананімна пахаваныя ў брацкай магіле пад цынічным надпісам...

Насамрэч, выкіданьне мошчаў са Сьвятадухаўкі — гэта гвалт над нашымі духоўнымі кара-

нямі. Парэшткі беларускіх дзеячоў — ігуменьні Кацярыны Сапяжанкі, мітрапаліта Антонія Сялявы (як і сотняў іншых, розных веравызнаньняў, якія былі апаганеныя або яшчэ будуць апаганеныя) — былі і ёсьць сапраўдным духоўным карэньнем нацыі, мэтафізычным сховішчам нашага нацыянальнага духу, яго апірышчам. Нацыянальны дух нябачна і неадчувальна бруіўся і бруіцца адтуль, з-пад зямлі, і падмацоўвае жывы арганізм нашага народу. Такім містычным духоўным апірышчам і крыніцай духу зьяўляюцца наогул усе старажытныя муры нашых гарадоў і мястэчак. Таму ворагі заўсёды дратавалі і дратуюць ня толькі гісторыю, памяць і матэрыяльныя яе ўвасабленьні, але і магілы продкаў, могілкі. У 2010 годзе растапталі і апаганілі яшчэ адну містычную крыніцу народнага духу ў падмурках менскай Сьвятадухаўкі.

І тут (зноў кажу) ня важна, да якой канфэсіі належалі выдатныя дзеячы нашай гісторыі, магілы якіх былі апаганеныя апісаным вышэй спосабам. Такой самай жорсткай маральнай ацэнкі заслугоўваў бы і факт апаганьваньня магілы некага з праваслаўных ці пратэстанцкіх дзеячоў нашай гісторыі.

Адзіна, на маю думку, слушны і адзіна правільны падыход да гісторыі нам у XIX стагодзьдзі падмянілі падыходам канфэсійным. І сёньня ўжо не разабрацца, дзе, што і як перакручана ў беларускіх галовах, нават у лепшых зь іх. Сёньня я магу адназначна сьцьвярджаць, што

ня можа існаваць праваслаўнай дзяржавы «Беларусь» зь беларускай дзяржаўнай мовай. Як яе сёньня і няма. Многія і многія людзі, лепшыя людзі Беларусі, кандыдаты і дактары навук, не разумеюць, што ня можа ўжо ў прынцыпе быць праваслаўнай Беларусі, а можа быць толькі праваслаўны расейскамоўны Паўночна-Заходні край. Праваслаўная Баўгарыя магчымая, праваслаўныя Сэрбія, Румынія і Расея магчымыя, а вось Беларусь — не. Беларусь можа быць толькі шматканфэсійнай. І толькі тады — маральнай.

Я ўсё ж веру, што некалі і наша краіна стане маральнаю, што некалі і ў нас пачнуць паважаць ня толькі большасьці, але і меншасьці.

Вядома, маліцца да Сямашкі таму, хто гэтага хоча, не забароніш. Людзі маюць на гэта поўнае права. Але, на маю думку, ушаноўваць Сямашку ў Беларусі, а тым больш маліцца да яго, можа толькі той, у каго нелюбоў да іншай канфэсіі большая за любоў да свайго народу і да сваёй радзімы. А гэта ўжо — фанатызм, які ня мае нічога агульнага з хрысьціянскай маральлю, або — сьвядомы палітычны выбар.

Неяк цяжка ўявіць беларускамоўнага беларуса перад абразом з выявай мітрапаліта Іосіфа...

*17 траўня 2012 году.*

# У чым Захад не разумее Беларусі

У юбілейныя дні 90-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці БНР мне думаецца не аб беларускай палітыцы, але аб беларускай культуры. У наш час, ва ўмовах глябалізацыі, размываньня або зьнікненьня дзяржаўных межаў, культура — гэта тэрыторыя сувэрэнітэту нацыі.

Сёньня, калі ў сьвеце гавораць і пішуць аб Беларусі, практычна ўсе згаджаюцца з тым, што рэжым у Беларусі — аўтарытарны, што ў нашай краіне парушаюцца асноўныя правы чалавека. Многія ўплывовыя міжнародныя структуры, як АБСЭ, Эўразьвяз, а таксама праваабарончыя арганізацыі дамагаюцца ад рэжыму выкананьня міжнародна прызнаных правоў чалавека — права на свабоду слова, сходаў, асацыяцый і гэтак далей. Але сёньня ў сьвеце мала гавораць або практычна не гавораць аб тым, што ў Беларусі брутальна парушаецца права цэлага народу і яго кожнага асобнага прадстаўніка на карыстаньне сваёй роднай мовай і сваёй нацыянальнай культурай, на выхаваньне дзяцей у роднай мове і нацыянальным асяродзьдзі.

На маю думку, можна сьмела казаць, што сёньня ў Эўропе і ЗША мае месца трагічная недаацэнка важнасьці нацыянальнай культуры для дэмакратызацыі Беларусі.

Захад сёньня як бы не заўважае, што ў Беларусі адбываецца татальная гвалтоўная русыфікацыя. Лепшыя прадстаўнікі нацыянальнай эліты выкінутыя з працы ў дзяржаўных газэтах, часопісах і дзяржаўных выдавецтвах, звольненыя з інстытутаў Акадэміі навук і з унівэрсытэтаў. Любая праява нацыянальнага духу разглядаецца ўладамі як апазыцыйная, падазроная або варожая. У краіне дзейнічае жорсткая ідэалягічная цэнзура, са старонак газэт і часопісаў, з экранаў тэлевізараў і з дынамікаў радыё беларусаў пераконваюць, што яны нічым не адрозьніваюцца ад расейцаў. Менш за 25 працэнтаў школьнікаў вучацца па-беларуску. Людзей часам арыштоўваюць і зьбіваюць на вуліцах толькі за тое, што яны размаўляюць па-беларуску. Можна гаварыць пра татальны разгром нацыянальных здабыткаў пачатку 90-х гадоў XX стагодзьдзя. Фактычна, сёньня беларускі народ пастаўлены на мяжу выжываньня.

І вось у такіх умовах на першы плян выходзяць пытаньні культуры. Беларуская культура гістарычна — бясспрэчна, заходняя, эўрапейская і хрысьціянская. Калі б кожны беларус добра ведаў нацыянальную гісторыю і здабыткі нацыянальнай культуры, у яго б не паўставала пытаньня выбару — куды кіравацца яго краіне: на захад або на ўсход. Менавіта таму тыя, хто зацікаўлены ва ўсходнім кірунку разьвіцьця Беларусі, змагаюцца зь беларускай мовай, культурай і беларускай гістарычнай спадчынай.

Сувязь тут да прымітыўнасьці простая. Правы чалавека — гэта павага да чалавечай годнасьці кожнага асобнага індывіда. Чалавек, які ня мае нацыянальнай годнасьці, часьцей за ўсё ня мае і чалавечай годнасьці, ня дбае пра яе. Мы назіраем гэта спрэс у Беларусі — тут на кожным кроку можна ўбачыць дэнацыяналізаваных, зьняверaных, забітых, абыякавых да палітыкі і сваіх правоў людзей. Калі беларусам не дапамагчы застацца беларусамі, калі ім не дапамагчы болей уведаць пра сваю гісторыю і сваю культурную спадчыну, праз пэўны час зьнікне і краіна Беларусь, а Расея набудзе новую тэрыторыю на захадзе і 10 мільёнаў новых грамадзянаў, якія, як і астатнія расейцы, будуць цьвердзіць, што яны — гэта асобная цывілізацыя і што нейкія эўрапейскія каштоўнасьці да іх ня маюць ніякага дачыненьня.

На гэтым тле часам дзіўна выглядае палітычная актыўнасьць беларускіх апазыцыйных палітыкаў, якія таксама як бы не заўважаюць праблемаў беларускай культуры, гістарычнай спадчыны і культурнай самаідэнтыфікацыі народу. Натуральна, што палітыка — першасная, без дасягненьня палітычнай перамогі нельга дамагчыся зьменаў і ў культурнай палітыцы дзяржавы. Але ці адбудзецца палітычная перамога беларускіх палітыкаў у небеларускім, у нацыянальна індыфэрэнтным, русыфікаваным, фактычна, расейскім грамадзтве?

У лютым 2008 году ў Менску адбылася канфэрэнцыя прадстаўнікоў аб’яднаных дэмакратыч-

ных сілаў. Яе мэтай была выпрацоўка прапановаў для ўладаў Беларусі што да дэмакратызацыі выбарчага заканадаўства. Мне асабіста — а, магчыма, і самім удзельнікам той канфэрэнцыі — было няёмка чытаць паведамленьні аб яе ходзе і выніках. Ну сапраўды — хто сёньня не разумее, што ўлады Беларусі ніякія прапановы апазыцыі ні прымаць, ні разглядаць і нават чытаць ня будуць? І ўсё ж такія людзі ёсьць — гэта тыя, хто фінансуе правядзеньне такіх канфэрэнцыяў на Захадзе. Гэта ўсё тое самае трагічнае неразуменьне беларускіх праблемаў і беларускай сытуацыі — наша краіна мела дэмакратычнае выбарчае заканадаўства ў пачатку 90-х гадоў XX стагодзьдзя.

У Беларусі разгромлены Саюз пісьменьнікаў. Некалькі сотняў актыўных творцаў, часта ў творчым росквіце, пазбавілі магчымасьці друкавацца і выкінулі на маргінэс грамадзкага жыцьця. Пісьменьнікі, аднак, змагаюцца. Стварылі незалежны часопіс «Дзеяслоў» і газэту «Літаратурная Беларусь». Часопіс выходзіць раз на два месяцы, газэта — раз на месяц як укладзень у газэту «Новы час». Магчыма, патрачаныя на тую палітычную канфэрэнцыю грошы маглі б дапамагчы зрабіць пісьменьніцкі часопіс штомесячным, а газэту — штотыднёвай.

Зрэшты, у апошнія гады беларускія апазыцыйныя палітыкі пачалі болей зьвяртаць увагі на праблемы культуры. Сярод захадаў за апошнія год-два я назаву клопат КХП БНФ аб народ-

ным мэмарыяле ў Курапатах і ліст да чыноўнікаў аб адказнасьці за русыфікацыю, заяву партыі БНФ аб разбурэньні гістарычнага цэнтру Менску, зварот Аляксандра Мілінкевіча да міжнародных структураў з заклікам дапамагчы ўратаваць гістарычны цэнтар Горадні і ліст кіраўніцтва партыі БНФ да міністра адукацыі Радзькова аб праблемах беларускамоўнай адукацыі і абароны палітычна актыўных студэнтаў. Зь міжнародна падтрыманых акцыяў — сёлетняя агульнанацыянальная дыктоўка.

Але гэтага сёньня катастрафічна не хапае. У выніку, і ў беларускім грамадзтве, у тым ліку і ў апазыцыйных партыях, і на Захадзе існуе трагічнае неразуменьне важнасьці беларускай гістарычнай і культурнай спадчыны для эўрапейскай пэрспэктывы Беларусі. А тут пытаньне стаіць проста — беларусы пойдуць у Эўропу, калі ў іх застануцца матэрыяльныя і духоўныя сьведчаньні прыналежнасьці іх культуры да Эўропы. А сёньня гэтыя сьведчаньні імкліва зьнікаюць — у беларускіх гарадах разгарнулася грандыёзная па сваіх маштабах акцыя зьнішчэньня забудовы гістарычных цэнтраў, а падручнікі гісторыі перапісваюць духоўныя спадкаемцы прафэсара Лаўрэна Абэцэдарскага, які ў 50–60-я гады XX стагодзьдзя спрабаваў укараніць антынавуковы панятак «барацьба беларускага народу за ўзьяднаньне з Расеяй», прыпісваючы сацыяльным пратэстам беларускіх нізоў антыпольскі і прарасейскі характар.

Тое, што цяпер адбываецца ў Беларусі зь беларускай мовай, культурай і гістарычнай спадчынай, неверагодным чынам нагадвае падзеі 60-х і 70-х гадоў XIX стагодзьдзя, калі Паўночна-Заходнім краем кіраваў генэрал-губэрнатар Міхаіл Мураўёў. Мураўёў быў правадыром «западнорусизма» — ідэалягічнай плыні ў расейскай грамадзкай думцы, якая мела на мэце татальнае і канчатковае «абрусеньне» Беларусі. Найбольш дасканалае дасьледаваньне «западнорусизма» — яго падрабязная характарыстыка і ацэнка яго згубнай ролі для нашага народу — належыць пяру апошняга прэм’ер-міністра БНР, выдатнага беларускага інтэлектуала Аляксандра Цьвікевіча. Цьвікевіч быў зьнішчаны НКВД у 1937 годзе. Выданьне яго фундамэнтальнай працы аб «западнорусизме» ды іншых твораў магло б стаць належным ушанаваньнем яго памяці, а таксама выдатным міжнародным праектам, які мог бы дапамагчы дэмакратызацыі Беларусі.

Як вядома, галоўнай зброяй «западноруссов» была расейская школа ў Беларусі, а таксама знос і перабудова помнікаў беларускай архітэктуры. Мураўёў ня толькі вешаў паўстанцаў, ён яшчэ будаваў па ўсёй Беларусі праваслаўныя цэрквы ў жахлівым для эўрапейскага вока стылі расейскага казённага праваслаўя. Зрэшты, падтрымлівалі яго ў гэтым толькі славянафільскія колы ў Маскве. Арыстакратычныя колы Санкт-Пецярбургу Мураўёвым пагарджалі і далі яму мянушку «людоед». Пагарджалі адукаваныя расейцы і

мураўёўскімі цэрквамі. Тым ня менш, пры падтрымцы імпэратара справу сваю ён зрабіў добра. Беларусь і сёньня пакрытая сотнямі тых спарудаў, а беларусы цяпер ужо і забыліся, што некалі будавалі гатычныя, рэнэсансныя і барочныя праваслаўныя цэрквы.

Сёньняшнія беларускія кіраўнікі таксама зьяўляюцца тыповымі прадстаўнікамі «западнорусизма». Розьніца толькі ў тым, што старыя «западноруссы» дзейнічалі ў Расейскай імпэрыі, а цяперашнія — у дзяржаўным утварэньні пад назвай Рэспубліка Беларусь. Менавіта таму сёньня ў Менску пабудавана або будуецца каля 20 цэркваў у мураўёўскім стылі. Тое самае адбываецца і ў іншых гарадах, і па ўсёй краіне. Архітэктура, як вядома, ёсьць выяўленьнем цывілізацыйнай арыентацыі народу, які яе стварыў. Яна зьяўляецца своеасаблівым носьбітам і захавальнікам нацыянальнага культурнага коду. І вось сёньня адзін код мяняецца на іншы.

Летась у Дзяржаўным мастацкім музэі адчынілі новы корпус. Знайшлося там, нарэшце, месца і для старога беларускага мастацтва — абразоў, сармацкага партрэту, гатычнай скульптуры. Наведніка, які там пабывае, зьдзівіць зусім малая колькасьць экспанатаў — сармацкіх партрэтаў штук 10, скульптураў з XIV–XV–XVI стагодзьдзяў усяго некалькі. Можна сьмела сьцьвярджаць, што ў Эўропе няма больш беднага нацыянальнага музэя, чым беларускі... І няма, відаць,

і больш абрабаванай суседзямі (у культурным сэнсе) нацыі.

У XVIII стагодзьдзі ў Слуцку было выраблена некалькі тысяч слуцкіх паясоў. Яны набылі агульнаэўрапейскую вядомасьць і лічацца вяршыняй беларускага народнага мастацтва часоў позьняга барока. А сёньня ў Дзяржаўным мастацкім музэі экспануецца два паўмэтровыя кавалкі — гэта ўсё (!!), чым цяпер валодае Беларусь.

Таму хачу яшчэ раз паўтарыць: барацьба за дэмакратычную Беларусь сёньня — гэта барацьба за беларускую культуру, за захаваньне рэштак беларускай гістарычнай спадчыны. Любы культурны праект, фінансаваны на міжнародныя грошы, які мае на мэце вяртаньне беларусам іх страчанай спадчыны (хаця б у выглядзе копіяў) або зноў хаванай ад народу гістарычнай праўды, будзе мець большае значэньне для дэмакратызацыі Беларусі, чым утапічныя канфэрэнцыі аб зьменах выбарчага заканадаўства, якія ня могуць адбыцца ў прынцыпе. Зьмены адбудуцца, калі гэтага захоча народ. А народ захоча тады, калі будзе здольны ацаніць вартасьць свайго эўрапейскага мінулага і эўрапейскай пэрспэктывы ў будучым, а значыць... дэмакратыі і правоў чалавека.

Добра было б, каб і ў Беларусі, і на Захадзе зразумелі, што пры фактычнай адсутнасьці палітычнага жыцьця ва ўмовах аўтарытарнага рэжыму менавіта культурны супраціў можа стаць шляхам вяртаньня беларусаў да дэмакратыі.

*26 сакавіка 2008 году.*

## Чаму мы пішам па-беларуску

Чаму мы — я,ты, ён, яна — пішам па-беларуску? Таму што ведаем: ёсьць Беларусь і беларуская культура, наша культура і наша краіна. Ёсьць ня толькі на зямлі, але і ў нашых сэрцах ды галовах.

Беларусы даўно ўжо ня маюць уплыву на сытуацыю ў сваёй краіне. Пакуль яшчэ больш за іх гэта робяць суседзі. Але некаторыя з нас ніколі не лічыліся з рэальнасьцю і ўпарта пісалі і гаварылі па-беларуску. Многія за гэта загінулі. Тысячы, дзясяткі тысяч. Найлепшых.

Іншыя беларусы сёньня вырашылі больш лічыцца з рэальнасьцю і сказалі: калі частка пісьменьнікаў піша па-расейску, значыць гэтую дадзенасьць трэба прызнаць і лічыць іх таксама беларускімі. Галоўнае ня мова, галоўнае мастацтва.

Я называю гэта лёгікай капітуляцыі і самаліквідацыі, бо наступным крокам гэтых развindependentжаньняў можа стаць такі: большасьць беларусаў сёньня гаворыць і чытае па-расейску, гэта рэальнасьць і дадзенасьць, дык навошта пісаць па-беларуску? Галоўнае ж талент і мастацтва. Спусьцімся зь нябёсаў. І чытачоў стане болей.

Але нашы мова і літаратура існавалі раней і цяпер існуюць насуперак рацыянальнаму. Як і

сапраўдныя сябры, якія ірацыянальнымі ўчынкамі спрабуюць нам дапамагчы. Напрыклад, менскі расейскі паэт Дзьмітры Строцаў, які ў лютым 2015 году заявіў: «Першае, пра што сёньня трэба казаць, — гэта пра кеназіс расейскай мовы ў Беларусі, пра кеназіс як пра ўсьвядомленую задачу, пра новую мадэль паводзін, пра самапрымяншэньне расейскага ў сытуацыі памежжа, у сытуацыі сустрэчы з другой моўнай стыхіяй — беларускай». Самапрымяншэньне Ісуса Хрыста, якое ў багаслоўі называюць грэцкім словам кеназіс (κένωσις), выявілася ў прыняцьці Хрыстом чалавечага аблічча, а скончылася ягонай сьмерцю за людзей.

Я застаюся з тымі, хто ўпарта спрабуе зьмяніць рэальнасьць і да апошняга чытача будзе пісаць па-беларуску. А нават і тады, калі чытачоў раптам ня стане зусім.

Ёсьць нешта большае, таксама ірацыянальнае, што прымушае мяне гэта рабіць і што мае некалькі сынанімічных назваў. Я выбіраю дзьве.

Праўда і краса.

*11 сакавіка 2015 году.*

## Каму Расея хлусіць

Пасьля анэксіі Крыму Расея зьдзіўляе плянэту зацятай хлусьнёй. Увесь сьвет ведае, што гэта ня так, але Расея цьвердзіць, што так.

Кожны дзень мы чуем, што па Ўкраіне гойсаюць узброеныя банды бандэраўцаў-ультранацыяналістаў, якія тэрарызуюць расейскае і расейскамоўнае насельніцтва, і што тысячы і тысячы ўцекачоў навадні́лі прымежныя з Украінай раёны Расеі. Абама і Мэркель звоняць і звоняць Пуціну, заклікаючы вывесьці войскі з Крыму і пачаць дыялёг з новым урадам Украіны, а ён у адказ кажа, што кіеўскія ўлады не кантралююць сытуацыю і ня могуць узяць пад кантроль узброеныя банды нацыяналістаў, якія... тэрарызуюць расейскае і расейскамоўнае насельніцтва. Прадстаўнік Францыі ў Радзе Бясьпекі ААН кажа расейскаму прадстаўніку на паседжаньні, што ня бачым мы тысяч уцекачоў, ня бачым узброеных бандаў, затое бачым вашы войскі ў Крыме, а расеец у адказ кажа, што Кіеў не кантралюе краіну і ня можа ўзяць пад кантроль бандытаў, якія (зноў!) тэрарызуюць расейскае і расейскамоўнае

насельніцтва. У Данецку прарасейскія грамілы штурмуюць урадавыя будынкі і рэжуць нажамі ўкраінцаў, у Харкаве расстрэльваюць з аўтаматаў прыхільнікаў непадзельнай Украіны, а расейскі МЗС заяўляе, што Расея можа ўзяць пад абарону людзей на паўднёвым усходзе Ўкраіны, бо (і зноў!!) цэнтральныя ўлады не кантралююць сытуацыі і ня могуць утаймаваць узброеныя банды, якія тэрарызуюць расейцаў ва Ўкраіне... Зачараванае кола. Тупік.

Каго Расея хоча пераканаць? Каго падманвае, калі ўвесь сьвет не падманваецца?

Адказ відавочны. Расея хлусіць сама сабе. Крэмль хлусіць, бо хоча, каб яму паверыў найперш яго ўласны народ.

Вось некалькі думак наконт прычын, чаму Расея хлусіць сама сабе.

## Пра што пісаў Іван Ільін

Цяпер у Крамлі чытаюць расейскіх філёзафаў. І асабліва ўлюбёным там зьяўляецца Іван Ільін. Яго парэшткі перавезьлі ў 2005 годзе ў Маскву, урачыста перапахавалі на могілках Данскога манастыра, выдалі 28-тамовы збор твораў, цытуюць у прамовах патрыярх, прэзыдэнт і вядомы кінарэжысэр.

У Івана Ільіна можна знайсьці самыя розныя думкі, цьверджаньні і цытаты. У Крамлі найбольш любяць яго працы другой паловы 1940-х гадоў, дзе ён патрыятычна апісваў спробы ка-

варнага Захаду расчляніць Расею, пазбавіць яе гегемоніі над сваімі сатэлітамі і прадказваў Расеі вялікую будучыню, калі яна патрапіць нанова адрадзіць і сынтэзаваць праваслаўнасьць, патрыятызм і дзяржаўніцтва — або тыя самыя «православие, самодержавие и народность», калі выкарыстоўваць тэрміны XIX стагодзьдзя. Тады гэтая формула трыадзінства лічылася самой асновай, падвалінамі Расейскай імпэрыі. Ільін, як бачым, быў тут зусім не арыгінальны.

У 1948 годзе напісаў ён працу «Пра фашызм», дзе, сярод іншага, сьцьвярджаў:

«Фашизм возник как реакция на большевизм, как концентрация государственно-охранительных сил направо. Во время наступления левого хаоса и левого тоталитаризма — это было явлением здоровым, необходимым... Фашизм был прав, поскольку исходил из здорового национально-патриотического чувства, без которого ни один народ не может ни утвердить своего существования, ни создать свою культуру...»*

Гэта зь ліку станоўчых рысаў фашызму, паводле Ільіна.

Былі ў той працы пазначаныя і памылкі фашыстаў. Паводле філёзафа, іх шэсьць, і сярод іх, дарэчы, не названыя антысэмітызм і Галакост. Затое, памылкамі фашыстаў Ільін лічыў безрэлігійнасьць, таталітарызм, партыйную манаполію,

* Иван Ильин. О фашизме. — http://www.rus-sky.com/gosudarstvo/ilin/nz/nz-37.htm

скрайні нацыяналізм і шавінізм, зьмяшэньне сацыяльных рэформаў з сацыялізмам і, нарэшце, ідалапаклоньніцкі цэзарызм.

Але галоўнае ў працах Ільіна было ўсё ж гэта — праваслаўнасьць, патрыятызм і дзяржаўніцтва. Ён верыў у асаблівую місію Расеі, яе асаблівы шлях і асаблівую духоўнасьць. Гэта наогул быў рэлігійны філёзаф, які адчайна ненавідзеў талстоўскую філязофію «непраціўленьня злу». Ільін напісаў кнігу «Пра супраціўленьне злу сілай», дзе заклікаў процістаяць злу самаўдасканаленьнем, духоўным выхаваньнем іншых і... мячом. Яго і назвалі ўрэшце калегі «тэарэтыкам праваслаўнага мяча»

Калегі, дарэчы, Ільіна не любілі. Бярдзяеў называў яго «ЧК у імя Божае», а Зінаіда Гіпіюс яго філязофію акрэсьліла як «ваенна-палявое багаслоўе».

Быў у Ільіна яшчэ адзін «аспэкт». Ён быў напалову немцам. Бярдзяеў так і казаў пра яго: «Чужы чалавек, іншаземец, немец». Дзіўна, але калі я думаю пра Ільіна цяпер, дык успамінаюцца некаторыя вуліцы новай Масквы, дзе цяжка знайсьці назвы на расейскай мове. Вось і палымяны вернік у асаблівую духоўную моц і сілу Расеі — Іван Ільін — большасьць сваіх працаў напісаў пад псэўданімамі «Юстус», «Івэр», «Карл Брабазіюс», «д-р Альфрэд Норман», «Юліюс Швэйкерт» і іншымі...

Няцяжка заўважыць, што сынтэз праваслаўнасьці, патрыятызму і дзяржаўніцтва стаў за-

дачай і марай цяперашняга крамлёўскага істэблішмэнту. Яны паднялі зь зямлі ільінскі «праваслаўны меч». Але, як і варта было чакаць, чытаюць у Крамлі Ільіна вельмі павярхоўна і няўважліва.

Ільін быў зацятым антыкамуністам. А цяперашнія яго крамлёўскія пасьлядоўнікі дасягненьні камуністычнага СССР, яго перамогі і нават побытавыя рэаліі ўключылі ў аналы нацыянальнай памяці. Савецкія камуністычныя лідэры (нават самы крыважэрны зь іх — Сталін) зь лёгкасьцю прынятыя ў нацыянальны пантэон і вернутыя ў падручнікі гісторыі.

Наіўныя журналісты некалі разважалі, як лепш паступіць з муміяй Леніна на Краснай плошчы ў Маскве, заклікалі пахаваць нарэшце труп і спрабавалі прадбачыць, як і калі гэта адбудзецца. Усьлед за імі і чытачы не разумелі, чаму ж яго не хаваюць? А вось і адказ — чаму. Сёньня ў абарону статуяў Леніна рыхтуюцца паслаць танкі ва Ўкраіну, а мясцовыя гістэрычныя выхаванцы расейскага таталітарнага тэлебачаньня з георгіеўскімі стужкамі бароняць ленінскія статуі на паўднёвым усходзе Ўкраіны і крычаць пры гэтым, што не дадуць у крыўду... «нашу праваслаўную царкву».

Камуністычнае мінулае стала часткай ня толькі нацыянальнай гісторыі, але і нацыянальнай душы і... нацыянальнай ідэі Расеі.

Ільін варочаецца ў труне.

## Што б я параіў расейскім ідэолягам

Трэба чытаць ня толькі Ільіна. У асаблівую ролю і місію Расеі верылі і іншыя расейскія пісьменьнікі і філёзафы, але некаторыя зь іх былі больш самакрытычныя і больш стрыманыя за цяперашніх славяна-русафілаў-эўразійцаў, якія знаходзяць сабе куміраў, ня надта ўважліва іх чытаючы.

Ад прызнаньня асаблівасьці сваёй духоўнасьці і сваёй ролі не далёка і да нацыянальнай выключнасьці і мэсіянства. У 30-я гады праз гэта прайшлі немцы. І амаль дакладна так сёньняшнія ідэолягі штурхаюць Расею ў яе ўласныя «нямецкія 30-я гады». Немцы ж таксама баранілі нямецкамоўных і забіралі іх «дадому», і таксама верылі ў сваю выключнасьць.

Хай бы расейскія ідэолягі схадзілі ў царкву, а лепш — проста пачыталі Эвангельле, бо іх патрыярх як член «крамлёўскага пулу» таксама цытуе Ільіна. Хрысьціянства, тым часам, ведае пра катарсіс (ачышчэньне) праз пакаяньне, праз прызнаньне сваёй віны і сваіх памылак. Да гэтага варта прыслухацца. Як і да некаторых калегаў Івана Ільіна, якія, нягледзячы на яго «праваслаўнасьць», былі больш глыбокімі хрысьціянамі і ў сваім стаўленьні да Расеі.

Вось, напрыклад, Васілі Розанаў. Цытую наўскід:

«Как пьяная баба, оступилась и померла Россия...»*.

«Собственно нет никакого сомнения, что Россию убила литература... После того, как были прокляты помещики у Гоголя и Гончарова..., администрация у Щедрина..., история, купцы у Островского, духовенство у Лескова... и, наконец, семья у Тургенева..., русскому человеку не осталось ничего любить, кроме прибауток, песенок и сказочек. Отсюда и произошла революция...».

«Всё „казённое« только формально существует. Не беда, что Россия в „фасадах«; а что фасады-то эти — пустые. И Россия — ряд пустот... Как старый дуб: корки, сучья, но внутри — пустоты и пустоты...»

«Дана нам красота невиданная. И богатсво неслыханное. Это — Россия. Но глупые дети всё растратили. Это русские».

Славуты пісьменьнік і філёзаф Мікалай Бярдзяеў заклікаў:

«Возложим на себя ответственность и перестанем во всём винить внешние силы».

А вось іншы расейскі філёзаф, Фёдар Сьцяпун. Гэты інтэлектуал, які быў высланы бальшавікамі за мяжу, пакутліва разважаў над гістарычным лёсам расейцаў:

«Читая любую русскую историю, получаешь впечатление, что русский народ не столько завоё-

* Гэтая і наступныя цытаты з расейскіх філёзафаў (апрача І. Ільіна) прыведзеныя паводле кнігі Юрыя Безелянскага «99 имен Серебряного века», М. 2007

вывал землю, сколько без боя забирал её в плен. Эта военнопленная земля работала на русский народ, работала без того, чтобы он сам на ней по-настоящему работал...»

Даў Сцяпун нам і адказ на пытаньне, чаму расейцы сёньня так ня хочуць разьвітацца са сваім камуністычным мінулым, так настальгуюць па ім. Паводле Сьцепуна, у XX стагодзьдзі адбылася ракавая сустрэча «просвещенско-рационалистической идеологии Карла Маркса с тёмной маетой русской народной души», а бальшавізм стаў вынікам «ложного направления религиозной энергии русского народа, псевдоморфоза русской потребности верить».

## Масква, 2014 год

Апошні, шосты пункт у сваім пераліку памылак фашызму Іван Ільін сфармуляваў так:

«Величайшей ошибкой фашизма было возрождение идолопоклоннического цезаризма. „Цезаризм" есть прямая противоположность монархизма. Цезаризм безбожен, безответственен, деспотичен; он презирает свободу, право, законность, правосудие и личные права людей; он демагогичен, террористичен, горделив; он жаждет лести, „славы" и поклонения, он видит в народе чернь и разжигает её страсти; он аморален, воинствен и жесток. Он компрометирует начало авторитарности и единовластия, ибо правление

его преследует цели не государственные, и не национальные, а личные»*.

Вам нічога і нікога гэты апошні пункт не нагадвае? Асабліва пра бачаньне народу як чэрні. Мне дык вельмі.

І яшчэ адзін выбітны расейскі філёзаф — Георгі Фядотаў, які аналізаваў тыпалёгію савецкага чалавека і савецкай дзяржавы. Ён не сумняваўся, што СССР — гэта працяг Расейскай імпэрыі, а савецкіх людзей параўноўваў з тыпам «служылага чалавека» XVI стагодзьдзя часоў Івана Жахлівага або XVIII стагодзьдзя часоў Пятра І. Фядотаў у 1947 годзе ў эміграцыі заклікаў расейцаў адмовіцца ад імпэрыі:

«Освобождённая от военных и полицейских забот, Россия может вернуться к свои внутренним проблемам — к построению выстраданной страшными муками свободной социальной демократии. Тридцатилетие коммунизма, и потом коммуно-русский человек огрубел, очерствел, — говоря словами народного стиха, покрылся „еловой корой“. Вероятно, не одно поколение понадобится для его перевоспитания, т. е. для его возвращения в заглохшую традицию русской культуры, а через неё и русского христианства. К этой великой задаче должна уже сейчас, в изгнании, готовиться русская интеллигенция вместо погони за призрачными орлами империи».

* Иван Ильин. О фашизме. — http://www.rus-sky.com/gosudarstvo/ilin/nz/nz-37.htm

Але да парады філёзафа ў Расеі не прыслухаліся. Сьцягі імпэрыі зноў узьнятыя высока.

І гэты самы Георгі Фядотаў некалі прароча напісаў пра цяперашняе расейскае тэлебачаньне і наогул пра расейскую ўладу, якія, паводле Ільіна, «видят в народе чернь и разжигают её страсти»:

«Для государства-зверя политика становится человеческой отраслью животноводства».

*18 сакавіка 2014 году.*

# Чаму Расея хлусіць

Захапляюся разьвіцьцём гуманітарнай думкі ў ЗША, Ангельшчыне і Францыі. Вельмі шкада, што цяперашняя палітычная і культурная сытуацыя ў Беларусі не спрыяе набліжэньню гэтых бліскучых інтэлектуальных школаў да беларускіх розумаў.

Асабліва я захапляюся гісторыкамі, а сярод іх найбольш — амэрыканцам Марцінам Малія і французам Аленам Бэзансонам. Абодва яны ўсё сваё навуковае жыцьцё прысьвяцілі вывучэньню і асэнсаваньню Расеі і яе шляху. Вынікам у Малія стала кніга «Расея вачыма Захаду» (1999)*. Вынікам у Бэзансона стала кніга «Сьвятая Русь» (2012)**. Мне больш даспадобы Бэзансон, але канцэпцыі ў іх блізкія настолькі, што можна гаварыць адно аб лякальных разыходжаньнях.

Малія памёр у 2004 годзе, Бэзансон яшчэ плённа працуе, ён аўтар больш чым дваццаці кніг, але ягоныя высновы адносна Расеі фактычна працягваюць канцэпцыю Малія і на працягу апошніх гадоў паўтараюцца з публікацыі ў публікацыю, таму прывяду іх тут тэзісна без

---

* Martin E Malia. Russia Under Western Eyes: From the Bronze Horseman to the Lenin Mausoleum. Harvard University Press. Harvard. 1999

** Alain Besançon. Sainte Russie. Fallois. Paris. 2012

спасылкі на тую або іншую кнігу або артыкул гэтых аўтараў.

У Расеі водгукі на іх працы розьняцца ад стрымана нэўтральных, праз памяркоўна крытычныя (з выкарыстаньнем слова «жоўць») да адкрыта непрымальных з абвінавачаньнем у русафобіі. Але гэта тычыцца іншых працаў Малія і Бэзансона. Кнігі, якія я назваў падсумаваньнем іх дасьледаваньняў і пра якія тут пойдзе гаворка, у Расеі пакуль не выходзілі.

### Самападман Захаду

Абодва гісторыкі лічаць, што гістарычна Расея Эўропай не была. Яна не адпавядае тром клясычным прыкметам: там не было сярэднявечнай царквы і імпэрыі, там не было фэадалізму і рыцарства, і там не было Адраджэньня і Рэфармацыі. Як вядома, у 1820-я гады паэт Пушкін казаў, што ў Расеі адзіны эўрапеец — гэта ўрад.

Нягледзячы на гэта Захад некалькі разоў улюбляўся ў Расею. Эўропай яе прызналі ў канцы XVIII стагодзьдзя за часы Кацярыны II, якая хітра стварыла сабе імідж разумнай і рацыянальнай кіраўніцы, што падтрымлівае навуку і асьвету (насамрэч — адзін-адзіны Маскоўскі ўнівэрсытэт). Пратэстуючы супраць «неразумнага» ўладкаваньня заходніх дзяржаваў паводле так званага Старога парадку, філёзафы-асьветнікі Вальтэр, Дыдро, Далямбэр і Блэкстан лічылі, што Расея нават лепшая за іншыя дзяржавы канты-

нэнту. Яны марылі пра Новы парадак у Эўропе і спадзяваліся, што Стары ім дапаможа разбурыць Расея. Хоць, насамрэч, імпэратрыца будавала ў Расеі якраз парадак Стары. Не падмануўся Кацярынай II толькі Русо, які сымпатызаваў Польшчы. Яго калегі спадзяваліся, што рэформы прынясе «разумны манарх», а палякі прапанавалі нешта нечуванае — Канстытуцыю 3 траўня, за што старыя рэжымы Польшчу і падзялілі. Кацярына II канчаткова прывучыла 100 тысяч сем'яў да эўрапейскага адзеньня, за што іх прызналі эўрапейскім дваранствам, а астатнія 40 мільёнаў расейцаў засталіся там, дзе былі — у Ардзе і рабстве. Пік гэтага захапленьня прыпаў на пачатак XIX стагодзьдзя, калі кіраваў Аляксандар I. Яго бюст стаяў нават за акіянам у кабінэце Джэфэрсана. Расчараваньне наступіла пасьля Венскага кангрэсу (калі Расея, каб атрымаць болей дывідэндаў, банальна хлусіла, што яе ўсходняя мяжа праходзіць па Ўрале) і пасьля задушэньня паўстаньня 1831 году ў Польшчы, Літве і Беларусі.

Другі раз заходнія інтэлектуалы падмануліся наконт Расеі ў 20-30-я гады XX стагодзьдзя, калі амаль спрэс сымпатызавалі бальшавікам. Зь белай эміграцыяй ніхто з «прагрэсіўных» заходніх інтэлектуалаў не хацеў нават знацца.

Трэці раз наконт Расеі на Захадзе падмануліся ў 90-я гады XX стагодзьдзя, пры Ельцыне і Пуціне. Пуцін у нашы дні гэтае захапленьне і пахаваў.

## Нямеччына і Расея — сёстры. Фашызм і камунізм — сіямскія блізьняты

Пасьля 1831 году заходнія інтэлектуалы зноў пачынаюць маляваць Расею чорнымі фарбамі. Асабліва вызначыліся ў гэтым Кюстын, Мішле, Уркхарт, Маркс. Але найболей зьнішчальна Расею тады прааналізаваў Гізо, які зноў вырашыў, што гэтая краіна Эўропе не належыць, бо ня мае сярэдняй клясы, канстытуцыйных свабодаў, а значыць — цывілізацыі. Гізо падтрымаў і расеец Пётар Чаадаеў.

У сярэдзіне XIX стагодзьдзя Эўропа падзялілася на дзьве часткі. З аднаго боку на больш лібэральныя Францыю і Ангельшчыну, зь іншага — на больш кансэрватыўныя Аўстрыю, Прусію і астатнія нямецкамоўныя дзяржаўныя ўтварэньні. Якраз у тыя часы нямецкія філёзафы-рамантыкі выпрацавалі канцэпцыю Sonderweg — «асаблівага шляху», каб кампэнсаваць сваё адставаньне ад больш «цывілізаваных» (у катэгорыях Гізо) Ангельшчыны і Францыі. Калі Расея душыла польскае паўстаньне 1831 году, у Ангельшчыне ішла рэформа выбарчай сыстэмы, а Францыя другі год жыла пасьля лібэральнай рэвалюцыі 1830 году.

Да другой паловы XIX стагодзьдзя расейская мова разьвілася настолькі, што зрабіла магчымым паўстаньне вялікай літаратуры і культуры. Расейскія паэты, пісьменьнікі, мастакі і кампазы-

тары ня толькі дасягнулі эўрапейскіх вышыняў, але і самі сталі прыкладам для эўрапейцаў.

Тым часам расейскія інтэлектуалы сярэдзіны XIX стагодзьдзя ўхапіліся за нямецкі «асаблівы шлях» з той самай мэтай — каб кампэнсаваць сваё спрадвечнае адставаньне ад Эўропы. Гэтак пачаўся новы этап збліжэньня расейскага і нямецкага сьветаў, якое было запачаткавана на глебе антыкаталіцтва яшчэ Пятром І. Гэтаму спрыялі і немцы, якія ў «расейскай душы» імкнуліся знайсьці зьмякчэньне для свайго рацыянальнага пазытывізму. Русафіламі былі Ніцшэ і Бісмарк. А Мёлер ван дэн Брук у сваім русафільскім традыцыяналізьме ледзьве ня стаў бацькам нацызму.

Але і Малія, і Бэзансон ня лічаць немцаў і расейцаў вінаватымі ў нараджэньні фашызму і камунізму, якія яны называюць сіямскімі блізьнятамі. Акцэптацыю гэтых ідэалёгіяў абедзьвюма краінамі яны лічаць выпадковасьцю гісторыі. За фашызм і камунізм яны лічаць адказнымі Францускую рэвалюцыю, якая нарадзіла нацыяналізм і сацыялізм. Тым ня менш, гэты працэс нямецка-расейскага збліжэньня шмат што тлумачыць нам і ў нашы дні.

А ў XIX стагодзьдзі эўрапейская літаратура Расеі прычынілася да нараджэньня інтэлігенцыі, якая, на падставе тэорыі «асаблівага шляху» вырашыла, што адставаньне Расеі — не недахоп, але здабытак, бо зьяўляецца лепшай глебай для

сацыялізму, які ўсё роўна чакае ўсю Эўропу. Так і пачалося...

У XX стагодзьдзі расейскі філёзаф Фёдар Сьцяпун пісаў пра тыпалягічнае падабенства Расеі і Нямеччыны, паказваючы тым самым, што і расейцы падсьвядома адчувалі да немцаў асаблівую блізкасьць.

## Загадкавая «руская душа»

І Малія, і Бэзансон думку пра існаваньне нейкай асаблівай і загадкавай «рускай душы» лічаць поўнай лухтой, мітам. Яны ўважаюць Расею звычайнай краінай, а расейцаў — звычайным народам. Іншымі словамі, Цютчаў памыляўся. Гісторыкі перакананыя, што толькі расісты або людзі, якія вераць у асаблівае прызначэньне асобных нацыяў, могуць адмаўляцца разглядаць шлях Расеі з дапамогай параўнаўчых мэтадаў. На іх думку, успрыманьне Расеі ў Эўропе (як яе найбліжэйшага суседа і кантакцёра) залежыць найперш ад эвалюцыі самой Эўропы.

Для ілюстрацыі падыходзіць прыклад усходніх эўрапейцаў, якія ведаюць Расею знутры. Яны ня маюць да Расеі нянавісьці, часта яны яе нават любяць, але яны ніколі ня згодзяцца з тымі, хто ім скажа, што Расея — гэта Эўропа. Бэзансон прыводзіць тут імёны Густава Хэрлінга-Грудзінскага, Чэслава Мілаша, Адама Чапскага і ангельскага пісьменьніка польскага паходжаньня Джозэфа Конрада.

## Адставаньне Расеі ад Захаду

На думку гісторыкаў, Расея стала ахвярай свайго геаграфічнага разьмяшчэньня — занадта далёка яна была ад цэнтраў цывілізацыі. Калі большасьць гісторыкаў схілялася да думкі, што Расея адставала ад Захаду прыблізна на 50 гадоў, дык Бэзансон паказвае, што сельская гаспадарка Расеі ў 1913 годзе дасягнула ўзроўню, на якім ангельская гаспадарка была ў часы вайны Чырвонай і Белай ружы (XV ст.), а ў некаторых духоўных аспэктах Расея адставала ад Захаду на тысячу гадоў. Таму ён робіць выснову, што Расея была Эўропе чужой не таму, што адставала ад яе, але таму што даганяла, і гэта ўплывала на яе разбуральна.

Даганяць даводзілася з дапамогай экстэнсіўных мэтадаў. У Эўропе чыноўнікі былі свабоднымі, у Расеі, пры Пятры І — рабамі. Бэзансон прыводзіць знакамітыя словы Ключэўскага аб тым, што Пётар хацеў, каб рабы заставаліся рабамі, але пры гэтым дзейнічалі свабодна. Памылкі Пятра І хацела паправіць Кацярына ІІ, збудаваўшы манархію эўрапейскага ўзору, але не пасьпела. Здарылася Французская рэвалюцыя, якая прымусіла Расею абараняцца пры дапамозе экстэнсіўных сродкаў. Русо, які тонка разумеў Расею, задоўга да 1789 году сказаў, што «Расея згніла, не пасьпеўшы сасьпець».

## Кампэнсацыя непаўнацэннасьці рэлігіяй

Гэта адно з разыходжаньняў паміж Малія і Бэзансонам. Бэзансон надае расейскаму рэлігійнаму пачуцьцю значна большае значэньне. На яго думку, гонка за Эўропай — адна з галоўных прычынаў няўдачы Расеі. З аднаго боку расейцы разумелі, што адстаюць і трэба даганяць. А з другога— яны ў межах імпэрыі гэтую Эўропу мелі самі — Прыбалтыку, Польшчу і Беларусь, якія стаялі на значна больш высокім узроўні культурнага і гаспадарчага разьвіцьця; што дапамагала расейцам саміх сябе лічыць Эўропай. Калі б яны своечасова здагадаліся адмовіцца ад захопленых імі кавалкаў эўрапейскай цывілізацыі, то гэта магло б даць ім шанец на пазытыўныя зьмены ўнутры сваёй краіны.

Тым ня менш, гэтага ня здарылася ў XIX стагодзьдзі, адставаньне працягвалася і патрабавала нейкай кампэнсацыі. Расейцы яе прыдумалі — не на справе, а на словах. Бэзансон сьцьвярджае, што расейская манія велічы ня мае сабе роўных і мае карэньні выключна ў асаблівасьцях рэлігійнага духу. Усе падарожнікі адзначалі панічны страх расейцаў перад лацінскім сьветам і каталіцкай культурай. Пётар I разбурыў гэты мур, гвалтам правёўшы «рэфармацыю» і «сэкулярызацыю» Праваслаўнай царквы, але ў XIX стагодзьдзі яна зноў аджыла і другі раз дапамагла расейцам (пасьля Філафея) кампэнсаваць ва ўласным уяўленьні сваё зусім ня ўяўнае адстава-

ньне. «Мы ня горшыя за эўрапейцаў, мы проста іншыя», або — у нас свой шлях, Sonderweg. І ня толькі іншыя. Паколькі Эўропа сама сябе спрэс крытыкуе ў сваіх артыкулах і кнігах, то мы нават лепшыя за яе, бо ў нас адзіная сапраўдная вера — праваслаўная. Бэзансон піша, што Гогаль і Дастаеўскі апраўдвалі ўсё расейскае мярзоцьце яго нацыянальным характарам. А раз нацыянальнае, значыць прасякнутае рэлігійным духам, што карысна ўдвая. Іншымі словамі, на Русі процьма грэшнікаў, але сама яна чыстая і бязгрэшная, як чыстая і бязгрэшная сама Царква.

Паводле Бэзансона, такое дзіўнае перапляценьне рэлігійнага і нацыянальнага пачаткаў (уласьцівае ў значна больш вытанчаных формах і ангельцам) зрабіла расейскі нацыяналізм адзіным нацыяналізмам, якім лёгка «заражаюцца» іншаземцы. Ён вельмі справядліва піша, што большасьць дасьледчыкаў, якія вывучаюць Расею, пранікаюцца расейскім духам. Мне таксама ўжо даводзілася пісаць, што супрацоўнікі шматлікіх катэдраў славістыкі па ўсім сьвеце зьяўляюцца сёньня добраахвотнымі адвакатамі Расеі перад сваімі ўрадамі і ва ўсіх палітычных ды інтэлектуальных спрэчках. А Бэзансон сьцьвярджае, што так было і раней, і прыводзіць прыклад харвацкага ксяндза Крыжаніча, які ў XVII ст. паехаў у Расею, каб навярнуць яе на каталіцтва. Яго арыштавалі і на 15 гадоў адправілі ў Сыбір, адкуль ён вярнуўся яшчэ больш закаханым у Расею.

Нават сёньня пераход расейца ў пратэстанцтва або каталіцтва шмат каму ўяўляецца самай сапраўднай здрадай. Салжаніцын пісаў, што Польшча была для расейцаў значна большай пагрозай, чым татара-манголы, бо магла прымусіць Расею зьмяніць веру.

Сёньня зноў назіраецца адраджэньне праваслаўнай царквы (ужо трэцяе), каб дапамагчы Расеі кампэнсаваць адчуваньне непаўнацэннасьці, выкліканае адставаньнем ад Эўропы. Сёньня зноў рэлігійнае атаясамліваецца з нацыянальным, а нацыянальнае з рэлігійным.

## Кампэнсацыя непаўнацэннасьці імпэрыяй

Імпэрскае пачуцьцё расейцаў зьяўляецца другім спосабам кампэнсацыі ўласнай непаўнацэннасьці.

На думку нашых гісторыкаў, расейцы так і не навучыліся выкарыстоўваць захопленую прастору з карысьцю для сябе, ня кажучы ўжо пра тое, каб нармальна яе засяліць. На думку Малія, роля велізарнай тэрыторыі Расеі зводзіцца выключна да таго, каб сілкаваць пыху расейцаў: «Мы займаем шостую частку сушы». У людзей узьнікае пачуцьцё, што гэты геаграфічны размах аказвае ўплыў на расейскую гісторыю, робіць яе больш велічнай і гераічнай. І яно ж зьяўляецца пажыўнай глебай для нараджэньня хімэраў «эўразійства».

Бэзансон, разважаючы пра імпэрскае пачуцьцё расейцаў, раз за разам вяртаецца да сваёй (і Малія) думкі, што валоданьне больш разьвітымі Прыбалтыкай, Польшчай і Беларусьсю замінала расейцам рэальна рухацца ў бок Эўропы. Да 60-х гадоў XIX стагодзьдзя патрэба ў палітычнай рэформе стала зусім відавочнай, але, каб яе правесьці, трэба было адпусьціць на волю Прыбалтыку і Польшчу. Мэханізм тут быў такі. Адмовіўшыся ад заходніх губэрняў, Расея траціла імпэрскае пачуцьцё, а кампэнсаваць гэтую страту магла б толькі лібэральная або нават дэмакратычная рэвалюцыя, якая магла прывесьці краіну да росквіту. Але гэта быў занадта балючы і доўгі шлях, на што расейская эліта згодная не была. Усе расейскія пісьменьнікі і гісторыкі (за выключэньнем Талстога і Чэхава) апраўдвалі ўладу Расеі над Польшчай, Украінай і Беларусьсю. Пушкін нават напісаў оду ў гонар здушэньня паўстаньня 1831 году.

У выніку Другой сусьветнай вайны Расея вярнула сабе былыя калёніі і нават пашырыла зону свайго ўплыву, і гэта тут жа паставіла яе перад старой дылемай, якая зноў асудзіла СССР на стагнацыю. Фраза маркіза дэ Кюстына пра «раба, які стаіць на каленях і марыць пра ўладу над цэлым сьветам» апісвае гэтую сытуацыю надзвычай дакладна.

## Кампэнсацыя непаўнацэннасьці хлусьнёй

Трэцім спосабам кампэнсаваць уласную непаўнацэннасьць — і пры гэтым самым простым і самым даступным — стала для расейцаў хлусьня, або адмаўленьне насуперак відавочным фактам нейкага адставаньня Расеі ад Захаду. Вядома, Малія тут жа агаворваецца, што гэтая выснова зусім ня сьведчыць пра нейкую прыродную схільнасьць рускіх людзей да хлусьні. Проста разрыў паміж марамі, ідэаламі і праектамі расейцаў — і рэальнасьцю заўсёды быў і застаецца такім вялікім, што лячыць раны, нанесеныя ўласнаму гонару, даводзіцца з дапамогай хлусьні.

Традыцыя хлусьні нарадзілася тады, калі і жаданьне дагнаць Захад — у XVIII стагодзьдзі. Адзін зь яркіх прыкладаў, заўважаны яшчэ Кюстынам, Марксам і Мішле, гэта зьява, калі пісаныя законы і правілы застаюцца дзеючымі толькі на паперы і не знаходзяць ніякага рэальнага ўвасабленьня ў рэальным жыцьці. «Закон что дышло: куда повернул — туда и вышло». А з гэтым суседнічаюць і цьверджаньні пра прагрэс і шлях наперад, якога ў сапраўднасьці няма. Няцяжка заўважыць, што гэта мае месца ня толькі ў Расеі, але і ў сучаснай Беларусі, што сьведчыць, наколькі глыбока яна русыфікаваная.

І Малія, і Бэзансон згодныя, што камунізм не выцякаў з нацыянальнай прыроды Расеі. Але Бэзансон трапна заўважае, што якраз камунізм валодае інфэрнальнай здольнасьцю неверагодна

абвастраць у нацыянальным характары і нацыянальных формах дзяржаўнага кіраваньня самыя горшыя рысы. Камунізм ня толькі затармазіў разьвіцьцё Расеі, ён зь неверагоднай хуткасьцю і сілай абвастрыў усё тое кепскае, што эўрапейцы заўважалі ў расейскім дзяржаўным уладкаваньні і ладзе жыцьця. Малія піша, што ніколі Расея не стаяла так блізка да Эўропы, як у 1913 годзе. Прайшло ўсяго пяць гадоў, і аказалася, што ніколі яна не была такою ад Эўропы далёкаю. На зьмену некалькім тысячам вязьняў прыйшлі мільёны, на зьмену некалькім тысячам супрацоўнікаў тайнай паліцыі — мільёны гэбістаў, на зьмену звычайнай хлусьні — хлусьня плянэтарнага, усяленскага маштабу, якая стварыла, фактычна, іншую рэальнасьць. Камунізм давёў да жахлівай мяжы ўсе рысы расейскага характару, як гэта сталася і ў Кітаі пры Мао Цзэдуне.

Усе доўгія 70 гадоў камуністычная ўлада СССР была апантаная імкненьнем «дагнаць і перагнаць» Захад. Справа скончылася тым, што яна пабудавала дзяржаву некапіталістычную і ультра-расейскую.

Але і пасьля распаду СССР аказалася, што хлусьня ў Расеі жывая і захоўвае свае старыя пазыцыі. Былыя камуністы-апаратчыкі і генэралы адміністрацыйнай эканомікі вокамгненна ператварыліся ў дэмакратаў-рыначнікаў, якія зь вялікім спрытам сталі выдаваць уласнае ўзбагачэньне за прыватызацыю, засваеньне крэдытаў МВФ і заходніх банкаў. Усё гэта, паводле Бэзан-

сона, сьведчыць, што яны па-ранейшаму дасканала валодаюць сваім старажытным рамяством і хлусяць іншаземцам так жа ўдала, як і раней.

## Які шлях Расея выбірае

І Малія, і Бэзансон згодныя, што Расея больш ніколі ня вернецца да камунізму. Але праблема палягае ў тым, што яна ад камунізму цалкам не ачысьцілася, не забыла яго і не пракляла. Помнікі Леніну на плошчах гарадоў і яго мумія ў цэнтры Масквы некранутыя. Камунізм успрымаецца ў Расеі ня як паталягічная, злачынная памылка, але як адзін з пэрыядаў расейскай гісторыі, у якім было і добрае, і дрэннае. Расея амніставала камунізм, а Захад, які ратыфікаваў гэтую амністыю і падзяліў з Расеяй яе бяспамяцтва, таксама нясе сёньня адказнасьць за тое, што адбываецца.

Абодва нашы гісторыкі згодныя ў тым, што існуе толькі адзін шлях, па якім Расеі варта было б ісьці — шлях эўрапеізацыі, рэфармаваньня на заходні лад. Аднак Бэзансон піша, што гэтая мэта ўяўляецца яму амаль недасяжнай. Ён піша, што калі багацьця Заходняй Нямеччыны не хапіла, каб дацягнуць да свайго ўзроўню Нямеччыну Ўсходнюю, дык усяго багацьця сьвету ня хопіць на тое, каб перамяніць Расею. У сваёй грунтоўнай акадэмічнай рэцэнзіі на кнігу Малія «Расея вачыма Захаду», якую я зрабіў адной з асноўных крыніц для напісаньня гэтага тэксту, Бэзансон несуцяшальна піша:

«Камунізм у Расеі панаваў так доўга таму, што ставіў сабе на службу некамуністычныя інтэлектуальныя сілы, самы абмежаваны нацыяналізм і самую фанатычную рэлігію. Гэты сплаў існуе дагэтуль, і тое, што сёньня называецца Камуністычнай партыяй, ёсьць ні што іншае, як бязладнае зьмяшэньне гэтых трох элемэнтаў. Занадта доўга трэба чакаць таго часу, калі Расея зробіцца краінай па-сапраўднаму эўрапейскай, а пакуль тое, ёй зноў можа захацецца выкарыстаць клясычныя спосабы кампэнсацыі “адставаньня” і зьвязанага зь ім адчуваньня непаўнацэннасьці. Некаторыя легкаверныя людзі сур’ёзна спадзяваліся, што ў Расеі вось-вось наступіць “хрысьціянскае адраджэньне”. Замест гэтага ў Расеі на нашых вачах выбудавалася царкоўная герархія значна больш прадажная, нецярпімая і сэктанцкая, чым расейская царква да 1917 году. Імпэрыя распалася, гэта вельмі добра для Расеі і можа прынесьці ёй вялікую карысьць. Аднак людзі, якія цяпер жывуць у Расеі, па-ранейшаму мараць пра ўваскрашэньне імпэрыі, і самыя спрытныя дыпляматы, гэтак жа, як і самыя вопытныя супрацоўнікі “органаў”, таемна рыхтуюць яе аднаўленьне. Існаваньне незалежнай Украіны здаецца большасьці расейцаў ненатуральным кашмарам, ад якога яны вось-вось прачнуцца. Нарэшце, гатовая ўступіць у свае правы і хлусьня...»*

* Ален Безансон. Россия — европейская страна? – http://www.strana-oz.ru/2004/5/rossiya----evropeyskaya-strana#s1

Гэта напісана больш за дзесяць гадоў таму. У нашы дні, у 2014 годзе, гэта ўсё ўжо здарылася і стала сумным пацьверджаньнем неверагодных, бліскучых аналітычных здольнасьцяў Алена Бэзансона і яго настаўніка — Марціна Малія.

Малія заклікаў Захад паважаць даўняе і ўпартае імкненьне Расеі зблізіцца з Эўропай, злучыцца зь ёй. Але Бэзансон кажа, што форма і роля расейкай дзяржавы, форма і сутнасьць расейскага рэлігійнага пачуцьця заўсёды заміналі Расеі дасягнуць гэтай мэты. Не гісторыкам вырашаць, належыць Расея да Эўропы або не (спрэчка пра гэта доўжыцца ўжо тры стагодзьдзі). Гэта павінна вырашыць сама Расея. Затое расейская гісторыя, піша Бэзансон, вучыць ня верыць ёй на слова, варта меркаваць толькі па справах.

*16 траўня 2014 году.*

# Як даўно Расея хлусіць

Пасьля анэксіі Расеяй украінскага паўвострава Крым сьвет быў уражаны ўпартай і нахабнай хлусьнёй расейскай прапаганды, якая не спыняецца і дагэтуль. Мне ўжо давялося пісаць пра тое, каму Расея хлусіць, і чаму яна хлусіць. Але маштабы расейскай прапаганды, яе ўменьне фальсыфікаваць факты і складаць праўду і ману ў выгодныя для сябе камбінацыі вымагаюць і трэцяга тэксту — пра тое, як даўно Расея хлусіць.

## Засьцярога

У камэнтарах і аналізах многіх назіральнікаў, асабліва ў суседніх з Расеяй краінах, часта можна сустрэць паблажлівае і нават пагардлівае стаўленьне да расейцаў як да «крохкай імпэрыі перад сконам», «калоса на гліняных нагах», «азіятаў», «сьпітага і дэградаванага народу», які ня можа выставіць дастатковае колькасьці баяздольнага войска і г. д. Гэта вялікая памылка. Насамрэч расейцы ў сілу пэўных асаблівасьцяў сваёй гісторыі і сфармаванага пад яе ўплывам мэнталітэту зьяўляюцца вельмі моцным, рашучым і сьмелым народам. Іх гісторыя паказала, што яны нашмат больш за ўсе суседнія народы здольныя да дзяржаўнага існаваньня, яны стварылі вялікую

імпэрыю, моцныя армію і флёт, захапілі вялізныя тэрыторыі і заўсёды былі гатовыя ахвяраваць для гэтага асабістымі свабодамі і асабістым жыцьцём. Гэта праўда, што ў сілу цалкам так і не засвоенага за стагодзьдзі хрысьціянства расейцы да нашых дзён не пакаяліся за злачынствы імпэрыі, за шавінізм і за камунізм. Але важна разумець, што імпэрскасьць і шматэтнічнасьць у нашы дні зьяўляюцца ня толькі прыкметай слабасьці, але і крыніцай вялікай унутранай сілы расейскай нацыі і яе ўстойлівасьці. Працэс асыміляцыі працягваецца і ў нашы дні, расейцы ўсмоктваюць у сябе актыўныя гены падбітых народаў. Гэтым яны сапраўды моцна адрозьніваюцца ад усіх сваіх заходніх суседзяў, у тым ліку і ад беларусаў.

Нехта называе гісторыю настаўніцай жыцьця, нехта кажа, што яна зусім нічому ня вучыць. Але ў кожным выпадку, гісторыя сьведчыць, што ўсё, што адбываецца цяпер, ужо было і раней. Як пра гэта пісаў яшчэ Эклезіяст.

Мы, напрыклад, зьдзіўляемся, як рашуча і жорстка расейцы правялі эвакуацыю падчас дзьвюх Сусьветных войнаў у XX стагодзьдзі (вываз сотняў тысяч людзей, цэлых заводаў, культурных каштоўнасьцяў), або як яны вывезьлі зь Нямеччыны цэлыя заводы ў 1945 годзе і як цяпер вывозяць з усходу Украіны высокадакладнае абсталяваньне вайсковых заводаў. І забываемся, што так расейцы рабілі заўсёды. Ужо ў XVI стагодзьдзі пры наступленьні ліцьвінскіх войскаў

(напрыклад, падчас паходу на Вялікія Лукі ў 1580 годзе) расейцы выводзілі нават сельскае насельніцтва ўглыб краіны разам з усім каштоўным, што на тых абшарах было. І ўжо ў XVII стагодзьдзі пры сваіх захопніцкіх паходах у Літву-Беларусь расейцы ня толькі рабавалі і забівалі, але і вельмі акуратна і пэдантычна вывозілі да сябе абсталяваньне, майстроў і тэхналёгіі.

Так што сапраўды няма нічога новага: «Што было, тое і цяпер ёсьць, а што будзе, тое ўжо было». Так і з расейскай хлусьнёй.

## Даўнія часы

Традыцыя расейскай хлусьні сягае ў глыбіні стагодзьдзяў. Каб ня лезьці ў зусім ужо сівую даўніну, пачну з часоў цара Івана IV Жахлівага.

У часы Інфлянцкай вайны 1558–82 гадоў гэты расейскі манарх вельмі ўдала прымяняў хлусьню, калі цярпеў паразы пад ударамі нашага караля і вялікага князя Стафана Баторыя. У 1580 годзе падчас паходу Баторыя на Вялікія Лукі цар выкарыстоўваў спэцыяльна падрыхтаваных лазутчыкаў, якія «траплялі» ў літоўскі палон і там на допытах расказвалі пра незьлічонае войска хрышчонага татарскага царэвіча Сімяона Бекбулатавіча, якое нібыта ідзе на дапамогу Івану Жахліваму.

А ў 1581 годзе падчас Пскоўскага паходу Баторыя маскоўскі цар абяцаў папу рымскаму Рыгору XIII прызнаць Флярэнцкую Унію 1439 году і

злучыць цэрквы, а ўзамен прасіў паспрыяць міру з ВКЛ. Папа паверыў абяцаньням і паслаў езуіта Антонія Пасэвіна пасярэднічаць у перамовах. Гэта была хітрасьць, бо Уніі Масква не прыняла, а мір у студзені 1582 году быў такі заключаны і на даволі выгадных для Масквы ўмовах.

## XVIII стагодзьдзе

Падчас беларуска-маскоўскай вайны сярэдзіны XVII стагодзьдзя жыхары захопленага расейцамі Магілёва ў 1661 годзе паўсталі супраць акупантаў, цалкам выразалі расейскі гарнізон колькасьцю дзьве тысячы чалавек і вярнулі свой горад у склад Вялікага Княства Літоўскага. Маскоўцы ніколі пра гэта не забывалі і марылі пра адплату 47 гадоў. Нарэшце падчас Паўночнай вайны расейскія войскі ў 1708 годзе занялі Магілёў. На досьвітку 8 верасьня 1708 году ў горад з розных бакоў на загад Пятра I увайшлі аддзелы калмыкаў, татараў і маскоўцаў. Іх задачай было поўнае зруйнаваньне Магілёва. Пачаліся падпалы і парахавыя выбухі. Да канца дня справа была скончана. Самы вялікі, багаты і прыгожы пасьля Вільні мураваны беларускі горад, славянская Вэнэцыя, гандлёвы канкурэнт Данцыга, Рыгі, Вільні і Масквы быў ператвораны ў попел і руіны і ніколі ўжо ня здолеў аднавіцца ў тым выглядзе — далей яму была наканаваная роля занядбанага правінцыйнага места Рэчы Паспалітае і шараговага губэрнскага цэнтру Расейскай імпэрыі.

Менш чым праз два месяцы пасьля апісаных падзеяў, 6 лістапада 1708 году, Пётар I выдаў «Указ всему малороссийскому народу», у якім абвінавацію у разбурэньні Магілёва... швэдаў. Пры гэтым загад аб зруйнаваньні Магілёва Пётар I аддаў генэралу Радыёну Боўру праз свайго ад'ютанта Фёдара Барценева вусна, а абвінавацію швэдаў у разбурэньні сталіцы беларускага праваслаўя пісьмова, ва ўказе... З таго часу і да нашых дзён гісторыкі раз за разам паўтараюць вэрсію Пятра I аб гібелі славянскай Вэнэцыі. Добра, што ў беларускай гістарыяграфіі знайшоўся гісторык (А. Катлярчук), які апісаў гэтую падзею праўдзіва.

I, вядома, ніхто ўжо ніколі дакладна не разьбярэцца, наколькі моцна была сфальсыфікаваная гісторыя Расеі і суседніх краінаў у часы цараваньня Кацярыны II. Гэтая імпэратрыца ў 1783 годзе сваім указам стварыла «Комиссию для составления записок о древней истории, преимущественно России». Менавіта ў гады працы гэтай камісіі былі дзіўным чынам знойдзеныя дзясяткі раней нікому не вядомых дакумэнтаў і летапісаў, накшталт Кіеўскага ці Валынскага, або помнікаў літаратуры, такіх як «Слова пра паход Ігаравы». Усе яны, зразумела, дайшлі да нас толькі ў копіях, бо арыгіналы, нібыта, бязь сьледу зьніклі ці згарэлі ў пажарах, як тое ж «Слова...»

## XIX стагодзьдзе

Адразу пасьля ўваходу французаў у Маскву ў верасьні 1812 году ў горадзе пачаўся магутны пажар, які бушаваў чатыры дні. Тры чвэрці гораду згарэлі дашчэнту. У агні ледзь не загінуў сам імпэратар Напалеон, які са сьвітай быў вымушаны ратавацца з Крамля праз палаючы горад пехатою. Факт падпалу гораду расейцамі адразу быў даказаны і, здаецца, не падлягае сумненьню. Французы стварылі камісію, судзілі і расстралялі сотні падпальшчыкаў.

Напярэдадні расейцы вывелі з Масквы ўсё насельніцтва, а таксама ўсе пажарныя часткі і вадзяныя помпы, так што пажар не было як і не было каму тушыць — французы прыйшлі ў цалкам пусты горад. У шматлікіх выпадках былі знойдзеныя спэцыяльныя ёмістасьці з падпальнай вадкасьцю, якія вырабіў запрошаны за тры месяцы да гэтага ў Маскву ангельскі інжынэр Шміт. Засталіся і пісьмовыя данясеньні расейскіх афіцэраў паліцыі аб выкананьні заданьняў па падпале гораду. Урэшце, падпал гораду быў страшэнна нявыгадны французам, якія зьбіраліся ў Маскве зімаваць, а Напалеон зьбіраўся папросту завалодаць усім багацьцем расейскай сталіцы. У лісьце да жонкі ён з захапленьнем і роспаччу пісаў: «Я ня меў паняцьця аб гэтым горадзе. У ім было пяцьсот такіх палацаў як Элізэйскі, мэбляваных на францускі манер зь неверагоднай раскошай, некалькі імпэратарскіх палацаў, казармы,

цудоўныя шпіталі. Усё гэта зьнікла, агонь зьядае ўсё гэта вось ужо чатыры дні...»

Тым ня менш, адразу пасьля вайны ў падпале гораду пачалі вінаваціць... французаў. Асабліва стараўся маскоўскі губэрнатар Растапчын, які і аддаваў непасрэдны загад аб падпале. Сур'ёзныя гісторыкі ва ўсім сьвеце, у тым ліку і расейскія, заўсёды прызнавалі і прызнаюць факт падпалу гораду расейцамі. Тым ня менш, у 1920–30-я гады, пры раньніх саветах, падпал Масквы пачалі лічыць нечуваным актам расейскага патрыятызму, а ў 1950–70 гады стараньнямі гісторыкаў Палосіна, Бяскроўнага, Гарніча, Нечкінай і Жыліна канчаткова сфармавалася вэрсія аб каварным падпале Масквы французамі.

Другі храналягічна блізкі факт беспардоннай расейскай хлусьні адносіцца да 1814–15 гадоў, калі пасьля паразы Напалеона дзяржавы-пераможцы на Венскім кангрэсе дзялілі тэрыторыі і зоны ўплыву ў Эўропе. Тады Расея, каб атрымаць чым болей эўрапейскай зямлі, нахабна хлусіла, што яе ўсходняя мяжа пралягае па Ўральскім горным хрыбце. Рэальны стан рэчаў ведалі ўсе ўдзельнікі кангрэсу і падчас такіх сьцьвярджэньняў сарамліва адводзілі вочы ўбок. Не адводзілі вачэй толькі члены расейскай дэлегацыі на чале з Аляксандрам I. Зрэшты тады хлусьня не дапамагла: расейцам пакінулі толькі траціну Польшчы.

## XX стагодзьдзе

Як пісаў амэрыканскі гісторык Марцін Малія, камунізм неверагодным чынам абвастрыў і ўзмацніў ўсе расейскія хваробы і нечувана павялічыў іх маштабы. Ня стала выключэньнем і расейская хлусьня. Тут бальшавікі дасягнулі сапраўдных вышыняў, якія, здаецца, ніхто ў сьвеце ўжо ня здолее перасягнуць.

Пачалося ўсё ў Грамадзянскую вайну, калі зьверствы ВЧК на поўдні краіны перакладваліся на белых. Справа пайшла так удала, што да 1922 году было вырашана ўпарадкаваць працэс. Намесьнік старшыні ЧК-ГПУ Іосіф Уншліхт прапанаваў кіраўніцтву краіны стварыць адмысловы орган для фабрыкацыі і распаўсюджваньня дэзінфармацыі. 11 студзеня 1923 году пастановай Палітбюро ЦК РКП(б) было створана спэцыяльнае міжведамаснае Бюро дэзінфармацыі, так званае Дэзінфбюро, з дэлегаваньнем у яго склад прадстаўнікоў ГПУ, ЦК РКП(б), Народнага камісарыяту замежных справаў, Рэвваенсавету і Выведнай управы Штабу РККА. Так савецкая Расея пачала падманваць замежныя краіны і свой уласны народ, і так пачаўся савецкі этап гісторыі таго, што мы цяпер назіраем вакол Украіны. У пазьнейшыя гады органы савецкай цэзуры і дэзінфармацыі ня раз рэфармаваліся і зьмянялі ведамасны статус. З канца 30-х гадоў пры СНК СССР і саюзных рэспублік існавалі асобныя аддзелы вайсковай цэнзуры і Галоўліты, але

ўзначальвалі іх, як правіла, тыя самыя асобы — афіцэры НКВД.

Асаблівае запатрабаваньне набыла савецкая дэзінфармацыя (чытай — хлусьня) у гады Другой сусьветнай вайны і пасьля яе. У часе вайны савецкія дэзінфарматары будавалі з фанэры цэлыя населеныя пункты, вайсковыя часткі і аэрадромы з сотнямі танкаў і самалётаў, каб падмануць праціўніка. Разбурэньні савецкіх гарадоў у выніку авіяцыйных бамбардаваньняў, зьнішчэньне партызанамі школаў і мірнага вясковага насельніцтва беспардонна прыпісвалася немцам. Сотні і сотні цэнзараў днём і ноччу чыталі лісты з фронту і канфіскоўвалі тыя зь іх, якія маглі пасеяць паніку ў тыле.

Асабліва трагічны лёс чакаў гістарычныя цэнтры Кіева і Менску. На шосты дзень пасьля ўваходу і раскватараваньня ў Кіеве немцаў, 24 верасьня 1941 году на Крашчаціку з інтэрвалам у 20–30 хвілін пачаліся магутныя выбухі, якія працягваліся тры дні. У падвалах дамоў былі закладзеныя бомбы з гадзіньнікавым мэханізмам. Увесь гістарычны цэнтар гораду быў зьнішчаны. Такім салютам НКВД сустрэла немцаў у сталіцы Ўкраіны. У сталіцы БССР Менску на такое мінаваньне часу не было, таму горад пры адыходзе проста падпалілі, а падчас акупацыі, асабліва перад вызваленьнем, жорстка бамбілі. Пасьля вайны, як і належала чакаць, усю віну за разбурэньне Кіева і Менску ўсклалі на немцаў. Вось цытата са зводак «Совинформбюро» за 1944 год:

«Наша авіяцыя ў ноч на 28 чэрвеня нанесла моцныя ўдары па чыгуначных вузлах Баранавічы, Лунінец, Мінск, Полацк і чыгуначнай станцыі Барысаў... Пажары наглядаліся экіпажамі пры адыходзе ад цэлі з адлегласьці 150 кілямэтраў...» Цяжка ўявіць, каб некалькі дзясяткаў запаленых вагонаў гарэлі так, каб іх было відаць за 150 кілямэтраў, дый нямецкія зэнітчыкі не дазвалялі савецкім лётчыкам апускацца занадта нізка, каб цаляць трапна — зразумела, што бомбы скідалі зь вялікай вышыні і што гарэлі самі гарады, а ня толькі і ня столькі асобныя вакзалы і эшалёны на іх. Пасьля вызваленьня газэты цынічна пісалі: «Немецко-фашистские захватчики причинили большие разрушения этому городу-красавцу, уничтожили его достопримечательности...»

Разгул расейскай маны і фальсыфікацыі зазнала у 1940–50-я гады Заходняя Ўкраіна. Агенты савецкіх спэцслужбаў апраналіся ў форму Ўкраінскай паўстанцкай арміі і чынілі злачынствы супраць мірнага насельніцтва, каб скампрамэтаваць Сьцяпана Бандэру і яго прыхільнікаў. Мэтад просты і дзейсны, таму, відаць, занесены ў мэтадычныя дапаможнікі. Сёньня мы зноў чуем, што данецкія бандыты рабуюць украінскія сёлы ў форме байцоў батальёну «Азоў». У чэрвені 2001 году Папа Рымскі Ян Павел II бэатыфікаваў у Львове 28 сьвятароў і вернікаў Украінскай Грэка-Каталіцкай царквы. Некаторыя зь іх у часы ліквідацыі Уніі ў 1946 годзе былі зажыва звараныя энкавэдыстамі ў гіганцкіх катлах. У той самы час

савецкія газэты пісалі, што бандэраўцы вараць у катлах чырвонаармейцаў.

Пасьля вайны фальсыфікаваліся дакумэнты, кінастужкі і фотаздымкі, датычныя вайны, разбурэньняў, асобных бітваў, колькасьці стратаў, маштабаў супрацоўніцтва з нацыстамі. І былі яшчэ доўгія дзесяцігодзьдзі рознай хлусьні ў маштабах, якія зь цяжкасьцю паддаюцца асэнсаваньню. Прычым, фальсыфікацыя і хлусьня былі павернутыя ва ўсе гістарычныя бакі — і ў будучыню, і ў мінуласьць.

Ад 1938 да 1960 году ўсе архівы на тэрыторыі СССР знаходзіліся ў сістэме... НКВД. Гэта азначае ня толькі тое, што імі кіравалі людзі ў пагонах — гэта азначае, што яны там гаспадарылі. Цяжка сабе ўявіць, якія непапраўныя страты панесла гістарычная праўда ад тога гаспадараньня. У архівах праводзіліся бясконцыя інвэнтарызацыі, сыстэматызацыі і ацэнкі-экспэртызы гістарычнай каштоўнасьці тых або іншых дакумэнтаў. Я сустракаўся з выпадкамі, калі зь дзевяці вопісаў каштоўнага фонду пасьля такой «ацэнкі» заставалася тры... Тыповая фармулёўка прычыны ліквідацыі дакумэнтаў: «в связи с утратой исторической ценности». Вось чаму наш выдатны архівіст Віталь Скалабан аднойчы сказаў мне, што «нішто так ня хлусіць, як архіўны дакумэнт», і вось чаму па многіх пытаньнях мы так ніколі ўжо і не даведаемся гістарычнай праўды...

Уся гэтая хлусьня і фальсыфікацыя патрабавала адмысловых спэцыялістаў, выкладчыкаў,

падручнікаў і мэтадычных дапаможнікаў. Сыстэма ў нетрах савецкага КГБ была адладжаная дасканала і, як аказалася, нікуды ня зьнікла. Інакш усё тое, што цяпер гучыць і паказваецца ў эфіры расейскіх тэлеканалаў, нельга было б ніяк патлумачыць. Я сам працую ў журналістцы больш за 20 гадоў і вымушаны прызнаць, што каб мне загадалі так перакруціць факты і скамбінаваць хоць адзін рэпартаж пра Ўкраіну, якія цяпер сотнямі выходзяць у эфір, я б ня змог. Для гэтага патрэбная адпаведная падрыхтоўка, і, відаць, адпаведны талент.

Ёсьць грошы і на прамоцыю хлусьні па ўсім сьвеце. Пад артыкулам пра расейскую акупацыю Крыму ці ўварваньне ва Ўкраіну на сайце «New York Times» ці іншай амэрыканскай газэты імгненна зьяўляюцца камэнтары, якія агрэсіўна абяляюць дзеяньні Пуціна і паўтараюць афіцыйную расейскую вэрсію падзеяў. Тэлеканал Russia Today, які зьмяніў сваю назву на бяскрыўдны скарот RT, па колькасьці фальсыфікацыяў і хлусьні хутка перасягнуў нават савецкую прапаганду. Арганізаваны тролінг у Інтэрнэце не паддаецца вымярэньню.

Пры гэтым трэба памятаць, што хлусіць крамлёўская прапаганда ўсяму сьвету, але найперш — уласнаму народу. Рабіць гэта яе прымушае патрэба псыхалягічнай кампэнсацыі за пакутлівае і прыніжальнае адставаньне Расеі ад Захаду. Расея дзіўным чынам ненавідзіць Захад і аднача-

сова пераймае ўсё ягоныя дасягненьні, толькі са спазьненьнем...

Даўняя і трывалая традыцыя хлусьні і фальсыфікацыі побач з актыўнай згодай большасьці народу яе слухаць і ёй верыць зьяўляюцца для Расеі невычэрпнай крыніцай сілы ў тых канфліктах, якія яна спараджае — у тым ліку і ва ўкраінскім. Напор нашчадкаў бальшавіцкага Дэзінфбюро ў нашы дні такі моцны і такі таленавіты, што вагаецца і сумняваецца нават сусьветная грамадзкая думка.

Калі і як гэта скончыцца — немаведама. Зрэшты, калі зноў успомніць мудрага Эклезіяста, «хто капае яму, той упадзе ў яе... а хто разьбівае камяні, будзе скалечаны імі...»

*8 верасьня 2014 году.*

# Расея ў нашых душах

Люблю езьдзіць цягніком. Можна шмат цікавых людзей сустрэць.

Гэтым разам трапіўся мне па дарозе зь Менску ў Прагу 50-гадовы кіроўца-дальнабойшчык з Баранавічаў, які з-за адсутнасьці турэцкай візы быў вымушаны пакінуць машыну ў Грэцыі і вяртацца адтуль на «перакладных» — праз Баўгарыю, Украіну і Расею. Перагон Менск-Баранавічы быў апошнім адрэзкам ягонага колькідзённага падарожжа.

Разгаварыліся. Я перайшоў на расейскую, каб не адпуджваць і не бянтэжыць суразмоўцу. Чалавек радаваўся, што хутка прыедзе дадому, быў у гуморы, шмат расказваў розных гісторыяў са сваіх падарожжаў. За час сваёй працы — з 1988 году — ён аб'езьдзіў усю Эўропу, Расею ўключна з Сыбірам, пабываў нават у Іране і іншых азіяцкіх краінах.

Зайшла мова і пра стаўленьне замежнікаў да «нашых». І вось гляджу, чалавек кажа, што да «нас, рускіх» лепш за ўсё ў Эўропе ставяцца фіны, а астатнія народы заходняй часткі кантынэнту «намі» пагарджаюць і на «рускіх» проста нажываюцца.

Пытаюся ў яго, дзе ён пасьля таго, як аб'езьдзіў столькі краінаў, хацеў бы жыць. Адказвае, у Расеі.

Пытаюся, чаму? Адказвае: «Не знаю, возможно потому, что она большая». І дадае: «И вообще, там проще. Дашь полицейскому 50 рублей і едь куда хочешь, никто тебя не трогает, а в Европе — законы, штрафы, санкции, запреты...» А пасьля пачынае захапляцца: «Я вот недавно в Тюмени был, знаете, какие там дома? Лучше, чем в Москве, такая красота! Так красиво всё строится...»

Тут я пачынаю яму казаць, што ня ўсё ў Расеі так добра, што краіна сядзіць на нафта-газавай ігле і зусім не рэфармуе эканоміку, што ў сьвеце памалу пачынаецца сланцавая рэвалюцыя і праз 15–20 гадоў з-за падзеньня коштаў на вуглевадароды Расея можа збанкрутаваць, як гэта адбылося з СССР у 80-я гады. І тут мой суразмоўца вельмі ўпэўнена і нават высакамерна кажа:

«Ничего такого не случится, как была Россия так и будет. Веками Россия была самой сильной и самой богатой, и только у неё были золотыя купола, и все на неё ходили воевать, а она ни на кого не нападала... Ничего и сейчас не случится. Всё будет хорошо».

Давялося мне прызнацца ў сваёй гістарычнай адукацыі, расказаць пра расейскія войны XV–XVII стагодзьдзяў, пра захоп Полацку, пра Патоп, заваяваньне Сыбіру, падзелы Польшчы... У адказ я пачуў: «Ну да, знаю, слышал... Ну что ж, все воюют...»

Я таксама параіў яму, калі ён будзе наступны раз у Баварыі, зьвярнуць увагу на старадаўнія каталіцкія храмы ў тамтэйшых мястэчках і вёс-

ках — там восем зь дзесяці касьцёлаў на вежах маюць зусім праваслаўныя купалы, і дадаў, што гэта ўнівэрсальная хрысьціянская традыцыя. Але баранавіцкі расеец тут жа ўсумніўся: «Это они у России взяли...»

У адказ на гэта я сказаў, што добра яму адчуваць сябе расейцам, маўляў, да моцнай краіны належыць, а вось я і мае сваякі лічым сябе беларусамі і паміж сабой размаўляем па-беларуску. Тады кіроўца сказаў клясычнае «Нет, ну я тоже белорус». І далей пачаў апраўдвацца: «Просто понимаете, там, за границей, для них мы все — и украинцы, и азербайджанцы, и белорусы — все русские...»

Я кажу, што вось едзеце дадому, ня скончыўшы рэйсу з-за праблемаў зь візай, і ня думаеце, што візаў магло б зусім ня быць, каб Менск праводзіў іншую палітыку. А ён у адказ: «А мне с визами ещё лучше. Я из-за визы отпуск имею каждый год летом. Так подгадал, что моя годовая всегда летом заканчивается. Пока делаю новую, месяц отдыхаю».

А я гну сваё. Расказваю пра знаёмага бізнэсмэна з Масквы, які адчыніў у Цьвярской вобласьці паляўнічую гаспадарку і дзівіцца-жахаецца станам навакольных вёсак — ні дарог, ні газу, ні мастоў праз рэчкі, зямля закіданая, ніхто яе не абрабляе, п’юць. А ў нас, кажу, паглядзіце, Карэліцкі раён, напрыклад (а маці баранавіцкага патрыёта Расеі і мой бацька — якраз з Карэліччыны). У вясковых хатах — шклопакеты, асфальт

на дарогах, вада і газ у дамах, мой стрыечны брат саўну маці у былой каморы збудаваў — ня горш за люксавае жытло ў Менску выглядае. Кажу, маўляў, яшчэ ў савецкі час нашы вобласьці выраблялі мяса на душу насельніцтва болей, чым ЗША — там было 120 кіляграмаў на чалавека, а ў нас было па 130–140 і болей. Кіроўца згаджаецца, пачынае расказваць, што яшчэ ў савецкі час вазіў у Нямеччыну кішкі зь беларускіх фэрмаў — бо самім зашмат было. І, бачу, гаворыць пра гэта з гонарам.

Значыць, троху прабівае. Але не да канца. Усё роўна глядзіць і думае толькі пра Расею. Добра там, камфортна і прыгожа. Яго дачка скончыла ВНУ ў Санкт-Пецярбургу і там засталася. Сам бадзяецца па сьвеце, скардзіцца, што зарабляе ўсё менш і менш, мучыцца ад штрафаў, якія яму ўсё часьцей даюць у Аўстрыі ці ў Францыі.

Расея — яго культурны ўзровень, яго прыроджанае (як родавая траўма) культурнае асяродзьдзе і культурная глеба. Часткаю гэтай культуры, як вядома, зьяўляецца традыцыйнае невыкананьне законаў. Таму баранавіцкаму кіроўцу ў Эўропе дрэнна, а ў Расеі — не. І гэтая самая родавая траўма, дарэчы, зьяўляецца прычынай усяго, што цяпер робіцца ў Беларусі, дзе ўлада і чыноўнікі толькі гуляюць у законы, а не выконваюць іх. Палітыка выходзіць з нашай культуры, а не наадварот.

У патрыёце Расеі з Баранавіч я бачу чарговае пацьверджаньне думкі, што ўсьлед за расейскімі

мовай і царквой у галовы беларусаў прыходзіць мінімальны набор кічавых расейскіх нацыянальных мітаў, якія дазваляюць гэтым людзям вельмі камфортна чуцца і нават ганарыцца сваёй «вялікай Расеяй». Гэта — былыя беларусы, а цяпер — расейцы. І наўрад ці некаму ўдасца стварыць для іх беларускую культуру на расейскай мове і вытварыць у іх нейкую расейскамоўную беларускую тоеснасьць зь беларускім расейскамоўным дзяржаўным патрыятызмам. Такі патрыятызм — не канкурэнт расейскаму, у іх розныя вагавыя катэгорыі, і таму першы непазьбежна прайграе другому.

Надзею магла б даць поўная інфармацыйная свабода і свабодная прапаганда беларускай гісторыі і культуры, падтрыманая дзяржавай. У цяперашніх умовах гэта гучыць амаль утапічна. Але небезнадзейна. Беларусы — гнуткі, плястычны і кан'юнктурны народ, да гэтага нас прывучылі вякі чужога панаваньня. І мову сваю мы любім па-беларуску — сьціпла, някідка і без празьмерных дэманстрацыяў. Я вось схадзіў у Менску ў некалькі тэатраў, у тым ліку ў расейскі. У залі і фае я падкрэсьлена (больш чым звычайна трэба) размаўляў па-беларуску: «Выбачайце, калі ласка. Дазвольце прайсьці», «Авой, прабачце, не заўважыў...» і так далей. І кожны раз мне адказвалі па-беларуску. Некаторыя проста і натуральна, а іншыя старанна-няўмела, але падкрэсьлена. І прыязна пры гэтым ўсьміхаліся...

Таму, слухаючы размовы расейскага патрыёта з Баранавіч, я думаў пра два ўспаміны, якія прыгадаліся мне ў гэты побыт у родным горадзе.

Адзін успамін належыць віленскаму беларусу Вітаўту Тумашу, які разам зь іншымі суродзічамі прыехаў у 1941 годзе ў толькі што акупаваны немцамі Менск. На пытаньне па-беларуску, як прайсьці на тую ці іншую вуліцу, менчукі палохаліся, бянтэжыліся і кідаліся ўцякаць ад беларускамоўнага як ад пракажонага або нямелі і нічога ўцямнага не адказвалі. Так моцна трываў у іх жывёльны страх перад беларускім словам, выкліканы пагромам беларушчыны ў 30-я гады. Людзі натуральным чынам баяліся аказацца нават знаёмцам нейкага беларускамоўнага чалавека.

Другі ўспамін належыць Валянціне Саўчук, украінцы з паходжаньня, якая ў сакавіку 1945 году маладой дзяўчынай разам з маці прыехала ў Менск і ўпершыню пачула, як яна казала, «мэлядычную, лірычную і мяккую» беларускую мову — на ёй гаварылі на вуліцах (і адказвалі прыежджым). А прайшло толькі тры гады акупацыі, падчас якой беларуская мова была вернутая ў грамадзкі ўжытак, у сфэру адукацыі і культуры. Усяго тры гады.

А што было б без акупацыяў? У сэнсе, што яшчэ будзе...

*26 красавіка 2013 году.*

# «Русские идут»

На дзень Перамогі 9 траўня ў Маскве адбылася падзея, якую ў параўнаньні з вайсковым парадам і іншымі сьвяточнымі мерапрыемствамі ў Расеі можна назваць малапрыкметнай. Але наступствы гэтай падзеі могуць быць (і хутчэй за ўсё будуць) вельмі і вельмі нават прыкметныя.

У той дзень у памяшканьні Дзяржаўнага Гістарычнага музэю адбылася прэзэнтацыя новага тэлевізійнага каналу «История».

У афіцыйных паведамленьнях з нагоды запуску тэлеканалу сказана, што гэта дзясяты лічбавы канал ВГТРК і трэці ў так званай пазнавальнай лінейцы, што ён будзе даступны гледачам Расеі і краін СНД, што ў дзень запуску яго аўдыторыя складала 5 мільёнаў чалавек і што ўжо цяпер вядуцца перамовы з найбуйнейшымі апэратарамі кабэльнага тэлебачаньня на тэрыторыі СНД аб уключэньні новага каналу ў іх пакеты. Зразумела, будуць яго свабодна прымаць і ўсе тыя, хто мае «перашытыя» прымачы спадарожнікавага тэлебачаньня.

На самой прэзэнтацыі гаварылася, што падобныя тэлеканалы ёсьць у Францыі, Нямеччыне, Ангельшчыне і што тыя каналы глядзяць на гісторыю францускімі, нямецкімі і ангельскімі вачыма. І вось новы канал, маўляў, пакліканы

прадставіць расейскі погляд на гісторыю. Калі я ў рэпартажы пра прэзэнтацыю пачуў пра гэты вось «расейскі погляд», то першыя думкі-словы, што прыйшлі ў галаву ў той момант: «Бедная Беларусь і бедныя беларусы...»

Так мне падумалася таму, што наша краіна і наш народ, здаецца, сёньня найбольш безабаронныя перад тым, што можна назваць гістарычнай і гістарыяграфічнай экспансіяй Расеі, бо сярод усіх суседзяў Расеі мы найбольш русыфікаваныя. А Крэмль тым часам, як і РПЦ, для пашырэньня так званага «русского мира» грошай і высілкаў не шкадуюць.

На першы погляд сярод прэм'ераў новага каналу называюцца бяскрыўдныя пазнавальныя праграмы пра расейскую і сусьветную гісторыю (суадносіны эфіру 70% на 30%). Але вось нова-прызначаны галоўны рэдактар каналу «История» Аляксей Дзянісаў на прэзэнтацыі заявіў: мы будзем вяшчаць аб тым, што нам баліць. А пра тое, што баліць гэтаму чалавеку, можа даведацца кожны, калі пашукае інфармацыю пра яго ў Google. Мне такі пошук не спатрэбіўся, бо я і так добра памятаю шавіністычны і ксэнафобскі цыкль перадач «Русскій Міръ», аўтарам якога разам з Барысом Кастэнкам у пачатку 90-х гадоў быў Аляксей Дзянісаў. Тады супраць гэтага праекту ОРТ пратэставала ці ня ўся прагрэсіўная і дэмакратычная маскоўская эліта. І ён урэшце быў зачынены.

Калісьці заснавальнік СССР назваў кіно «найважнейшым з мастацтваў». Яму цяжка адмовіць у празорлівасьці. Сапраўды жывая карцінка за наступныя 100 гадоў, памалу пераменіўшыся ў тэлебачаньне і зросшыся зь ім, дашчэнту апанавала мазгі народных масаў практычна ва ўсіх краінах сьвету. Сёньня тэлебачаньне (разам з інтэрнэтам і ўжо зрастаючыся зь ім) — валадар думак, мараў і памкненьняў новых пакаленьняў.

Крамлёўскія валадары вельмі добра адчуваюць трэнды часу. Апошнія гады пра патрэбу змаганьня з «фальсыфікацыямі гісторыі» ў Расеі ня раз гаварылася на самым высокім узроўні, уключаючы і прэзыдэнцкі. Валадарам не падабаюцца спробы сумленных гісторыкаў паказаць адмоўныя бакі расейскай гісторыі савецкага часу, Айчыннай вайны, расейкай тэрытарыяльнай экспансіі, канфэсійнай гісторыі Расеі і інш. І вось адкрыцьцё новага каналу азначае, напрыклад, і тое, што там ужо ніколі не пакажуць фільм пра славутую танкавую бітву пад Прохараўкай (1943 г.), які я глядзеў на РТР гадоў пяць назад і зь якога даведаўся, што страты савецкага боку ў той эпахальнай і, галоўнае, пераможнай бітве склалі 500 танкаў, а нямецкага — 3 (тры)...

У пачатку 80-х гадоў, калі мяне разам зь іншымі першакурсьнікамі гістфаку БДУ пасьвячалі ў студэнты, дзяўчаты са старэйшых курсаў прышпілілі нам на лацканы пінжакоў жоўтых папяровых куранятаў з чырвоным лацінскім надпісам «Historia est magistra vitae». Гісторыя сапраўды

зьяўляецца настаўніцай жыцьця, але ня толькі ў тым сэнсе, што яна вучыць не паўтараць памылкі мінуласьці. Гісторыя — наогул вучыць, нясе культуру ў простым, непераносным сэнсе гэтага слова. Адукаваны чалавек — адукаваны і гістарычна, а можа — і найперш гістарычна.

Як павінны былі б адказаць на адкрыцьцё вяшчаньня новага расейскага тэлеканалу суседнія краіны, асабліва тыя, што маюць адрозныя ад расейскага погляды на ўласнае мінулае? Натуральна, або забараніць нацыянальным апэратарам уключаць яго ў свае пакеты, або не забараняць, але адкрыць уласны аналягічны канал, які мог бы годна прадставіць нацыянальную альтэрнатыву расейскай гістарычнай экспансіі. Зразумела, ні таго, ні другога не адбудзецца ў Беларусі. Таму і шкада нашых дзяцей (і ня толькі іх).

Калісьці ў савецкія часы ў акадэмічных інстытутах рэальнай навукай займаліся 10–20 працэнтаў супрацоўнікаў — астатнія былі, як тады казалі, «дочкамі партыйных сакратароў», яны ціха баранілі свае бляклыя, кан'юнктурныя дысэртацыі і карысталіся ўсімі выгодамі акадэмічнага статусу, у тым ліку і правам на 20 лішніх мэтраў жылой плошчы, належных кандыдатам навук.

Здаецца, што цяпер сытуацыя яшчэ горшая. Штаты і фінансаваньне гуманітарных інстытутаў Акадэміі скарацілі, некаторыя інстытуты зусім ліквідавалі, а тыя, што застаюцца, заціснутыя не слабейшымі за часы СССР ідэалягічнымі абцугамі. За апошнія 10–15 гадоў нямала гісторы-

каў было выкінута з акадэміі і ўнівэрсытэтаў. Па прыкладады далёка хадзіць ня трэба, дастаткова згадаць нядаўні пагром гісторыкаў у Горадні... Вядзецца наступ і на незалежную гуманітарную супольнасьць — зачынілі, напрыклад, часопіс «АРХЭ», які адзін выконваў ролю акадэмічнага гістарычнага інстытуту...

Тым большая адказнасьць кладзецца на нешматлікіх беларускіх незалежных гісторыкаў, якія, ня гледзячы на звальненьні і рэпрэсіі, не пакідаюць сваёй сумленнай працы. Здымаю перад імі капялюш.

Здымаю капялюш... і ўспамінаю пра двух сваіх унівэрсытэцкіх выкладчыкаў, жыцьцё і дзейнасьць якіх могуць стаць для цяперашніх гісторыкаў сапраўдным і вартым пераймання прыкладам.

Гэта дацэнты Юры Драгун і Леў Міхайлоўскі.

Абодва гэтыя выкладчыкі былі на гістфаку БДУ як бы маргіналамі. Калі пра іх гаварылі іншыя выкладчыкі, то давалі зразумець, што гэта, мякка кажучы, дзівакі, і намякалі, што яны, як тады, казалі, «злоупотребляют...» У сэнсе, злоўжываюць алькаголем. Для студэнтаў гістфаку курсы гэтых выкладчыкаў сапраўды не былі прыярытэтнымі. Дацэнт Драгун выкладаў гістарыяграфію і крыніцазнаўства, а дацэнт Міхайлоўскі вёў у нас практычныя заняткі па гісторыі СССР.

Тым больш было дзіўна слухаць тое, пра што яны нам расказвалі. І адбывалася гэта не ў сучаснай Беларусі, дзе выкладчыка за такое могуць звольніць. Гэта адбывалася ў СССР 80-х гадоў, дзе за гэта можна было пацярпець і значна больш сур'ёзна.

Свае лекцыі па гістарыяграфіі і крыніцазнаўстве Юры Драгун, высокі, сівы, стрыманы чалавек, ператварыў у дзівосныя аповеды пра паўставаньне расейскай вэрсіі гісторыі Беларусі пачынаючы ад XVIII стагодзьдзя. Павольна, раскладаючы ўсё па пэрыядах і датах, імя за імем, публікацыю за публікацыяй, кнігу за кнігай ён паказаў нам, як імпэрыя паступова выпрацоўвала сваю канцэпцыю беларускай гісторыі і фальсыфікавала нашу мінуўшчыну, як выбарачна публікавала крыніцы, а непатрэбныя — зьнішчала падчас працы розных археаграфічных камісіяў. Нецікавы на першы погляд прадмет — гістарыяграфія — ператварыўся для нас у найцікавейшую гісторыю гістарычнай навукі, гісторыю гісторыі. Тады мы даведаліся, напрыклад, што агульнавядомы тэкст ліста канцлера Лява Сапегі да архібіскупа Язафата Кунцэвіча з папрокамі за перасьлед праваслаўных быў сфальсыфікаваны расейскім гісторыкам Бантыш-Каменскім яшчэ ў канцы XVIII стагодзьдзя, калі Кацярына II даручыла яму скласьці для яе гісторыю Уніі. А насамрэч канцлер Сапега ўзначаліў камісію па расьсьледаваньні забойства Кунцэвіча і пакараў бунтаўшчыкоў сьмерцю. Даведаліся мы і пра 20-гадовы

пэрыяд антыалькагольных паўстаньняў у Беларусі ў XIX стагодзьдзі пад кіраўніцтвам рымска-каталіцкіх і уніяцкіх сьвятароў і пра шмат што іншае. Наогул зь лекцыяў Юрыя Драгуна вынікала, што самым галоўным часам у духоўным занявольваньні беларускага народу, сапраўднай нашай катастрофай стала XIX стагодзьдзе.

Леў Міхайлоўскі, стомлены, сівы, лысаваты чалавек з пацёртым партфэлем прыйшоў неяк да нас замяніць хворага выкладчыка. На нашу ўдачу, хварэў малады выкладчык доўга, таму дацэнт Міхайлоўскі практычныя заняткі замест яго вёў таксама доўга. І расказваў ён нам тое, пра што яшчэ і сёньня нельга прачытаць у працах гісторыкаў, а тым больш у падручніках. Ад яго мы, напрыклад, даведаліся страшныя падрабязнасьці таго, што прынята называць Патопам сярэдзіны XVII стагодзьдзя. Спакойна, бяз патасу і надрыву, дацэнт Міхайлоўскі пералічаў, колькі дзясяткаў або сотняў жыхароў засталося пасьля праходу войскаў расейскага цара Аляксея Міхайлавіча ў тым ці іншым беларускім горадзе або павеце. Цяпер дакладна ня памятаю, у Менску, здаецца, засталося каля 170 чалавек. Але больш важнымі былі іншыя падрабязнасьці тае вайны. Я цяпер называю гэта імпартам тэхналёгіяў.

Кожны расейскі ваявода, казаў нам дацэнт Міхайлоўскі, меў у сваім абозе спэцыяльныя брыгады для росшуку майстроў. Прыходзіла такая брыгада, скажам, у нейкую вёску ці мястэчка. І калі забіралі каваля, то разам зь ім забіралі і яго

жонку, дзяцей, усіх яго падмайстраў і вучняў, забіралі, дэмантаваўшы, усё начыньне кузьні і ўсё жалеза ў навакольлі, нават завесы зь дзьвярэй зрывалі. Усё гэта грузілася і вывозілася ў Расею. І так ва ўсіх сфэрах матэрыяльнага і культурнага жыцьця. Грандыёзнае, плянэтарнага маштабу абрабаваньне аднаго народу другім. Сотні тысяч зьняволеных людзей панура брылі за падводамі, на якіх везьлі на ўсход прылады іх працы — разнаітыя варштаты, адліўныя формы, друкарскі, ткацкі, сьлясарскі, плотніцкі, сталярскі, брукарскі, мулярскі рыштунак... Беларусь перадала тады Расеі больш высокую матэрыяльную і духоўную культуру барока, а сама пасьля той катастрофы так ніколі ўжо і не паднялася.

Той грандыёзны імпарт тэхналёгіяў даў штуршок наступным матэрыяльным і палітычным посьпехам Расеі ва ўсіх сфэрах. А прафэсар Лаўрэн Абэцэдарскі пасьля захапляўся дасягненьнямі беларускіх майстроў у Расеі XVII стагодзьдзя, ня кажучы сваім студэнтам, як гэтыя майстры туды трапілі. Затое ён усьлед за расейскімі фальсыфікатармі XIX стагодзьдзя вывучаў нейкую неіснуючую «барацьбу беларускага народу за ўзьяднаньне з Расеяй».

Спадзяюся, некалі напішу больш падрабязна пра двух сваіх выдатных настаўнікаў — дацэнтаў Юрыя Драгуна і Лява Міхайлоўскага.

А ў сучаснай Беларусі гісторыкі кшталту маіх выкладчыкаў жывуць таксама. Не сумняваюся,

што нягледзячы ні на што яны не складуць рукі і працягнуць сваю высакародную справу.

А справа гэтая — глядзець на гісторыю сваімі ўласнымі вачыма.

*20 траўня 2013 году.*

# Бунт маленькіх чалавечкаў або людзі-трава

*Прыпавесьць, расказаная аўтару самім яе героем.*

Жыў-быў чалавек. І ўсё ў яго было добра. Ня ў сэнсе шчасьця або багацьця, але ў сэнсе сьветапогляду, разуменьня сябе, краіны, сьвету і людзей. Цешыўся чалавек, што ясна і зразумела ўсё вакол яго, усе цаглінкі ляжаць на сваіх месцах. Ну і трохі з гэтай прычыны ганарыўся сабой, бо наўкола былі людзі, якія ня ўсё так ясна і добра разумелі, як ён.

Аж аднаго дня пачаў ён сумнявацца, што ўсё вакол разумее правільна. Сталася гэта тады, калі суседняя краіна Р напала на суседнюю краіну У. Ну ня так каб зусім адкрыта напала, але неяк спакваля, нібыта нерашуча, але разам з тым настойліва, і пад грукат хлусьні і прапаганды адняла ў суседкі вялікі і прыгожы кавалак зямлі. Самае дзіўнае для чалавека было тое, што краіна У як бы і не супраціўлялася. На словах яна супраціўлялася, рабіла заявы і нават пагражала, але на справе — не рабіла нічога.

Нейкія сумненьні пачалі варушыцца ў душы чалавека, але яшчэ не ўсьвядомленыя. Не зусім дабіраў ён ладу, як гэта можна саступіць кавалак сваёй зямлі і ні разу ня стрэліць. Ну але адабраны кавалак краіны У быў хоць і ласы, але

не такі вялікі. Чалавек думаў, што краіна У наўмысьля абрала такія нерашучыя паводзіны, каб не справакаваць краіну Р на адкрытую вайну, каб вылузнуцца з-пад яе ўплыву і ўцячы назаўсёды да сябрыны краёў, што згуртаваліся за заходняй мяжой. Тым больш што і сама краіна У пагрозьліва папярэджвала суседку, што калі той заманецца яшчэ нешта адхапіць у яе, то ўжо тады вайна немінучая.

Краіна Р аднак жа і ня думала спыняцца. Пайшла яна прыхавана і спакваля на іншыя кавалкі краіны У. Забіраць не забірала, але памалу пастрэльвала і людзей патроху парэзвала. Захапіла адзін горад, другі, трэці... дзясяты. Усюды вывешвала свае сьцягі, настаўляла трансьляцыі сваёй тэлевізіі і ў вялікай колькасьці завозіла ў захопленыя гарады свае аранжава-чорныя стужачкі. Чалавек зь дня на дзень чакаў адпору, стрэлаў, захопу засланцаў краіны Р. Але краіна У і гэтым разам не адказала сілай на сілу. Яе палітыкі зноў сталі рабіць рашучыя і пагрозьлівыя заявы, езьдзіць па сьвеце і агітаваць за сябе іншыя краіны, яе сьледчыя сталі заводзіць сотні новых крымінальных справаў за хваляваньні, сэпаратызм, захоп адміністрацыйных будынкаў, забойствы і выкраданьні. Не было толькі таго, што звычайна бывае ў выпадку такіх сутыкненьняў — не было стрэлаў. А нейкія кволыя і нерашучыя спробы краіны У ўдаць рашучыя дзеяньні нязьменна заканчваліся ганебнымі ўцёкамі, капітуляцыяй або палонам яе вайскоўцаў.

Чалавек пачаў траціць упэўненасьць у сваёй карціне сьвету. Ён стаў яшчэ больш уважліва прыглядацца да стужак навінаў, яшчэ больш часу праседжваў на інфармацыйных сайтах і ля экрана тэлевізара, бясконца пераключаючы каналы краіны У, каб дабраць усё ж ладу, што адбываецца і чаму. І чаму менавіта так, а не інакшай. Адказу не было. Тады ён стаў пытацца ў знаёмцаў з краіны У, прасіў патлумачыць, чаму іх вайскоўцы не страляюць у вайскоўцаў краіны Р, дарма што тыя як захопнікі прыйшлі на іх тэрыторыю. Але цямнага адказу не было і тут. Калегі паціскалі плячыма і — хто больш упэўнена, а хто менш — казалі пра заклікі сяброў з Захаду ўстрымацца ад гвалту, пра вычэкваньне часу да выбараў, маўляў прыйдзе новы прэзыдэнт, то ўжо ён дасьць захопнікам з усходу належнага адлупу; хтосьці казаў пра слабасьць войска, раскраданьне дзяржаўнага скарбу, карупцыю...

Але чалавека гэта не пераконвала, нешта тут было іншае, глыбокае і схаванае. Страціў ён сон і супакой, страціў упэўненасьць у сабе. А тут яшчэ і яго ўласная краіна С пачала падкідваць сушнячку ў цяпельца сумневаў і згрызотаў. Чалавек дзень пры дні на замежных радыёхвалях слухаў апытаньні людзей з розных гарадоў сваёй краіны. І настрой ягоны горшаў. Суайчыньнікі казалі, што краіна Р забрала тое, што ёй належыць, што ў сталіцы краіны У да ўлады прыйшлі фашысты і нацыяналісты, што кіраўніцтва краіны Р усё правільна робіць, што Захад са сваімі санкцы-

ямі хай нават ня сунецца, што ў нас, у краіне С такога ня будзе, бо ў нас бацька і парадак і ўсё такое іншае.

І пачаў тады чалавек думаць пра людзей і краіны ў ягонай частцы сьвету. І стаў рабіць страшныя высновы. Да прыкладу, зразумеў ён, што ў ягонай краіне і ў суседніх нічога не закончылася і нічога новага не пачалося, усё толькі працягваецца. А пад краінай Р у ягонай сьветабудове мелася на ўвазе краіна Русія, пад краінай У — Ускраіна, якую яшчэ называюць МалаРусіяй, а пад яго ўласнай краінай С — СьветлаРусія.

Пачаў наш чалавек адкрываць сабе вочы на свой народ і сваю краіну, як і на суседнія. Стаў ён думаць, што народ ягоны жыве як трава — дзьме вецер, трава калышацца, куды дзьме — туды хіліцца. Пакосяць яе — адрасьце зноў. Шмат косяць — менш зь зямлі вытыркаецца, баіцца новых пакосаў. А некалі ж тая трава буяла, не раўнуючы раскашавала, каліва да каліва былі стромкія, стойкія ды высокія. Але пакосаў было аж зашмат, як нідзе. І з часамі штораз болей каліваў заставаліся пры зямлі, усё менш іх імкнулася да сонейка і блакітнага небачка. А тыя, што вытыркаліся, мусілі прыгінацца, каб не патрапіць пад касу суседзкую.

Але бяда адна ня ходзіць. Суседзі з усходу і захаду пакосамі не здаволіліся. Пачалі хвалямі завозіць сваё насеньне, каб перабіваць траву сьветларусіянскую. І не бяз посьпеху. А яшчэ пачалі за-

ліваць траву чалавечую сваёй ідэйнай вадзіцаю, каб калівы болей да іх хіліліся. І таксама ім тое пашчасьціла. Шмат каліваў сталі адмаўляцца ад сваёй зямлі-краіны і зракацца свайго назову.

І сталася так, што людзей-травы ў краіне сьветларусіянскай стала расьці-нараджацца трох кшталтаў. Былі людцы маленькія, людцы сярэднія і людцы высокія. Высокіх стала радзіцца зусім мала, троху больш было сярэдніх, але болей за ўсё раджалася людзей маленькіх, не раўнуючы нізкіх каліваў, што і выжылі адно дзякуючы таму, што не захацелі расьці і вытыркацца. А пакосы ўсё доўжыліся, ідэйная вадзіца суседзкая ўсё лілася на галовы маленькіх, адрываючы іх ад карэньня апошняга.

І тут здарылася свабода — разваліўся Зьвяз Рэспублік, у які разам зь іншымі ўваходзіла СьветлаРусія. І сталі правадыры ўдаваць дэмакратыю і выбары наладжваць. А каго болей за ўсё ў краіне? Вядома, маленькіх людзей — нізкага каліва. І каго ж яны абраць могуць? Толькі такога, як самі. І абралі. І ня толькі ў СьветлаРусіі, але і ў Русіі, і на Ўскраіне. І слухаюць іх песьні-байкі, і цешацца, і любяць таго, каго правадыры любяць, і ненавідзяць таго, каго правадыры ненавідзяць.

А калівам-людзям высокім няма куды падзецца. Большасьць ідзе ў пісьменьнікі ці ў журналісты. Сярэднія калівы затаіліся, прыгнуўшыся. Ці мала тых і тых паехала куды далей, за мяжу, за акіян. Маленькія толькі жывуць,

і цешацца, і памнажаюцца. Але ня толькі. Яны яшчэ і ў эліту зьнясіленай пакосамі краіны актыўна прабіваюцца, пасьля сядзяць там, творы ствараюць і ўдаюць калівы высокія. Сядзяць і ва ўрадзе.

І так ня толькі ў СьветлаРусіі, але і ва Ўскраіне, і ў Русіі, якую яшчэ Большай Русіяй завуць. Усюды маленькія калівы-людцы дамінуюць і манеру свайго жыцьця іншым навязваюць.

Думаў так наш чалавек і бедаваў. Ды ня ўсё яшчэ гэта было. У сваіх пабудовах думкі недахоп чагосьці істотнага стаў яму вычувацца ды бачыцца. Яшчэ нешта больш глыбокае і схаванае стала мроіцца яму ў навакольных людцахкалівах. Ці то гены тут знайшліся агульныя, ці то хвароба спадчынная, ці то пошасьць ідэйная пакасіла людзей-траву кшталту нізкага?

Стаў здагадвацца чалавек, што краіна У не змагла адказаць на навалу краіны Р праз сваю бяду, і што бяда тая — як і ў СьветлаРусіі. Там таксама і пакосы былі, і насеньне завозілі, і вадзіцай ідэйнаю абалонь залівалася. Зразумеў чалавек таксама, што вадзіца, якую лілі апошнія гадоў 300 з усходу — ня толькі з ідэйкамі была, але й зь вірусам РПЦ або Русіянскай Правільнасьці Царкоўнай. Вірус той невылечную мутацыю пад назвай «русіянства» выклікае і дзейнічае на ўсе без разбору калівы — і малыя, і сярэднія, і вялікія. І хвароба тая ўжо далёка зайшла. Адно высокія на Ўскраіне супрацiўляюцца і троху сярэдніх у сталіцы і на захад ад яе, дзе пакосаў і

залівак было ня так шмат. Астатнія сярэднія затаіліся, а маленькія на ўсходзе да сваіх усходніх братоў-пацыентаў цягнуцца. І зразумеў ён, што дацягнуцца.

Зразумеў таксама, што ва ўсіх трох краінах бунт адбываецца — бунт маленькіх людзей, паўстаньне нізкага каліва. І бунт гэты з той хваробай наўпрост завязаны. Хвароба дзіўная, выклікае нецярпімасьць і нянавісьць да іншага, а таксама патрэбу хлусіць і хлусьні верыць. Вось чаму правадыры краіны Р хлусяць, здагадаўся ён. І вось чаму яны на ўсходзе Ўскраіны свае антэны тэлевізійныя ўсталёўваюць — каб хлусіць ня толькі сваім калівам, але і тым, каго зьбіраюцца да сябе забраць. Нізкія калівы ўскраінныя спрэс усяму, што з тых антэнаў гавораць, вераць.

Зразумеў чалавек, што ягоная краіна С чыста ўся, як усход Ўскраіны. І што каб прыйшла сюды вялікая Р са сваімі танкамі ды балалайкамі, дык ці ня ўся трава СьветлаРусіі затрымцела б радасна. Некалькі сотняў (ці тысяч) высокіх каліваў і які мільён-два сярэдніх увагнуліся б, паприсядалі б дый скарыліся.

І заплакаў тады наш чалавек, бо зразумеў, што пошасьць гэта а) невылечная, б) што стрымаць яе ніхто ня можа. Невылечная яна таму, падумаў ён, што вунь, у іншай суседцы — краіне Паляніі, ля гораду Белы Стак таксама расьце троху сьветларусіянскіх каліваў. Там нібы вальней заўсёды жылося, менш пакосаў і менш залівак з усходу было. Але і там нашы калівы праз русіянскую

правільнасьць царкоўную сталі нізкімі. Ды ня проста нізкімі, а найніжэйшымі, найрусіянейшымі. Чалавеку было нават дзіўна — людзі нібыта на захадзе жывуць, сярод моцных каліваў і здаровых дажджоў, а такія праўсходнія, што самі ў пятлю лезуць і галовы сваіх пабрацімаў з астатняй СьветлаРусіі туды ж пхнуць.

А стрымаць тую навалу, што хваробу сваю нясе, магла б сябрына краін на Захадзе. Ды ня можа. Бо сядзіць на градах шчодра ўгноеных, плёну шмат мае, ураджаі вялікія зьбірае і баіцца лішні раз паварушыцца дзеля некага. Угнаеньні ёй завозяць з Русіі, якая сама настолькі гаспадарыць ня ўмее, што ўгнаеньні тыя сама сабе на карысьць пусьціць ня можа — адно прадае. Калівы-людзі там здрабнелі зусім праз лютыя пакосы стагодзьдзямі, праз ваду РПЦ і праз гарэлку белую, якая русіянскаму ўраду траціну даходу ў дзяржаўны бюджэт прыносіла ўжо ў XVII стагодзьдзі. А Захаду гэта добра, што калівы русіянскія толькі п'юць і ўгнаеньнямі гандлююць. Разьеўся ён настолькі, што пра будучыню зусім ня думае, толькі пра цяперашчыну, маўляў, хай сабе на лесьвіцы нехта лямантуе: «Ратуйце», а я лепш каля тэлевізара паляжу, можа які іншы сусед выйдзе. А ня выйдзе — значыць некаму не пашанцавала... У выніку Р забрала кавалкамі ўсю суседнюю МалаРусію.

Зразумеў чалавек, што Ўскраіну аддалі вялікай Р, аддадуць і ягоную С без шкадобы і ваганьняў.

Неўзабаве так і сталася. Прыйшлі ў Сьветла-Русію танкі, прыйшлі і балалайкі. Сядзеў у акупацыі наш чалавек і думаў, што лідэры яго былой краіны, як і лідэры суседніх русіянскіх дзяржаваў, зразумелі гэтую найвялікшую (толькі для высокіх каліваў) таямніцу — маленькае маленькага і патрабуе, а тое, што пры зямлі, да зямлі і хінецца. І ня трэба ім вышыняў завоблачных. Салодкія словы — гэта тыя, што хочуць чуць, а ня тыя, што хочацца вымаўляць...

Задумаўся тады наш чалавек, горка плачучы, што ж рабіць яму ў навале гэтай? Думаў-думаў, плакаў-плакаў — няма выбару. Прыгнуўся тады ён, прысеў на ўсколенцы і пайшоў на ўсход, насустрач нізкім братам-калівам. Балюча было на згібнутых нагах ісьці, моцна хацелася выпрастацца, але неяк даў ён рады і да сталіцы ўсходняй, да Масквы датэпаў. Думаў: прарасьце ён на глебе той, стане русіянінам, навучыцца радавацца іхным радасьцям і душой шырокаю разам зь імі нудзіцца. Яму, сьветларусу, і раней часам здавалася, што хвароба «русіянства» з самой глыбіні стагодзьдзяў ідзе, што сапраўды ёсьць нейкае генэтычнае адзінства травы-каліваў у трох суседніх краінах. Але трапіўшы ў Русію Большую, зразумеў ён, што ў сталіцы іх расьце трава жорсткая, пераважна асот, чартапалох і бадыльле ўсякае. Не раслося яму там і не жылося. І ў правінцыю русіянскую падавацца не выпадала, бо там спрэс малое каліва, а ён, нават прыгнуўшыся, калівам ня менш за сярэдняе выглядаў. Ня латва яму было

долу падаць, у правінцыю плыткую, да маленькіх каліваў.

Тады ён уцёк і адтуль. На захад. Ці на ўсход. Залежыць як глядзець. Там таксама яму жылося ня надта, але прынамсі не было вакол шмат русіянскай прапаганды, русіянскай правільнасьці царкоўнай і русіянскіх нізкіх калівау. Там, на Захадзе-Ўсходзе, мы зь ім і сустрэліся. Пасядзелі дзень-другі за півам ды каваю, так памалу і распавёў ён мне гісторыю сваіх пакутаў, падарожжаў, перажываньняў і сваіх адкрыцьцяў-высноваў пра народ і траву родныя.

Падзівіўся я шчыраваньням ягоным, ды яшчэ таму, як гісторыя краін у ягонай частцы сьвету падобная да тых, дзе жыву я.

І галоўнаю ў тых высновах для мяне, беларуса, была гэтая: нідзе ніколі нічога не заканчваецца і нічога не пачынаецца. Усё толькі працягваецца.

*7 траўня 2014 году.*

## «Русский мир» і маральнасьць

У дні, калі на ўсходзе Ўкраіны ліецца кроў, бо суседняя вялікая дзяржава вырашыла сілай зброі змагацца за тое, што яна называе «русский мир», мне ўсё часьцей думаецца пра маральны бок гэтай барацьбы.

Фігуральна кажучы, цяперашняе кіраўніцтва Расеі кажа так: па-за межамі нашай дзяржавы жывуць мільёны людзей, якія размаўляюць па-расейску, і мы будзем усімі магчымымі шляхамі бараніць іх права на захаваньне сваёй мовы і культуры. У 2014 годзе стала відавочна, што «ўсімі магчымымі шляхамі» азначае, у тым ліку, і вайну.

Не беручы пад увагу геапалітычныя і ўнутрыпалітычныя наступствы гэтай барацьбы для Расеі, а таксама эканамічныя і цывілізацыйныя наступствы для ўсяго рэгіёну і нават сьвету, нельга не дзівіцца амаральнасьці такой расейскай пазыцыі.

У барацьбе за правы расейскамоўных меншасьцяў у сваіх колішніх калёніях лідэры Расеі адмаўляюцца абмяркоўваць працэсы, якія прывялі да зьяўленьня такіх меншасьцяў. А працэсы гэтыя называюцца так:

крывавыя войны,

татальны рабунак культурнага багацьця захопленых народаў,

жорсткія, крывавыя рэпрэсіі,

масавыя дэпартацыі,

засяленьне нерасейскіх правінцый этнічнымі расейцамі,

прымусовая русыфікацыя,

інфармацыйныя вайна,

фальсыфікацыя гісторыі

і яшчэ шмат іншых падступных захадаў імпэрыі супраць сваіх нацыянальных ускраінаў. Расейскі імпэрыялізм у гісторыі набываў розныя формы (вялікадзяржаўна-нацыяналістычную, вялікадзяржаўна-камуністычную), але заўсёды заставаўся імпэрыялізмам. Трагічныя вынікі цяперашняга звароту да яго часткі расейскіх інтэлектуалаў і палітычнага істэблішмэнту толькі пацьвярджаюць факт, што час імпэрыяў незваротна мінуў.

На жаль, трэба прызнаць, што цяперашняя Расея і яе народ не зьяўляюцца хрысьціянскай краінай і хрысьціянскім народам, бо цэнтральны элемэнт хрысьціянскага сьветапогляду — пакаяньне. Тут сапраўды ў Расеі і Захаду — розныя ўзроўні разьвіцьця. Захад жыве ў постхрысьціянскую эпоху, а Расея, выглядае, — у дахрысьціянскую (ці протахрысьціянскую). У кожным выпадку, расейцы яшчэ мелі б пакаяцца перад самімі сабой і перад суседзямі за свае злачынствы (грахі), перш чым бараніць правы расейскамоўных грамадзянаў у былых сваіх калёніях.

Калі б такое пакаяньне і, адпаведна, катарсіс (ачышчэньне цераз пакаяньне) адбыліся, тады,

магчыма, не давялося б бараніць «русский мир» з дапамогаю зброі. Думаю, тады яго наогул не давялося б бараніць. Як сёньня нямецкі сьвет не бароняць немцы, якія пасьля 1945 году праз пакаяньне і наступны катарсіс прайшлі (хай сабе і з дапамогай амэрыканцаў).

Калі б расейцы прызналі і зразумелі, што большая частка «русского мира» — гэта ахвяры прымусовай асыміляцыі і дэнацыяналізацыі часоў савецкай імпэрыі, яны б атрымалі ў былых сатэлітах найбольш сваіх сяброў. Без пакаяньня Расея застаецца злодзеем, які за ўсякую цану бараніць скрадзенае ў суседзяў. Без такога пакаяньня барацьба за «русский мир» — амаральная, і сам гэты «русский мир» таксама амаральны.

Інтэлектуальныя колы ня толькі былых савецкіх рэспублік, але і краінаў былога сацыялістычнага лягеру Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, у выніку сваёй гісторыі маюць даўнія сувязі з расейскай культурай і пры нармальнай сытуацыі (гэта значыць, пры адсутнасьці цяперашняй расейскай экспансіі) маглі б захоўваць сымпатыі да былой мэтраполіі і адпаведным чынам уплываць на свае грамадзтвы.

Але ў Крамлі гэтага, на жаль, не разумеюць.

*11 лютага 2015 году.*

# Што нам варта ўзяць з расейскай культуры?

Расея — гэта ўсходнехрысьціянская краіна, у значнай ступені ўсходняя. Але быў адзін пэрыяд, калі расейская культура была цалкам эўрапейскаю.

Гэта Срэбраны век, які нарадзіўся ў канцы XIX стагодзьдзя як вынік двух зьяваў: павароту часткі інтэлектуалаў да Захаду і Каталіцкай царквы, а таксама расейскай клясычнай гімназіі, праз якую прайшла значная частка дваранства і заможнага мяшчанства. Закончыўся Срэбраны век у 1917 годзе, хоць некаторыя яго творцы дажылі да 60-х гадоў XX стагодзьдзя.

## Нечаканае каталіцтва расейскай эліты

Як вядома, яшчэ Пётар Чаадаеў у першай палове XIX стагодзьдзя бачыў выратаваньне Расеі ў прыняцьці каталіцтва, за што ўлады абвясьцілі яго вар'ятам. У 50-я гады XIX стагодзьдзя ў Парыжы існаваў гурток расейскіх каталікаў, у які, сярод іншых, уваходзіў вядомы расейскі езуіт князь Іван Гагарын.

Праз вывучэньне Антычнасьці, старажытных Грэцыі і Рыму, нельга было не прыйсьці да італьянскага Рэнэсансу, які сам быў зваротам да антычнасьці — толькі напаўняў яе новым хрысь-

ціянскім зьместам, а пасьля (праз павагу да Бога і разуменьне пастуляту, што чалавек створаны паводле яго вобразу і падабенства) выліўся ў гуманізм і павагу да чалавечай індывідуальнасьці. Таму расейскі паэт і геніяльны філёзаф Уладзімір Салаўёў пісаў, што хрысьціянскі Захад нарадзіў ідэю богачалавека (індывідуалізм), а хрысьціянскі Ўсход — чалавекабога (унівэрсалізм).

Сам Уладзімір Салаўёў у другой палове XIX стагодзьдзя выступіў за аб'яднаньне цэркваў і ў 1896 годзе стаў уніятам. Каталікамі, дарэчы, тады сталі і маладыя прадстаўнікі расейскіх княскіх родаў Трубяцкіх, Валконскіх, Даўгарукіх, Пацёмкіных, Беласельскіх. У пачатку XX стагодзьдзя да іх далучыліся такія пэрсоны, як пляменьніца прэм'ер-міністра Расеі Пятра Сталыпіна Натальля Ўшакова або сын іншага прэм'ер-міністра імпэрыі Мікалая Маклакова, Юрый. І гэта не была мода, гэта былі перакананьні, за якія некаторыя з гэтых людзей ішлі ў турму. Граф Мікалай Талстой быў каталіцкім сьвятаром, служыў у сваёй дамовай царкве ў Маскве. Калі ён прыняў у каталіцтва Ўладзіміра Салаўёва, яго арыштавалі. Пры гэтым некаторыя з тых людзей спачатку рабіліся каталікамі лацінскімі (Унія ў імпэрыі была пад забаронай), але вельмі хутка да іх прыйшло разуменьне, што ў каталіцтва трэба пераходзіць са сваім абрадам.

Сыстэма адукацыі тагачаснай Расеі давала выдатнага ўзроўню веды па антычнасьці і эўрапейскім мастацтве, найперш, італьянскім і францус-

кім. З гэтага захапленьня эўрапейскім мастацтвам і паўстаў першы стыль Срэбранага веку — сымбалізм. Бацька сымбалізму — паэт і мысьляр Вячаслаў Іванаў, празь «вежу» якога (мансардная кватэра-салён у Санкт-Пецярбургу) прайшлі ўсе асноўныя і сымбалісты, і акмэісты (Мяражкоўскі, Гіпіюс, Салагуб, Кузьмін, Блок, Брусаў, Валошын, Гумілёў, Ахматава і інш.), называў Італію сваёй духоўнай радзімай, пасьля рэвалюцыі эміграваў туды і перайшоў у каталіцтва (натуральна ў сваім усходнім абрадзе).

Адзін зь вядучых пісьменьнікаў і інтэлектуалаў Срэбранага веку, літаратурны і тэатральны крытык князь Сяргей Валконскі быў грэка-каталікам. Адзін з галоўных паэтаў-сымбалістаў Міхаіл Кузьмін зусім маладым эміграваў у Італію і стаў паслушнікам у каталіцкім кляштары; пасьля сышоў адтуль, вярнуўся ў Расею і заняўся літаратурнай работай. Каталіцкім манахам у Бэльгіі пасьля эміграцыі стаў і знакаміты расейскі піяніст, найбліжэйшы сябар кампазытара Аляксандра Скрабіна і апякун яго дзяцей Аляксей Чаброў. Уладзіслаў Хадасевіч быў лацінскім каталікам паводле нараджэньня, але ў канцы жыцьця ім духоўна апекаваліся расейскія ўсходне-каталіцкія сьвятары. Адзін з удзельнікаў першага Цэху паэтаў Дзьмітры Кузьмін-Караваеў, які паходзіў зь вядомага арыстакратычнага роду і быў сынам дэпутата Дзяржаўнай Думы прафэсара Ўладзіміра Кузьміна-Караваева, пасьля высылкі з Расеі ў 1922 годзе на так званым «філя-

зофскім параходзе» прыняў у Рыме каталіцтва і стаў уніяцкім сьвятаром. Аддаў даніну каталіцтву ў сваіх духоўных пошуках і Максіміліян Валошын. А ў вершах такога паэта Срэбранага веку, як Ільля Эрэнбург, Валеры Брусаў знайшоў нават «культ каталіцызму», які, на маю думку, часам набываў дыдактычныя формы:

А после с строгим капелланом
Благодарить Святую Мать
И перед мрачным Ватиканом
Покорно голову склонять...

Гісторыкам і літаратуразнаўцам вядомы факт барацьбы сакратара Рэлігійна-Філязофскага таварыства ў Санкт-Пецярбургу Сяргея Каблукова, які апекаваўся маладым Восіпам Мандэльштамам, з магутнай цягай паэта да каталіцтва, якая праявілася ў яго раньніх вершах:

Где римский судия судил чужой народ,
Стоит базилика, — и, радостный и первый,
Как некогда Адам, распластывая нервы,
Играет мышцами крестовый легкий свод...

Навярнуць Мандэльштама на праваслаўе Каблукоў, аднак, ня змог *.

Прымалі каталіцтва і постаці менш значныя, напрыклад бэлетрыстка Ніна Пятроўская, якая больш вядомая сваімі палюбоўнымі дачынень-

* У 1911 годзе Восіп Мандэльштам прыняў у Фінляндыі пратэстанцтва.

нямі з Андрэем Белым і Валерыем Брусавым (калі яе пакінуў першы — яна ў яго страляла, калі другі — выкінулася з акна і засталася кульгавай).

А былі яшчэ і тыя, хто дзеля розных прычынаў у каталіцтва не пераходзіў, але выказваў да яго вялікія сымпатыі — так званыя філакатолікі. Да іх ліку належалі, напрыклад, філёзафы Мікалай Бярдзяеў і Сяргей Булгакаў, якія разам з францускім філёзафам Жакам Марытэнам, аўтарам тэорыі інтэгральнага гуманізму, сталі заснавальнікамі і актыўнымі ўдзельнікамі міжнароднага экумэнічнага руху. Філакатолікам можна назваць і выбітнага расейскага філёзафа Георгія Фядотава, які праз вывучэньне духоўнай культуры лацінскага Захаду адмовіўся ад матэрыялістычнага сьветапогляду і стаў хрысьціянскім мысьліцелем.

Гэта быў цэлы рух, духоўнае памкненьне расейскай творчай эліты ў бок Антычнасьці і Захаду, як яе пераемніка. Пераход у каталіцтва шмат для каго быў натуральным выяўленьнем іх любові да італьянскага Рэнэсансу і да Італіі зь яе культурай як такой. Другой падставай для пераходу ў каталіцтва была абазнанасьць гэтых людзей у праўдзівай гісторыі царквы, што таксама было плёнам адукацыі.

## Расейская клясычная гімназія

Вядома, духоўнае памкненьне расейскіх інтэлектуалаў да Захаду пераходам у каталіцтва не абмяжоўвалася. Нехта заставаўся ў праваслаўі, нехта, як Валеры Брусаў, выбіраў чорную магію і акультызм, яшчэ нехта, як, напрыклад, Фёдар Салагуб, адкрыта называў Д'ябла сваім бацькам, за што крытык Юлій Айхенвальд назваў яго «верным манахам Д'ябла», а яшчэ нехта выбіраў шлях Мікалая Бярдзяева, які рэзка крытыкуючы расейскую царкву, фармальна заставаўся праваслаўным. Але творчасьць усіх гэтых людзей нельга ўявіць без эўрапейскіх і антычных алюзіяў. Проста лепшыя людзі краіны цягнуліся туды, дзе культура Антычнасьці і Рэнэсансу знайшлі свой натуральны і магутны працяг. Дастаткова згадаць пра Паўла Муратава, які «ўлюбіў» у Італію ўсю адукаваную Расею часоў дэкадансу, напісаўшы славутую кнігу «Вобразы Італіі» (сам ён, дарэчы, таксама эміграваў туды пасьля рэвалюцыі і жыў у Рыме).

Захапленьне Італіяй і Захадам выхавала расейская клясычная гімназія зь яе добрай адукацыяй, якой цяпер не даюць нават гуманітарныя факультэты БДУ. Клясычныя мовы, міталёгія, філязофія. Вэргілій, Дантэ, жывапіс і архітэктура Рэнэсансу. А пасьля Новы час — Гётэ, Бэтховэн, флямандзкі жывапіс, французы. Усё працавала на празаходнія памкненьні расейскіх інтэлектуалаў. Акмэісты наогул задумвалі паяднаць у

сваёй паэзіі архітэктуру зь літаратурай, для чаго спэцыяльна падарожнічалі па Італіі і Францыі, апісваючы і асэнсоўваючы ў вершах убачаныя помнікі готыкі і рэнэсансу. Быў гэта ня толькі пошук фармалістычны і тэматычны. Найперш, гэта быў іхны, як бы сёньня сказалі, эмацыйны дыскурс.

Наш Максім Багдановіч быў беларускім адраджэнцам і, адначасова, постацьцю расейскага Срэбранага веку, бо вучыўся ў клясычнай гімназіі, чытаў сымбалістаў і акмэістаў, захапляўся імі, і, натуральна, быў іх пасьлядоўнікам-спадкаемцам, а лепш сказаць — аднадумцам і калегам. Гэта быў вялікі шанцунак для Беларусі, што Адам Багдановіч адвёз сына ў Расею. З 1902 да 1911 году наш паэт вучыўся ў мужчынскай гімназіі спачатку ў Ніжнім Ноўгарадзе, а пасьля ў Яраслаўлі. Якраз з расейскай гімназіі Максім вынес захапленьне антычнымі літаратурамі Грэцыі і Рыму, любоў да лацінскай мовы, а таксама добрае веданьне моваў нямецкай і французскай. Таму ён і перакладаў Гарацыя, Авідыя, Вэрлена, Вэрхарна, Арвэра, Шылера і Гайнэ. Але наш Максім у нас адзін, а ў расейскай літаратуры тады працавалі дзясяткі творцаў яго кшталту.

Расейская гімназія працавала так магутна, што перацягнула ў расейскую культуру і нацыянальнасьць украінцаў Ахматаву, Валошына і Катаева, спольшчаных беларусаў Хадасевіча і Алешу, габрэяў Мандэльштама, Пастэрнака, Ва-

лынскага і яшчэ шмат каго... Дзякуй богу, што наш Максім застаўся беларусам.

## Навошта нам Срэбраны век?

Сёньня Беларусь сілаю адрываюць ад яе заходняй спадчыны. Гістарычна Беларусь мела заходне-ўсходні характар культуры, які сынтэзаваўся ў Уніі, мела заходнія дзяржаўныя інстытуты, і доўгі вопыт кантакту з заходняй цывілізацыяй, захоўваючы свае ўсходнехрысьціянскія асаблівасьці. Цяпер гэта сіламоц замоўчваецца, праваслаўнасьць падкрэсьліваецца, і акцэнт робіцца на так моцна любімай сучаснымі расейскімі ўрапатрыётамі ды імпэрыялістамі ідэі «трыадзінай Русі», на «праваслаўнай усходнеславянскай цывілізацыі» і на «рускім сьвеце».

З усходу нам сёньня кажуць, што ва ўмовах сьмерці Захаду, «самагубства» заходняй цывілізацыі праз паліткарэктнасьць і эмансыпацыю сэксуальных меншыняў, «праваслаўная ўсходнеславянская цывілізацыя» зьяўляецца зарукай палітычнага і духоўнага сувэрэнітэту «ўсходніх славян». Насамрэч, вядома, гэта ідэя імпэрская і крывадушная. Няма ніякай «праваслаўнай усходнеславянскай цывілізацыі», ёсьць расейская традыцыя чарнасоценства і цемрашальства, зь якой змагаліся дзеячы Срэбранага веку, якой яны пагарджалі.

Мне зразумела, што ў Беларусі свой шлях, трэці — не заходні, і не расейска-праваслаўны.

Мы іншыя. Мы можам захаваць здаровы хрысьціянскі кансэрватызм сваёй гістарычнай традыцыі, зьвязанай у значнай ступені з хрысьціянскім усходам (але ня чыста праваслаўны), і, адначасова, зрабіць крок да Захаду і яго культуры, улічваючы свой гістарычны досьвед і лёс.

Я, вядома, не заклікаю мяняць веравызнаньне. Я проста лічу, што вопыт Срэбранага веку і жыцьцёвы ды інтэлектуальны прыклад творцаў таго часу для цяперашняй Беларусі ўсё яшчэ актуальны. Гэта — тое самае галоўнае і, магчыма, адзінае, што нам варта браць з расейскай культуры. Гэта — наша неабжытая спадчына, бо мы валодаем расейскай мовай, мы былі часткай гэтай краіны на працягу больш чым 200 гадоў і можам выкарыстаць вопыт яе інтэлектуалаў ды іх творчы даробак. Яны ўжо прайшлі гэты шлях. У нас ён — яшчэ наперадзе, бо нельга паступіць ва ўнівэрсытэт, ня скончыўшы школы. Гэты вопыт для нас цікавы яшчэ і таму, што ў адрозьненьне ад Расеі, заходняя частка нашай гісторыі і культуры падспудна, падсьвядома ў нас саміх жыве, яна проста схаваная пад грузам савецкай неадукаванасьці і за ідэалягічнымі наслаеньнямі апошніх дзесяцігодзьдзяў.

І ў часы Срэбранага веку ў Расеі існавала так званая новасялянская плынь у паэзіі — Мікалай Клюеў, Сяргей Клычкоў, Сяргей Ясенін, Сяргей Гарадзецкі. Гэта былі нацыяналісты-славянафілы, якія славілі «Русь избяную». У нашай жа паэзіі паэтаў такога пляну праз усё XX стагодзь-

дзя было непараўнана больш, а знаўцаў эўрапейскай культуры можна пералічыць на пальцах адной рукі...

Для сучасных маладых пісьменьнікаў і паэтаў гэта можа стаць і добрай самаадукацыяй, і творчым даробкам — перакласьці на беларускую мову па кніжцы найлепшых творцаў расейскага Срэбранага веку. А там, глядзіш, нехта зь іх і за якасныя пераклады антычных і рэнэсансных аўтараў — першакрыніцы творчага натхненьня паэтаў Срэбранага веку — возьмецца. У нас тых перакладаў і выданьняў вобмаль, тоё-сёе загінула пры арыштах 30-х, а бяз добрай антычнай бібліятэкі на нацыянальнай мове, культура — не зусім культура.

Карацей, калі адказваць на пытаньне, пастаўленае ў загалоўку, то мой адказ такі: з расейскай культуры нам варта ўзяць Італію, Рэнэсанс і Антычнасьць.

*2 сьнежня 2013 году.*

## Дэфлярацыя Менску

Ехаў я ў палове сакавіка 2013 году па праспэкце Незалежнасьці ў Менску ў бок вакзалу. У раёне Пляца Перамогі душа адчула дыскамфорт, нешта нябачна пачало замінаць, муляць вока. Адразу ж за Круглай* перад цыркам я раптам убачыў шэрую шматпавярховую аграмадзіну, якая цалкам закрыла пэрспэктыву на схіл ад Гарадзкога сквэру — ваколіцы былога будынку ЦК КПБ, Дому афіцэраў, цэкоўскі дом прыступкамі на схіле... У Менску я ня быў зь верасьня. Аказалася, гэта будуюць гатэль на месцы нэагатычнага будынку першай менскай электрастанцыі пазамінулага стагодзьдзя... Крах.

Праз усё XX стагодзьдзе савецкаму архітэктару было значна лягчэй зьнесьці ў цэнтры гораду нейкі непрыкметны (а часам вельмі нават прыкметны) гістарычны дамок і пабудаваць на яго месцы нешта новае, чым убіцца з навабудам у зону «зялёных насаджэньняў». Гэта было табу, санітарныя нормы (!) ніяк не дазвалялі такога свавольства. І вось у сёньняшнім Менску стала магчымым і такое.

---

* Колішняя народная назва Пляца Перамогі.

Нават тыя, хто бараніў Менск гістарычны, не маглі не прызнаць, што многія мясьціны адноўленага пасьля вайны савецкімі архітэктарамі гораду былі стылёва і эстэтычна вытрыманыя і прывабныя. Адным з такіх месцаў была пойма Сьвіслачы ў раёне паркаў Горкага і Янкі Купалы. Там было хараство пэйзажу і, што яшчэ больш важна, хараство пэрспэктывы.

І вось цяпер цнатлівы пэйзаж поймы Сьвіслачы ў Менску згвалцілі. У галаву прыходзіць слова «дэфлярацыя». Гвалтоўная дэфлярацыя некранутай яшчэ цяперашнімі «ўмельцамі» часткі савецкага Менску... (здымак №1)*

***

Праблема пэрспэктывы ў горадзе можа вырашацца па рознаму. У старых, гістарычных гарадах Эўропы пры цеснаце забудовы важна было разьмясьціць дамінанты на ўзвышшах або на пляцах, якія завяршалі сабой пэрспэктывы вуліц. Напрыклад, у Празе пасьля аднаўленьня незалежнасьці краіны ў 1918 годзе чэскія архітэктары збудавалі на ўзвышшах паўдзясятка нэагатычных храмаў, якія завяршаюць сабой пэрспэктывы важных вуліц. У некаторых выпадках (Вышаград) такая нэагатычная чорная дамінанта завяршае сабой пэрспэктыву вуліцы, якая сама

* Нумары здымкаў тут і далей даюцца паводле іх нумарацыі на ўклейцы.

па сабе, фізычна, знаходзіцца вельмі далёка, за шырокай рэчкай.

У паваенным Менску архітэктары мелі разьвязаныя камуністычным кіраўніцтвам рукі і ня мелі ніякага рэспэкту да гістарычнай гарадзкой забудовы. Але яны ў большасьці мелі густ. Нашаму праспэкту цяжка адмовіць у стылёвасьці. Нядрэннымі былі і пэрспэктывы, якія адкрываліся з поймы Сьвіслачы ў розныя бакі. І вось у адну з гэтых пэрспэктываў усадзілі аграмадны шэры бэтонны зуб...

І ня важна, што ў поймах рэчак не прынята будаваць высокія дамы, што парушаюцца там нейкія санітарныя нормы, што нішчацца выгляды і пэрспэктывы. Хто ж тут і каму так шмат плаціць?

Мне было падумалася, што не знайшлося ў Менску сьмелага прафэсара архітэктуры, які б прабіўся да Лукашэнкі і сказаў: паглядзіце А.Р., з праспэкту будзе зусім не відаць вашай рэзыдэнцыі... Але мяне асадзіў калега — ён нагадаў, што для А.Р. цяпер будуецца новая рэзыдэнцыя, бліжэйшая да Драздоў, і на віды на сваю старую рэзыдэнцыю яму, хутчэй за ўсё, напляваць.

***

Тое, што пачало будавацца ў цэнтры Менску пачынаючы зь мяжы 1970–80-х гадоў — гэта антыкультура. Была яна ў старым цэнтры і раней. Дастаткова згадаць пра праектны (!) інсты-

тут на былой Школьнай і перабудову езуіцкага касьцёлу пад спартовы комплекс. Але тое, што пачало рабіцца ў апошнія дзесяцігодзьдзі, наогул ня мае прэцэдэнтаў. Вось толькі некаторыя з «шэдэўраў» нашай антыкультуры.

Змрочная шумерская аграмадзіна Палацу рэспублікі, якая прыдушыла сабой, падмяла пад сябе Верхні горад...

Гандлёвы дом на Нямізе, які разарваў рэшткі Старога гораду, аддзяліў Ракаўскае прадмесьце ад іншых старых кварталаў.

Аграмадны паркінг на Нямізе са зьдзеклівай візуальнай алюзіяй на той двухпавярховы габрэйскі дамок з гадзіньнікам, што стаяў на рагу Камсамольскай і Нямiскай.

Вераломна пабудаваны на месцы падмуркаў дому Максіма Багдановіча кватэрны гмах Чыжа, што зьнішчыў сабой пэрспэктыву Траецкага прадмесьця.

І нарэшце хмарачос на скапаным у 1950-я гады Замчышчы, які забіў сабой магчымасьць аднаўленьня Старога гораду і вычварным, інфэрнальным чынам завяршыў пэрспэктыву вуліцы Леніна (!). Гэты цьвік у труну Старога гораду ў Менску бачны нават з гарадзкіх ускраінаў.

Я разумею, што мы ніколі не былі ў архітэктурным сэнсе на першых ролях — ні ў мінулыя стагодзьдзі, ні ў савецкі час. Бо мы ніколі, па вялікім рахунку, не былі культурна моцныя. Напрыклад, у 1920-я гады і ў Беларусі, і ў Чэхаславаччыне вяліся пошукі нацыянальнага стылю ў архітэктуры.

У нас гэтыя пошукі скончыліся ўсяго толькі сьціплым і ніколі не ажыцьцёўленым праектам менскага вакзалу і даваеннымі карпусамі БДУ. А вось у чэхаў зьявіліся фантастычныя шэдэўры рондакубізму — дамы-палацы, перад якімі ад зьдзіўленьня і захапленьня займае дух...

Тым больш мы павінны былі б калаціцца над кожным старым каменьчыкам, які дастаўся нам ад продкаў. Але замест гэтага ў нас калоцяцца над «інвэстарам»...

***

Тое, што дзеецца цяпер у Менску, уражвае. Усё больш вакол нас прыкметаў сапраўднай культурнай катастрофы, культурнага краху Беларусі. Яны праяўляюцца і даюць аб сабе знаць ва ўсіх галінах жыцьця і ва ўсіх сфэрах культуры. Але мне ў гэтым тэксьце найперш ідзецца пра архітэктуру, якая сама па сабе зьяўляецца ня толькі тэхналягічнай, прыкладной сфэрай чалавечай дзейнасьці, але і мастацкай формай арганізацыі прасторы.

Тут крах асаблівы. Сёньня на грамадзкім небасхіле Беларусі не назьбіраецца і дзясятка чалавек, якія б баранілі гістарычны Менск. У 1960-я гады побач зь Зянонам Пазьняком і Лявонам Баразном можна было назваць дзясяткі імёнаў, а ў 1980-я, калі справу пераняла «Талака», такіх абаронцаў былі сотні. Цяпер такіх адзінкі, і ўсе іх магчымасьці зводзяцца да рэдкіх публікацыяў у незалежных мэдыях.

А справа ж ня толькі ў абароне старога, што само па сабе першасна для культуры, бо ніякая культурная якасьць не ўзьнікае на пустым месцы — культура вырастае з культуры, ёй патрэбныя пераемнасьць і глеба. Справа яшчэ і ў эстэтыцы, у тым, што Максім Багдановіч назваў «красой». Сёньня ўсе менскія навабуды дэманструюць убогасьць эстэтычных уяўленьняў іх стваральнікаў і заказьнікаў. Якраз пра эстэтыку і мела б падбаць культурная эліта краіны, але беларуская эліта драбнее на вачах.

Пад нацыянальнай элітай звычайна разумеюць інтэлектуалаў, якія адчуваюць адказнасьць за краіну і дзейнічаюць адпаведна з гэтай адказнасьцю. Раней у Беларусі існавала моцнае акадэмічнае кола людзей, якія баранілі Менск. Эфэктыўна дзейнічалі іх калегі з рэстаўрацыйных структураў. Нарэшце, найлепшыя людзі народу, такія як Уладзімер Караткевіч ці Гаўрыла Вашчанка, асабіста ангажаваліся ў справу абароны старога Менску ад зьнішчэньня.

Цяперашнія прадстаўнікі беларускамоўнай эліты пішуць тэксты, называюць сябе журналістамі, мастакамі, паэтамі, эсэістамі ды раманістамі... Некаторыя нават мімаходзь згадваюць у сваіх творах пра Стары горад, але ніякага сапраўднага клопату пра яго як артэфакт сапраўднай культуры не дэманструюць — яны думаюць, што самі яе ствараюць, і гэтага дастаткова. Мне такія людзі ўяўляюцца нястомнымі працаўнікам над уласным іміджам, якія не забываюць напісаць

пра сябе пыхлівыя артыкулы ў Вікіпэдыі, але забываюць пацікавіцца, што дзеецца з рэштаю старога Менску і іншых гістарычных гарадоў краіны. Не хапае адказнасьці, а значыць — не хапае культуры... Тым часам гатэль на Сьвіслачы яшчэ больш зьмяншае колькасьць чытачоў беларускіх кніг, якія і без таго ўжо выдаюцца накладамі па 100-300 асобнікаў.

І мой клопат тут — не пра грамадзкую актыўнасьць. Мой клопат — пра мастацкую творчасьць. Неразумна клікаць інтэлектуалаў на дэманстрацыі пратэсту, на пікеты, на адкрытую барацьбу з нашай бязьлітаснай і малаадукаванай уладай. Інтэлектуалы прыходзяць у гэты сьвет для іншага. Але сумна, што лірычнаму герою большасьці сучасных мастацкіх тэкстаў усё роўна, што за банкі і офісы паўстаюць, напрыклад, на вуліцы Сурганава ці на новым праспэкце Машэрава (колішняй Варвашэні) — прыгожа гэта ці брыдка, эстэтычна або ня надта, адпаведна нашай традыцыі ці не арганізавана там прастора.

Архітэктурная катастрофа Менску ня стала фактарам, матывам і тэмай сучаснай беларускай культуры, хоць даўно ўжо зьяўляецца яе відавочным фактам. Большасьць творцаў гэтую катастрофу не перажывае псыхалягічна і творча, яны рэальна застаюцца да яе эмацыйна халодныя.

І гэта асабліва сумна.

*27 сакавіка 2013 году.*

## Беларусаў накрыла зялёнай бляхай

Якога колеру маюць быць стрэхі ў беларускіх гарадах? Для некага гэтае пытаньне можа падацца дзіўным і недарэчным. Для некага — несвоечасовым. Нехта можа адказаць, напрыклад, гэтак: абы якога, як захоча ўладальнік будынку.

А мне вось адна з барваў апошнія гады моцна муляе вока. І ня толькі вока, але і душу. Гэта — барва зялёная.

Зялёнай барвы на нашых стрэхах апошнія 20 гадоў стала нечакана і непрапарцыйна шмат. Можна нават сказаць, што спакваля яна робіцца дамінуючай на пэўнага тыпу будынках. Найперш гэта — барокавыя і клясычныя спаруды былых каталіцкіх і ўніяцкіх кляштараў, якімі цяпер валодае Расейская Праваслаўная царква. Пранікла гэтая барва і ў гістарычныя цэнтры нашых местаў, дзе яе раней ніколі не было.

Але паддацца спакусе абвінаваціць толькі Праваслаўную царкву ў навязваньні гэтай барвы было б няправільна. Сапраўдныя прычыны тут ляжаць значна глыбей. Гэтая барва цяпер падабаецца нашым людзям і вока ім не муляе. Яна ўжо — у нашым гусьце.

А як было раней? Якія ў нас тут традыцыі?

Вось якім убачыў Менск у 1853 годзе Павал Шпілеўскі:

«Раскинутый на горах и крутизнах Минск почти со всех трактов или въездов представляет прекрасный вид... По горам, по пригоркам красуются здания то высокие и широкие, то узкие и продолговатые, с черепичными крышами во вкусе средних веков...»

А вось гістарычны факт: да самага пачатку вайны ў 1941 годзе ў сталіцы БССР Менску працавалі два чарапічныя заводы. І больш за тое. Гэтыя заводы працягвалі працу і пасьля вайны. Зь сёньняшніх менчукоў мала хто ўжо памятае, што раёны Трактарнага і Аўтамабільнага заводаў адразу пасьля пабудовы ў 40-50 гады былі спрэс накрытыя дахоўкай — і трох-, і двух-, і аднапавярховыя дамы.

Дацэнт Смаленскага ўнівэрсытэту Юлія Грыбэр зацікавілася тэмай характэрных для гістарычнага Смаленску колераў. Вось што ў яе атрымалася:

«Начиная с XV века, когда Смоленск стал частью Великого княжества Литовского, в течение почти трех столетий архитектура города испытывала сильное западноевропейское влияние. Это заметно сказалось на колористике города. Сохранившиеся графические изображения показывают, что в цветовом облике Смоленска этого периода стало больше красного цвета. Теплый красновато-розовый оттенок городу придавали кирпич, розовая штукатурка и черепица»*.

* Гл.: http://www.journalsmolensk.ru/08_108_09/15/15.PHP

Такой была наша традыцыя. Але пасьля таго, як Беларусь трапіла ў склад Расеі, гэтая традыцыя стала мяняцца. У Расеі ўсё было моцна рэглямэнтавана. У XIX стагодзьдзі там зьявілася некалькі рэдакцыяў «Строительного Устава Российской империи». У 1818 годзе цар Аляксандар I забараніў фарбаваць дахі ў пануючы да таго ў Расеі чорны колер і загадаў фарбаваць іх зялёнай, чырвонай або шэрай фарбай. Так нарадзілася цяперашняя зялёная бляха.

Чырвоныя і шэрыя дахі ў Расеі паступова сталі рэдкімі, затое зялёныя — распаўсюдзіліся вельмі шырока. Я ня ведаю сапраўднай прычыны гэтага, але ўлічваючы, што колер расейскіх дахаў ня проста зялёны, але сьветлазялёны, салатавы, можна выказаць меркаваньне, што гэта як бы імітацыя пазелянелае медзі. У Эўропе медзьдзю пакрывалі купалы, радзей стрэхі. А ў Расеі купалы звычайна залатыя або блакітныя (у храмах), а дахі — зялёныя.

Зялёныя дахі цяпер маюць галоўныя будынкі Расеі. Напрыклад, Крэмль або Эрмітаж і ўвесь гістарычны цэнтар Санкт-Пецярбургу.

Нельга здымаць адказнасьць і з Расейскай Праваслаўнай царквы. Яна сёньня — актыўны і дзейсны ўдзельнік гэтага працэсу. Катэдральны Сьвята-Духаў сабор у Менску, які месьціцца ў барочных мурах колішняга жаночага бэрнардынскага кляштару, новазбудаваныя карпусы навучальнай установы РПЦ і нават гандлёвыя рады і шэраг будынкаў Верхняга гораду маюць ужо на

дахах неўласьцівую ім зялёную бляху. Гэтаксама выглядае і галоўны аб'ект РПЦ у Кіеве — Кіева-Пячэрская лаўра, і тысячы іншых царкоўных будынкаў па ўсёй тэрыторыі былога СССР.

І што ж гэта за працэс? Я думаю, што зялёная бляха на месцах, дзе раней была дахоўка, гэта сымбалічная матэрыяльная адзнака «русской цивилизации». Гэта — адзін з сымбаляў, якім памячаецца тэрыторыя распаўсюджаньня таго, што сёньняшнія валадары Крамля і РПЦ называюць «русским миром».

Гэты «мир» сёньня жыве ў шмат якіх беларускіх галовах... Мне могуць запярэчыць, што гэта справа густу. Я ахвотна згаджуся, але нагадаю ў адказ, што ў гэтым канкрэтным гусьце навідавоку ідэалягічны складнік.

І хто б мог падумаць, што справа зойдзе так далёка? Я маю на ўвазе факт, што зялёная бляха ўжо красуецца ня толькі на праваслаўных будынках, але і на некаторых каталіцкіх. Напрыклад (які кашмар для эстэтаў і нацыяналаў!), на гарадзенскім Фарным касьцёле — шэдэўры віленскага барока.

Але і гэта яшчэ ня ўсё. У Беларусі на дахах апрача сьветлазялёнай бляхі зьявілася і цёмназялёная!! Ёсьць такія дахі ў гістарычным цэнтры Менску, але мяне найболей уразіў накрыты цёмназялёнай бляхай дом насупраць шыкоўнага помніка беларускага барока — былой уніяцкай Уваскрасенскай царквы ў Віцебску. Гэты дом

выглядае як будынак у вайсковым гарадку памежнікаў.

Магчыма, гэтае параўнаньне з памежнымі войскамі выпадковае. А магчыма — і не. Усе мы ведаем пра аўтарытэт і вагу, якімі сёньня ў Беларусі карыстаецца гэты род войскаў і, як бачым, ягоныя колеры... Навакольнае асяродзьдзе ўзьдзейнічае на людзей на ўзроўні культурнага коду. Калі яны зь дзяцінства бачаць вакол сябе зялёныя бляшаныя дахі, то такія дахі ўрэшце ня толькі стануць лічыцца сваімі, але могуць падацца яшчэ і прыгожымі...

Пры гэтым сам я нічога супраць уласна зялёнага колеру ня маю. Я нават ведаю, што некаторыя беларускія замкі і багатыя дамы накрывалі некалі цёмназялёнай паліванай керамічнай дахоўкай. І тым ня менш, маё эстэтычнае і нацыянальнае пачуцьцё пакутуе кожнага разу, калі я бачу пляскатыя стрэхі зь зялёнай бляхай там, дзе некалі былі стромыя схілы, накрытыя чырвонай дахоўкай.

Нашы густы хаваюцца ў самых глыбінных спратах сьвядомасьці. А якія гэта глыбіні, якія густы і якая сьвядомасьць — з гэтых нататак, думаю, зразумела.

Таму я і кажу, што нас усіх сёньня накрыла зялёнай бляхай. Зрэшты, як бачым, мы і самі ўжо накрываемся ёй...

*27 ліпеня 2013 году.*

# Сьмерць архітэктара

У Беларусі памірае архітэктура... Як мастацтва. А разам зь ёй зьнікаюць і тыя, хто гэтае мастацтва стварaў — архітэктары. Застаюцца аўтары праектаў.

Вось мае думкі з нагоды нядаўна ўбачаных двух менскіх навабудаў. Гэта гандлёвы цэнтар «Замак» і новы Палац незалежнасьці.

## Гандлёвы цэнтар «Замак»

Думка пра тое, што ў Беларусі памірае архітэктура, прыйшла мне ў галаву два месяцы таму адразу, як толькі я ўпершыню ўбачыў гандлёвы цэнтар «Замак» на праспэкце Пераможцаў.

А якая яшчэ можа нарадзіцца думка, калі вы бачыце будынак 2013 году, а ў яго над гатычнымі стральчатымі вокнамі ідзе раманская аркатура з раманскімі ж зубцамі-блянкамі на вежы?! (здымак №2)

Нават калі ведаеш, што тэарэтычна і блянкаваньне, і аркатура (у нашым выпадку сьляпая аркада) маглі быць недзе выкарыстаныя і ў часы Рэнэсансу, які храналягічна ішоў усьлед за Готыкай і быў трэцім выданьнем рымскай (раманскай) стылістыкі, то ўсё роўна такое спалучэньне і ў такой пасьлядоўнасьці ў нашы дні выглядае дзікавата — мы жывем у 2013 годзе. Вя-

дома, многія аўтэнтычныя будынкі адрозьніваюцца наслаеньнем стыляў. Вядома таксама, што ў часы рамантызму і эклектыкі XIX стагодзьдзя архітэктары даволі дзіўна спалучалі гістарычныя стылі ў адным будынку. Урэшце, аркатура шырока выкарыстоўвалася ў культавым дойлідзтве Расеі, але там не было ні Готыкі, ні замкаў. Што ж прымусіла аўтараў «Замку» зрабіць такое сёньня і менавіта так?!

Сярод прычынаў я назваў бы дрэнны густ і адсутнасьць гістарычнай ды мастацкай адукацыі — гэта значыць усё тую ж невысокую нашу культуру.

У часы Готыкі таксама выкарыстоўвалася аркатура — гатычная. І па прыклады далёка хадзіць ня трэба, дастаткова ўзнавіць у памяці бакавы фасад Наваградзкай Барысаглебскай царквы. Чаму ж у «Замку» выкарыстана раманская?.. Або вось Косаўскі нэагатычны палац мае на вежах тыя самыя блянкі... Нарэшце, зрабілі б вокны не гатычныя, а паўцыркульныя, у стылі аркатуры, і было б прынамсі стылёва. Але замест таго, каб узяць адзін канкрэтны стыль і трымацца яго, аўтары «Замку» абралі эклектыку эклектыкі, прадэманстраваўшы беларускаму паспалітаму люду сваё гістарычнае і мастацкае невуцтва, як, зрэшты, і гарадзкога начальства, якое гэты праект зацьвярджала і ўхваляла.

Урэшце, што замінала аўтарам узяць за прататып адзін са страчаных беларускіх замкаў і стылізавана ўзнавіць яго ў Менску ў выглядзе

гандлёвага цэнтру? Таксама ня надта дарэчна, але прынамсі быў бы хоць нейкі беларускі культурна-гістарычны кантэкст і павага да сваёй мінуўшчыны.

Вядома, абазнаныя ў гісторыі мастацтва людзі павінны ведаць і гісторыю стыляў, і прынцыпы гармоніі, і гісторыю сусьветнага і нацыянальнага мастацтва. Калі гэтага няма — зьяўляюцца эклектычныя «Замкі»... Для архітэктара-мастака гэта непрымальна, для інжынэра-праекціроўшчыка — як бачым, так.

Вельмі сорамна і няёмка глядзець на гандлёвы цэнтар «Замак» у Менску і ведаць, што тытаны чалавецтва і геніі Адраджэньня — Рафаэль і Мікелянджэлё — былі архітэктарамі...

## Палац Незалежнасьці

З гандлёвым цэнтрам «Замак» справа адносна простая. Там — дэманстрацыя невуцтва. Значна больш сур'ёзная сытуацыя з новым Палацам Незалежнасьці.

Архітэктура — гэта мастацтва арганізацыі прасторы. Прычым ня проста арганізацыі, але пры дапамозе мастацкіх сродкаў. Творчасьць (або, у выпадку менскай праектнай рутыны, стварэньне) — гэта таямніца нябёсаў. Я, як і многія іншыя, лічу, што вынікі тварэньня належаць аўтару толькі фактычна, бо праз яго атрыманыя. А насамрэч, у выніку тварэньня (стварэньня) можа атрымацца тое, што ні заказь-

нік, ні аўтар стварыць не жадалі... Сутнасьць падзеі праяўляецца, часам, паміма аўтарскай волі (здымак №3).

Я ня ведаю дакладна, што заказьнікі і аўтары Палацу Незалежнасьці зьбіраліся стварыць, але бачу, што атрымаўся ў іх... першы будынак у ансамбаль менскага пляцу Цяньаньмэнь... Хто б мог падумаць, што мы дажывем да манумэнтальных рэплікаў пэкінскай таталітарнай культуры ў Менску XXI стагодзьдзя!

Каб такі комплекс збудавала ў Менску для сваіх патрэбаў кітайская амбасада — гэта было б зразумела. Але, калі гэта робяць беларускія архітэктары паводле беларускага заказу...

Калі ў СССР Мікіта Хрушчоў прыйшоў да ўлады, ён вырашыў зьмяніць прынцыпы манумэнтальнай архітэктуры. Хрушчоў быў менш адукаваны за Сталіна, і яго моцна раздражнялі сталінскія ордэрныя палацы. Ён вырашыў адмовіцца ад сталінскіх нэабарока і нэаклясыцызму. Натуральна, знайшліся і прафэсіяналы, якія падвялі тэарэтычныя прынцыпы пад гэтую адмову. Вядомы савецкі архітэктар Андрэй Бураў пісаў ў 50-я гады XX стагодзьдзя: «Захаваньне ордэру і калёнаў замінае руху архітэктуры наперад».

У выніку на сьметнік савецкай гісторыі былі выкінутыя розныя там калёны зь іх базамі, капітэлямі, абакамі ды эхінамі, антаблемэнты з архітравамі ды фрызамі, портыкі з тымпанамі ды іншыя атрыбуты грэцкіх і рымскіх ордэраў. Надышоў час строгай функцыянальнасьці і ад-

мовы ад дэкаратыўнасьці, што на справе азначала раскрапоўку фасадаў пілёнамі, або, папросту кажучы, гранёнымі слупамі (здымак №4).

Кульмінацыяй хрушчоўскага манумэнталізму стаў збудаваны ў 1961 годзе Крамлёўскі Палац зьездаў. Стылістыка гэтай спаруды стала імкліва пашырацца па ўсім СССР, не абмінуўшы і Менск. У 1985 годзе тут было распачата будаўніцтва Палаца Рэспублікі, пазьней замарожанае і скончанае новымі ўладамі ў 2001 годзе.

Але ня толькі па СССР крочылі хрушчоўскія архітэктурныя прынцыпы. Трапілі яны і ў Кітай. У 1959 годзе ў Пэкіне на пляцы Цяньаньмэнь зьявіўся Дом народных сходаў (здымак №5), а ў 1977 годзе — Дом памяці Старшыні Мао (маўзалей) (здымак №6).

Абодва гэтыя палацы цалкам адпавядалі стылістыцы Крамлёўскага палацу зьездаў, і толькі суадносіны аб'ёмаў і дахі ў іх мелі кітайскія нацыянальныя асаблівасьці. Гэтыя будынкі сталі сымбалямі татальнага кантролю і пагарды да чалавечай асобы, якія, як ні дзіўна, ляжалі ў сарцавіне ідэалёгіі позьняга камуністычнага абсалютызму.

І вось у 2013 годзе ў Менску зьяўляецца копія пэкінскіх Дамоў народных сходаў і памяці Старшыні Мао пад назвай Палац Незалежнасьці! Тут мы бачым тыя самыя рознапамерныя аб'ёмы, тое самае чляненьне фасаду пілёнамі-слупамі і нават закругленыя ўверх вуглы сымбалічнага даху будысцкай пагады... Эстэтычна ды ідэалягічна гэ-

тая спаруда цалкам чужая беларускаму этнасу, яго традыцыі і каштоўнасьцям. І тым ня менш яна ў Менску зьявілася.

Лішне казаць, што такія дзяржаўныя палацы вельмі празрыста выяўляюць каштоўнасьці заказьнікаў. Вось, напрыклад, у Тбілісі ў 2004-2009 гадах быў збудаваны цалкам па-эўрапейску клясычны прэзыдэнцкі палац з портыкам, калёнамі і купалам (здымак №7). А ў нас — рэпліка будынкаў з пляцу Цяньаньмэнь...

Бачыцца ў гэтай падзеі і злавесная іронія: для Палацу Незалежнасьці прататыпам абралі грабніцу... Ведаць бы толькі, чыя гэта іронія і хто пасьмяецца апошнім.

### Чаму так атрымалася?

Я даўно думаю, чаму так зь менскай архітэктурай адбылося. І адказ маю. Гэта агульная антыкультурная скіраванасьць усёй сытуацыі ў краіне за апошнія 20 гадоў або, як сказаў бы філёзаф, антыкультурны дыскурс. А калі малакультурныя людзі яшчэ і пачынаюць зарабляць грошы, ды яшчэ і ў краіне, задоўга да таго аслабленай і абрабаванай культурна, зь вялікімі культурнымі стратамі ў матэрыяльнай і духоўнай сфэрах, тады і адбываецца тое, што адбылося ў Менску з архітэктурай.

У нашай сталіцы, у яе архітэктурных уладах, на зьмену архітэктару-мастаку прыйшлі інжынэры-праекціроўшчыкі ды інжынэры-пляніроўш-

чыкі з дыплёмамі выпускнікоў архітэктурных факультэтаў. Гэтыя людзі сёньня займаюцца не мастацтвам. Яны ўдзельнічаюць у вялікім бізнэсе, які называецца забудовай сталіцы Беларусі. Бізнэсмэны прыйшлі на зьмену мастакам. Нават сталінскія архітэктары, якія пасьля вайны адбудоўвалі Менск і Кіеў (Шчусеў, Колі, Жалтоўскі ды іншыя) былі мастакамі. А беларускія незалежныя праекціроўшчыкі-пляніроўшчыкі — толькі бізнэсмэны. У мастака бізнэс — яго мастацтва. У праекціроўшчыка — яго праекты. Пры чым тут эстэтыка? Пры чым тут гістарызм і пераемнасьць? Пры чым тут павага да асяродзьдзя? Галоўнае выгнаць Чыжу 23 паверхі, і каб не абваліліся. Ну і каб унутры і звонку было «прыгожа». Ні заказьніку, ні аўтару не ідзецца пра мастацтва. Ня той узровень, ня тая кан'юнктура, ня тое начальства, ня той час.

І вось маем у цэнтры ўсё болей навабудаў, якія самым грубым чынам разбураюць гарадзкі пэйзаж, гвалцяць яго, вульгарна мяняюць і зьнішчаюць пэрспэктывы, разрываюць камэрную прастору даўно складзеных гарадзкіх куточкаў. Нагрувашчваньне аб'ёмаў і дахаў непадалёк ад гістарычнага цэнтру, напрыклад на Энгельса пры яе набліжэньні да Першамайскай, нагадвае сабой ускраіны хаатычна забудаваных блізкаўсходніх гарадоў. Калі я там праяжджаю з боку канцэртнай залі «Менск», дык заўсёды ўспамінаю арабскія дахі Каіру...

А на ўскраінах — процьма шматпавярховікаў з ідыёцкімі архітэктурнымі элемэнтамі: нейкія запазычаныя з кітайскіх пагадаў шматслойныя дахі або вежачкі з купаламі ў «стылі» шалома Аляксандра Неўскага... Асабліва прыкра, што шмат запазычана ў лужкоўскай Масквы — піраміды, вежачкі, падземныя гандлёвыя цэнтры пад плошчамі...

Некалі, у 80-я гады, калі мы спрабавалі абараніць Нямігу ад новай забудовы і Верхні горад ад мэтро, аўтар праекту Гандлёвага дому на Нямізе Мусінскі падчас аднаго з грамадзкіх абмеркаваньняў з гонарам (і пагардай да абаронцаў даўніны) заявіў, што наступныя пакаленьні менчукоў будуць ганарыцца яго гмахам на Нямізе. Прайшло 25 гадоў, і я, як і тады, магу сказаць, што пры ўсёй павазе (а, хутчэй, непавазе) да архітэктурнага дыплёму Мусінскага не магу назваць яго шматпавярховік творам мастацтва — ён ім ня быў, ня ёсьць і ніколі ня будзе.

І ўсё ж нават ведаючы пра прычыны таго, што робіцца, ня можаш адначасова і не зьдзіўляцца. Нібыта ад 60-х гадоў студэнты архітэктурнага факультэту БПІ (БНТУ) езьдзілі на практыку за мяжу, у тым ліку і ў адзін з найпрыгажэйшых гарадоў сьвету — Прагу. Але становяцца яны чамусьці не мастакамі, а праекціроўшчыкамі, якія да таго ж не шануюць даўніну.

Ну і ёсьць нейкая родавая траўма, нешта, схаванае ў самых глыбінных спратах нашай душы, ледзьве ня ў генах. Гэта — нейкая містычная

спадчына Расейскай імпэрыі. Вось на вуліцы Інтэрнацыянальнай, якая ёсьць часткай гістарычнага Верхняга гораду, на дахах старых камяніцаў замянілі дахоўку на чырвоную бляху. (Раней частка тых дамоў была накрыта нефарбаванай бляхай, а іншыя — чарапіцай) Нехта гэтага можа і не заўважыць. Нехта скажа: добра, што не на зялёную. А я вось думаю, як гэта так сталася, што Расея прарастае і прарастае ва ўсім навокал? Як гэта ёй удаецца трымацца так доўга ва ўсім, што сёньня робяць малакультурныя беларусы?

Я маю на ўвазе «черлядь» — адзін з трох колераў, у які у 1832 годзе ў Расеі загадалі фарбаваць жалезныя дахі (іншыя два — зялёны і шэры). Якраз гэтую «черлядь» (цёмначырвоную барву розных адценьняў) цяпер мы бачым на вуліцы Інтэрнацыянальнай і якраз той указ Мікалая I аказаўся так містычна выкананы менскімі гарадзкімі чыноўнікамі ў 2013 годзе.

Калі вы станеце на рагу праспэкту Незалежнасьці і вуліцы Энгельса і паглядзіце ў бок Палацу Рэспублікі і Верхняга гораду, то перад вамі адкрыецца вусьцішны выгляд скалечанага гораду. Недарэчная шумэрская аграмадзіна Палацу Рэспублікі зь пілёнамі справа (на месцы колішняга Новага рынку з палацам Сапегаў і Дамініканскім кляштарам), каструбаваты геамэтрычны дах забаўляльнага комплексу над шэрагам старых камяніцаў (з родным домам Станіслава Манюшкі) па Інтэрнацыянальнай і нават рэклямны плякат выставы «Праваслаўны сьвет» зьлева —

такія сёньняшнія дэкарацыі рэнэсансна-барочнага Верхняга гораду (здымак №8). Гістарычная праўда, справядлівасьць і эстэтыка крычаць і плачуць у гэтым схопленым аб'ектывам фотаапарата кадры...

Наогул, ва ўсім, што сёньня робіцца на постсавецкай прасторы, адчуваецца моцны ўплыў савецкай архітэктуры. Менскі Палац Рэспублікі, як ужо было сказана, вельмі блізкі сваёй архітэктурай да Крамлёўскага Палацу зьездаў, які цяпер маскоўскімі архітэктарамі прызнаецца шэдэўрам так званага савецкага мадэрнізму. Зь іншага боку, у розных краінах СНД сустракаюцца і рэплікі савецкай нэакласыкі. Напрыклад, у Астане можна ўбачыць копію славутых маскоўскіх высотак. Гэта жыльлёвы комплекс «Трыюмф Астаны». А калі задумацца, дык і дом Чыжа (які можна называць і домам Ладкіна, паводле імя архітэктара) зьяўляецца рэплікай ці, прынамсі, перапевам «Трыюмфу Астаны» (здымак №9).

Пустое месца доўга пустым не бывае. Выпетралі з галоваў і душаў беларускае, пустату займае іншае, чужое і паступова робіцца сваім. Вось нядаўна беларуская тэлевізія па-расейску расказвала пра мітычных пэрсанажаў беларускай гісторыі — «асилков». На тле голасу вядоўцы гледачу ўвесь час паказвалі Ільлю Мурамца і яго сяброў у расейскіх кальчугах і расейскіх жа астраверхіх шаломах...

Але самы яскравы прыклад замяшчэньня свайго спачатку кічам, а пасьля і чужымі ўзорамі дае гарадзкая архітэктура.

Здавалася б, здаровы сэнс і прафэсійная самапавага мусілі б прымусіць гарадзкое архітэктурнае начальства за ўсякую цану змагацца за стварэньне новага дзелавога цэнтру недзе на былым аэрадроме ці на Ляхаўцы... Панаставілі б там сабе гатэляў, хмарачосаў, офісных цэнтраў, паркінгаў, падземных гаражоў, казыно, рэстаранаў і крамаў. Было б весела, шумна, вірліва, шмат сьвятла, машын, людзей і грошай. А стары цэнтар пакінулі б у спакоі. А маглі б яшчэ і адрэстаўраваць яго, і які быў бы шык — Старое места з брукам і чарапічнымі дахамі, а непадалёк — новы цэнтар з хмарачосамі. І культурную прастору захавалі б, і колькі турыстаў прывабілі б!

Але, здаецца, нейкая містычная пупавіна зьвязвае Менск з Масквой. Там таксама ў 1930-я гады Сталіну прапаноўвалі стварыць новы цэнтар на Хадынскім полі, а старую цэнтральную частку гораду пакінуць у спакоі. Але ён выбраў варыянт перабудовы існуючага цэнтру, у выніку чаго там засталіся толькі невялікія астраўкі старой Масквы...

І вось у наш час па Менску ідзе другая хваля «сталінскай» перабудовы. Даўно сфармаваная прастора цэнтру разрываецца недарэчнымі дамінантамі, якія хаатычна вытыркаюцца цяпер то там, то тут. Дамінанта побач з участкам сфармаванай камэрнай прасторы ня проста зьніш-

чае яго, яна пазбаўляе яго сэнсу — мастацкага і эмацыйнага. Але і гэта яшчэ ня ўсё. Дэструкцыя пакідае на першы погляд незаўважныя, але глыбокія раны ў нашых душах. Чалавек у атачэньні эстэтычнай ды ідэалягічнай дэструкцыі губляе супакой, стамляецца, раздражняецца, сам ня ведаючы ад чаго, а пасьля і сам пачынае тварыць зло... Бо зло спараджае зло.

Пры гэтым, дрэнны густ і неадукаванасьць архітэктараў ня толькі множаць гэтыя самыя якасьці сярод людзей-спажыўцоў. Яны, паўтаруся, яшчэ і містычна выяўляюць ідэалягічную сутнасьць заказьнікаў-валадароў. І калі гандлёвы цэнтар «Замак» — гэта проста дрэнны густ, кіч і «лубок», то новы Палац незалежнасьці — гэта злавесная алюзія на помнікі пэкінскага пляцу Цяньаньмэнь 40-50-гадовай даўніны.

Страшна падумаць, што гэтая алюзія можа аказацца прарочай...

## Post Scriptum

Такі агульны фон усяго, што цяпер адбываецца зь менскай архітэктурай. Нізкая асабістая культура выканаўцаў і заказьнікаў, дрэнная агульнакультурная сытуацыя ў краіне. Нам элемэнтарна не хапае культуры.

І ўсё ж мінорна я не закончу. Насамрэч, я веру, што гадоў праз трыццаць-пяцьдзясят Менск верне сабе эстэтычную ды ідэалягічную гармонію, дэмантуе самыя недарэчныя архітэктур-

ныя дамінанты цяперашняга часу і цалкам аднавіць свой гістарычны цэнтар. Занадта глыбокі сьлед у калектыўнай беларускай душы пакінулі папярэднія вякі нашага мастацтва, каб было інакш. Мы будзем або самі сабой, або зьнікнем, пераможаныя «злым пачаткам». Але ў кожным выпадку, ня будзем такімі, якімі нам цяпер прапануюць стаць «умельцы» з розных бакоў і розных ідэалягічных групаў, сваіх і замежных.

А можа гэта ўсё адбудзецца і значна раней.

*4 лістапада 2013 году.*

## Як я зрабіўся «сталіністам»

Спачатку я хацеў назваць гэты тэкст «Плач над брамай менскага кляштару бэрнардынаў», але таварыш сказаў, што так непрадукцыйна. Трэба пісаць станоўча, пазытыўна, каб даваць людзям надзею.

Згаджаюся. Я і сам спадзяюся на лепшае ды веру, што некалі прыйдзе час, калі разумныя гарадзкія ўлады выправяць у Менску большасьць хібаў, якія цяпер робяць іх неразумныя папярэднікі. Аднаўляюць жа ў нашы дні ў Дрэздэне з нуля кварталы колішняга гістарычнага цэнтру — так званы Новы рынак. І мы ў Менску так зробім. Нават калі для гэтага трэба будзе разабраць некалькі гмахаў, якія стаяць на месцы старых кварталаў.

А пакуль трэба рыхтаваць глебу і ня траціць надзеі. Што я і раблю.

### Расейскія мультфільмы і Менскія бэрнардынскія муры

У канцы траўня сёлета выправіўся я на шпацыр па Верхнім горадзе. Натуральна, зайшоў і ў здадзены напярэдадні чэмпіянату сьвету па хакеі гатэльна-забаўляльны комплекс у былым мужчынскім кляштары бэрнардынаў.

Уражаньне брыдкае. Кіч, невуцтва, непрафэсіяналізм, культурная страта.

Ёсьць у архітэктуры цудоўнае паняцьце — гзымс. Па вялікім рахунку, гэта карніз, але гзымсам можна назваць любую гарызантальную канструкцыйную мяжу паміж рознымі элемэнтамі той самай будыніны.

А ў сучасных расейскіх (і, адпаведна, беларускіх) будаўнікоў ёсьць паняцьце «заподліцо», г. зн. калі нешта не вытыркаецца зь нечага. Дахі прынята падшываць «заподліцо» з карнізам. Так было раней, так ёсьць і цяпер. Дах выступаў над сьценкай роўна настолькі, наколькі зь яе выступаў карніз (гзымс). Схадзіце паглядзіце, як падшыты дах на помніку архітэктуры XVII стагодзьдзя — Менскім кляштары бэрнардынаў — і параўнайце з сытуацыяй на суседнім кляштары бэрнардынак. Там адразу відаць, што гзымс жаночага бэрнардынскага кляштару зроблены калісьці адукаванымі людзьмі, а гзымс мужчынскага — «рэстаўратарамі» з таварыства «Минская спадчина» (здымак №10).

Так помнік архітэктуры барока нібыта накрылі дахам сялянскага гумна. Зрэшты, раней такое ўжо зрабіла РПЦ з бэрнардынскай камяніцай XVII стагодзьдзя (на другім баку вуліцы, ніжэй), якая цяпер уключаная ў комплекс праваслаўнай Акадэміі.

Ну а далей — болей. Гляджу на першую ад вуліцы лапатку бэрнардынскага кляштару з боку рэчкі. Пад карнізам ёсьць нармальны ступень-

чаты (ордэрны) гзымс. На другой — ужо толькі яго палова. На наступнай — няма наогул. Нібы нейкі п’яны дзядзька, махаючы кельмай, зьбіў непатрэбныя грані або замазаў іх тынкам, ня паглядзеўшы, што яго папярэднік учора на адной лапатцы іх пакінуў (здымак №11).

У вонкавым двары кляштара з боку рэчкі — пабудаваныя нейкія дзікія дамы з жоўтай (!) цэглы. Я спачатку быў падумаў, што гэта абліцовачная плітка, якой у 1970-я гады ў Менску абкладалі работніцкія інтэрнаты. Аказалася, гэта навюткая жоўтая цэгла дробнага памеру.

Некалі ў Менску сапраўды будавалі зь мясцовай жаўтаватай цэглы. Яе можна ўбачыць на некаторых фрагмэнтах ацалелых бэрнардынскіх муроў з боку вуліцы Герцана. Але там і колер іншы, і памер, і муравалі той цэглай уперамешку са звычайнай, чырвонай. А тут нешта новае, недарэчнае і безгустоўнае, што цалкам забівае ўсю гістарычную атмасфэру кляштарнага комплексу (здымак №12).

Пасьля гляджу на абкладзеныя шліфаванымі гранітнымі плітамі падмуркі тых жоўтых дамкоў (здымак №13). Хто, дзе і калі ў Менску ці Вільні рабіў такое? А тут у іх яшчэ зрэдку ўмураваныя і вартыя жалю каменьчыкі — відаць, як алюзія на гістарычныя падмуркі з сапраўдных валуноў. Цяжка стрымаць сьлёзы, але трэба, бо наперадзе нас чакаюць яшчэ горшыя канфлікты з гістарычнай рэальнасьцю.

Напрыклад, расейскі праваслаўны крыж на дзьвярах аднаго з будынкаў у двары колішняга каталіцкага кляштару. Гэта, вядома, недарэчна. Але яшчэ болей камічна... Вядома, калі разумееш, што касая перакладзіна ў крыжа няправільная — трэба зьлева ўніз направа, а тут справа ўніз налева (здымак №14). У спалучэньні з кічавымі завесамі, алебардамі і сьметніцай няправільны крыж пакідае вельмі прыкрае ўражаньне. Такія вось «вернікі» працуюць у «Минской спадчине».

Далей бачым брук пад лесьвіцай ганку (здымак №15). Навошта ён там? Ці не зразумела, што ён павінен быць у двары? Не хапае камянёў або задорага, зрабіце брук зьмешаны — часткова плітка, часткова камень, але ва ўсім двары. Усё ж будзе лепш, чым бэтонныя косткі штучнай формы.

А вось акно, форма якога не паддаецца архітэктурнаму вызначэньню. Магчыма, гора-рэстаўратары думалі, што яны робяць сьпічасты праём гатычнага акна, але адкуль тут, у гэтым комплексе, готыка? Дый скляпеньне гатычнага акна мае зусім іншую форму, чым тое ўбоства (здымак №16).

І, нарэшце, падыходжу да брамы, якая закрывае ўваход у двор гандлёвых радоў (так званых «Віленчукоў») ззаду бэрнардынскага касьцёлу (здымак №17). Для мяне яна зьяўляецца кульмінацыяй эстэтычнага краху, які Менск перажывае апошнія 15 гадоў. І справа нават ня ў тым, што такіх завесаў беларускія кавалі не рабілі і такіх «узораў-карункаў» не выраблялі. Кавалі

якраз маглі зрабіць што заўгодна. Іншая рэч — гістарычная праўда. Тут мы сутыкаемся з убогасьцю мысьленьня і ўбогасьцю эстэтыкі. Такіх завесаў на менскіх брамах не было, як не было іх і ў іншых гістарычных гарадах Эўропы. Былі яны значна больш простых і вытрыманых формаў. Завесы рабілі з чорнага мэталу. А тут нейкі «мастак» прыдумаў такі вось ультра-кіч ды яшчэ вырашыў, што завесы раней выраблялiся зь мяккай медзі. А каб яна здавалася старой, ён яе падфарбаваў чорнай і зялёнай фарбамі, пакінуўшы і плямкі новай медзі.

Але галоўнае ў кавальскіх карунках на браме — эстэтыка формаў. Я думаю, што асноўнай эстэтычнай крыніцай для людзей, якія гэтыя завесы замовілі, вырабілі і ўхвалілі, зьяўляюцца... савецкія мультфільмы зь іх царска-баярска-стралецкімі матывамі. Дакладна адтуль паходзяць усе гэтыя казачныя алебарды, вэнзэлі і завіткі. Уявіце сабе: мастакі і рэстаўратары, эстэтычныя алюзіі якіх паходзіць не ад Джота і Палядыё, не ад Бэрнардоні і Гляўбіца, але ад савецкай мультыплікацыі зь яе расейска-кічавымі каранямі.

Савецкія мульцікі цьвёрда заселі ў мазгах нашых людзей, у тым ліку беларускіх дызайнэраў і рэклямшчыкаў. Аднойчы я ўбачыў у Менскім аэрапорце рэклямны плякат, які мяне ў гэтым канчаткова пераканаў (здымак №18).

Зрэшты ў Беларусі ёсьць і іншыя ўзоры. Для прыкладу і параўнаньня я сфатаграфаваў завесы ў замку беларускага мястэчка Любча і ў двух дам-

ках XVII стагодзьдзя ў сталіцы Чэхіі Празе. Яны падобныя стылістычна і гістарычна праўдзівыя (здымкі №19, 20 і 21).

Тое самае можна сказаць і пра шмат якія іншыя гістарычныя аб'екты ў беларускай правінцыі. Вельмі шкада, што не пашанцавала менавіта Менску, дзе інфэрнальная антыкультура раз за разам перамагае культуру сапраўдную. Чужы культурны код засеў у галовах цяперашніх менскіх чыноўнікаў і гора-рэстаўратараў настолькі глыбока, што проста на генэтычным узроўні не дазваляе ім, напрыклад, накрываць дамы старога цэнтру дахоўкай: «Гэта ж Эўропа, Захад каталіцтва, бррр... Гідка!»

## Усё мяняецца. І мае погляды таксама

Дзесяць гадоў таму ў эсэ «Каханы горад»* я пісаў, што не магу знайсьці ў Менску месца, дзе маёй беларускай душы і густу было б утульна: Высокі рынак (Пляц Волі) спляжылі безгустоўнай эклектыкай і зялёнай бляхай, а сталінскія палацы ўздоўж шырачэзнай трасы на Маскву (праспэкт Незалежнасьці), як здавалася тады, выпраменьваюць ідэалёгію пасьляваеннага савецкага здушэньня і занявольваньня Беларусі.

Прайшло дзесяць гадоў. Разбураюцца апошнія ацалелыя старыя дамкі ў гістарычным цэнтры, Нямігу заставілі псэўдагістарычнымі гма-

* Гл.: «Наша Ніва» 18 і 25 сакавіка 2005 году або ў кн. «Настальгія», Мн. 2014

хамі. Менск мяняецца, будуецца. І куды ні паеду, усюды з гарадзкой панарамы вытыркаюцца бэтонныя зубы хмарачосаў. Яны рвуць і рвуць цела гораду, яго прастору, а разам зь імі рвуцца і нашы нэрвы, нашае пачуцьцё прыгажосьці і гармоніі.

Стагодзьдзямі забудову кожнага гораду ў Эўропе і Амэрыцы рэгуляваў сваімі правіламі магістрат, гарадзкая ўлада. Напрыклад, у беларускіх мястах нельга было будаваць сынагогі і мячэці вышэйшыя за хрысьціянскія храмы. Або вось у Вашынгтоне нельга будаваць дамы большыя за дванаццаць паверхаў. Калі нельга, то не будавалі і не будуюць. Справа простая.

А ў сёньняшнім Менску можна ўсё, бо чыста ўсё гарадзкім уладам «красіва». Здавалася, што можа быць прасьцей — выбраць месца для новага сучаснага гарадзкога цэнтру і заставіць яго шклянымі гмахамі, паркінгамі, гатэлямі, рэстаранамі і казыно. Але не. Баль правіць інвэстар, для якога паняцьці культуры і эстэтыкі — пусты гук. Галоўнае, каб было «ў цэнтры» і паболей квадратных мэтраў. У выніку — рваная прастора, неадпаведнасьць маштабаў, формаў, барваў, гвалт над панарамай і пэрспэктывай.

На ўзьбярэжнай Сьвіслачы ў раёне Гандлёвай-Зыбіцкай мелі ўнікальную магчымасьць для рэгенэрацыі некалькіх гістарычных вуліц і кварталаў — ня трэба было нічога зносіць, толькі сьпілаваць дрэвы. Замест гэтага зьнішчылі культурны пласт, арыгінальную пляніроўку, аўтэнтычныя падмуркі старых дамоў і пабудавалі там

псэўдагістарычныя аб'екты камэрцыйнай нерухомасьці, цывілізацыйная прыналежнасьць якіх не паддаецца вызначэньню.

Я праехаўся па сёньняшнім Менску і ўбачыў, што з усяго новага, што цяпер будуецца ў горадзе, больш-менш гарманічнаю зьяўляецца забудова цяперашняга праспэкту Дзяржынскага. Там архітэктарам ідзецца ня толькі пра квадратныя мэтры, але і пра прыгажосьць. Пры тым, што дамагчыся эстэтыкі і гармоніі ў сучасным жыльлёвым будаўніцтве, ня ўпаўшы ў эклектыку, даволі цяжка.

Там жа знаходзіцца і адзін-адзіны новы будынак, які, на маю думку, зьяўляецца і сучасным, і прыгожым. Гэта гатэль «Рэнэсанс», які там нічога не псуе і нічому не замінае. Гатэль, несумненна, зьяўляецца творам мастацтва, у якім мне бачацца ўплывы Нормана Фостэра, а ў канечным выніку — алюзія на тэхніку прускага муру. Брава, менскі архітэктар Аляксандар Івашка! (здымак №22).

Але і на праспэкце Дзяржынскага няма таго, што заўсёды мела клясычная архітэктура — там няма канону.

Шкада, што ўсе мы сёньня ўжо забыліся на простую ісьціну: архітэктура захоўвала вяршэнства ў сыстэме мастацтваў на працягу апошніх трох тысяч гадоў. Я добра разумею, што Марка Вітрувія і яго «Дзесяць кніг аб архітэктуры» перасталі вывучаць яшчэ ў канцы XIX стагодзьдзя, я добра ўсьведамляю, што для антычнага

і рэнэсанснага антрапамарфізму ў архітэктуры час мінуў, але ўсё часьцей і часьцей хаджу цяпер у аднаўлены сталінскімі архітэктарамі цэнтар Менску, каб пасядзець дзе-небудзь у сквэры на вуліцы Леніна або на Камсамольскай і спакойна палюбавацца клясычнымі архітэктурнымі формамі — усімі гэтымі квадрыгамі, пінаклямі, антаблемэнтамі, мадульёнамі, дэнтыкуламі, тымпанамі, капітэлямі, пілястрамі і калёнамі. А таксама іх гарманічным сугуччам і суладзьдзем.

Усё ж сталінскія архітэктары былі мастакамі. Тыран выстаўляў ім ідэалягічную задачу, а яны яе вырашалі як таленавітыя творцы старой школы. А цяперашнія ладкіны* разам з гарадзкімі чыноўнікамі — усяго толькі інжынэрна-будаўнічая абслуга алігархаў.

*4 жніўня 2014 году.*

* Архітэктар Алег Ладкін — аўтар дому Чыжа побач з Траецкім прадмесьцем.




1. Бэтонны зуб у пойме Сьвіслачы перад цыркам. Сакавік 2013 году.



2. Гандлёвы цэнтар «Замак».



3. Палац Незалежнасьці ў Менску.



4. Крамлёўскі палац зьездаў.



5. Дом народных сходаў на пляцы Цяньаньмэнь у Пэкіне.



6. Дом памяці Старшыні Мао (маўзалей) на пляцы Цяньаньмэнь.



7. Палац прэзыдэнта Грузіі: клясычныя формы і новыя сродкі выкананьня.




8. Гістарычная праўда, справядлівасьць і эстэтыка крычаць і плачуць у гэтым схопленым аб’ектывам фотаапарата кадры.



9. Жыльлёвы комплекс «Трыюмф Астаны» ў сталіцы Казахстану.



10. Тут адразу відаць гзымс жаночага бэрнардынскага кляштару (справа), зроблены калісьці адукаванымі людзьмі, і плён «рэстаўратараў» з таварыства «Минская спадчина» (зьлева).



11. Такія гзымсы лапатак можна цяпер рабіць
у Менску, і вам за гэта нічога ня будзе.



12. Дамы з новай жоўтай цэглы цалкам забіваюць усю гістарычную атмасфэру кляштарнага комплексу.



13. «Алюзія» на гістарычныя падмуркі з сапраўдных валуноў.



14. Падвойны казус. Расейскі праваслаўны (!) крыж у каталіцкім кляштары. Плюс — касая перакладзіна ў крыжа няправільная: трэба зьлева ўніз направа, а тут справа ўніз налева.



15. Гістарычны брук пад лесьвіцай ганку,
а ў двары – не гістарычная плітка.



16. Акно, форма якога не паддаецца архітэктурнаму вызначэньню.



17. Кічавая брама мужчынскага бэрнардынскага кляштару.
Рэдка які адукаваны чалавек адыдзе адсюль бязь сьлёз.




18. Савецкія мультфільмы цьвёрда заселі ў галовах нашых людзей, у тым ліку беларускіх дызайнэраў і рэклямшчыкаў.



19. Завесы ў адной зь вежаў Любчанскага замку.



20. Завеса на браме дому XVII стагодзьдзя ў Празе.



21. Завесы на браме дому XVI–XVII стагодзьдзяў у Празе.




22. Гатэль «Рэнэсанс» у Менску.

## Як Уладзімер Арлоў не апраўдаў маіх спадзяваньняў

Калі ў 1986 годзе выйшла першая кніга прозы Ўладзімера Арлова «Добры дзень, мая шыпшына», у мяне адлягло на душы.

Два гады пасьля сьмерці Ўладзімера Караткевіча, на магіле якога мы тады часам зьбіраліся, у душы захоўвалася пачуцьцё нейкай сіроцасьці — адышоў чалавек, які навучыў любіць Беларусь цэлае маё пакаленьне. І тут раптам зьяўляецца кніга Арлова, і мне робіцца ясна, што зьявіўся Караткевічаў наступнік — ужо ў першых творах той самы стыль, тая самая сіла пачуцьцяў, той самы настрой, тая самая тэматыка. Я стаў чакаць новых мастацкіх твораў, большых, аб'ёмнейшых — аповесьцяў, раманаў, дылёгіяў і трылёгіяў, якія б далей адкрывалі для нас сьвет беларускай даўніны і давалі б новых герояў, такіх, як Загорскі...

Але ўсё аказалася інакш. Час быў ня той. Эпоха вымагала іншага, і душа Арлова адгукнулася на гэты выклік: ён стаў ня толькі пісьменьнікам, але і асьветнікам.

На маю думку, гэта выключная ахвяра пісьменьніка сваёй Бацькаўшчыне — адмовіцца быць «чыстым мастаком», адмовіцца ад ціхай асалоды сядзець за пісьмовым сталом, нараджаць сваіх герояў, выбудоўваць іх лёсы, характары і цешыцца пасьля з выдадзеных кніг. На адмову ад гэтага, на жаль, здольныя толькі адзінкі — гэта людзі з выключным пачуцьцём адказнасьці. Адказнасьці перад краінай, гісторыяй і сваімі людзьмі. Большасьць творцаў, звычайна, адказныя толькі за сябе — толькі сваім лёсам у літаратуры яны заклапочаныя, толькі пра сваю ролю ў ёй дбаюць, толькі пра ганарары і прэміі рупяцца і г. д.

Магчыма, так і трэба. Яшчэ ў 1909 годзе ў Расеі, часткай якой была тады Беларусь, выйшаў славуты зборнік «Вехи», дзе тагачасныя найлепшыя інтэлектуалы расейскага Срэбранага веку разважалі пра лёс краіны і народу. Дык вось адзін з аўтараў таго зборніка, крытык і філёзаф Міхаіл Гершэнзон, у сваім тэксьце выказаў думку, што кожны расейскі інтэлігент безнадзейна хворы і пакалечаны адказнасьцю за ўсё грамадзтва, за краіну і народ, што сярод інтэлігенцыі лічыцца непрыстойным дбаць толькі пра сябе, быць эгаістам, і гэта пры тым, што самі інтэлігенты спрэс нэўрастэнікі, якія ня могуць добра ўладкаваць свой асабісты лёс. Расейскія інтэлектуалы перажывалі тады час разгубленасьці, пэўнага самаедзтва, што і выявілася ў тэксьце Гершэнзона. У Беларусі цяпер у інтэлектуальным асяродзьдзі сытуацыя падобная, хоць прычыны (калі па-

раўноўваць з расейскай сто гадоў таму) розныя. Тым ня менш, такія думкі, як у Гершэнзона, пачуць можна і ад сёньняшніх беларускіх інтэлектуалаў.

І ўсё ж мне больш даспадобы прыклад стваральнай адказнасьці Ўладзімера Арлова. Ён адчуў выклік часу і адгукнуўся на яго. Таму мы бачылі яго на першых нацыянальна-дэмакратычных мітынгах, таму ён увайшоў у склад першага Сойму БНФ, таму яго выкідалі з працы, і менавіта таму ён узяўся пісаць свае асьветніцкія кнігі, якія вывелі яго ў першы шэраг нацыянальных дзеячоў, зрабілі валадаром думак тысяч беларусаў. Цяпер ужо ён вучыць новыя пакаленьні любіць сваю краіну.

І як ён гэта робіць! Ніякага ўдзелу ў спрэчках і марных дыскусіях з нацыянальнымі адступнікамі. Ніякай палемікі з «рэвізіяністамі» нацыянальнай ідэі і прыхільнікамі «гістарычнай праўды», што заклікаюць адмовіцца ад ВКЛ і ліцьвінства, выступаюць за дзьвюхмоўе, стараюцца пасварыць нацыянальную эліту, раскалоць яе на групкі і «тусоўкі» і г. д. На спрэчкі Арлоў ня траіць энэргіі і часу. Ён проста стварае, піша кнігі. І гэта — яго адказ тым, каго я пералічыў вышэй. А тым часам, зьмест Арлоўскіх кнігаў здольны прымусіць тых людзей схапіцца за сэрца.

Такія кнігі Арлова, як «Таямніцы полацкай гісторыі», «Імёны Свабоды», «Пакуль ляціць страла» і, вядома ж, два тамы ягонай «Краіны Бе-

ларусі» — гэта ня проста кнігі і ня проста творы, і гэта ня толькі вынік энцыкляпэдычнай адукаванасьці аўтара, яго тытанічнай працы і яго творчых высілкаў. Гэта — падзьвіжніцтва. І гэта, паўтаруся, ахвяра роднай краіне. Я б сказаў нават, што Арлоў сёньня — гэта не дзеяч беларускай культуры, але яе зьява. Магчыма, наш народ і яго нацыянальная самасьвядомасьць застануцца толькі таму, што ў канцы XX — пачатку XXI стагодзьдзя жылі такія людзі, як Уладзімер Арлоў. Людзі, якія дбаюць ня толькі пра сябе...

І мастак у Арлове нікуды ня зьнік. Напісаныя цэлыя тамы мастацкіх тэкстаў. Дастаткова згадаць яго выбітныя гістарычныя аповесьці, яго бліскучую падарожную прозу, якая ў кожным слове іскрыцца ірoніяй і талентам, або яго шыкоўныя вершы, унутраныя музыка і рытм якіх зацягваюць вас і зацягваюць у глыбіні аўтарскага пачуцьця і думкі, не даюць спыніцца, і хочацца гушкацца і гушкацца на хвалях белых, на першы погляд, нерыфмаваных ягоных строфаў... Ды, зрэшты, ня мной сказана: кожны сапраўды мастацкі тэкст — гэта паэзія, прозы не існуе. А Арлоў — мастак...

Я вельмі шчасьлівы, што асабіста знаёмы з Уладзем, што маю гонар часам паціснуць ягоную руку або абняць, быць у яго ў гасьцях або прымаць яго ў сябе. Нам ніколі не бывае сумна і заўсёды ёсьць аб чым пагаварыць, у нас тыя самыя тэмы, думкі, мары і алюзіі. Гэта — рэдкая ўдача і рэдкая прывілея.

Спадзяюся, што з-пад пяра Майстра выйдзе яшчэ ня меней кніг, чым выйшла дагэтуль, а можа і болей. І веру, што ў адзін зь яго наступных юбілеяў мы зь ім у кампаніі сяброў яшчэ вып’ем па келіху яго ўлюбёнага «чырвоненькага», а вакол нас будзе Беларусь, дзеля якой мы працуем і пра якую столькі гадоў марым...

*23 жніўня 2013 году.*

# Архімандрыт Раман Пентка

Жалобная вестка прыйшла зь Любліну — там пасьля цяжкай хваробы, на 74-м годзе жыцьця памёр прафэсар лацінскай і грэцкай моваў, манах-марыянін, архімандрыт Раман Пентка.

Быў ён 57 гадоў манахам і 47 гадоў сьвятаром. Быў палякам, але я б яго назваў беларусафілам.

У 50-я гады малады манах Рышард Пентка пазнаёміўся у адным з марыянскіх кляштараў Польшчы з выдатным беларускім уніяцкім сьвятаром, доктарам філязофіі Тамашом Падзявам. Друйскі марыянін айцец Падзява разам зь іншымі марыянамі быў высланы зь Беларусі на місію ў Харбін, пасьля быў выдадзены кітайцамі саветам, сядзеў у лягерох, а ў 50-я гады быў вызвалены і як польскі грамадзянін адпушчаны ў Польшчу. Польскія камуністычныя ўлады не сьпяшаліся адпускаць яго далей на Захад, і ён, перш чым выехаць у Лёндан да беларускіх марыянаў, на чатырнаццаць гадоў затрымаўся ў Польшчы. Вось так у айца Рышарда-Рамана зьявіўся настаўнік, які далучыў яго да бізантыйскай хрысьціянскай традыцыі.

У 1969 годзе айца Рамана прызначылі пробашчам адзінай у Польшчы нэа-уніяцкай парафіі ў вёсцы Кастамлоты непадалёк ад Тэрэспалю. Там да нашых дзён захавалася драўляная ўніяцкая

царква сьвятога Мікіты 1631 году, а ў ёй — падораны ўладарамі Прылукаў (цяпер на беларускім баку Бугу) абраз сьвятога Мікіты таго самага году. Айцец Раман быў там пробашчам да 2007 году, да пачатку сваёй хваробы. Амаль 40 гадоў ён езьдзіў у Люблін на лекцыі і вяртаўся ў Кастамлоты да сваіх сьвятарскіх абавязкаў.

Яго гасьцінны дом заўсёды быў адчынены для беларусаў. Над яго плябаніяй разьвіваўся бел-чырвона-белы сьцяг. І зь Менску, і з Прагі я дасылаў яму беларускія кніжкі. Ён вельмі любіў беларускія народныя песьні і заўсёды прасіў іх засьпяваць. Мне запомнілася, як я аднойчы зь сябрамі ехаў у Люблін на машыне з айцом Раманам. Ён папрасіў засьпяваць нейкую беларускую ваярскую песьню. Мы грымнулі «У гушчарах...», ён падхапіў і так мы і ехалі да Любліна, паўтараючы гэты марш некалькі разоў...

І вось ужо няма з намі вясёлага і шчырага архімандрыта Пенткі... А мне думаецца ў гэтыя дні, як могуць злучацца і перасякацца ў нашай памяці розныя імёны, падзеі, успаміны... Неяк айцец Раман асьвяціў і падараваў мне маленькі драўляны абразок Багародзіцы з Ісусам, які я заўсёды вазіў з сабой у машыне. Калі мне давялося адвозіць у праскую лякарню на апэрацыю Васіля Быкава, я перадаў абразок Васілю Ўладзімеравічу на шчасьце і ўдачу. Абразок той быў з Быкавым і ў праскай клініцы, і ў Бараўлянах. Ён насіў яго з сабой у кішэні. Перад пахаваньнем народнага пісьменьніка Ірына Міхайлаўна Быкава ўклала

той абразок у кішэню быкаўскага пінжака. Зь ім яго і пахавалі...

Са сьмерцю айца Рамана ўскалыхнуліся думкі і ўспаміны. Друйскія марыяне: Абрантовіч, Цікота, Германовіч, Падзява. Іх вучань Пентка. Наш выдатны пісьменьнік і грамадзянін Васіль Быкаў.

Ірвуцца ніці часу...

*30 сакавіка 2011 году.*

## Прафэсар на ровары «Орленок»

Я ня быў сябрам Уладзімера Конана і ня мог ім быць паводле вызначэньня — ён на тры гады старэйшы за майго бацьку. Але мне сёньня вельмі тужліва і маркотна, нешта блізкае, вялікае і роднае адышло...

Быў ён маім старэйшым калегам і кіраўнікам, каля пяці гадоў я працаваў у яго аддзеле гісторыі і тэорыі культуры Скарынаўскага цэнтру. Гэта былі незабыўныя гады цікавай працы, энтузіязму і надзеі на лепшую будучыню для Беларусі. Пад кіраўніцтвам Конана я напісаў некалькі навуковых працаў, у тым ліку і адзін з разьдзелаў у задуманую намі трохтамовую працу «Рэлігійная думка Беларусі», якая, на жаль, так і ня выйшла.

Быў ён, як і мой бацька, з Наваградчыны, і гэтыя зямляцкія карані я заўсёды адчуваў у яго тактоўным і прыязным стаўленьні да мяне. Можа таму так і атрымалася, што нашы дачыненьні, як ні дзіўна, не абмежаваліся толькі працоўнымі дачыненьнямі — бываў я і ў яго дома, і адзін, і са сваёй жонкай.

Цяпер вось думаю і разумею, што ён мне ні разу ні ў чым не адмовіў — ні ў працы, ні ў жыцьці. Заўсёды сумленна рыхтаваўся і браў удзел у маіх радыёперадачах у 90-я гады.

Уражвала яго жытло — аднапакаёвая кватэрка ў менскай Серабранцы, заваленая кнігамі. Тэлевізара ў яго не было — глядзець TV у яго проста не было часу. Ён жыў у бібліятэках і за сваім пісьмовым сталом, дакладней за сваім пісьмовым месцам — гэта было нешта арганізаванае з паліцаў і тумбаў пры вялікай кніжнай шафе ў ягоным пакойчыку. А ў перадпакоі стаяў яшчэ савецкіх часоў ровар для падлеткаў «Орленок». На ім прафэсар зрэдчас і рабіў роварныя прагулкі па беразе Чыжоўскага вадасховішча.

Як успамін па нядрэнным прафэсарскім заробку савецкіх часоў у Конана заставалася слабасьць да добрага каньяку, які пару разоў мы пілі зь ім у яго дома, заядаючы чорным хлебам — больш нічога на закуску не было. Больш блізкія і сталыя яго сябры, напэўна, напішуць некалі і пра гісторыю каханьня Ўладзімера Конана з маскоўскай літаратаркай Лолай Званаровай. Яна не хацела ехаць у Менск, ён ня мог паехаць у Маскву. Так яны шмат гадоў і сустракаліся.

Апошнія гадоў 20 ён жыў зь пісаньня. Я маю на ўвазе ганарары за апублікаваныя артыкулы і кнігі, а таксама адносна невялікую зарплату. А гэта значыць — надзвычай сьціпла. Пісаньне было сэнсам усяго яго жыцьця. Ніякага вольнага часу, ніякіх забаваў — толькі праца, праца, праца, толькі пісаньне і пісаньне. Напісаў і выдаў ён даволі шмат, і спадчына яго, я думаю, будзе вялікаю і значнаю.

Ён быў адным з самых працавітых людзей, якіх я сустракаў у сваім жыцьці. Але што яшчэ больш важна — фанатызм і працагалізм Конана не былі скіраваныя на «ўласную прамоцыю», як гэта апошнім часам дэманструе шмат хто ў Беларусі. Ён фанатычна працаваў менавіта на Беларусь і яе культуру. Думаю, яго можна назваць яшчэ адным не дацэненым вялікім сынам Беларусі. А ў Акадэмію Навук яго так і не абралі... Затое ён умеў цаніць сваіх. Шмат якія імёны былі вернутыя ў беларускую культуру яго намаганьнямі.

У пачатку 2005 году ў Менску адбывалася прэзэнтацыя маёй кнігі «EGOізмы», на якую я, каюся, забыўся паклікаць прафэсара Конана. Але ён прыйшоў сам і яшчэ да пачатку прэзэнтацыі сьціпла паклаў на журнальны столік на сцэне, дзе я меўся сядзець, дзьве свае новыя кнігі з дарчымі надпісамі.

А вось ён пра мяне не забываўся, часам, нават, ствараючы няёмкія сытуацыі. Гады тры назад у Менску ішла прэзэнтацыя дзьвюх новых кнігаў Алеся Разанава. Выступалі прамоўцы. Дайшла чарга да Конана. Ён устаў са свайго месца ў залі, зьвярнуўся да прэзыдыюму на сцэне, дзе сядзелі Алесь Разанаў, мастак Маркавец і яшчэ нехта, і сказаў: «Добры дзень, Алесь». Пасьля павярнуўся да мяне ў залі і сказаў: «Добры дзень, Сяргей». І пачаў прамову... Дзякуй, Уладзімер Міхайлавіч за ўсё.

У прафэсара Конана было гучнае імя, у простым і пераносным сэнсах. Як навуковец і крытык ён сабе яго такім зрабіў літаральна. А ў пераносным сэнсе прозьвішча Конан таксама зьмяшчае ў сабе нешта магутнае, моцнае і нават вусьцішнае — кон, наканаваньне...

Адно з найлепшых наканаваньняў беларускай культуры XX стагодзьдзя...

*6 чэрвеня 2011 году.*

# Паляк, які стаўся беларусам

Як кожны чалавек, якому баліць лёс Беларусі, я часам сумняваюся ў нашай пасьпяховай будучыні. Разумею, што не без падставаў Васіль Быкаў сказаў некалі, што беларусы спазьніліся на свой цягнік. Вялікі пісьменьнік, вядома ж, меў на ўвазе цягнік гісторыі... Але ў іншыя хвіліны, хвіліны надзеі, калі я аптымістычна гляджу ў будучыню нашага народу, я заўсёды ўспамінаю кардынала Сьвёнтка. І вось чаму.

Цяпер шмат хто мяркуе, што пры Аляксандру Лукашэнку русыфікацыя і дэнацыяналізацыя Беларусі набылі нечуваныя маштабы. Праўда, аднак, заключаецца ў тым, што дэнацыяналізацыя Беларусі была такой самай амаль усё XX стагодзьдзе. Беларусь страціла мільёны сваіх сыноў і дачок ня толькі на франтах войнаў і ня толькі падчас страшэнных камуністычных рэпрэсіяў — іншыя мільёны беларусаў спакойна зьехалі ў Расею і Польшчу і шчасьліва забыліся, хто яны і адкуль. Вырасшы на менскай ускраіне, я памятаю, як у 70-я гады гарадзкая моладзь пагардліва ставіліся да вяскоўцаў за іх беларускае вымаўленьне, як называла іх «крестами» і як люта, з гранічнай жорсткасьцю і нянавісьцю зьбівала да непрытомнасьці нядаўніх вяскоўцаў-жыхароў ускраінных заводзкіх інтэрнатаў, нападаючы на

іх цэлымі зграямі. Памятаю і свой шок, калі аднойчы на набярэжнай Сьвіслачы ў 1981 ці 1982 годзе сустрэў двух інтэлігентнага выгляду, добра апранутых мужчынаў з партфэлямі, якія ішлі і размаўлялі паміж сабой па-беларуску... Тая сустрэча, дарэчы, перадвызначыла і мой хуткі пераход на беларускую мову.

А цяпер сытуацыя ўжо зусім іншая, сёньня ў мяне ўжо ёсьць надзея. І дае мне яе, сярод іншага... Каталіцкая царква, якую ўжо з поўным правам можна назваць Беларускай Каталіцкай царквой. І вырашальнаю ролю ў тым, каб царква стала такой, адыграў кардынал Казімір Сьвёнтак.

Зразумела, што ў савецкія часы быў герой-падзьвіжнік ксёндз Уладыслаў Чарняўскі, які адзін працаваў як акадэмічны інстытут, пераклаўшы Біблію ды Імшал, у 80–90-я гады быў шырокі рух сярод каталіцкай інтэлігенцыі, была Беларуская Каталіцкая грамада, адроджаны часопіс «Крыніца», а таксама выдатны нунцый Ватыкану ў Менску Агастына Маркета, які зразумеў патрэбы беларусаў і ўсяляк спрыяў ім. Быў нарэшце і шырокі ўніяцкі рух, які, як дрожджы, стымуляваў усіх сваіх канкурэнтаў. Але на чале Каталіцкай царквы з 1991 да 2006 году стаяў арцыбіскуп, а пасьля кардынал Казімір Сьвёнтак. І вось ад яго, чалавека, які карыстаўся велізарным уплывам у Польшчы і Ватыкане (дзе пры папу-паляку польскі ўплыў быў ці не абсалютны), залежала, якой стане Каталіцкая царква. І Сьвёнтак, ме-

навіта ён, мог сказаць «не» — і нічога б не было, як гэтага няма дасюль у Праваслаўнай царкве, бо тамтэйшы герарх сказаў і далей кажа беларушчыне сваё «не». А вось Сьвёнтак (наступіўшы на сваё нацыянальнае пачуцьцё, якое, бясспрэчна, меў) сказаў «так».

Пры Сьвёнтку выйшаў па-беларуску каталіцкі Імшал, беларуская мова стала афіцыйнай мовай справаводзтва Каталіцкай царквы, па-беларуску пачала працаваць сэмінарыя ў Пінску, пачалі выдавацца малітоўнікі, катэхізмы і часопісы і ў сотнях касьцёлаў па ўсёй краіне пачалі служыцца беларускія набажэнствы. За гэта ўсё ў пэўных колах Польшчы кардынал Сьвёнтак ня толькі сустрэў неразуменьне, але і пачуў на свой адрас праклёны за здраду польскіх інтарэсаў на крэсах.

Быў ён аднак не зусім крэсавякам, бо нарадзіўся ў Прыбалтыцы. Таму і не вызначаўся асаблівай зацятасьцю, якую часта маюць не палякі з цэнтральнай Польшчы, а якраз палякі крэсовыя.

Кардынал часта расказваў, як расейскі афіцэр, які выдаваў яму даведку аб вызваленьні, паглядзеўшы асабістую справу вязьня, быў уражаны, што той доўгія гады правёў у Інце — у лягеры за палярным кругам, у тундры. Звычайна адтуль ніхто не вяртаўся, а Сьвёнтак выжыў, бо, відаць, Божым плянам яму было наканавана выканаць яшчэ адну важную місію — узначаліць адраджэньне Каталіцкай царквы ў Беларусі і зрабіць яе беларускай. За 10 гадоў у сталінскіх лягерах ён

бачыў там шмат людзей, якія сядзелі за любоў да сваіх Айчынаў — да Літвы, да Латвіі, да Ўкраіны, да Польшчы і да Беларусі таксама. І пра гэта ён памятаў усё сваё жыцьцё.

Ніколі не забуду, як 13 гадоў назад у мяне варушыліся валасы на галаве ад усьведамленьня гістарычнай значнасьці падзеі і ўсьведамленьня незваротнасьці працэсу. Было гэта, калі кардынал Сьвёнтак прывёз у Рым першую вялікую групу паломнікаў зь Беларусі, некалькі сотняў чалавек на дзясятку аўтобусаў. Запіс прывітальнага слова кардынала на сустрэчы з папам Янам Паўлам II і слова пантыфіка ў адказ немагчыма было слухаць спакойна. Два палякі, папа і кардынал, гаварылі на беларускай мове... Гэта была кульмінацыя — завяршэньне высілкаў сотняў рыма-каталіцкіх і грэка-каталіцкіх беларускіх падзьвіжнікаў XX стагодзьдзя, многія зь якіх пайшлі на пакуты і склалі галовы за ажыцьцяўленьне гэтай сваёй мары.

Неяк расейская газэта «Известия» зьмясьціла рэпартаж свайго карэспандэнта зь Менску, які разважаў пра тое, ці сапраўды беларусы браты расейцам, ці сапраўды яны рускія. І вось карэспандэнт той «біў у набат», маўляў, зайдзіце ў Чырвоны касьцёл у цэнтры беларускай сталіцы — гэта ж сапраўдны нацыяналістычны канвээр, восем беларускамоўных набажэнстваў кожны дзень, тысячы людзей на кожнай службе, сотні спавядаюцца, і ўсё моладзь, моладзь і моладзь...

І вось я часта думаю, што калі Беларусі наканавана некалі адрадзіцца пасьля сёньняшняй нацыянальнай пустэчы, дык натуральнай базай для будучай беларусізацыі ўсёй краіны стануць тыя сотні тысяч (а можа і пара мільёнаў) católікаў, якія сёньня кожны дзень моляцца па-беларуску.

Сьвёнтак мог застацца добрым палякам і дапільнаваць інтарэсы Польшчы на крэсах, але ці застаўся б ён добрым каталікам у гэтым выпадку? Ён выбраў веру і пайшоў усьлед за сваім вялікім папярэднікам — апосталам Паўлам, які казаў, што для габрэяў ён габрэй, а для грэкаў — грэк.

Сьвёнтак для беларусаў стаўся беларусам.

*27 ліпеня 2011 году.*

# Калі ў Менску паставяць помнік Сержуку Вітушку

Стужкі навінаў раз за разам прыносяць чарговыя тэорыі навукоўцаў пра час. Раней пісалі што ён паскараецца, а цяпер пачалі сьцьвярджаць, што запавольваецца і некалі наогул спыніцца. Я думаю, што ўсё ж паскараецца, прычым няўмольна, для кожнага з нас, асабліва ў другой палове жыцьця. Паскараецца і забірае людзей аднаго за адным, аднаго за адным.

Цяпер вось Хронас узяўся і за пакаленьне адраджэнцаў 80-х. Няма ўжо Анатоля Сыса, Тані Сапач (Дубавец), Арыны Вячоркі. Пайшоў у бясчасьсе і Сяржук Вітушка.

У верасьні 1984 году на гістфаку БДУ зьявіўся бялявы хлопец з блакітнымі вачыма і адкрытым прыязным тварам. Я ў той год чамусьці ня быў пасланы на бульбу, а мыў вокны ў аўдыторыях і вэстыбюлі. І дагэтуль памятаю сваё радаснае зьдзіўленьне, нават шок, калі пачуў, што нехта за сьпінаю гучна і са смакам на ўвесь калідор размаўляе па-беларуску. Я, натуральна, кінуў свой занятак і пайшоў знаёміцца — у нас на гістфаку ўжо быў беларускамоўны гурток.

Гэтым новым студэнтам быў Сяржук Вітушка. Тады якраз арганізоўвалася «Талака», адбываліся

першыя паседжаньні, Сяржук стаў яе старшынём, і, дзякуючы яму, туды неўзабаве трапіў і я.

Цяпер часам спрачаюцца пра ролю ў апошнім адраджэньні той або іншай арганізацыі. Хтосьці кажа пра акадэмічны асяродак канца 60-х-пачатку 70-х, хтосьці пра мастакоўскі «Паддашак», хтосьці пра «Майстроўню» ці «Талаку», а нехта наогул усё пачынае з БНФ і яго фракцыі ў Вярхоўным Савеце XII-га скліканьня. Таксама часам даводзіцца чуць, што ў 80-я гады не было беларускай моладзі, што ўсё навокал было расейскае, і што сапраўды адданая нацыянальная моладзь зьявілася толькі цяпер. Гэта, канечне, усё няпраўда. Менавіта з моладзевага руху 80-х гадоў вырас БНФ, які і прывёў краіну да новай хвалі адраджэньня ў канцы 80-х пачатку 90-х гадоў. Калі ў 1987 годзе пад Ракавам мы праводзілі першы Вальны Сойм беларускіх моладзевых суполак, дык туды зьехаліся дэлегаты ад дваццаці або трыццаці беларускіх моладзевых клюбаў з усёй Беларусі, а ў другім Вальным Сойме ў Вільні праз паўтара года ўдзельнічалі ўжо прадстаўнікі ад 60 ці 70 суполак. Калі 19 кастрычніка 1988 году быў створаны аргкамітэт БНФ, дык назаўтра тысячы гэтых маладых людзей стварылі ў сваіх калектывах групы падтрымкі фронту.

І адным зь нязьменных лідэраў усяго гэтага грамадзкага працэсу быў Сяржук Вітушка. Ён — адзін з тых, дзякуючы каму сёньня на мапе сьвету ёсьць незалежная Беларусь. Я разумею, што для гэтага працавалі, ішлі ў турмы і гінулі многія па-

каленьні беларусаў. Але ў 80-я гады XX стагодзьдзя — адным зь лідэраў беларушчыны быў ён.

Я мог бы прыгадаць шмат чаго асабістага ў нашых дачыненьнях і некалі гэта абавязкова зраблю. Цяпер проста хочацца даць пару штрыхоў да гэтай выбітнай постаці нашай гісторыі XX стагодзьдзя.

Усе, хто памятае яго па талакоўскіх вандроўках, «талоках» ці паседжаньнях, ведаюць, наколькі гэта быў сумленны і адданы Беларусі чалавек. Ён любіў Беларусь аддана і далюбіў яе да канца, нічога не беручы і ня просячы ўзамен. У 2010 годзе, адказваючы на пытаньне анкеты «Свабоды», кім з сучасьнікаў вы захапляецеся, ён адказаў: «Усімі, хто арэ на ніве беларушчыны». Гэта вельмі незвычайна, бо з узростам людзі пачынаюць ня толькі даваць, але і браць нешта для сябе, а некаторыя дык і наогул патрапляюць толькі браць. Вітушка аддаваў.

Ад самага моманту нашага знаёмства я зьдзіўляўся і другой Вітушкавай якасьці — бязьмежнай дабрыні. У сваім стаўленьні да людзей вакол сябе ён быў абсалютным хрысьціянінам яшчэ тады, калі нічога ня ведаў пра Хрыста.

І яшчэ мне цяпер думаецца пра яго мужнасьць. Быў ён мужны заўсёды. Напрыклад, на Дзяды 1987 году, калі мы разам стаялі з кветкамі ля помніка Янку Купалу на першым антысавецкім мітынгу ў гісторыі савецкай Беларусі, а парк Янкі Купалы быў увесь аточаны чорным «Волгамі» КДБ і мы ня ведалі, ці застанемся студэн-

тамі і куды пасьля мітынгу трапім — дадому ці на вуліцу Камсамольскую... Быў ён мужны і тады, калі мы зьбіралі ў другой палове 80-х у шматкватэрных дамах на менскіх ускраінах подпісы за адкрыцьцё беларускамоўных садкоў і клясаў. Некаторыя плявалі ў твар, некаторыя кідаліся біцца, а ён усё роўна не пераходзіў на расейскую і спрабаваў пераканаць і подпіс той здабыць... Быў ён мужны і ў змаганьні са сваімі хваробамі, якія яго мучылі і зьвялі нарэшце ў магілу. Гісторыя яго мужнага змаганьня са сваімі нягодамі — гэта наогул прыклад усім нам.

Я цяпер думаю, чаму менавіта яму, аднаму з найлепшых сыноў Беларусі, былі пасланыя такія выпрабаваньні і пакуты? У 80-я гады ён яшчэ даваў рады сваёй цукроўцы, сам сабе робячы ўколы і падчас паседжаньняў, і падчас вандровак, раскопак і г. д. Калі ж у 90-я гады цяжка захварэла яго ўлюбёная дачушка, ён увесь аддаўся яе выратаваньню і якраз тады страціў кантроль над сваёй хваробай. Тады яна і пачала яго ў нас забіраць...

Я часам званіў яму ў Вільню, адзін раз прыяжджаў і жыў у яго два тыдні... Калі ён асьлеп, тэлефонныя размовы сталі для яго практычна адзінай камунікацыяй са сьветам. А я, працуючы і пераадольваючы свае праблемы, званіць часьцей ня стаў. Цяпер ужо і прабачэньня не папросіш...

Я перакананы, што некалі нашчадкі назавуць адну з вуліц менскай Курасоўшчыны, дзе жыў

Сяржук Вітушка, яго імем. Я таксама ўпэўнены, што нашчадкі пастав'яць у Менску і помнік Сержуку.

А можа гэта яшчэ пасьпеем зрабіць і мы...

*2 ліпеня 2012 году.*

## Мальдзісава адказнасьць

Спадзяюся, што кнігі прафэсара Мальдзіса яшчэ дачакаюцца і перавыданьняў, і ўдзячных чытачоў зь ліку маладых пакаленьняў беларусаў. Напісаў ён іх шмат — навуковых і папулярных, выдатных і цікавых, вялікіх і малых. Яго даробак — значная частка падмурка сучаснай беларускай культуры. І гэта застанецца назаўсёды. Могуць быць розныя думкі пра тое, якая з кнігаў прафэсара найбольш каштоўная і вартая. Я асабіста лічу найлепшымі ягонымі працамі дзьве. Гэта манаграфія «На скрыжаваньні славянскіх традыцый» (1980), дзе Мальдзіс даў клясыфікацыю стыляў для Беларусі, і «Беларусь у люстэрку мэмуарнай літаратуры XVIII ст.» (1982), дзе прафэсар даў нам магчымасьць даткнуцца да побытавага жыцьця беларускай арыстакратыі часоў барока і клясыцызму.

Але ў дзень юбілею навукоўца мне хочацца сказаць болей не пра ягоны плён, але пра ягоную асобу і ягонае падзьвіжніцтва. Некалі ён запрасіў мяне на працу ў Акадэмію навук, пяць гадоў я працаваў пад яго кіраўніцтвам у Скарынаўскім цэнтры — думаю, гэта дае мне права сказаць слова да ягонага юбілею.

Прафэсар Адам Мальдзіс належыць да амаль зьніклага ў нашы часы тыпу навукоўца-падзьвіж-

ніка, навукоўца-патрыёта. Адну зь яго асабістых якасьцяў хочацца вылучыць тут асабліва.

У юбілей прафэсара мне думаецца пра яго бескарысьлівую адданасьць нацыянальнай навуцы і культуры. Якраз гэта, а не ўласнае самасьцьвярджэньне, не пасады і званьні былі і застаюцца матывам яго плённай навуковай дзейнасьці, усіх ягоных адкрыцьцяў і дасягненьняў.

Матыў і рухавік усяго гэтага — Мальдзісава адказнасьць. І раней, і цяпер вакол нас шмат людзей, у тым ліку і дзеячоў культуры, навукі і журналістыкі, матывам дзейнасьці якіх застаюцца яны самі, іх уласнае «я» і любоў да гэтага «я». У Мальдзіса ж галоўнае — адказнасьць. Адказнасьць за Бацькаўшчыну, за родную культуру, за свой народ. Гэта яна, адказнасьць, клікала яго ў шматлікія падарожжы па сьвеце ў пошуках сьлядоў і артэфактаў беларускай культуры, гэта яна прымушала яго пісаць свае выдатныя кнігі, гэта яна прымушала яго папулярызаваць веду пра Беларусь. І тая ж адказнасьць паклікала прафэсара да арганізацыйнай справы ў навуцы, калі ён стварыў Скарынаўскі цэнтар, калі арганізоўваў Асацыяцыю беларусістаў, выданьне яе альманаху, калі ўзначальваў камісію «Вяртаньне» ў Фондзе культуры і дбаў пра вяртаньне на бацькаўшчыну спрэс пакрадзеных у нас помнікаў культуры; калі арганізоўваў энцыкляпэдычныя і іншыя калектыўныя выданьні і дасьледаваньні.

Якраз гэтай адказнасьці, на жаль, так мала цяпер вакол нас, цяпер чамусьці усё болей адказных

за сябе... Гэта, відаць, вынік распаду культурнай беларускай прасторы.

Мальдзісава ж адказнасьць, якая, на маю думку, зьяўляецца прыкметай высокай, элітнай інтэлігентнасьці, абранасьці, прымушала прафэсара заўсёды падтрымліваць маладыя кадры і радавацца за іх даробак. Як кіраўнік ён мог «піярыць» і «прасоўваць» свайго супрацоўніка (і рабіў гэта) толькі ў адным выпадку — калі бачыў, што працы таго калегі нясуць карысьць беларускай навуцы і культуры. І ніякіх іншых, у тым ліку асабістых, матываў, і ніякай зайздрасьці. Ня раз я бачыў яго шчасьлівыя вочы, калі нехта з маладых прыносіў яму сваю працу — калі тэкст быў варты, прафэсар радаваўся і за аўтара, і за родную культуру, якая атрымала яшчэ адзін варты тэкст і яшчэ аднаго плённага аўтара. Цяжка ўявіць, што прафэсар Мальдзіс мог бы скарыстацца чыімсьці даробкам у сваіх асабістых мэтах...

Ну а калі вярнуцца да прафэсарскага навуковага і культурнага даробку, дык у ягоны юбілей варта сказаць адно. Гэта сапраўдны сорам беларускай Акадэміі навук — ня мець сваім членам такога навукоўца і такога падзьвіжніка роднай культуры.

*7 жніўня 2012 году.*

# Як Юры Хадыка выклікаў рэпрэсіі на гістфаку БДУ

Увосень 1984 году некалькі студэнтаў гістарычнага факультэту БДУ вырашылі стварыць Гурток гісторыі Беларусі. Было нас пяць-шэсьць чалавек, у тым ліку дзьве дзяўчыны.

Гурток быў беларускамоўны. На першых пасяджэньнях мы плянавалі будучую дзейнасьць і абмяркоўвалі тэмы дасьледаваньняў. Сярод іншага, было вырашана запрасіць для гадавога курсу лекцыяў пра гісторыю беларускага мастацтва Юрыя Хадыку. На той час прафэсар фізыкі Хадыка быў ужо шырока вядомы ў Менску актывіст акадэмічнага кола, якое двойчы сабрала экспазыцыю Музэю старажытнабеларускай культуры Акадэміі Навук.

Была атрыманая згода дэканату, з прафэсарам быў узгоднены графік яго лекцыяў, і вось нарэшце надышоў час першага выкладу. У адной з аўдыторыяў галоўнага корпусу БДУ сабраліся гуртკоўцы і... усё кіраўніцтва факультэту — дэкан, яе намесьнікі, парторг і некаторыя загадчыкі катэдраў. Кіраўніцтва было болей, чым самых гурткоўцаў.

Юры Хадыка прачытаў адну са сваіх выдатных лекцыяў, якую назваў «Уводзінамі ў вывучэньне беларускага царкоўнага жывапісу». Паўтары гадзіны мы слухалі ціхі аповед усьмешлі-

вага прафэсара, глядзелі слайды з абразамі, задавалі пытаньні. Кіраўніцтва гістфаку пытаньняў не задавала і пасьля паседжаньня зьнікла моўчкі. Наступная лекцыя мелася адбыцца праз два тыдні.

Адразу пасьля першай лекцыі мы правялі сход і вырашылі тэрмінова выдаць насьценгазэту. Праца ішла цэлы вечар і ноч. Назаўтра на дошцы аб'яваў гістфаку зьявіўся першы нумар насьценгазэты, якую мы патэтычна назвалі «Зямля пад белымі крыламі». Цэнтральнай публікацыяй нумару быў мой вялікі рукапісны артыкул пра лекцыю Юрыя Хадыкі. Я пераказваў зьмест прафэсарскага аповеду, а мова ў ім ішла пра... уніяцкія абразы, уніяцкую архітэктуру і наогул пра уніяцкую царкву і яе мастацтва.

Газэта правісела палову дня. Назаўтра раніцай, прыйшоўшы на заняткі, мы знайшлі толькі яе абрыўкі, што засталіся пад кнопкамі на дошцы з раскладам. У той самы дзень нас выклікалі ў дэканат і паведамілі, што гурток распушчаны, пасяджэньняў больш ня будзе, і лекцыяў прафэсара Хадыкі таксама...

Дзейнасьць гуртка мы змаглі аднавіць толькі праз год, але гэта ўжо зусім іншая гісторыя.

Гэты кароткі ўспамін мне тут спатрэбіўся для таго, каб праілюстраваць шматбаковую падзьвіжніцкую дзейнасьць Юрыя Хадыкі на ніве беларушчыны. Тут пра ўсё і не раскажаш. Трэба было б падрабязна пісаць пра шматлікія экспэдыцыі па Беларусі і пошукі прадметаў старога бела-

рускага мастацтва, пра ўратаваньне надмагільля Сапегаў з Гальшанаў, пра барацьбу за заснаваньне Музэю Старажытнабеларускай культуры, пра паездкі ў Маскву з мэтай вяртаньня ў Беларусь старых беларускіх абразоў, калі маскоўскія калегі выключалі сьвятло ў сховішчах, а беларусы былі вымушаныя навобмацак шукаць рэльефнае тло нашых старых іконаў... Пра шматлікія лекцыі ўсюды, дзе толькі можна, з мэтай прапаганды беларускай культуры. Прафэсар-фізык, фактычна, стаў яшчэ і прафэсійным мастацтвазнаўцам.

Я вельмі блізка супрацоўнічаў з прафэсарам Хадыкам, калі пяць гадоў (з 1990 па 1995) стараўся неяк замацаваць легальны статус Уніяцкай царквы ў Беларусі. Практычна на ўсе афіцыйныя паседжаньні і сустрэчы ва ўладных кабінэтах я прасіў пайсьці са мной Юрыя Хадыку, руплівага верніка менскай грэка-каталіцкай парафіі Сьвятога Язэпа ад першага дня яе існаваньня. Яго прыязная ўсьмешлівасьць і адначасова цьвёрдая настойлівасьць часта вырашалі справу на нашу карысьць.

А былі ж яшчэ і 19 гадоў у кіраўніцтве Беларускага Народнага Фронту, першае палітзьняволеньне і першая месячная палітычная галадоўка ў лёхах Валадаркі... Больш пра ўсё гэта, спадзяюся, напіша некалі ён сам. Спадзяюся таксама, што неўзабаве мы зможам прачытаць і «Гісторыю беларускага мастацтва» аўтарства Юрыя Хадыкі.

Талент дыплямата і палітыка, здольнага да плённага дыялёгу і кампрамісу пры адначасовым

захаваньні асноўнай мэты рабілі прафэсара Хадыку вельмі небясьпечным для кіруючага ў Беларусі ў першай палове 1990-х гадоў прамаскоўскага рэжыму прэм'ер-міністра Вячаслава Кебіча. Таму ўлады і не дапусьцілі абраньня Юрыя Хадыкі ў Вярхоўны Савет пры дапамозе маніпуляцый са сьпісамі выбаршчыкаў, дадаўшы туды некалькі дзясяткаў памерлых людзей. Магчыма, гісторыя Беларусі магла б скласьціся інакш, каб гэты ўсьмешлівы прафэсар стаў адным з кіраўнікоў парлямэнцкай апазыцыі БНФ у Вярхоўным Савеце XII скліканьня.

*23 чэрвеня 2013 году.*

# Працаваць з надзеяй у безнадзейны час

Калі адыходзіць чалавек, зь якім ты быў блізка знаёмы, першае, што прыходзіць у галаву, гэта шкадаваньне: ці пасьпеў ты зь ім разьвітацца, ці сказаў усё тое, што меўся сказаць, ці не пакрыўдзіў неяк.

А пасьля зьяўляецца жаданьне вызначыць месца, якое спачылы займаў у тваім асабістым жыцьці і жыцьці краіны. Хочацца як бы паставіць яго ў кантэкст уласнага і грамадзкага жыцьця.

Я ўжо пісаў пра айца Аляксандра, віншуючы яго з 75-годзьдзем. З таго часу прайшло амаль паўтара дзесяцігодзьдзя, таму сёньня побач з новымі, магчыма, паўтару і некаторыя былыя свае думкі і высновы.

Айцец Аляксандар Надсан, хоць сам і ня быў марыянінам, фактычна, зьяўляўся апошнім прадстаўніком магутнай ва ўсіх адносінах групы беларускіх грэка-каталіцкіх сьвятароў-марыянаў: архімандрыта Лява Гарошкі, айца Язэпа Германовіча (Вінцука Адважнага), айца Тамаша Падзявы, біскупа Часлава Сіповіча ды іншых, рэлігійны і культурны даробак якіх яшчэ дачакае сваёй належнай ацэнкі. Скончыўшы матэматычны факультэт Лёнданскага ўнівэрсытэту ў 1953 годзе, ён вырашыў стаць сьвятаром і

прыйшоў у беларускую ўсходнекаталіцкую місію ў Лёндане, якую заснаваў выхаванец Друйскага кляштару, манах-марыянін Часлаў Сіповіч, будучы ўніяцкі біскуп і генэрал Ордэну марыянаў. Айцец Надсан у Ордэн так і не ўступіў, але пасьля сьмерці біскупа Сіповіча ў 1981 годзе фактычна адзін працягваў справу марыянаў. Быў дырэктарам Бібліятэкі імя Францішка Скарыны і кіраўніком беларускай каталіцкай місіі.

На момант першага прыезду айца Аляксандра ў Беларусь у сакавіку 1990 году ў Менску ўжо паўгода існавала група уніяцкай моладзі, і ён быў моцна ўражаны, калі пасьля сустрэчы на вакзале ў 4:00 раніцы ён падышоў да мяне ля рэцэпцыі гатэлю і спытаў, хто я такі. «Я — уніят. Нас тут некалькі, і мы хацелі б пагаварыць з Вамі», — прыблізна так адказаў я тады і ўбачыў сьлёзы ў ягоных вачах. Думаю, што калі праз пару дзён мы паказалі яму макет першага набранага нумару часопісу «Унія», айцец Аляксандар адчуў, што недарэмна працаваў дзясяткі гадоў па-за межамі Бацькаўшчыны.

У Беларусі мала каму ведамы чыста царкоўны бок дзейнасьці айца Аляксандра за мяжой. У 1980-90-я гады ён быў галоўным абаронцам нацыянальна-рэлігійных правоў беларусаў. Шмат разоў ён стукаўся ва ўсе дзьверы Апостальскай Сталіцы, напісаў безьліч зваротаў, рапартаў і заяваў, нажыў там рэпутацыю нязручнага чалавека і нацыяналіста. Калі яму закідалі гэта ватыканскія «інтэрнацыялісты», якіх у Рыме таксама ха-

пае і за чыім «інтэрнацыялізмам» звычайна хаваецца чужы і варожы Беларусі нацыяналізм, айцец Аляксандар нязьменна адказваў сваім любімым выслоўем: «Я спачатку нарадзіўся, а пасьля пахрысьціўся». Добра разумеючы плённасьць і неабходнасьць кампрамісу ды гнуткасьці, цяпер я часам думаю і пра парадаксальны плён нязломнасьці. Менавіта цьвёрдасьць і пасьлядоўнасьць робіць чалавека сымбалічнай постацьцю. Сымбалічная постаць можа памыляцца, мець свае неправоты і слабасьці, яе спрабуюць выкарыстаць (і выкарыстоўваюць) нядобрасумленныя асобы, але памятаць яе будуць не за памылкі. Вось і мы будзем памятаць айца Аляксандра Надсана не за ягоныя памылкі, якія, як і ў кожнага з нас, несумненна, былі, але за ягоныя дасягненьні, за яго велізарны даробак, за сьвятарскую дабрыню і чысьціню ў вачах, а таксама за цьвёрдасьць і пасьлядоўнасьць у адстойваньні нацыянальнай годнасьці беларусаў.

Калі я думаю пра айца Аляксандра, я заўсёды ўспамінаю некалькі эпізодаў з нашых асабістых дачыненьняў, якія могуць цяпер прадстаўляць і грамадзкі інтарэс. Аднойчы ў пачатку 1990-х гадоў мы гулялі зь ім у наваколльях Кальварыйскіх могілак і вуліц Апанскага і Альшэўскага. Гаворка ішла пра патрэбу прызначэньня ўніяцкага біскупа ў Беларусь. Я схіляў айца Аляксандра згадзіцца на вылучэньне ягонай кандыдатуры. Ён быў супраць. У нейкі момант ён раптам сказаў, што ўжо аднойчы адмовіўся стаць біскупам.

Было гэта ў 1986 годзе пасьля сьмерці Апостальскага візытатара для беларусаў замежжа, уніяцкага біскупа Ўладзімера Тарасевіча з Ордэну бэнэдыктынцаў. Гэта была велізарная памылка, маштаб якой ён яшчэ больш зразумеў тады, калі прыехаў у Менск і ўбачыў там уніяцкі рух. Больш за дзьве гадзіны я ціснуў на айца Аляксандра, і ён у рэшце рэшт даў сваю згоду. Па ўсёй краіне тады пачалася кампанія збору подпісаў пад лістом да папы рымскага з просьбай прызначыць айца Аляксандра ўніяцкім біскупам Беларусі. Было сабрана каля трох тысяч подпісаў, якія мы накіравалі ў Рым. І толькі значна пазьней я даведаўся, што Ватыкан, паводле старой традыцыі, ніколі не прызначае таго, каго дамагаюцца людзі ў рамках нейкіх грамадзкіх акцыяў. Да таго ж айцец Аляксандар ня быў грамадзянінам Беларусі. У часе нашай размовы ён, відавочна, ужо ведаў пра безнадзейны характар нашай акцыі, але вырашыў даць на яе згоду, спадзеючыся на грамадзкі і царкоўны розгалас і пазьнейшы плён. Так і атрымалася. А пасьля яшчэ і паказаў дабрыню сваёй душы, падтрымаўшы ў жыцьці тых, хто зьбіраць подпісы перашкаджаў.

У 1995–96 гадах, калі стала відавочна, што першая хваля новага беларускага Адраджэньня захлынаецца, я адчуў, як памалу з-пад ног пачала сыходзіць глеба. Раптам стала зразумела, што Беларусь і беларусы нікому не патрэбныя ні ў сьвеце, ні, нават, у самой Беларусі, што з часоў напісаньня Купалам «Тутэйшых» нічога не

зьмянілася — у Беларусі па-ранейшым рэалізуе свае інтарэсы Расея, а нам, фактычна, няма месца на сваёй зямлі. Глеба з-пад ног пачала сыходзіць, а ў галаву прыйшлі пытаньні — як быць далей? ці ёсьць надзея, што Беларусь застанецца? што яна ўздымецца зноў? дзе ўзяць маральныя сілы для працы? і ці патрэбна гэтая праца? Пра гэтыя невясёлыя думкі я расказаў тады айцу Аляксандру Надсану і ў адказ пачуў: «Братка, што ж казаць мне? Я цэлае жыцьцё так жыву і працую…» На гэтым мае сумненьні скончыліся.

Беларуская Грэка-каталіцкая Царква паўстала ў 1990 годзе зь нябыту і адразу займела высокапрафэсійныя пераклады большасьці царкоўных тэкстаў з арыгіналу, выкананыя айцом Аляксандрам, глыбокім знаўцам Бібліі і дзясятка моваў. Ягоныя тэксты дзіўным чынам адбіваюць памежную і сынтэтычную сутнасьць старой Уніі — яго мова — і не заходняя, і не ўсходняя, яна — і тая і тая. І адначасова проста добрая беларуская. Няма чаго і казаць, што менавіта яго варыянт найбольш надаецца для агульнабеларускага міжканфэсійнага перакладу Бібліі. Я думаю, што гэтыя пераклады — галоўнае, што зрабіў айцец Аляксандар для Беларусі і беларускай культуры. Да яго перакладаў Літургію служылі па-царкоўнаславянску. Ён з бласлаўленьня біскупа Сіповіча ўзяўся за пераклад, выканаў яго і паўтара-два дзесяцігодзьдзі, напэўна, як адзіны ў сьвеце ўходне-каталіцкі сьвятар служыў на роднай мове, аж пакуль у 1990-я гады ягоную справу не перанялі

спачатку ўніяцкія, а пасьля і рымска-каталіцкія сьвятары ў Беларусі.

Маючы ў сваім распараджэньні вялікі архіў папераў Ордэну марыянаў і наогул беларускай эміграцыі, айцец Аляксандар напісаў і некалькі гістарычных кніжак, якія, безумоўна, маюць сваю вялікую культурную і навуковую вартасьць. Немалы ягоны ўнёсак і ў справу скарыназнаўства. Ён, напрыклад, выдаў малітвы з «Малой падарожнай кніжкі» Скарыны і параўнаў іх зь перавыданьнямі тых самых тэкстаў у праваслаўных друкарнях Вільні сто гадоў пазьней. Аказалася, што тэксты Скарыны — уніяцкія, гэта значыць усходнія паводле формы, але з прызнаньнем каталіцкіх догматаў.

Неверагодныя высілкі рабіў ён у 90-я гады для арганізацыі мэдычнай дапамогі пацярпелым ад Чарнобыльскай катастрофы ў Беларусі і аздараўленчага адпачынку беларускіх дзяцей ў Вялікай Брытаніі. Сотні сем'яў назаўсёды застануцца яму ўдзячныя.

У маім асабістым жыцьці ён быў настаўнікам у шмат якіх рэчах, нават у такіх, як кухня і харчаваньне. Аднойчы, будучы ў мяне ў гасьцях у Празе, ён некалькі дзён хадзіў па харчовых крамах, выбіраў прадукты, а пасьля даваў на кухні сапраўдныя майстар-клясы кухарскага ўменьня. Тое самае ён рабіў і ў Лёндане, бо гатаваў пераважна сам. Айцец Аляксандар быў вэгетарыянцам і ведаў мноства рэцэптаў італьянскай і францускай кухні. Ён залíваў макароны

падпаленай гарэлкай зь перцам, рабіў фантастычныя лязаньні, чырвоныя і зялёныя соўсы, выробляў цуды з сыроў... Але калі ў нейкай рэстарацыі ў Менску не было нармальнай вэгетарыянскай ежы, мог зьесьці і мяса, хоць і безь вялікай ахвоты.

Ён меў надзвычайнае пачуцьцё гумару, любіў і ўмеў жартаваць. Мне наогул часам здаецца, што жарты і кпіны зьяўляюцца рэгіянальнай асаблівасьцю людзей з навакольляў Міра і Нясьвіжа, што і зафіксаваў ураджэнец тамтэйшых мясьцінаў Янка Брыль у аповесьці «Ніжнія Байдуны». Напрыклад, я ніколі не забуду, як пасьлядоўны беларусацэнтрыст Надсан, кожнага разу, сядаючы ў менскую таксоўку, пакепліваў з кіроўцаў. Ён пытаўся, чаму таксіст не гаворыць па-беларуску, і амаль заўсёды атрымліваў той самы адказ: «А мне всё равно на каком языке разговаривать». І тут айцец казаў: «Ну менавіта. Дык чаму тады не па-беларуску?..» Далей наступала тое, што цяпер называюць кагнітыўным дысанансам.

Рэгулярна перазваньваючыся з айцом Аляксандрам, я ведаў, што ён у апошнія гады пачаў пісаць гісторыю царквы ў Беларусі. Я зь нецярплівасьцю чакаў гэтай кнігі, бо ведаў, што ў нас, на вялікі жаль, дагэтуль няма іншага чалавека, які б мог якасна, зь веданьнем гісторыі і разуменьнем царкоўнай спэцыфікі, такую кнігу напісаць. Выглядае, што ён не пасьпеў... І гэта таксама вялікая страта.

Тым, хто сёньня апанаваны сумненьнем, ці Беларусь застанецца, і што ж рабіць у цяперашнія смутныя часы, я заўсёды нагадваю пра аднаго беларускага сьвятара зь Лёндану, які, ня ведаючы напэўна, ці будзе Беларусь, больш за 70 гадоў працаваў дзеля яе на чужыне.

*16 красавіка 2015 году.*

# Т ці Ф?

*Замест пасьляслоўя*

Калі б гэтую кнігу пераклалі на расейскую мову, яна б называлася «Мой Карфаген». Але па-беларуску назва гучыць як «Мой Картаген». Чаму?

Адказ на гэтае пытаньне можна знайсьці ў некалькіх тэкстах гэтай кнігі, напрыклад, у развагах пра ўплыў і спадчыну Расеі для сёньняшніх беларускіх інтэлектуалаў («Што нам варта ўзяць з расейскай культуры»).

Гук «т» у назьве старажытнай фінікійскай дзяржавы і яе аднайменнай сталіцы Картагену (фінік. Qart-ḥadašt) перайшоў у большасьць эўрапейскіх і міжземнаморскіх моваў, уключаючы арабскую і армянскую. Кожны, хто мае доступ да інтэрнэту, можа лёгка пераканацца, што форму «Карфаген» выкарыстоўваюць толькі расейцы і народы, якія ў апошнія стагодзьдзі былі часткаю расейскай імпэрыі, а пасьля СССР – беларусы, украінцы, азэрбайджанцы, казахі... Разам з тым, праваслаўныя славянскія народы, якія пішуць кірыліцай, але ў склад Расеі не ўваходзілі, — баў-

гары, сэрбы, македонцы — выкарыстоўваюць назву «Картаген». Тое самае і ў праваслаўных Румыніі і Малдове. Спрашчаючы і абагульняючы можна сказаць, што гук «ф» у расейскім варыянце зьявіўся ў выніку спэцыфічнай перадачы лацінскага варыянту (Carthago) усходнеславянскімі аўтарамі паводле аналёгіі з традыцыяй перадачы грэцкіх словаў.

Гістарычна Беларусь мела сынтэтычны заходне-ўсходні характар дзяржаўных інстытутаў, культуры і царквы, а таксама доўгі вопыт кантакту з заходняй цывілізацыяй, захоўваючы пры гэтым свае ўсходнехрысьціянскія асаблівасьці.

Таму выбар назвы «Мой Картаген» як пазычанай у Катона-старэйшага мэтафары настойлівага клопату і канчатковай мэты, гэта адначасова і цывілізацыйны выбар на карысьць Беларусі па-за «русским миром».

Цяпер яна нібыта там. І ўсё ж...

*11 траўня 2015 году.*

# Паказьнік асобаў

**Л**



**М**

**Р**



**С**

# Пра аўтара



Сяргей Абламейка нарадзіўся ў 1962 ў Менску. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага Дзяржаўнага ўнівэрсытэту і дактарантуру Люблінскага Каталіцкага ўнівэрсытэту (Польшча). Працаваў сьлесарам на Менскім аўтамабільным заводзе, выкладаў гісторыю ў школе, быў навуковым супрацоўнікам Беларускага Дзяржаўнага музэю народнай архітэктуры і побыту, а затым Скарынаўскага цэнтру Акадэміі навук Беларусі. Зь верасьня 1990 — журналіст «Свабоды» ў Менску, з траўня 1995 у Празе. Зь сярэдзіны 1980-х гадоў займаўся актыўнай грамадзкай дзейнасьцю, быў членам «Талакі». Адзін з арганізатараў першага Вальнага Сойму беларускіх суполак (1987), выдавец часопісу «Унія» (1990). Аўтар некалькіх дзясяткаў навуковых публікацый па гісторыі Беларусі. З 1983 друкуецца як пісьменьнік і журналіст. Выдаў кнігі «EGOізмы» і «Настальгія». Тэксты перакладаліся на італьянскую, польскую, расейскую і чэскую мовы.

# Summary

“My Carthage” is a book of essays on the hot-button issues of contemporary Belarusian culture, literature, public opinion, and national identity. The author focuses on the interconnection between Belarusian and Russian culture, and analyzes the phenomenon that has come to be labeled “the Russian world”.
The peculiarities of Minsk's modern architecture and the city's historic heritage are both subjected to acute observations and a well-informed critique.

Siarhej Ablameika has authored books of aphorisms, essays, and numerous other works on Belarusian culture, the history of the Uniate (Greek-Catholic) Church in Belarus, and national identity.
He works at Radio Free Europe/Radio Liberty, and lives in Prague.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»** — кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода. Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.




**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




**Саўка ды Грышка. Сто песень. 2010-2012.**
Поўны збор запісаў сатырычнага дуэту Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012




Альгерд Бахарэвіч. **Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.* **Справа Бяляцкага.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.* **Турма і здароўе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.* **Хто ўзарваў менскае мэтро?** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.* **Жывая мова.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Валянцін Жданко.*
**Лісты на Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 428 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.




**Лісты пра Свабоду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 314 с.




**Жыцьцё пасьля раку.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 220 с.




*Юры Дракахруст.*
**Сем худых гадоў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 406 с.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста чацьверты.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015. — 350 с.: іл.




**(НЕ :)**
**вясёлыя карцінкі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 64 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
3-е выд., дап.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2015.
668 с.: іл.